

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**5** (1051)

**МАЙ**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена Аляксандраўна*

Рэдакцыйная калегія:

*Лада АЛЕЙНІК, Алесь БАДАК,
Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,
Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
(старшыня рэдакцыйнага савета),
Уладзімір ГУСАКОЎ, Марыя ЗАХАРЭВІЧ,
Віктар ІЎЧАНКАЎ,
Аляксандр КАВАЛЕНЯ, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,
Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ, Валерый МАКСІМОВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ, Зоя МЕЛЬНІКАВА, Мікола МЯТЛІЦКІ,
Пётр НІКІЦЕНКА, Генадзь ПАШКОЎ,
Віктар ПРАЎДЗІН, Зіновій ПРЫГОДЗІЧ,
Іван САВЕРЧАНКА, Уладзімір САЛАМАХА,
Васіль СТАРЫЧОНАК, Таццяна ШАМЯКІНА*

Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

## ЗМЕСТ



**Уладзімір САЛАМАХА**

# КАЛІ ЎПАДЗЕ АДЗІН...

*Аповесць**

## Частка 1

### 1

...Тым часам, калі Іосіф ляжаў на зямлі на хутары, пакутліва вырашаючы, што рабіць далей, і наогул ці рабіць што, на ўскраіне Гуды каля дамбы сабраліся людзі. Было іх не багата: Яўхім, Міхей, Мікола, Ігнат і Надзя Сапёрскія, іх дзеці Валік і Света, а таксама Каця з сыночкам Петрыкам. Нагода была такая: Яўхім і Валік адплываюць ў Кашару, астатнія прыйшлі іх правесці.

Усё было спакойна. Ніхто не крычаў, нават гучна не размаўляў, а гаварыў стрымана, быццам абдумваючы кожнае слова. Праўда, жанчыны ўсё наказвалі старому, каб доўга на хутары не бавіліся. Маўляў, дзядзька, сустрэнеце Кучынскага, пагавары з ім, скажы, што ў Гудзе ўсе яго чакаюць. Пераначуйце, а раніцой — яго ў лодку, ды назад. Нічога, што хата яго згарэла, у лесаўчасткаўскім інтэрнаце ёсць свабодныя пакоі, пажыве, а там і яму, можа, хату паставіце.

---

***Саламаха Уладзімір Пятровіч** нарадзіўся 24 сакавіка 1949 года ў вёсцы Берраснёўка Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1975). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у раённай газеце, Дзяржаўным камітэце БССР па кінематаграфіі, у часопісах «Маладосць», «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Празаік, крытык, публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.*

*Лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі за лепшы твор прозы. Аўтар кніг прозы «На ўзмежку радасці» (1980), «Заўтра ў дарогу» (1985), «Кавалёк — лесавая былінка» (1988), «Цяпло чужога сэрца» (1990), «Прывід у скураным крэсле» (1994), «Апазнаецца асоба мужчыны» (1998), «Напрадвесні» (2001), «Сусвет дабрыні» (2005), «Там, дзе самоты і радасці...» (2010), «Лица и лик» (2011), «...І няма шляху чужога» (2014), «Сустрэчы без расставанняў» (2016), а таксама зборнікаў «Сусвет дабрыні» (2005), літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі «Званыя і выбраныя» (1999).*

---

* Часопісны варыянт. Трэцяя аповесць з цыкла «...І няма шляху чужога». Першая і другая аповесці — у кнізе аўтара «Сустрэчы без расставанняў», Мн., Мастацкая літаратура, 2016 г.

— У мяне пажыве, — казаў Яўхім. — А ўжо калі не захоча — у інтэрнаце.

Стары каторы раз аглядаў лодку, дарога ж не блізкая, не трэба, каб працякала. Але дно было сухое, добра прасмолена, застаўся задаволены: не падмокнуць рукзакі з харчам і цёплай вопраткай. Лодка хоць і не вельмі вялікая, але лоўкая, рабіў яе Іосіф, вядома ж, для сябе, стараўся. Ды што стараўся, лодкі і чаўны рабіць ён умеў гэтаксама як і Яўхім: жыць на вадзе і не ўмець — ганьба.

Мужчыны старому ніякіх парад не давалі, лішняе, сам лепш за іх ведае дарогу, а як трымацца на вадзе вучыць яго не трэба, любога навучыць. І ніхто не спрабаваў як учора адгаворваць Яўхіма ад яго намеру выправіцца ў дарогу. Ведалі, калі ён ужо на нешта рашыўся, не спыніш. Ведалі таксама, што ўсё да драбніц абдумаў Яўхім Міхайлавіч, ён такі.

І гэта сапраўды было так. Учора за той час, пакуль Яўхім вёз на калёсах ад шашы да вёскі Кацю з Петрыкам і Надзю са Светкай, ён многае перадумаў. У дарозе думаецца добра. Асабліва калі нічога цябе не прыспешвае, калі конь сам ідзе па знаёмай каляіне, кіруецца туды, дзе яго чакае добрае бярэмя сена, а то і паўвядра аўсу.

І Буланчык ішоў мерна, хоць Петрык час ад часу тузаў лейцы, «нокаў», падганяў.

А абдумаўшы, успомніўшы шмат чаго, што было ў яго жыцці, калі яшчэ сябраваў з Іосіфам, Яўхім у каторы раз пасля таго, як той бясследна знік з вёскі абвінавачваў сябе ў гэтым. Ён, Яўхім, а ніхто іншы, ледзь не зжыў са свету свайго былога сябра, не пусціўшы ў паводку на пагорак, дзе тады людзі знайшлі паратунак. І вось высвятляецца, што знайшоўся Іосіф. Канечне, калі Каця не памылілася. А калі яна Антона прыняла за Іосіфа — старыя людзі нечым падобныя, то ён тады недзе загінуў. Тады на ім, на Яўхіму — смяротны грэх. І будзе ляжаць на душы, пакуль ходзіць Яўхім па зямлі. І калі ёсць той свет, то і на тым свеце ратунку яму не будзе...

У думках Яўхім як толькі не дакараў сябе за тое, што здарылася тады паміж ім і Іосіфам. Разумеў, што не трэба было адпрэчваць таго ад сябе, але ж унутры ўсё кіпела, і быццам нехта ўладны пад'юджваў і пад'юджваў: «Гані! Хай згіне, каб і следу яго не было на зямлі!»

Адкрыта не гнаў. Не крычаў так. Не паказваў таго, што было на душы. Але словы казаў Іосіфу так, быццам уедліва насміхаўся з яго: нікчэмнасць... Казаў і адчуваў, што білі яны прама ў сэрца Іосіфу. Ды калі б хто так з ім, Яўхімам, ён таксама не вытрымаў бы здзеку, сышоў куды вочы глядзяць, глыбока затаіўшы крыўду.

Страшна, калі так... І цяпер, калі думаў, як будзе плысці ў Кашару, ці зможа перайсці балота (раптам той, хто на хутары, перакінуў у іншае месца плашкі), якія першыя словы скажа Іосіфу, калі гэта ён, Яўхім, ледзь стрымліваў сябе, каб не мовіць што крыўднае. І неўзабаве лавіў сябе на гэтым: што ж я так...

Тады думаў, што і ў маладыя гады, і пазней бачыў нямала чаго і радаснага, і гораснага ў Іосіфавым жыцці. А вось, ці дапамагаў таму, калі была патрэбна яго дапамога... І засяроджваўся на тым, што да вайны вяскоўцы добра ставіліся да Іосіфа, а жанчыны нават шкадавалі яго. Маўляў, такі харошы чалавек, баба з яго вяроўкі ўе, грэбуе ім, а ён маўчыць.

Таксама ўспамінаў аб тым, што ўчастковы Саўка Касмановіч неўзабаве пасля таго, як узарвалася дамба, а Іосіф бясследна знік, сказаў гуднянцам, што ўлада лічыць Кучынскага не вінаватым за дзеянні сына паліцая. Атрымліваецца, улада за Іосіфа, а ты не. Ды хто ты такі, калі ўжо так супраць улады?..

Ведае Яўхім, што перад людзьмі Іосіф ні ў чым не вінаваты. І перад ім асабіста — таксама няма Іосіфавай віны. А вось ён, Яўхім, шмат у чым вінаваты перад ім. І не трэба лічыць сябе ледзьве не святым, а да ўсяго яшчэ і выносіць прысуд нявіннаму.

Ёсць у Яўхіма віна перад Іосіфам, і асаблівая. Яна, як прыклееная, цягнецца за ім ажно з далёкай іхняй маладосці. Столькі гадоў мінула, здаецца, даўно час забыць, але не, здараецца, так завярэдзіць душу, хоць ты гвалтам крычы: «Чаму ж ты тады сябра аднаго ў бядзе кінуў, Яўхім?.. Як жа так магло здарыцца, што ты, які сам столькі гора спазнаў, якога чужыя людзі выратавалі, сіратой падабралі, як ні было цяжка самім не кінулі ў бядзе, вырасцілі, у жыццё пусцілі... Эх, Яўхім, Яўхім...»

Думаў так стары і ледзь стрымаўся, каб не закрычаць: «Якая ж мне ганьба!»

Было, аднойчы Яўхім не падтрымаў Іосіфа, калі ягоную дзяўчыну бабы абылгалі, таўро на ёй сваімі языкамі выпалілі: блудніца!..

Бачыў Яўхім, як той пакутуе, ходзіць сам не свой. Але не падышоў да яго, не суцешыў, нават рукі на плячо не паклаў. А чаму?.. І сам не ведае. Можа, таму, што не падабалася яна яму, Яўхіму, і ўсё тут.

Хай не суцешыў, гэта яшчэ нічога. Іншае горш: сказаў жа Іосіф яму, што пойдзе перастрэць Тэклю, калі Аўдзей павязе яе вянчацца, чаму не пайшоў з сябрам? Баяўся, што паб'юць Аўдзеевы хаўруснікі? Не, не баяўся, але і цяпер няма ў Яўхіма адказу, чаму не пайшоў.

А Іосіф пайшоў адзін. І дзяўчыну не вярнуў, і змалацілі яго як сноп Аўдзеевы хаўруснікі, доўга крывёю харкаў. Дык якое пасля гэта магло быць паміж імі сяброўства?

Дзіўна, што пасля Іосіф наогул не адвярнуўся ад Яўхіма. Калі б так здарылася з ім, Яўхімам, ні за што не дараваў бы сябру. Канечне, і пасля гэтага трымаліся адзін аднаго, але ранейшай шчырасці і адкрытасці між імі ўжо не было, сяброўства паступова згасала, пакуль зусім не ачахла.

Размежавала іх вайна канчаткова. Быццам правяла між імі глыбокую баразну — не працягнуць праз яе адзін аднаму рукі...

А што абылгалі Іосіфаву дзяўчыну, Яўхім пазней даведаўся. Пачуў аднойчы, як Аўдзей Юхнавец, ужо пражыўшы з Тэкляй колькі гадоў, на нейкай гулянцы ў Заброддзі п'яны хваліўся хлопцам, маўляў, магу самую непадатлівую дзеўку так прывучыць, што косы яе буду накручваць сабе на руку, а яна і не пікне.

А тыя вісусы ржалі, што жарабцы: «Навучы!»

«Навучы, — скаліўся Аўдзей. — За так і скула на азадак не сядзе... Адно магу сказаць, сакрэт адвару ведаю, дорага ён каштуе, а вы — навучы!.. Дай ёй выпіць таго адвару, ачмурэе, і вядзі яе, як авечку, куды хочаш. А вы тут топчацеся, на дзевак зыркаеце — ну ніякага з вас толку! Жаніхі...»

На вуліцы гэта было, каля хаты, у якой гулялі. Іграў гармонік, нехта пазаліхвацку біў у бубен, жанчыны спявалі частушкі, колкія, высмейвалі хлопцаў, няўдалых кавалераў, што баяцца падысці да дзяўчат.

Яўхім Аўдзея даўно ведаў, не любіў: крывасмок, задавака і гуляка. На вечарынках заўсёды першы. І ўсюды без жонкі. Казалі, што і цяпер, жанаты, дзяўчат, сваіх наймітак, употай цягае ў гумно, у стагі. І ўвогуле казалі, што нямала дзявочых слёз праліў, і ўсё яму як з гусі вада.

Казалі, абураліся, але не чапалі Аўдзея, баяліся і ішлі да яго працаваць, каб хоць што зарабіць — дзе ты ў вёсцы знойдзеш капейку, як не ў яго.

Зразумеў тады Яўхім, што абняславіў Аўдзей Іосіфаву Тэклю. Ведаў, Аўдзей даўно да яе прыглядаўся: прыгожая, працавітая — такая патрэбна ў

гаспадарцы. (Старыя жанчыны, здаралася, павучалі каго з хлопцаў, хто доўга не жаніўся, маўляў, вазьмі гэтую ці тую, нічога што перастарка, але ж працаўніца. І не зважай, што не надта паглядная — з твару вады не піць, і гаспадарка будзе дагледжана, і ніякі Аўдзей у блуд не звядзе.)

Глянуў тады Яўхім на Аўдзея, а ўсярэдзіне ўсё закіпела, хацеў закрычаць: «Ах ты, погань несусветная!» — не закрычаў. Хацеў схапіць за шкірку, скруціць у бараноў рог, але ўтрымаўся: «Не трэба. Скажуць, ашалеў Яўхім Баравец, на людзей кідаецца».

Зразумеў Яўхім, што здарылася тады з Іосіфавай Тэкляй, калі бабы заспелі яе з Аўдзеем у снапах, але чамусьці Іосіфу не сказаў. І цяпер не ведае чаму... Хаця, можа, сорам з'ядаў яго, Яўхіма. Яшчэ б: тады, калі Іосіф пабег пабачыць Тэклю, як Аўдзей вёз яе вянчацца, дык Яўхім сябра ў бядзе кінуў, а цяпер прыйшоў, каб сказаць, што і як было. Позна.

І Марфе сваёй пра гэта доўга не гаварыў, насіў у душы сорам, нібы гарачы камень, які не ведаў як астудзіць. Здагадвалася яна, напэўна, што нешта кепскае здарылася між Яўхімам і Іосіфам: так сябравалі і раптам...

Сказаў пасля таго як ужо раскулачылі Аўдзея і разам з Тэкляй некуды саслалі (тады ніхто не ведаў куды). Маўляў, камень у мяне, Марфушка, на душы...

Выслухала яго тады жонка, доўга маўчала, мабыць, не ведала, што сказаць, затым мовіла: «А што б ты ўжо ўратаваў? Ну сказаў бы Іосіфу, дык ён што, кінуўся б да Аўдзея, каб Тэклю забраць? Дык яна ж перад Богам Аўдзеева жонка».

Сапраўды, улез бы Іосіф у чужую сям'ю, парушыў яе, што тут добрага. Ды і людзі смяяліся б. А так не сказаў дык не сказаў. Можа, і лепш. Разважаў тады і так: ды і ён, Іосіф, ужо даўно сямейны чалавек. Жонку і сына мае. Як ні кепска жывуць, а ўсё ж жывуць. Навошта, каб у яго сям'і было яшчэ горш.

Можа, і так, дзве сям'і мог парушыць Яўхім. Праўда, у Аўдзея з Тэкляй дзяцей не было. А ў Іосіфа з Марыяй сын. Яго ці не яго — не Яўхімава справа. Бабы пляткарылі, што цяжарную Марыю браў Іосіф. Маўляў, дурань не біты, яна ж на яго чужое павесіла: хлопец у яе быў, дужа любіліся...

Ах, бабы бабы... Даўно ўжо ў вас усё жаночае згасла, а вам не церпіцца некага абгаварыць, каля чужога ложка стаць. Быў не быў у Марыі хлопец, якая ваша справа? Не сляпы ж Іосіф браў яе. Дзіця прыняў і гадаваў як бацька. Вось толькі бяда, нелюдзя выгадаваў. Ды яшчэ якога: свет такога не бачыў, ён жа сваіх нішчыў...

Ведаў Яўхім, бачыў, цяжка жылося Іосіфу. Спачуваў яму, але слова ў падтрымку ніколі не сказаў, баяўся, пакрыўдзіцца той, абурыцца: «Чаго ты мяне шкадуеш? Я што, зломак які?..» Не любіў Іосіф гаварыць пра тое, што і як у яго сям'і. Але калі падумаць, дык трэба было пра ўсё Іосіфу расказаць: і пра Аўдзееў адвар, і пра тое, чаму не пайшоў з Іосіфам вяселле спыняць, як да царквы Тэклю везлі, і пра тое, што вінаваты Яўхім перад ім, вось толькі дзіця не трэба было б чапаць...

Старыя яны ўжо, Яўхім і Іосіф. Многае пражыта. І разам, і паасобку. Яўхіму часам чамусьці цяжка вымавіць імя былога сябра так, як некалі вымаўляў у маладыя гады на гарадскі манер: Іосіф. Бач, з горада прыйшоў у Гуду Яўхім, «перахрысціў» Восіпа на свой капыл. Усіх навучыў, хутка прывыклі вяскоўцы — Іосіф. Адна толькі сябрава дзяўчына Тэкля, як і раней, называла яго Восіпам. Яўхім пасміхваўся: «Ты быццам старая якая. Так толькі старыя старых завуць. Цяпер маладыя ў горадзе на хлопца з такім іменем скажуць Іосіф. І не сорамна табе».

Адказвала, як па твары пляскала: «Ай які гарадскі!.. А я вясковая. І не баба старая! Як трэба, так і заву: Восіп. І ты мне не ўказ! Бач, настаўнік знайшоўся!»

Не падабалася гэта Яўхіму: каза! Вельмі ж кранала яго самалюбства. Яшчэ б: бадацца ўздумала. Ды з кім? Са мной!

Іосіф на гэта іхняе «ў рожкі» не зважаў, хай. Яўхіму ён Іосіф, ёй — Восіп.

Цяпер нават у Яўхімавых думках — Восіп. Хаця кажа Іосіф — з чалавекам з такім іменем усё Яўхімава крыўднае звязана.

А вось як сустрэнуцца назаве яго Восіпам. Разбурыць гэтым самым сцяну між імі, адкіне ўсё кепскае, што раздзяляе іх. Многае выкажа яму Яўхім свайго гораснага, каб зразумеў Іосіф, чаму тады на пагорку Баравец такім жорсткім быў. А там будзе бачна: паразумеюцца ці не. Нават калі не, Яўхіму ўсё адно стане лягчэй: жывы Іосіф, а больш нічога і не трэба. Хаця, усё ж часам сумняваецца, ці Іосіф жыве на хутары.

Хацелася, каб у Кашары былі Іосіф і Антон. Такое можа быць. Чалавечыя лёсы іншы раз так пераплятаюцца, што і ўявіць немагчыма. Сыходзяцца ж на зямлі дарогі, па якіх ходзяць людзі, зрэшты, усё ў жыцці пераплятаецца, і ад гэтага нікуды не схавацца.

Жанчыны кажуць, што ў Кашары жыве нехта адзін. Называе сябе Антонам.

Антон чалавек добры. Ва ўсякім выпадку, такім яго ведае Яўхім, некалі ў маладосці рабіў у яго на хутары на расцяробах. Пра Іосіфа адразу не скажаш, які ён. Але калі б Яўхіму сказалі, выбірай: Антон ці Іосіф, выбраў бы апошняга. І тут нічога дзіўнага няма: у Антона была вялікая сям'я. З сям'ёй, калі ў ёй лад, нідзе не прападзеш. А Іосіф адзін, як горкая палявая былінка. Казаў жа жанчынам шафёр, які прывёз іх і іхніх дзяцей з горада, і які знаўся з кашарскім жыхаром Антонам, быццам у таго была хадзяйка. Памерла... А чаму ў Іосіфа не магло быць хадзяйкі? Вунь колькі пасля вайны паўсюль засталося гаротных жанчын, якім трэба суцяшэнне, спагада, мужчынскае цяпло. Можа, дзе знайшоў такую бядотную, як сам, ды жылі. Разам лаўчэй, чым аднаму...

Не, нельга Яўхіму спакойна хадзіць па зямлі і невядома што думаць. Ён павінен неадкладна даведацца, хто жыве ў Кашары. А тое, што жанчыны кажуць, маўляў, не пусцяць аднаго ў такую дарогу, дык ён і пытаць дазволу ні ў каго не будзе. Гэта ўжо дужа асабістае, ягонае. І хоць даўно ўжо Яўхім, Міхей, Мікола, Ігнат са сваёй Надзяй і дзецьмі, ды Каця з сыночкам жывуць як адной сям'ёй, усё адно ёсць у яго такое, што нікому з іх не выкажаш. Навошта? Хай ім будзе спакойна, і так напакутаваліся...

І вось праводзяць... Учора ў Гуду прыехалі яшчэ светлым часам, але ўжо вечаровым. Дарога прывяла каня на вуліцу, прамую і шырокую, а па ёй да новага невялікага будынка канторы лесаўчастка (пасля вайны ў Гудзе стварылі лесаўчастак). Такім часам тут, як звычайна пасля работы, былі мужчыны — лепшага месца, каб пагаварыць няма. Тут жа — кіраўніцтва, начальнік лесаўчастка — былы франтавік. Ды не з радавых, а падпалкоўнік Ерафей Кастроў. Чалавек паважаны, прыслалі з горада, узнагароды — фрэнч адцягваюць...

І мужчыны, што былі тут, таксама ваявалі. Усе да аднаго прайшлі Еўропу, а Ігнат Сапёрскі нават японца бачыў, закончыў вайну, як казаў, на «Дальнем Востоке».

Вальшчыкі лесу, сучкарубы, шафёры лесавозаў, усе яны па франтавой звычцы трымаліся разам, і пасля працы не спяшаліся разыходзіцца, пакуль не было перагаворана, што зроблена сёння, што трэба будзе зрабіць заўтра.

Цяперашняе насельніцтва Гуды — пераважна прыезджыя з іншых месцаў, пра якія тут чулі і не чулі, сямейныя і адзінокія. Людзі зблізіліся хутка: не было чалавека, які не спазнаў бы гора, а яно яднае як нішто іншае.

Былі тут Надзін Ігнат і Валік. Былі тут і Мікола з Міхеем.

Буланчыка яны заўважылі яшчэ тады, калі конь толькі паказаўся з бору і пачаў спускацца ў нізіну да вёскі. Першым заўважыў Ігнат, сказаў:

— Нарэшце едуць! Я ўжо думаў, што трэба будзе шукаць.

— Ды кінь ты, шукаць, — сказаў Кастроў. — Машыны ж ходзяць па шашы, каго-каго, а жанчын з дзецьмі любы падбярэ.

Кастроў прыехаў сюды летам сорак пятага года. Тады, калі з Гуды сышла вада, увабралася ў рэчышча, тут і распачалі будаваць лесаўчастак. Месца для такога прадпрыемства зручнае: справа ад вёскі пачынаюцца лясы. У асноўным — бары. Яны даходзяць да шашы, а за ёю цягнуцца на многія кіламетры ажно ў іншы раён, а праз яго і яшчэ далей. Ды і ўздоўж ракі за дамбай (аднавілі яе вайскоўцы) ім няма ні канца ні краю.

Вывозіць драўніну зручна: праз мост на Забároддзе, а там далей па гравейцы ў горад, але не ў свой райцэнтр, іншы, там лесакамбінат. Чакалі, калі пабудуюць такое ж прадпрыемства ў сваім райцэнтры. Тады можна будзе ездзіць на лесавозах у горад хоць кожны дзень, цяпер жа пакуль нязручна, даводзіцца пільнаваць спадарожныя.

Быў у Гудзе і невялікі ніжкі склад. На рацэ зладзілі, за дамбай. Яго вайскоўцы аднавілі хутка, у тым жа сорак пятым.

Ля канторы Яўхім спыніў каня, крыкнуў, ледзь стрымліваючыся: «Ды стой, ты, Буланчык!» Лейцы ў Петрыка не забраў, паволі спусціўся з калёс, цяжка праклыпаў да мужчын, зацяклі ногі:

— Здарова, каго не бачыў!

— Здарова, Яўхім Міхалыч, — адказаў за ўсіх Кастроў. — Твае ўжо хвалююцца, — і звяртаючыся да жанчын, быццам упікнуў: — Што ж вы так, жанчынкі...

— Ну, — ці то пацвердзіў яго словы, ці то спытаў Ігнат.

— Вось табе і ну! — сказала Надзя, і лёгка саскочыла з калёс. — Каця ж дзядзьку Іосіфа бачыла!

— Кучынскага? — здзівіўся Міхей.

— А каго ж.

Якая тут сувязь з іхняй затрымкай, ніхто акрамя гуднянцаў не разумеў. Але была вайна. Страшная бяда напаткала Гуду, спалілі яе, многа людзей тады загінула, нямала хто не вярнуўся з вайны — вунь, у памяць пра ўсіх іх — абеліск сярод вёскі: гэта прыезджыя ведалі. Але не ведалі, хто такі Кучынскі, і чаму жанчыны, як толькі прыехалі, пачалі з яго.

— Дзядзька Іосіф затрымаў? — спытаў Міхей. — Дзе ён? Што з ім? Хай бы прыехаў. Ці, можа, у горадзе прыжыўся?

— Ды не, не затрымаў, — сказала Каця. — Не прызнаўся мне. Нават размаўляць са мной не стаў. Але ж, чуе маё сэрца, ён!

— Каб ён, прыўзнаўся б, — запярэчыў Мікола. — Абазналася.

— Ён, ён, — запэўніў Яўхім, здымаючы з калёс Петрыка. — Больш няма каму. У Кашары жыве. Хаця не толькі я і Іосіф ведаем туды дарогу. Багна, балоты там непраходныя. Я некалі яму шлях на хутар адкрыў. Ну і, канечне, гаспадар ведаў, ён жа плашкі ў багну паклаў. Саслалі яго з Кашары. Да вайны было, калі людзей раскулачвалі. Толькі ўжо тады гаспадар, Антонам яго звалі, старэйшы быў за мяне цяперашняга. Ну, можа, не старэй, дык такі ж.

Вось і падумай, ці мог ён сёння прайсці праз балота? Ды яшчэ ў горад ездзіць? Яму ж, мабыць, пад дзевяноста гадоў павінна быць. Канечне, не. Хаця, заўтра-паслязаўтра будзе вядома.

— Сюды прыйдзе? — хмыкнуў Міхей.

— Кінь! — неўзлюбіў Яўхім. — Не да жартаў! Сюды прыйдзе… Але вы ў хляве з Міколам былі, а я яго... Забыў?

— Супакойся, дзядзька, — сумеўся Міхей, — не забыў. Помню. Гэта я так, жартам.

— Дык жа думай, калі жартаваць. І з кім ці з чым. Не сабака ж. Толькі сюды сам ён не прыйдзе. Я яго ведаю... Чуў жа, што Каця кажа: не прызнаўся, сышоў. Пэўна, нездарма, Міхейка. А ты ледзь не «гы-гы». Я сам пра ўсё даведаюся.

— Гэта як? — спытаў Міхей.

Яўхім замоўк, быццам не пачуў. Павярнуўся, падышоў да калёс, узяў Петрыка, паставіў на зямлю. Хлопчык атрос сена са штонікаў, пабег да Валіка. Той падхапіў яго на рукі, падкінуў угору, злавіў, паставіў побач з сабой на зямлю, не выпускаючы са сваёй рукі маленькую ручку. Затым паказаў на каня і нешта сказаў малому, напэўна, што захапляецца, як той кіраваў Буланчыкам.

Мужчыны маўчалі, чакалі, што будзе далей.

Стары падаў руку Светцы, якая ўсё яшчэ сядзела на калёсах, быццам чакаючы запрашэння злазіць, трымала кошыкі.

— Давай і ты, унуча.

Светка лёгенька саскочыла на зямлю, чмокнула Яўхіма ў няголеную шчаку:

— Ой, дзядулечка, ты ўсё са мной як з маленькай.

— Ну, ну, каза, — памякчэў і ледзь прыкметна ўсміхуўся Яўхім, сівыя яго вусы зламаліся: — Ты і замуж пойдзеш, а ўсё адно застанешся для мяне маленькай...

На гэтую размову не вельмі зважалі, цікавіла, што з Іосіфам.

— Мікола, Міхей, хлопцы, — сказала Надзя, — дзядзька Яўхім збіраецца плысці ў Кашару. А гэта ж — які свет!

— Што ён там згубіў? — спытаў Міхей.

— А ты быццам не зразумеў, — раздражнёна прамовіла Надзя.

— Ты гэта кінь, Яўхім Міхайлавіч, — сказаў Мікола. — Не маладзён жа! Асіліць такую дарогу — сіла патрэбна. Не, мы цябе аднаго не пусцім. Можа, калі пазней разам туды паплывём. Ці я, ці Міхей на вёслы сядзем. А зараз нявыкрутка: начальства заўтра з леспрамгаса прыязджае, нейкую шышку з міністэрства прывозіць, сход будзе, тое-сёе... Словам, трэба пачакаць.

— І мы з Кацяй кажам, што ніхто дзядзьку аднаго туды не пусціць, — сказала Надзя.

— Вы што, згаварыліся? — узбурыўся Яўхім. — Не пусціць! Ды я, можа, сем гадоў чакаю!.. Жыву і чакаю... Сыноў чакаю. Цябе Ігнат чакаў. Усіх чакаў і чакаю, хто прыйшоў і не прыйшоў... І Іосіфа чакаю. З таго самага дня, як ён знік, як вы, Мікола і Міхей, шукалі яго тады і не знайшлі. Мы з ім шмат чаго разам пражылі і перажылі, і добрае ў нас было, і дрэннае. І жахлівае — таксама. Шмат чаго такога ён нарабіў, што дараваць цяжка. Шмат чаго і я. Не анёл, ведаю. Толькі нікому не казаў ні пра сваё, ні пра ягонае. Навошта вам, маладым, гэта ведаць? Вы жыць павінны без усяго таго, што мы перажылі. Не трэба, каб вам наша замінала. Таму ўсё ў сабе і трымаю. Яно са мной туды пойдзе (Яўхім ткнуў пальцам уніз). Так, чакаю я Іосіфа. Яшчэ як чакаю. Ці хоць якой вестачкі пра яго... Іншы раз, калі ўспомню нашу апошнюю з ім

размову там на пагорку ля хлява (Яўхім паказаў рукой да ракі), калі я яму такое сказануў, што мне і на тым свеце не даруецца, закрычаць хочацца, каб усё скаланулася: «Іосіф, адгукніся!»

Але так закрычаць сілы няма. Спрабаваў, крык вось тут камянее (пастукаў сябе ў грудзі), не прадыхнуць. А тут — нітачка... Не-е, хлопцы. Не-е, дзеўкі. Мяне цяпер і дня ніхто і на ланцугу не ўтрымае: разарву! Заўтра ж паплыву. Дарога, кажаш... Ды я дарогу добра ведаю: вочы заплюшчу, кожны паварот ракі бачу, кожную кладачку ў балоце, па якой можна на хутар трапіць. Хадзіў там — і не раз. Маладым хадзіў — нічога. А калі прайшоў туды ў трыццаць сёмым, калі паўсюль людзей раскулачвалі, дык кладкі тыя мне крыжамі на душу леглі: па іх жа з хутара выводзілі майго таварыша Антона і яго дзяцей і ўнукаў. Антонаў хутар быў. Гаспадарыў ён там з сям'ёй. Жыў, нікому папярок дарогі не стаяў, нікога не чапаў. І што? Усю сям'ю за гэта выкарчаваць трэба?.. Ну самога — яшчэ нічога: мы старыя, за сваё жыццё нагараваліся, напакутаваліся, ужо нічога не баімся. Але дзетак за што?.. Там жа на кладках ды паўз іх — сляды ад лапцікаў бачыў я. Маленькія, некаторыя акурат на Петрыкаву ножку. За што, га?.. Тут ужо не крыжы на душы. Тут ужо крывавіць, крывавіць... Я ж сам з маленства ў лапціках з чужымі людзьмі па зямлі хадзіў, ні маці, ні бацькі не ведаў. Дзякуй, сярод людзей не згінуў, хаця ўсякае было... І цяпер думаю: а што, калі дзетак тых тады ад бацькоў адарвалі, ды ад дзеда з бабай? Што гэта такое, дзяцей адарваць? Не дай бог!..

Мяне тады, калі людзей раскулачвалі, мая Марфушка да Антона паслала. Казала: «Дзяцей прывядзі, хай у нас пажывуць, а то яшчэ чаго добрага — адбяруць ад бацькоў ды ад дзеда з бабай. А мы, калі што, скажам, родзічы».

Разумела, ды і я разумеў, што старых і дарослых не ўратаваць. Не была б то жанчына, Марфушка мая, за чужых дзяцей у яе сэрца крывёю аблівалася. Але спазніўся я. Хаця, калі б трапіў туды, як выводзілі дзяцей з хутара, наўрад ці змог бы чым дапамагчы. Каб раней... Вось і павінен я ведаць, Антон там ці Іосіф. Каб жа і той, і той...

Яўхіма ніхто не перабіваў. Светка і Петрык пайшлі дадому, панеслі пакупкі. Валік стаяў каля бацькі, уважліва глядзеў на дзеда Яўхіма. Мужчыны моўчкі слухалі старога. Шмат чаго кожны з іх перажыў за вайну. Страшныя крывавыя сляды ў душы кожнага пакінула яна. Час ідзе, а не зацягваюцца тыя сляды, не загойваюцца раны. Асабліва, калі пра дзяцей кажуць. Няма нічога больш святога на свеце, чым яны. І адарваць, або... Тут ужо чужое як сваё. І няважна хто адрываў, свае ці чужынцы...

Ён змоўк, доўгім позіркам абвёў мужчын. Тыя маўчалі, разумелі, што старому трэба было выгаварыцца. Разумелі, што на душы ў яго цяжар, і не абыякі. Разумелі, што носіць ён яго надта даўно. І вось з'явілася надзея скінуць той цяжар. Ды Яўхім гатовы хоць зараз плысці туды, дзе можа знаходзіцца чалавек, перад якім адчувае сябе вінаватым. А тут свае, з кім жыве, лічы, адной сям'ёй, супраць.

Яўхім стаяў моўчкі думаючы, што рабіць: падпарадкавацца аднавяскоўцам, якія, канечне ж, зычаць яму дабра, хвалююцца за яго, просяць не спяшацца плысці да хутара, пачакаць, калі ў іх з'явіцца магчымасць дапамагчы яму ў такой далёкай дарозе, ці зрабіць па-свойму — не губляць час... Для яго ж зараз дарагая кожная хвіліна. Але ці мала што ні сёння дык заўтра можа здарыцца і з ім, і з Іосіфам, або Антонам, калі той на хутары. Людзі яны старыя, тут ужо не дзень — век, а можа, гадзіна. Ды і ўвогуле…

А плысці яму ёсць на чым. На рацэ ёсць яго, Яўхімава, лодка. Лоўкая, двухвёсельная, добра прасмоленая, з шырокім дном. У ёй калі будзе такая

патрэба, могуць Яўхім з Валікам нават спаць, прыстаўшы куды ў зацішнае месца. У ёй могуць плысці чатыры чалавекі.

І ёсць другая лодка, Іосіфава. Яе ён пакінуў аднавяскоўцам у тую вясновую ноч сорак пятага года, калі паводка захліснула Гуду, калі тут тварылася такое, што ні дай бог нікому чуць і бачыць, а тым больш самім перажыць. Пакінуў, а сам пасля перапалкі з Яўхімам як у ваду кануў.

У Іосіфавай лодцы раніцой мужчыны тады знайшлі харч, мех жыта і загорнутую ў абрус ікону Божай Маці. Калі чалавек ідзе з дому і бярэ з сабой усё гэта, асабліва ікону, канешне ж, назад вяртацца ён не збіраецца. Вось і Іосіф, як тады зразумеў Яўхім, не збіраўся вяртацца. Адно не зразумела і сёння: ён падпаліў сваю хату ці нейкім іншым чынам яна загарэлася. Зрэшты, падпаліць яе ён наўрад ці мог. Казаў жа тады, каб людзі плылі да яе, маўляў, цёплая. Добра, паплылі б. Паводку яна вытрымала б, калі б не згарэла. Падмурак моцны, з каменя, але што там рабілі б, як жылі б. Начавалі, а днём да пагорка плавалі б? Незразумела. Ды і чаму тады ежу і абраз забраў з хаты, што збіраўся рабіць?

Мабыць, з гарачкі Іосіф так казаў, напэўна, хацеў хоць як дапамагчы ім, таму і гаварыў. І мітусіўся, кідаўся, як загнаны ў клетку.

Вось і спытае Яўхім у яго: «Скажы, Восіп, што тады цябе з хаты гнала, я і зараз не ведаю».

Харчам тым тады гуднянцы доўга дзяцей падтрымлівалі, Валіка і Светку. Падтрымлівалі і Кацю, дзіця нарадзіла ж. Зерне крыху пазней змалолі на жорнах у Заброддзі, на Іосіфавай лодцы Яўхім і Мікола плавалі туды. Надзя пякла хлеб у печцы тут жа на пагорку, ды і неўзабаве Савелій Касмановіч прыплыў сюды, прывёз свой паёк. І потым не раз прыплываў, прывозіў тое-сёе з харчу, людзі перадавалі. А ікону забрала Надзя і аддала Каці. Цяпер абраз у яе хаце ў куце, іншы раз Яўхім украдне перахрысціцца: «Божа, сахрані і памілуй рабоў тваіх». Ды пералічыць пайменна: «Петрыка, Валянціна, Святлану, Кацярыну, Надзежду, Ігнація, Мікалая і Міхея». А потым: «Нікадзіма і Івана». Называў іх асобна, яны недзе далёка, як адрэзаны ад усіх. Сябе не называў, губы быццам зліпаліся, мабыць, за сваё жыццё нямала зрабіў такога, што не трэба было рабіць. І Іосіфа не называў, той таксама грэшнік. А чаму грэшны Яўхім за іншых просіць, дык жа гэтым сябе ачысціць хоча: мяне пакарай за ўсіх іх, а іх «сахрані і памілуй».

І сёння раніцой, збіраючыся ў дарогу, лоб перахрысціў, а потым вёску здаля, з пагорку, а з ёю ўсіх, хто тут жыве, месца гэтае шматпакутнае, святое. Ёсць ці няма Бога, не яго, Яўхімава, справа. Толькі перахрысціў не на ўсякі выпадак, а з верай: павінен быць, а хто ж усё сатварыў, само па сабе нічога не бывае. І душа, мабыць, ёсць, інакш не балела б так усярэдзіне, не пакутавалася так, не перажывалася...

І лодку перахрысціў: Валік жа ў ёй будзе плысці, вялікі ўжо, а ўсё адно дзіця.

Іосіфава лодка крыху меншая і лягчэйшая, чым Яўхімава. Але таксама добра прасмоленая. Яе мужчыны не выкарыстоўвалі. Тады, калі Іосіф пакінуў яе, раніцой, не знайшоўшы яго, зацягнулі на пагорак: вернецца ж па яе. Але не вярнуўся і ў той дзень, і праз дзень, і праз тыдзень, праз гады... А калі тады летам сышла вада, вышэй зацягнулі лодку, паставілі на калодкі. А зімаваць занеслі ў хлеў, маўляў, хай чакае гаспадара.

З-за яе ў Яўхіма, Міколы і Міхея былі непрыемнасці. Неўзабаве пасля таго, як знік Іосіф, участковы Саўка Касмановіч, убачыўшы яго лодку, западозрыў іх у тым, што забралі яе сабе. Але як забралі? Канешне ж, учынілі самасуд над ім: бацька паліцая.

Саўка прыплыў сюды праз два тыдні пасля таго, як узарвалася дамба. І яго зразумець можна: усе тут, а аднаго чалавека няма. Дзе ён?.. Дзе-дзе, каб жа ведалі...

Участковы быў злосны. Вырашыў, што расквіталіся яны з Кучынскім. Але шкадаваў іх, злачынцаў, як тады лічыў. Сказаў, быццам між іншым, маўляў, лепш было б, каб лодку знесла паводка.

Не, Савачка, калі б так, то надта проста ўсё вырашылася б, лёгка развязаўся б гэты вузел: няма Іосіфа, і лодкі яго няма, значыць, сам недзе згінуў. Паводка ж прыйшла небывалая, нічога, што траплялася на яе шляху, не шкадавала. Навокал усё рушылася, трашчала, крышылася (хаця не было чаму асабліва трашчаць і крышыцца, хіба што зямлянкі накрыла вада), хата пылала. А калі так, нам не да яго было (гэта праўда), самім бы ацалець. А калі так як ты параіў, дык які з нас спрос?..

Але лодкі яны не пазбавіліся і пасля Саўкавай падказкі. Ведалі, што гэтым самым выклікаюць на сябе падазрэнне. Няхай! Павінен жа некалі знайсціся Іосіф. Толькі якім... І грэх на нас ёсць, мы яго прагналі, але не больш таго...

А лодку ягоную Саўка потым шмат разоў бачыў, не хавалі. Але нічога не казаў. Яўхім аднойчы, калі прасмольваў яе на пагорку (было гэта да таго, як шукалі Іосіфава цела, але не знайшлі), мовіў:

— Рассохнецца. А вернецца Іосіф — бяры!

Саўка нічога не адказаў, але заўважыў Яўхім, памякчэў тварам, падаў Яўхіму руку і, парыпваючы хромавымі ботамі, пайшоў далей, да Міхея і Мікалая, якія воддаль курылі, гаворачы пра нешта сваё.

Сем гадоў ніхто не карыстаўся Іосіфавай лодкай. Хаця кожную вясну на дзень-два спускалі яе на ваду. Перад гэтым Яўхім абстукваў барты і дно. Прыслухоўваўся да гуку і, пераканаўшыся, што дошкі моцныя, шашалем не пашкоджаны, прасмольваў яе. Толькі ж не можа так быць бясконца, некалі спрахне, хай бы да гэтага гаспадара дачакалася, Іосіфа... Вось толькі, збіраючыся ў Кашару, часам думаў: а раптам там сапраўды Антон.

Было ў гэтым нешта не зусім шчырае, як выбіраў, хто яму трэба. Засяродзіўшыся на такім роздуме, паўтарыў ужо сам сабе:

— Каб жа там былі і той, і гэты.— Хаця, канечне ж, Іосіф там.

— Дзядзька, — амаль раздражнёна мовіў Міхей, — калі ты такі няўпэўнены, дык, можа...

— Не, Міхейка, у тым-то і справа, што ўпэўнены, — перабіў яго Яўхім. — Антонам Іосіф назваўся. Мабыць, хацеў каб Каця лічыла, што абазналася. Але чаму? Няўжо ўсё яшчэ крыўдуе на мяне? А хадзяйка — дык жаласлівы ён быў. Я ведаю. Можа, сустрэў дзе якую гаротніцу, іх жа столькі па свеце рассыпана, пашкадаваў, удваіх усё ж лягчэй. Так што займайцеся сваімі справамі, а я як-небудзь пацІху заўтра і паплыву.

Яўхім рашуча павярнуўся і нетаропка пайшоў па вуліцы да пагорка каля ракі, на якім стаяў стары хлеў. Калі адбудоўвалі вёску, хлеў не разбурылі, пакінулі рыбакам. Яны хавалі ў ім снасці. Не разбурылі і печку на пагорку. Месца зручнае, побач рака, мужчыны часта збіраліся тут, варылі юшку, бралі «франтавыя» сто грамаў, размаўлялі. У хляве, ведалі, стаяла Іосіфава лодка.

Мужчыны моўчкі глядзелі Яўхіму ўслед. Маўчалі і Надзя з Кацяй: што ты яму скажаш, калі заўпарціўся. Хаця Каця думала, што ўсё ж вечарам адгаворыць старога, папросіць пачакаць, пакуль хто з мужчын зможа плысці з ім. За сталом паспрабуе пагаварыць. Ён як заўсёды прыйдзе вячэраць. Іосіф, хоць яму ўжо даўно паставілі хату, кожны ранак, абед і вечар прыходзіў да Каці, да Петрыка, якога зваў унучыкам. (Хлопчык лічыў яго сваім дзядулем. Каця глядзела за старым як за бацькам.)

Калі Каці першай у Гудзе пабудавалі хату, яна згадзілася пайсці туды з той умовай, што з ёй будзе жыць Надзя з дзецьмі. Адразу ж пасля таго, як засяліліся ў новую хату, мужчыны пачалі ўзводзіць зруб Сапёрскім. Да зімы хата была пабудавана, у ёй можна было жыць, і Надзя з Валікам і Светкай перабраліся туды, чакалі мужа і бацьку: Ігнат пісаў, што хутка вернецца, пакуль затрымліваецца ў войску. Вярнуўся ён толькі восенню сорак шостага. Ужо ў свой дом.

А зімой сорак пятага Каця ледзь не сілком прывяла да сябе старога: тады Яўхім разам з Міколам і Міхеем туліліся ў хляве, да якога зараз кіраваўся.

Мужчыны па-ранейшаму маўчалі, не ведалі, як быць. Раптам Валік, ён па-ранейшаму стаяў каля іх, сказаў:

— Мама, бацька, пусціце мяне з дзедам Яўхімам. Як жа ён паплыве адзін? Ды і мне трэба дзеда Іосіфа ўбачыць. — І звярнуўся да старога: — Дзеда, вазьмі мяне з сабой.

Яўхім спыніўся, паволі павярнуўся, развёў рукамі:

— Дарога, Валік, мне вядомая. Што цяжкога? Туды па цячэнні, а назад, супраць цячэння, паціху шастом каля берага. Думаю, што назад будзем плысці ўдвух. Хай з Іосіфам, хай з Антонам. А мажа… Ды і што табе там трэба?

Што меў на ўвазе стары, калі сказаў «А мажа», нікому не было зразумела.

Валік адказаў не адразу, рушыў да Яўхіма, спыніўся побач, вымавіў:

— Пакрыўдзіў я дзеда Іосіфа. Малы быў, а помню.

Яўхім уважліва паглядзеў на хлопца, рашуча паклаў таму руку на плячо:

— Помніш, аказваецца…

— Але.

— Ты Кучынскага пакрыўдзіў? — здзівіўся Ігнат. — Як? Калі?

— Пасля вайны. Зімой. Малы быў... Лёд у дзеда кідаў...

— Дурэў, — разважліва сказала Каця, гэтым самым заступаючыся за хлопца. — Дзед Іосіф не пакрыўдзіўся, разумеў жарт.

— Ат, — махнуў рукой Ігнат і звярнуўся да Надзі: — Маці, пусцім, калі дзед возьме?

— Пусцім, калі дзеда возьме, — адказала Каця і ражком хусткі выцерла вочы.

— Возьме, — сказаў Яўхім. — Яшчэ як возьме! — І зноў, зазіраючы Валіку ў вочы, дадаў: — Значыць, помніш. А як на вёслах сядзіш, ведаю, рука ў цябе даўно ўжо дужая. Што скажаце, хлопцы?

Стары павярнуўся да мужчын.

— А мы гэта ведаем, Яўхім Міхайлавіч, — пацвердзіў Кастроў. — На дарозе робіць не горш за мужчын. На машыне навучыўся ездзіць, на трактары. І ўвогуле, Валянцін Ігнатавіч чалавек сур'ёзны.

— Ды я даўно гэта ведаю! — сказаў стары. — Ды мы з Валікам — ого!

Мужчыны пераглянуліся, стары сёння неяк дзіўна паводзіць сябе. Хаця зразумець яго можна: сыноў чакае, за Іосіфа сябе вінаваціць, пра Антонавых дзяцей, чужых яму, помніць...

А Валік раптам заўважыў на вачах старога слёзы, рашуча абняў яго і, каб скрыць іх ад усіх, мовіў:

— Мы з дзедам куды хочаш даплывём!

Раней Валік ніколі не бачыў слёз на вачах старога...

І вось Мікола, Міхей, Ігнат, Надзя, Светка, Каця з Петрыкам праводзяць Яўхіма і Валіка ў дарогу. Каця хоць і збіралася ўчора вечарам адгаворваць старога, калі ён прыйшоў на вячэру, перадумала: хай. Ставячы на стол вячэру,

пакуль Яўхім мыў рукі на кухні, сказала, што сабрала ім з Валікам у дарогу харчу: добры брус сала, ладную глышку масла, клін сыру, нядаўна адціснутага, дзясятак вараных яек. І, канечне ж, хлеб, і нават вядро бульбы — ужо добра разварваецца. Маўляў, у дзядзькі Іосіфа там чыгунок які знойдзецца.

— Ты нас як зімаваць выпраўляеш, — усміхнуўся стары.

— Зімаваць не зімаваць, але не блізкі свет. Пакуль збярэцеся назад, хай дзядзька Іосіф дамашняга з'есць. Хто яму там гатуе.

— Ну тады вазьму ўсё, — сказаў стары, сядаючы за стол.

Петрык і Каця павячэралі ўжо, і цяпер малы спаў у невялікім пакойчыку, які, як толькі паставілі хату, адгарадзіў яму Яўхім. Вячэраў адзін. Каця пакавала кошык, торкнула туды, як заўважыў Яўхім, і бутэльку. Падумаў, спатрэбіцца...

…І вось цяпер Яўхім і Валік адплывалі.

— Ну, з Богам, — сказаў Яўхім, пераканаўшыся, што ўсё як трэба: і лодка не працякае, і рэчы добра размешчаны ў ёй, і вёслы ўжо ва ўключынах, і нават шост ляжыць на дне — спатрэбіцца, як будуць плысці назад супраць цячэння.

Стары, нават не пацiснуўшы нікому рукі, маўляў, ненадоўга плывём, нагнуўся, абняў Петрыка. Той паспрабаваў хныкнуць. Яўхім, сказаўшы яму: «Ну-ну...», — паволі зайшоў у лодку. Яна, пакуль ён уладкоўваўся на папярэчцы ўперадзе, лёгка пагойдвалася. Тым часам Валік сеў на вёслы, мужчыны адштурхнулі яе ад берага, рака падхапіла лодку, панесла наперад.

— Дзядзька! — не стрымалася Каця. — Глядзі, не баўцеся там. Чакаем. Так і скажы дзядзьку Іосіфу.

— Ды няўжо ж не скажу, — крыкнуў Яўхім. — Абавязкова скажу. Без яго не вярнуся.

## 2

...Доўга ляжаў на зямлі Іосіф. Успамінаў, як прывёз сюды Тэклю. Хутар ёй падабаўся. Ён замяніў ёй дом. Падабаўся лес навокал хутара. Рака падабалася. Дубасна ж працякае недалёка ад яе вёскі, у якой нарадзілася, жыла з бацькамі, з якой некалі пайшла замуж. Але ведала Тэкля, што цяпер ёй туды шляху няма і, мабыць, ужо ніколі не будзе. Ведала, калі б прыйшла ў вёску, зноў апынулася б у Сібіры, і ніхто за яе не заступіўся б, як не заступіўся тады, калі ссылалі…

І балоты любіла: журавіны, буякі, па берагах — брусніцы. А яшчэ балоты аберагалі яе і Іосіфа ад тых, каго баялася. Каб не было балот, сюды ўжо даўно дабраліся б людзі... Тут ёй было спакойна. І яна радавалася гэтаму спакою, да якога, здаецца, прывыкла адразу, як прыплылі сюды. Хаця, спакойнай яна была неўзабаве пасля таго, як уцяклі з горада, дзе Іосіф сустрэў яе на базары жабрачкаю, і ўратаваў, як яна казала.

Здаецца, супакоілася адразу, як толькі горад знік за першай жа павароткай ракі. Упэўніўшыся, што ніхто за імі не гоніцца, убачыўшы, што Іосіф не хвалюецца, адчувала, ён, нават калі б іх і дагналі, не аддаў бы яе нікому, сам загінуў бы, а яе абараніў.

Яна тады думала, што Іосіф не баіцца, а ён баяўся ды яшчэ як, толькі не паказваў гэтага. Ён лоўка правіў чоўнам, прымушаў сябе не аглядвацца, хаця час ад часу ўкрадне касавурыўся назад, думаў, як і чым будзе адбівацца, калі раптам іх даганяць. Вяслом, шастом?.. А Тэкля, знясіленая, спакутаваная, як лягла на дно чаўна на яго ватоўку, калі сказаў каб адпачыла, здаецца, адразу і заснула.

Які ж гэта быў дарагі для яго міг, калі яна казала яму, кладучыся на яго куфайку: «Мне ж цяпер з табой, Іосіфка, нічога не страшна, нават смерць…»

Ён тады амаль нічога не ведаў пра тое, што з ёй было ўсе гэтыя гады іхняга расстання. Не ўяўляў усяго таго, што яна перажыла за Аўдзеем і тут, і ў Сібіры. Але калі так казала, разумеў — нешта дужа жахлівае было з ёй. А яшчэ, што Тэклюшка рашылася ўцякаць са ссылкі не толькі каб яго ўбачыць — вельмі цяжка было ёй на чужыне. Разумеў, як нялёгка ёй было ў дарозе на чужой зямлі. Можа, паўсвету прайшла, каб апынуцца на роднай зямлі. І як толькі не напакутавалася пакуль ішла, але не думала, што і на сваёй зямлі будзе пакутаваць.

Да Кашары плылі доўга. Хоць рака такою парою не вельмі хуткая, талыя воды даўно скаціліся, месцамі нават плытка, але лодку моцна штурхала назад. Ужо і па тым часе не вельмі дужы Іосіф — узрост браў сваё, адчуваў гэта добра. Хаця адразу як пасадзіў яе ў човен, усё ж напружыўся ўсім целам, адчуў моц у руках, рашучасць і нават нейкую злосць — быццам кідаў выклік рацэ, нібы жывой істоце, якая наважылася перашкаджаць яму.

Раку ён ведаў з маленства. Як кажуць, на рацэ нарадзіўся. Яе нельга было адабраць ад яго жыцця, як не адабраць зямлю, лес, паветра, неба…

Дубасна заўсёды была для яго жывою. Зімой яна спала пад шызым ільдом і белай пульхнай снегавой коўдрай. І ў гэтым яе сне было штосьці загадкава-таямнічае. Асабліва там, дзе з-пад палонак у вірах уздымалася пара, здавалася, у маразы рака дыхае, як чалавек...

Вясною, асветленая сонцам, Дубасна паступова абуджалася ад доўгага зімовага сну. Коўдра на працягу дня заўсёды мяняла колер. Раніцой — белая, з жаўтаватымі бліскаўкамі. Ажно глядзець балюча. Апоўдні белізну пацягвала лёгкая чырвань. Вечарам — сіня-шызая, цяжкая.

А праз колькі цёплых дзён коўдра тая, накінутая на лёд, з самай раніцы пачынала карабаціцца. Крыху пазней, калі ўзнімалася сонца, там дзе стрыжань, яна ўжо прыкметна варушылася. А яшчэ пазней, пад вечар, пачынала паступова ссоўвацца пад левы бераг — сонца садзілася справа...

А праз колькі часу Дубасна ўжо даволі прыкметна абуджалася: глыбока ўздыхала, лёд трашчаў, ламаўся на вялікія крыгі, яны цяжка варочаліся ў цёмнай пеністай вадзе, і рака, быццам асмялеўшы, але яшчэ трымаючыся берагоў, мінаючы Гуду, бегла ўдалечыню.

Зусім смелай яна станавілася толькі недзе ў сярэдзін красавіка, з левага берага на многія вёрсты, ажно да Дзямкоўскага лесу залівала лугі, туды можна было дабрацца толькі на лодцы. З правага берага яе ў Гуду не пускала дамба…

Цікава было наглядаць за ўсім гэтым: усё навокал таксама абуджалася, шумела, трашчала, крышылася, вуркатала — без ветру гойдаліся кусты па берагах, на вадзе ламаліся іх доўгія шэра-зеленаватыя цені, скакалі на хвалях бязладна рассыпаныя бліскаўкі, сіні гарызонт адкідваўся некуды за Заброддзе, наўкола адчувалася неабдымная прастора...

А ў тыя гады, калі яшчэ не было дамбы, вада пачынала паступова забірацца ў вёску, затапляла яе, затым лугі, усё навокал, наколькі ахоплівала вока.

Тады паводка для гуднянцаў была звыклай справай, да паводак яны прывыклі, іх чакалі, пры іх жылі, іх праводзілі...

А летам рака была лагодная і цёплая. Паступова ўвайшоўшы ў сваё рэчышча, агінала з левага боку Гуду, дабягала да Заліўя, затым далей, да Дубасны, вёскі з такой жа назвай як і яна. (У Дубасну Тэклюшка пайшла замуж за Аўдзея. Іосіф пасля гэтага калі і прыязджаў туды на калёсах ці прыплываў

на лодцы, то гады ў рады, і то па якой патрэбе — плуг ці барану купіць на мясцовым базарчыку, боты, апратку).

Рака раней заўсёды раздзяляла Іосіфа і Тэклю. Ён жыў на правым беразе Дубасны, яна — на левым, далёка, з дзясятак вёрст ад яго. У маладосці, калі яны сустракаліся, летам ён плаваў да Тэклі на лодцы, хаваў яе ў затоцы далей ад вёскі, каб не заўважылі мясцовыя хлопцы, а потым ужо ішоў на сустрэчу. Звычайна сустракаліся дзе-небудзь далей ад старонняга вока, загадзя дамаўляліся.

Бывала, прастойвалі пад якім дрэвам ноч напралёт, а раніцой, калі яна бегла дамоў, Іосіф плыў супраць цячэння ў Гуду, не адчуваючы стомы — ажно гнуліся вёслы... Плаваў ён да Тэклюшкі і такою парою, як цяпер. Тым часам, яшчэ не асеннім, але ўжо і не летнім, калі вёз яе ў чаўне па рацэ з горада на хутар, Дубасна была ціхай, быццам выдыхнулася за вясну і лета, і ўжо не бегла, а паціху, нібы ў нейкім роздуме, кацілася ўдалечыню і штурхала човен назад не так моцна, як вясной або напачатку лета. Хаця ўсё адно адчувальна...

Увогуле такім часам яму не так ужо і цяжка было плаваць па цячэнні ў горад да Архіпа, а потым назад. Іосіф добра ведаў, якая Дубасна на ўсёй адлегласці ад хутара да горада. Ведаў кожную паваротку, вымоіну, вір. Ведаў, дзе ляжаць затопленыя дрэвы, дзе глыбока, а дзе плытка. І тое, што ведаў, крыху супакойвала: калі што — хутка знойдзе, дзе схавацца.

Спачатку ён нават хацеў завярнуць човен у глухую затоку ў трысці, за карчоўем. Яна была недалёка ад горада. Хацеў дачакацца там цемнаты, а потым ужо плысці да хутара.

Іосіф баяўся, што днём, калі будуць за імі гнацца, тым больш на лодцы з маторам — і такія хоць і рэдка, але трапляліся каля горада, не ўцячэш. Ды і шумна днём на рацэ, горад выплёсквае на яе ўсе свае гукі — вуркатанне машын, віскат пілорамы, што недалёка ад Архіпавай лазні, грукат цяжкіх цягнікоў на чыгунцы, ды і людскія галасы. І гукі тыя чуюцца на рацэ, яны заглушаюць не толькі плёскат вады пад вёсламі, а нават гук маторнай лодкі: здаралася разы са два такое судна вылятала з-за паваротрі прама на яго човен, і абмінуўшы, падкінуўшы на хвалях, неслася далей.

Ноччу ж на рацэ ціха. Слабое вуркатанне вады, плёскат рыбы, крумканне жаб чутны далёка. Ды і наогул любы гук пачуеш на такой адлегласці, што хопіць часу схавацца. А вось Іосіфава вясло, якім ён заграбае ваду пад карму, ці шост, якім адштурхоўваецца ад дна каля берага, ніхто не пачуе і за два крокі— з маленства спрактыкаваны.

Да затокі ён не паплыў, каб дачакацца, калі сцямнее, а потым ужо кіравацца да хутара. Не хацеў палохаць Тэклюшку: хаваемся, значыць, чакай бяды.

Ён плыў усё далей і далей ад горада і пільна паглядваў на берагі, густа парослыя лесам і кустоў'ем, прыслухоўваўся да наваколля, хоць ведаў, што чалавека тут рэдка сустрэнеш, і то калі з вудай — людзі любяць быць на рацэ бліжэй да горада.

Іосіф гнаў човен як толькі мог хутка, але асцярожка. Ён увесь час быў наструнены, гатовы да ўсяго, што магло толькі здарыцца з імі на рацэ. Вясло, а дзе трэба было шост, трымаў моцна, пры гэтым праз кожную хвіліну паглядаў на Тэклюшку, на яе твар, ці спакойная... Глядзеў на яе цяперашнюю — сівавалосую, смуглую, з маршчынамі пад заплюшчанымі вачамі і на апалых шчоках, вакол абветраных і месцамі патрэсканых вуснаў, а бачыў зусім іншую — маладую…

Бачыў тую далёкую, якую так моцна любіў: светлавалосую, з заўсёднай лёгкай паўусмешкай на пульхных вуснах, ружовашчокую, з вясёлым бляскам блакітных вачэй... І, здаецца, адчуваў, як вакол яе струменіцца нейкае няўлоў-

нае, ледзь прыкметнае святло, якое некалі так вабіла да сябе і якім ён так і не мог завалодаць...

Гэтае няўлоўнае святло ён помніў заўсёды. І заўсёды адчуваў яго, нават калі Тэклі не было побач. Хаця, здаецца, часам яно некуды знікала, асабліва тады, калі яго нішто не трывожыла і не палохала. Знікала, а ўсё адно адчуваў — ёсць... І з’яўлялася кожны раз, калі яму было кепска. Тады ён нібы ў трызненні імкнуўся да гэтага святла, і калі, здавалася, вось-вось дакранецца, яно развейвалася, зноў недзе знікала. Такое жаданае і такое няўлоўнае...

Дзіўным было тое, што — няўлоўнае, а разумеў, усё адно роднае. Роднае яно, можа, як ніколі, было і тады, калі плыў з Тэкляй у Кашару. І як ніколі блізкае: працягні руку — дакранешся. Але баяўся працягнуць, каб не спалохаць. Тады зноў знікне. Мільён разоў да гэтага яно ўзнікала недзе далёка-далёка, набліжалася да яго нібы нейкае мроіва, здавалася, побач ужо, дакраніся рукой — як толькі імкнуўся да яго, знікала…

Іосіф не думаў, хто ён цяпер Тэклюшцы: родны ці не. Не думаў і пра тое, ці засталася ў яе хоць кропелька роднасці да яго, галоўнае — яна побач. І адчуваў сябе шчаслівым. Але разам з тым было і трывожна. Яшчэ б, нарэшце праз столькі гадоў, а дакладней, праз усё жыццё пасля іхняга жахлівага расстання раптам сустрэў яе. І не толькі проста сустрэў, але выратаваў, сказала ж: «Ратуй мяне, Іосіфка...»

Паступова вечарэла. Вада спачатку на перакатах, затым на стрыжні асвяцілася зіхоткай жаўцізной. І жаўцізна тая, паступова цьмянеючы, яшчэ доўга бегла супраць руху чаўна, і нарэшце схавалася пад вадой. І адразу ж на ваду легла зіхатлівая чырвань, на якой вымаляваліся зялёныя, аздобленыя жоўтымі мазкамі кроны дрэў, закалыхася разам з карычневымі, быццам размазанымі, іхнімі ствалам. Нарэшце ўсе гэтыя колеры патусkнелі, зліліся ў нешта адно цяжкое цёмна-шэрае, па якім і слізгала іхняя з Тэклюшкай даўблёнка.

Аціхлі птушыныя галасы. Змоўклі жабы. Сонца яшчэ не скацілася за лес, а на небе выявіўся бледна-жоўты пляскаты месяц. Ад вады пацягнула халадком. Спакваля над ракой заклубіўся волкі шызы туман. Пачаў раскручвацца над ужо цёмнай густой вадой.

Іосіф разумеў, што ніхто за імі не гнаўся. А тыя, каму Тэклюшка была патрэбна, не заўважылі, калі і куды яна знікла. Інакш рака даўно несла б пусты човен...

І ўжо вечаровым часам, калі навокал становіцца ўсё цішэй і цішэй, прыплылі да таго месца, дзе Дубасна праходзіць каля балота з гэтага боку хутара.

У гэтым месцы ў затоцы ён заўсёды хаваў човен, калі плаваў у горад і назад.

І гэтая вечаровая цішыня, што панавала навокал, і тое, што такой парою на вадзе далёка чуваць, як сказалі б у Гудзе, было ім наруку: не кожны асмеліцца такім часам у такой глухамані пайсці за табой...

Насупраць хутара, які хаваўся на высокім лапіку зямлі за невялікай палоскай лесу, за ладным непраходным балотам, зрэшты, за вузкай, але шчыльнай градой беразняку і ельніку ўперамежку, Іосіф завярнуў човен у старыцу. Старыца скрозь зарасла высокай, у чалавечы рост, травой. Нос чоўна ціха расхінаў яе, быццам разразаў шчыльнае покрыва, яно слізгала па бартах і, не пакідаючы следу, сыходзілася за кармой.

Калі даўблёнка прыстала да берага, ледзь чутна шоргнуўшы днішчам па зямлі, Тэкля здрыганулася і прачнулася. Паглядаючы на Іосіфа, мовіла, быццам спала бесклапотна дома ў ложку:

— Нарэшце за столькі часу выспалася. Хаця спала і не спала. Усё чула: і ваду, і птушак, і нейкі плёскат. І адчувала, як садзіцца сонца, але вачэй не расплюшчвала: каго мне баяцца, калі ты побач.

— Вось і добра, што выспалася, — сказаў ён. — Нябось, стамілася?

Ён паглядзеў на яе босыя ногі, сцягнуў боты са сваіх, раскруціў анучы, падаў:

— Абуйся. Спачатку па лесе пойдзем. Карчы. Потым праз балота. Твань. Потым зноў лес. Града.

Яна ўзяла анучы, абгарнула ногі, асцярожна, моршчачыся абула боты, і быццам здзівілася:

— А ты?

— Мне ўсё адно ці ў ботах, ці так. Я больш так хаджу. Усюды. У мяне і лапці ёсць. Мяккія. І не адна пара. Пакуль твае ногі зажывуць, у лапцях хадзіць будзеш. А потым я табе мяккія бурачкі ці валёнкі з горада прывязу. — Памаўчаў крыху, вярнуўся да ранейшага: — Кажаш, стамілася...

— Яшчэ як стамілася. І ад страху, і ад бяссоння. Каб жа ты ведаў, колькі начэй я ўжо не спала. Тыя ж людзі, што забралі мяне ды паставілі на базары жабраваць, трымалі ў нейкім хлеўчуку. Дзе ж ты заснеш, дзень адстаяўшы. Ногі спруцянеюць, так баляць, хоць ты гвалтам крычы. Вось і качаешся ноч на зямлі на саломе. А раніцой ізноў на базар. Ты можаш спытаць, чаму не ўцякала. Куды? Ведала, дагоняць, заб'юць ці ў міліцыю завядуць: бярыце, беглая. Вось і стаяла, чакала, калі сканаю… А калі б уцякла, дык не сустрэліся б мы з табой, дарагі ты мой Восіпка.

Праўда, прызнаюся табе, усё чакала, калі ж заб'юць мяне, я ж зусім занядужала. Навошта ім нямоглая? Ведала, так проста не адпусцяць, раптам пайду да ўлады, раскажу, як здзекаваліся з мяне і з такіх, як я. Яны ж недзе ў нейкім іншым месцы трымалі двух старых мужчын, таксама прымушалі жабраваць на іх.

А я баялася пайсці. Баялася, што ніхто мяне і слухаць не будзе. Назад сашлюць. Думала, дарогу назад не вытрымаю, пamру. Не хочацца ляжаць у чужой зямлі. Дзе памру, там і закапаюць, нават у труну не пакладуць. Бачыла, паміралі людзі, як нас туды везлі. Бачыла, як закопвалі. Калі ўжо лёс памерці, дык на сваёй зямлі паміраць трэба. А што ты мяне знойдзеш, не думала. Усяму скарылася.

— Як жа так, — сказаў ён тады, — нехта з цябе здзекаваўся, а людзі быццам і не бачылі. І хто яны, тыя пачварнікі, што з табой так?

Унутры ў Іосіфа ўсё камянела. Яму не хапала паветра. Перасыхалі вусны, гаварыць было цяжка.

— А што людзі? Людзі такія, што чым больш гаротны жабрак, тым больш кідаюць. Адны спачуваюць. Іншыя як адкупляюцца ад чужога гора. У тваю душу ніхто не лезе. У людзей свайго гора хапае. Бачыла, столькі прайшла. Праўда, каб не людзі, не дайшла б. Людзі розныя. Хто спачувае, хто не. І там дзе была, і тут, у нас. А хто здекаваўся, скуль ведаю? Мужчыны нейкія і жанчына. Толькі навошта яны табе? Ні ты, ніхто нічога не зможа змяніць. Давай не будзем пра гэта. Не хачу і цябе трывожыць, і сама не хачу трывожыцца. Адно скажу, можа, калі б ты не ўбачыў мяне сёння, то нядоўга пабыла б на гэтым свеце. Ці яны зжылі б мяне, ці сама сябе, даруй, Госпадзі, зжыла б. Такія пакуты трываць нельга. Не раз пра гэта думала. Бывала, набяру ў галаву, а тады калі рука ўжо да нечага страшнага цягнецца, каб на шыю накінуць, перахрышчуся і як скалануся: дурніца-дурніца... Што ты сабе ўдумала? Навошта ж тады ўцякала? Навошта столькі пакутавала, пакуль дабралася сюды?..

А цяпер думаю, мабыць, дзеля таго каб нарэшце сышліся мы. Нас жа з табой, Восіпка, сам Бог звёў. За твае і мае пакуты.

— Але звёў, Тэклюшка, звёў, — глуха мовіў ён.

— Але дзе мы? Ты ж так і не сказаў.

— Дома.

— Дома?

Сказаў і скалануўся, няма ў яго свайго дома. Ёсць прытулак у чужым жытле. Ды і то ён сам яго сабе вызначыў.

Яна заўважыла, што ён сумеўся, мовіла:

— Нешта не тое?

— Чаму ж. Тое, тое. Там за градой лесу, за балотам — дом, — паказаў рукой наперад. — Хутар там. Чужы. Я на ім жыву ажно з вясны сорак пятага. Гаспадара, як і цябе з Аўдзеем, раскулачылі, саслалі з сям'ёй. Дзяцей у яго было шмат і ўнукаў. Зусім малыя былі, і большыя. Усіх вывелі з хутара. Ну вось я жыву тут і самахоць хутар пільную. Дзе што падладжу, дзе што пачышчу. Словам, пільную, каб нічога не развалілася, не спрахла. Можа, некалі з'явіцца ці гаспадар, ці хто з яго сямейнікаў. А можа, і не. А ўсё адно хутар пільную, не толькі жыву на ім. Не аднойчы думаў, прыйдзе хто, заспее мяне яшчэ жывога, павінюся, скажу, маўляў, не спаганіў я ваша жыллё, не разрабаваў, так ужо выйшла, што быў у мяне цяжкі час, і ваш хутар стаў мне ратункам. І ваша ласка, прагнаць мяне, ці пакінуць дажываць у катушку ў кашары, я ж сам сябе ўтрымліваю, перашкаджаць не буду. А не дык не, пайду ў свет, пакуль ногі ходзяць.

— Што ж гэта такое, у свет, — жахнулася яна і прытулілася да яго. Човен, хоць быў і напалову на зямлі, загойдаўся, як на вадзе. Іосіф пашаснуўся, устаяў, абняў яе, адчуў, як яна ўся калоціцца. Таксама адчуў, як часта-часта тахкае яе сэрца пад яго сэрцам. — А твой дом што?

Адказаў не адразу, як не пачуў. Уздыхнуў працяжна, мовіў:

— Мой? Няма яго. Спрах. Потым раскажу, потым. А цяпер пайшлі, — Іосіф асцярожна падштурхнуў Тэклю наперад, і калі яна ступіла на зямлю, нагнуўся, падняў з дна чоўна ватоўку, дагнаў яе, атуліў плечы: — Пакуль хоць так сагрэйся, дома печ прапалім, цёпла будзе.

— Але...

Ён узяў Тэклю за руку, адчуў яе цёплыню, асцярожна павёў за сабой, сказаў:

— Можа, неяк сваё жыллё агораем, пачакай. У мяне і нейкая капейчына ёсць, сабраў за гэты час, як тут жыву. Сябра дапамагаў. Архіп. Я табе пра яго ўжо казаў. Яму я вазіў грыбы, ягады, зайчаціну, заечыя шкуркі. А ён збываў. На харч мне хапала, ды і на якую світку — таксама. І тое-сёе заставалася. Прыхаваў. А пра сваё жытло, дык калі быў адзін і думаў і не думаў: баяўся, не агораю. Ды і дзе?.. Цяпер жа з табой вырашаць будзем. Можа, у якой вёсцы што прыдбаем.

— Не, не, — хуценька сказала яна. — Толькі не там, дзе людзі. Ад людзей нічога не скрыеш. Нехта ж адзін знойдзецца, ды спытае, хто ты, адкуль. Ды і ўлада там, сельсавет. А я хто...

— Яно-то так, — задумаўся Іосіф. — Праўду кажаш, нехта знойдзецца. Помню, у нас Фадзей быў. Стары чалавек. Набожны. Усё Пісанне чытаў. Нікому папярок дарогі не стаў. Жыў сам па сабе. Але калі што, дапамагаў людзям. Казаў, як сёння помню: «...калі ўпадзе адзін, то другі падніме таварыша свайго. Але гора аднаму, калі ўпадзе, а другога няма, які падняў бы яго».

Мовіў аднойчы пры людзях. Здаецца, нікога чужога не было. А раніцой яго — за каршэнь, ды ў машыну. Помню, вялі, адзін малады ў шынялі доўгім,

старога наганам у спіну тыцкаў: «Эйч, таварышаў знайшоў! Ды дзе? Там, дзе вопівум для народа. Контра!»

А Фадзей яму: «Дзеткі, таварыш — гэта Божае слова. Яго нельга так разумець, як вы разумееце. Маўляў, таварышы — толькі вы адзін аднаму. Усе мы таварышы. Усе павінны падаваць руку таму, хто раптам упадзе».

А тыя ўз'юшыліся: «Будуць табе таварышы!»

Запомнілася мне, што ніхто з нас, мужчын з усёй вёскі, нават і слова не пікнуў, каб за Фадзея заступіцца. Глядзелі і баяліся, каб саміх не пацягнулі. І я там быў, і Яўхім, і іншыя такія ж пажылыя мужчыны. Я паглядзеў на Яўхіма, а той на мяне: што рабіць… Хацелася сказаць хлопцам, якія вялі Фадзея: «Што вы робіце са старым чалавекам? Ён нікому зла не рабіў. І не сорамна вам?»

Не сказаў, Яўхім утрымаў: «Маўчы! І Фадзея не выратуеш, і сам у бяду трапіш».

Во яно што, Тэклюшка!.. Не, праўду кажаш, у вёсцы ж людзі. Хаця і яны розныя. Цяпер бы я за Фадзея заступіўся.

— Лепш тут пажывём, колькі зможам, — сказала яна. — Ты во колькі ўжо жывеш, і нічога. Нехта падказаў табе сюды ісці, ці сам?

— І так, і не так. Дамбу каля Гуды перад вайной вайскоўцы насыпалі, кажуць, недзе недалёка ад нас у лесе палігон хацелі рабіць. Паводкі ім перашкаджалі, вось яны і адгарадзілі раку. Дамба ваду трымала. І да вайны, і ў вайну. А ў сорак пятым якраз была такая паводка, якой я на сваім веку і не бачыў. Узарвалася дамба. Я пасля скумекаў, мабыць, замініравана была. Неяк бачыў у вайну, калі нашы ўжо блізка былі, немцы на дамбе капалі. Думаў акопы, а яно вось што, міны клалі. А я не здагадаўся пасля нікому сказаць. Хаця нашы вайскоўцы па ёй прайшліся, нічога не знайшлі. А ўсё адно сябе віню: чаму не сказаў, можа, прыслухаліся б, больш уважліва дамбу агледзелі б. Ну і ўзарвалася яна. Вада хлынула. Змяла зямлянкі — нашу Гуду летам сорак трэцяга немцы спалілі. Адна мая хата тады толькі і ацалела. Людзей столькі загінула... Мала хто выжыў. Яўхім, калі помніш, колішні мой сябра, Надзя Сапёрская і двое яе дзетак, хлопчык і дзяўчынка, ды Каця Журавец.

— Помню Яўхіма, і Надзю помню, а Кацю — не.

— Ды з Заброддзя яна.

— А ты як з хатай застаўся?

Цяжка ўздыхнуў Іосіф, быццам валун зрушыў:

— Мой сын заадно з ворагам быў. З немцамі… Вось і ацалела… Усё, Тэклюшка, няма яго, няма… А я калі паводка абрушылася, доўга ў хаце сядзеў. Многае перадумаў… І пра сябе, і пра Марыю, і пра сына. І пра людзей — таксама. Сэрца крывёю аблівалася: я ў цяпле, а людзі, ды яшчэ з дзецьмі, у холадзе і голадзе. На пагорку за вёскай яны бераглівся. Хляўчук там яшчэ раней скідалі. Хату маю добра трэсла, але стаяла яна, падмурак там — ого які, з каменя! Трасе, ну я — да іх. Маўляў, хата ў мяне цёплая… А яны — прэч!.. Ну і «прэч». А потым у тую ноч хата і занялася. Згарэла. І ведаеш, згарэла, і мне лягчэй стала: апастыла мне ў ёй. Чужая. Свая, а чужая. Як успомню: прачынаюся, быццам і цёпла ў ёй, а холад душу працінае. Хаджу па масніцынах, як па тоўчаным шкле, месца сабе не знаходжу. Спаць кладуся — чужое… Вочы заплюшчу, цябе бачу. Здаецца, руку працягну, дакрануся. Працягваю — няма цябе... На Марыю натыкаюся, хаця яе даўно ўжо няма. Во як было, Тэклюшка.

— Ведаю такое, Восіпка, ведаю. Але на Марыю не злуй. Яна ж сілком цябе да сябе не цягнула. Чула я, хлопец да цябе ў яе быў. Казалі, любіліся. Ці самі разлучыліся, ці хто разлучыў, не ведаю. Можа, каб з хлопцам тым была, дык і яна гора не знала б. А так — ты з ёй, яна з табой — нялюбыя. Не кожны такое

вытрымае. Можа, ёй балела так як і табе, і мне. Таму і ладу між вамі не было. Калі мужчыну свая жанчына патрэбна, дык і жанчыне таксама патрэбен свой мужчына. Так што не злуй на яе, не бяры грэх на душу. Тым больш, там яна... (Тэкля ледзь прыкметна ўзняла галаву ўверх). Чужая яна табе была, таму і быў ты чужы ў сваёй хаце. Толькі ты ж мужчына, мог, калі Марыя нялюба была, адзін спаць класціся. А я ж — баба, мужыкова жонка. Венчаная. Ложак у нас з ім заўсёды адзін быў. Што і казаць — гвалт кожны раз... І я ўсё цябе помніла. Ты заўсёды побач са мной быў. Хоць бач як у нас з табой выйшла — целам я ніколі тваёй не была, а ты не быў маім. Але заўсёды душу тваю адчувала каля сябе. Па хаце хаджу — побач ты… Да ложка іду — таксама побач…

Як маладая была, зграбе ён мяне ў ахапку, на ложак кіне, свайго дабіваецца, а я душуся слязьмі — усхліпнуць не дасць: «Што, пра яго думаеш?» А што яму скажу, што думаю?.. Маўчу. Бывала, і руку на твар апусціць. А яна ў яго цяжкая.

— Не трэба, не трэба, родная…

— Не буду. Але ж кажу табе, і мне лягчэй… Я вось што думаю: не трэба было табе са сваёй вёскі ісці. Пасварыўся з аднавяскоўцамі, а пасля памірыліся б. А хто цябе са сваёй хаты гнаў... Чужая, кажаш. Ну чужая была, калі там Марыя гаспадарыла. А пасля што? Даруй мне, Божа, Марыя ж памерла, табе не мазоліла. Ды і яго... сына, кажаш, ужо не было. А згарэла хата чаму? Падпаліў?

— Не. Мабыць, загарэлася ад свечкі. Неабачліва запаленую на стале пакінуў. Дужа ж трашчала, знаць, нячыста ўсё яшчэ ў хаце было, хоць свечкі тым вечарам паліў. І не адну. Але наўмысна пакінуў. Вада прыбывала. Не было калі чакаць, пакуль дагарыць. Думаў, згарыць у шклянцы, хату ад нячыстага ачысціць. Прыплывуць да мяне людзі, чыста ўсё. Можа, вада штурхнула стол, шклянка перакулілася, загарэўся абрус, перакінулася на фіранку, на мох паміж бярвёнамі. На падлозе вада была. Але вось што ўвогуле дзіўна: вада як прарве што, дык накоціцца адной хваляй і расцячэцца. А потым паступова прыбывае і прыбывае, больш хваляй не б'е. А тут — зноў хваля, ды не адна. Мабыць, у пралом дамбы адразу з усёй акругі рынулася. Мабыць, недзе нешта яе стрымлівала, а потым адкінула, вось і другая хваля. Здаецца, яшчэ адзін выбух быў, можа, ад яго і ўзнялася яна. Такога я яшчэ не бачыў, а паводак перажыў нямала.

А пра хату... Так, даўно ўжо не было ў ёй Марыі. І Стаса даўно не было, але адчуваў я іх. Нядобра адчуваў. Засцілі яны мне ці я ім. Хоць ты ў мех завяжыся, а не схавацца.

Казаў ужо табе, Тэклюшка, і пра Марыю, і пра Стаса. Казаў, але не скардзіўся: сам вінаваты... І яшчэ больш скажу: нешта ж непадуладнае вяло тады мяне з хаты. Гнала. Да аднавяскоўцаў штурхала. Штурхала нешта і падказвала, што назад не вярнуся. Я нават хлеб і харч, які ў мяне быў, калі да іх плыў, у лодку ўзяў. Цяжка мне было плысці, а плыў. І цяжка было клікаць іх, а клікаў. Да пагорка прыставаць цяжка было. А прыстаў. А як Яўхім прагнаў мяне, я лодку ім з харчам пакінуў, у ваду плюхнуўся, лёгка мне стала. Во як, Тэклюшка, быццам валун з плеч саштурхнуў, плыву па вадзе, халодная яна, а мне хоць бы што. Да бору даплыў. Пераначаваў, абсушыўся, а потым ужо — сюды. Таксама як хто падказаў, што рабіць.

Зараз думаю, каб усяго гэтага не было, можа, і не сустрэліся б мы з табой.

Гаварыў Іосіф глуха, не спяшаючыся. Кожнае слова нібы адбівалася ў скронях. Тэкля адчувала гэта і калі ён на хвіліну змоўк, сказала:

— Можа, тады я сама цябе знайшла б, вядома, калі б змагла ўцячы ад тых, хто мяне ў горадзе ў хляве трымаў, ды прымушаў жабраваць. Я ішла з ссылкі і думала: убачу цябе сямейнага ці адзінокага, раскажу, што са мной Аўдзей зрабіў, і з лёгкім сэрцам памру. Але ў нас з табой усё так складвалася, што рана або позна нашы сцежкі павінны былі пераплесціся. Можа, як казалі старыя людзі, нам на раду так напісана.

— Можа, і напісана. Толькі за што такія горасныя лёсы ў нас з табой? Ды з якога часу, з дзяцінства, з маладосці. І ты не дужа нажылася за беднымі бацькамі. І я сіратой напакутаваўся, пакуль бацька не прывёз мачыху. Святая была жанчына, высушыла мае дзіцячыя слёзы. Але ўсё ж за што пакуты?

— Не трэба, не ўспамінай. Ніхто не адкажа, за што. Я ж бачу, як табе цяжка. І мне цяжка. Не трэба варушыць вуголле, хай згасае. Разварушым, успыхне, зноў апячэ і цябе, і мяне, а нам з табой цяпер трэба хоць колькі спакойна пажыць.

Змоўклі. Іосіф, па-ранейшаму трымаючы Тэклю за руку, ішоў асцярожна. Не таму, што баяўся параніць свае босыя ногі, наступіўшы на калючую высахлую шышку, востры корчык ці вузлаваты корань — ступні ў яго цвёрдыя, адубелыя. За Тэклюшку баяўся. У яе ж ногі ў ранах, балюча ёй і ў ботах. Ён, каб была сіла, панёс бы яе на руках, але адчуваў, і кроку з ёй не зможа ступіць...

Навокал ледзь прыкметна шарэла. Шэрань клалася на дрэвы, на зямлю. Хаця там-сям на рэдкім было яшчэ досыць светла, ствалы соснаў адсвечвалі жаўцізной, пад нагамі трапляліся ладныя прасветліны.

— Шлях у мяне тут таемны, — сказаў ён, адчуваючы, як яна апасліва ступае па яшчэ цвёрдым, як асцярожна абмацвае сцежку. — Побач ідзі. Я цябе моцна трымаць буду. Пакуль сцямнее дойдзем.

Дайшлі яны да хутара яшчэ не такім часам, калі добра ўсталёўваецца вечар, але калі ён ужо смела абазначае сябе. Лес, што апярэзваў сядзібу, нагадваў няроўную высокую цёмна-шэрую палоску, па якой месцамі зверху спускаліся жоўта-ружовістыя разводы.

Таксама зверху па ўсёй палосцы, па яе крывізне трапяталася жаўтлявабарвовая намітка. Трава пад нагамі — цёмная, у буйной цяжкой расе. Яна паблісквала адначасова і ад халаднаватага месячнага святла, і ад рэшткаў сонечнага, што ўсё яшчэ плыло над зямлёй, хаця чырвоны дыск ужо схаваўся на захадзе недзе за лесам.

Спыніліся на мяжы між хутарам і градой лесу адсюль, ад балота, за якім рака. Добра-такі прытаміліся. Цяжка дыхалі. Маўчалі. Адсюль, дзе стаялі, яшчэ даволі выразна была бачна хата, пабудовы.

Тэклі адразу кінулася ў вочы доўгая цёмная сцяна хаты і шэрая, седлавінай, страха. Заўважыла яна і два цёмныя крыжы на блішчастых вокнах, і ажно зажмурылася, міжволі войкнула, падалася да Іосіфа, абхапілася яго за шыю, прамовіла:

— Крыжы... Бачыш, два... Нядобра гэта.

— Аксціся, Тэклюшка, — сказаў ён. — Гэта вокны дошкамі забітыя. Якія табе крыжы? Так паўсюль робяць, калі людзі пакідаюць дом.

— Не... Як знак.

— Мірсціцца. Не зрываў, не я забіваў вокны, гаспадар. Ён і павінен садраць. А калі ўжо так выйшла, сарву.

— Сарві. Вернецца, сварыцца не будзе, хата ж жывая. Хаця, калі ён недзе там, дзе я была, ці яшчэ далей, наўрад ці вернецца. Ты ж казаў, з сям'ёй сагналі адсюль. Яшчэ каб быў адзін, дык можна было б як і я ўцячы. З сям'ёй не

ўцячэш. Ды і не трэба. Сямейныя і там сяк-так абжываюцца, асабліва калі лад у іх. Аднаму на чужыне цяжка, а са сваімі і там жыць можна. Але ўсё ж сарві. Пад крыжамі жыць нельга, хоць і часова.

— Добра, добра, пайшлі.

Яна з цяжкасцю адхілілася ад яго, побач з ім пайшла да хаты.

Іосіф разумеў, што жыць тут, у чужой хаце яна збіралася часова. Мабыць, Тэкля спадзявалася, што яны сапраўды праз нейкі час недзе агораюць сваё жытло. А ён думаў, што зладзіць яго яны наўрад ці ўжо змогуць. Дзе?.. Зноў ж, у якой вёсцы, на якім хутары, тым больш у лясной глушы? Там, дзе людзі — небяспечна: трэба нешта купляць, калі хопіць грошай, падпісваць нейкія паперкі, паказваць дакументы, якіх ні ў яго, ні ў яе няма. А ставіць які зрубчык у лесе ўжо няма сілы. Значыць, трэба і ёй прывыкаць да чужога жытла, ды чакаць, што будзе далей... Атрымліваецца, і ёй — невядомасць... Але ёсць суцяшэнне: яны цяпер разам. А разам, калі што, дык — хоць у старцы, якіх зараз паўсюль хапае, не перавяліся яны на горкіх і пыльных дарогах зямлі. Ды і то калі раптам вернецца гаспадар і давядзецца пакінуць яго жытло… Ну яшчэ летам можна ісці. А ў халады, зімой…

Вусцішна зрабілася Іосіфу, страшна. Не за сябе, за Тэклюшку. Здавалася, зараз толькі яна, ніхто і нішто больш не трымае яго на гэтым свеце. Баяўся думаць пра тое, што раптам першым не стане яго. Прэч адганяў гэтую думку, не засяроджваўся на ёй, хоць і ўзнікала нібы сама па сабе.

— Што ж гэта будзе? — асцярожна падыходзячы да хаты, разгублена пытала яна.

— Усё будзе добра, — падбадзёрыў ён яе тады, ступіўшы на стары ганак, які пахіснуўся пад яго і яе нагамі.

Другі раз на чужой сядзібе войкнула Тэклюшка, ледзь не ўпала, але Іосіф падтрымаў яе, сказаў:

— Новы зладжу. Дошкі ёсць.

— Зладзь.

Ён рашуча таўхнуў дзверы. Яны ціха шырока адчыніліся. І адразу ж у сенцы, расплёскваючы цемру, улілося бляклае месячнае святло, на якое ўпалі два іхнія цені, счэпленыя рукамі.

— Людскім жыллём пахне, — сказала яна, ступаючы праз парог. — Я гэты пах помню. У нас дома, калі з бацькамі жыла, гэтаксама пахла.

Палюбіла Тэклюшка гэтае месца, схаванае ад людзей, яно ёй спадабалася адразу.

Агледзеўшыся, сказала: «Каб сваё, дык лепшага і не трэба. І хата, і печ, і кашара. І агародзік можна пасадзіць. І лес навокал».

Казала гэта на наступны дзень, калі ён, як і абяцаў, сарваў крыжы з вокнаў. Дошкі доўга не паддаваліся, працяжна і агідна трашчалі, ён ледзь не зламаў сякеру, як выварочваў іх — цвікі за шмат гадоў моцна ўеліся ў сасновыя вянцы. Але неўзабаве ў хату праз цьмяныя вокны, пакрытыя шэрай плёнкай пылу, уцадзілася мутнаватае святло. Зліўшыся ў шырокую, своеасаблівую плёнку, яно легла на счарнелую падлогу, пераламалася на шэрыя сцены, хвалямі набегла на пазы між вянкамі, высветліла счарнелы шчаціністы мох між імі, ссунулася на даўно не беленую печ каля парога.

Тэкля, як ён зрываў дошкі з вокнаў, стаяла на парозе хаты, баючыся туды ўвайсці. Калі ж падлогу, сцены, печ асветліў дзень, не ўстрымалася, сказала сама сабе:

— Вось і ажыла хата. Цяпер у ёй і жыць можна…

### 3

...Два гады таму, калі Іосіф прывёз сюды Тэклю, яны прагаварылі ўсю ноч, седзячы ў сенцах на палацях.

Калі зайшлі ў сенцы, хоць тут было відно ад месячнага святла, Іосіф запаліў свечку, паставіў у бляшанку з-пад кансерваў на столік пры палацях. Гэтыя палаці некалі ён прыладзіў да сцяны. Падвёў да іх Тэклю, пасадзіў наўскасок стала пры палацях, асцярожна сцягнуў боты з яе ног, разгарнуў анучы.

Пры святле свечкі і месяца агледзеў раны на Тэклюшчыных нагах, ледзь стрымаўся, каб не закрычаць: як яна магла не тое што цэлы дзень стаяць, але і хадзіць!..

Не закрычаў. Зморшчыўся, боль пранізаў усё цела, потым моўчкі дастаў з-пад палацяў чыстыя анучы, падаў ёй.

Анучы Тэклюшка не ўзяла. Сказала, што пакуль не трэба: няхай загояцца ногі. А загояцца хутка, папрыкладвае трыпутнік. Была б тут трава маладзіла ды сала, зрабіла б мазь і наогул гора з нагамі не ведала б.

— Сала ёсць, а што за такая трава, не ведаю, — сказаў ён.

— Жанчына, што выратавала мяне, мазі такой у дарогу дала. У хатулі мазь была, з ежай. Начальнік, што вёз мяне на поездзе, забраў хатулёк.

Тэкля пасунулася, даючы яму месца побач з сабой.

Іосіф сеў. Яна паклала яму галаву на плячо. Ён агрубелай рукой абняў яе за плечы. Адчуў, як задрыжала далонь, як даўняе, яе ж, Тэклюшчына напаўзабытае заспакаяльнае цяпло працяло ўсё цела, лёгка закружылася галава… Не стрымаўся, з удзячнасцю моўчкі прытуліў яе да сябе…

Часам яны маўчалі, часам ціха гаварылі.

Тады ў яго было такое адчуванне гэтай пяшчотнай роднасці з ёю, што, здавалася, яны ад нараджэння былі адным цэлым. Здавалася, вось так разам некалі прыйшлі ў гэты свет. І — разам пражылі жыццё, якое прамільгнула так хутка, што не заўважылі ў ім свайго невыносна доўгага расстання, усяго таго гораснага, што было ў іх разам і паасобку.

Язычок полымя свечкі гарэў ярка і ледзь-ледзь пакалыхваўся. Яму на імгненне ўспомнілася, як трашчалі свечкі ў яго хаце, калі ў паводку запальваў іх адну за адной. Трашчалі, а ён не ведаў, што рабіць, куды кінуцца ў такую пякельную ноч. Тады яму здавалася, што па хаце сноўдаюцца прывіды Марыі і Стаса: ад людзей чуў, трашчаць, значыць побач не ўсё чыста...

Ён памкнуўся пра гэта сказаць Тэклі. Але гэтая свечка не трашчала. Стрымаўся: навошта, яна ж спачувае Марыі, у якой таксама не склаўся лёс з ім, Іосіфам.

З панадворку дзверы ў сенцы не зачынялі. Было душна. Вечар быў цёплы, хай...

Праз праём дзвярэй у сені глядзеў месяц. Блякла-жоўты, вялізны. Ён вісеў над лесам прама насупраць ганка і ліў навокал жоўта-блакітнае святло. Яно ледзь прыкметна пакалыхвалася на грыве лесу, лёгкімі хвалямі залівала лужок, трапятала на ганку, шырокай серабрыстай сцежкай нерухома ляжала ў сенцах каля палацяў, на якіх яны сядзелі.

Наўкола было таемна-ціха, усё як вымерла.

Пра што б яны ні пачыналі гаварыць, гаворка неўзабаве зводзілася не да гораснага цяперашняга і не такога ўжо далёкага, а да ўсяго таго светлага, што было між імі ў маладосці...

Але тады ў іх былі зусім іншыя, чым цяпер, пачуцці адно да аднаго. І стан душы быў такі, што не вытлумачыць ніякімі словамі: адно пяшчота... Нейкая

не зямная, як гэтае месячнае святло, што падала на іх. Няўлоўная, невытлумачальная, і як зараз успаміналася Іосіфу, зажураная...

А ўвогуле тады, у маладосці, стан гэты і ў яе, і ў яго быў адзін: усюды — ён, яна, дзе ёсць і няма. Ва ўсім бачыцца ён, яна. На ўсё глядзіш ягонымі вачамі, яе вачамі… І часам надта ж крыўдна было калі доўга не бачыш адно аднаго наяве — маркотна ажно да слёз: дзе ты…

Асабліва крыўдна было тады, калі нехта староннi скажа пра яе ці пра яго незычлівае слова. І не хочацца верыць гэтаму, а яно ўсё адно пячэ ўнутры, ды вярэдзіць душу, ладу няма як…

Тады ён, як казалі ў вёсцы, гуляючы з Тэкляй, кахаючы яе, здаецца ні разу словам не прызнаўся ёй у гэтым, саромеўся сваіх пачуццяў, быццам яны некім былі вельмі строга забаронены.

І яна не казала яму, што кахае. Адно: «Як жа я цябе шкадую, Восіпка…» А ён не разумеў сэнсу гэтага дзявочага прызнання, крыўдзіўся, не хацеў, каб яна яго шкадавала, гэта быццам бы прыніжала...

Цяпер жа ён раптам ціха сказаў:

— Любіў я цябе, Тэклюшка, і цяпер люблю… Нічога, пажывём яшчэ…

— Пажывём, Восіпка. Пажывём і, дасць Бог, яшчэ нажывёмся.

Успаміналі роднае, дом, свае вёскі… Што да Тэклюшчынага бацькоўскага дома, дык ён перастаў быць яе родным з таго самага першага дня, калі чуткі пра яе бессаромнасць з Аўдзеем у снапах пранесліся з канца ў канец па вёсцы. Бацька крычаў: «Ці ў пельку, ці ідзі за яго, калі яшчэ возьме!..» «Прасіся, дзеўка! — штурхала яе маці ў плечы. — Возьме, дык і нам які лапік зямлі перападзе. Бяжы да яго, падай на калені!»

Што ні слова — кіпень у твар. Сорам жа рукамі не закрыеш. І ёй тады сапраўды было хоць у пельку, хоць у агонь… Выйсця ніякага. На вуліцу выбегла як была растрапаная, а старыя жанчыны пальцамі тыцкалі: «Бессаромніца, блудніца…»

Маладзейшыя ж адварочваліся, прытоена хіхікалі. Але не было яшчэ ў вёсцы, каб вось так як яна адкрыта пры ўсіх у снапах голая з хлопцам качалася.

Было гулялі з мужыкамі ўдовы, з жанатымі і бабылямі. Нават дзетак «знаходзілі», бязбацькавічаў. Не любілі тых дзяцей у вёсках, байструкамі звалі. Але ж ніхто вось так як яна ў адкрытую блуду не аддаваўся. А тут — як выклік тым жанчынам, якія жылі з нялюбымі і ўпотай гулялі з якім мужчынам, ды і тым, што хацелі гуляць, ды баяліся: а я вось якая…

Ды не якая!.. Ссільнічаў яе Аўдзей. Падмяў пад сябе, быццам прыдарожную кветку брудным ботам у гразь перад усім светам утаптаў. А потым глядзеў і пацяшаўся, як яна ў той гразі качаецца, плача, стогне, спрабуе падняцца, ды не можа і чакае падасць ёй руку Іосіф або не.

І дачакаўся свайго: не з’явіўся Іосіф, рукі ёй не падаў. Тады Аўдзей, уволю наталіўшыся яе горам, падняў — выратаванец. Можа, любіў яе? Як сказаць... Хаця, якая любоў калі так? Колькі жылі, столькі і біў яе Аўдзей, Іосіфам вочы калоў. Дык што ж гэта такое?..

Ні ў яе, Тэклі, ні ў Іосіфа адказу на гэта не было. Ды і ў Аўдзея — таксама. Не раз пытала ў яго: «За што, я ж дзеўкай была». Адказваў: «Было б за што — забіў бы».

Мусіць, парода ў іх, Юхнаўцоў, такая: з жанчынай жыць і з жанчыны той здзекавацца. Стары Юхнавец жонку сваю ўсё жыццё як зацугляную трымаў. З сінякамі хадзіла, ніхто не бачыў яе аголеных рук, ці ног да калень, вопратка закрывала. А за што здзекаваўся, мабыць, і сам не ведаў.

Канечне, калі такое з Тэклюшкай здарылася, што блудніца яна, няйнакш, і бабы гэта на свае вочы бачылі, дык лепш з ім, зверам, жыць, калі бярэ, чым у пельку. З ім хоць надзея ёсць: некалі ж адкрыецца праўда і яму, Іосіфу, і бацькам, і людзям. Хаця, калі хто не захоча паверыць, дык не прымусіш. Ды і навошта? Вось і атрымалася, колькі Тэклюшка з Аўдзеем жыла тут, пакуль не раскулачылі, і там, куды саслалі, адна была. Розніца толькі ў тым, што аднаму ці адной сярод сваіх быць — надта ж невыносна, а сярод чужых — дык як само сабой зразумелае: хто яна ім такая.

Сярод сваіх у адзіноце рвуцца ўсе тыя повязі, якія звязваюць з бацькамі, суседзямі, аднавяскоўцамі. І рвуцца так, што і праз гады, калі, здавалася б, многае кепскае забываецца, а значыць, і крыўды, ніці тыя ўсё адно не звяжаш. Чаму? Ды трухлявыя яны: як ні корпайся ў памяці, а няма там нічога, што змагло б іх змацаваць. Святла ніякага няма, а калі што раптам і выблісне ў якім успаміне — не грэе, а толькі развярэджвае душу.

І пра гэта ціха гаварылі Іосіф і Тэкля ў тую іх першую ноч на хутары ў чужой хаце. Гаварылі без крыўд, не папракаючы адно аднаго ў тым, што тады з імі здарылася. Мабыць, падсвядома знаходзячы апраўданне ўсяму, маўляў, маладыя былі, у галовах замест розуму — вецер... І гэтым усё сказана. Тут усё тваё быццам і не тваё. А калі і тваё, дык хоць некалі і вельмі ж балюча слізганула па душы, апякло ўсё там, як не выпаліла, а потым паступова, год за годам, быццам знікла. Хаця, не знікла бясследна, недзе ў нейкім куточку стаілася, і калі не думаць пра той боль, які некалі засціў свет, усё ж трываць можна.

— Як жа я шкадавала і шкадую цябе, Восіпка, каб толькі ты ведаў, — каторы раз казала яна. — Як ты, калі Аўдзей вёз мяне, коням дарогу перагарадзіў, упаў ім пад капыты, я ж дужа спалохалася, што растопчуць цябе. Анямела, амярцвела: закрычаць хацела так, каб усё на зямлі перад табой расступілася, а не магу... А калі ўбачыла, што коні ўзвіліся над табой ды спыніліся — ачомалася: жывы мой Восіпка...

Хаця і да гэтага без цябе была калі не мёртвая, дык сама не свая. Як загавораная, нібы ачмурэлая. Калі бацькі ад мяне адвярнуліся, сама да яго прыйшла. Не помню, ці казала яму што. Адно помню, усміхнуўся ён вельмі ж нядобра, на ложак кінуў, кофту на грудзях разарваў... Я слязьмі душылася, вочы ашмёткамі кофты закрывала... А потым рабіла ўсё, што ён казаў: куды ісці, ехаць, што гаварыць…

Пасля зразумела, скарылася я яму ва ўсім: адна ж, адцураўся ты мяне. А тады, калі ўбачыла, што ты жывы — усё ўва мне ўспыхнула, ажывіла акамянелую душу... Ці помніш, як да цябе кінулася?

— А як жа, помню.

— Кінулася я тады да цябе — вось маё выратаванне!.. А ты з-пад ілба бліснуў, ніколі я цябе такога не бачыла, ды адвярнуўся. Я прашу, толькі пакліч, з табой застануся. А ты не паклікаў.

Аўдзей жа злараднічаў: «Ты яшчэ ногі мне цалаваць будзеш, што падабраў. Не трэба ты яму такая...»

Згасла я ўся, падумала, чаго ж тады прыбег, калі так? Нядобра падумала: каб пазгаляцца.

— Не. Хацеў апошні раз цябе ўбачыць. Хоць вырваў Аўдзей цябе з майго сэрца, але не з коранем. Дужа балючая рана тады там краваточыла, не зажывала. Яна і цяпер не зажыла... Думаў тады, убачу — лягчэй будзе. Выходзіць, не пра цябе тады думаў, пра сябе. А калі так, то злаваў на цябе, які раз кажу, даруй.

— Не трэба, таксама які раз кажу табе. Я на цябе ніколі не злавала. А вось крыўдзілася доўга: чаму не пагаварыў са мной, калі ўсё здарылася? Чаму адвярнуўся?

А калі адвярнуўся ад мяне, зусім згасла: што будзе, тое няхай і будзе. Так, можа, лепей і табе, і мне. Помніла, што жанчыны казалі, калі якая дзяўчына за нялюбага ішла. Маўляў, баба ўсё сцерпіць, з усім зжывецца, а мужчына — не. Мужчына ад нялюбай праз любыя сілкі прабярэцца, каб да любай прыбегчы.

— Выйшла, што я не прабраўся, — сказаў ён. — Думаў, я табе ніхто. Крыўда мяне душыла.

— А я зразумела тваю крыўду. Праўда, як зацяжарыла. Зразумела, што не мог ты ўявіць побач са мной нікога іншага, акрамя сябе. Ты ж як мы з табой гулялі, да рукі маёй дакранешся і ледзь не млееш. А тут — Аўдзей. Між вамі ніколі ладу не было, хоць разам на вячоркі хадзілі. Ён багаты, а ты не. Ды ён наогул на ўсіх хлопцаў звысака глядзеў. Ён такі быў, калі ўдумае, дык у любога дзеўку звядзе. І зводзіў. Ліплі да яго дзеўкі, было. Ты і падумаў тады, што я сама да яго прыліпла.

— Але...

— Вось і ключ да ўсяго нашага...

— Ведаю...

Гаворка была шчырая, цяжкая. Але ад гэтых іхніх адно аднаму прызнанняў у душах нібы высвечвалася нейкае святло, павейвала цеплынёй: так бывае вясновым пахмурным днём, калі ўсё навокал спавіта цёмна-шэрай плёнкай, але ўсё ж адчуваецца, што недзе за ёй нешта свеціцца. І калі на ім засяродзіцца, заўважаеш, як яно паступова прабівае і цёмру, і шэрасць, і вось ужо ўсё навокал працінае цяпло, хай яшчэ слабое, хай ледзь улоўнае, але вельмі ж патрэбнае ў такую хвіліну, такое жаданае.

— Усё, што было з намі, Восіпка, калі расталіся — мінулася. А цяпер настаў наш з табой час. Толькі, толькі, дакуль? — раптам уздыхнула яна. — Некалі ж нехта адзін з нас застанецца. Што тады?.. Каб жа я раней...

— Не думай пра гэта, — глуха, быццам здалёк, сказаў ён. — Нам яшчэ жыць ды жыць.

— Каб жа так.

Тэкля на нейкі час змоўкла. Маўчаў і Іосіф. Яе галава па-ранейшаму ляжала на яго плячы. Ён баяўся зварухнуцца, адчуваючы, як ціха і спакойна торгаецца жылка на яе скроні.

Яна была знешне спакойная, але ён адчуваў, што трывожыцца. Разумеў, не можа пазбавіцца думкі, што некалі нехта застанецца адзін, баіцца, раптам яна. Разумеў, што зараз не трэба яе суцяшаць, толькі развярэдзіш і ёй, і сабе душу. А так пасядзяць моўчкі — развеецца думка тая, знікне. Толькі ці надоўга.

— Во і месяц скаціўся. Мабыць, хутка пачне світаць, — раптам сказала яна. — Даўно я не бачыла нашых світанкаў. Помню, чыстыя яны, росныя такою парой. Залкаватыя. А там, дзе была, цяжкія, волкія. Там — лес і лес. І неба там нейкае нізкае. І месяц не такі: у нас жоўты, а там нейкі бледны, як выціснуты. Хаця, можа, так здавалася — усё там чужое.

— Скаціўся, — быццам пацвердзіў ён.

У праём дзвярэй па-ранейшаму лілося месячнае святло, але ўжо збоку: месяц скаціўся за лес, за раку. І было яно ўжо не такім жоўтым, а бляклым. І зоркі на небе пачалі раставаць. І жоўтая сцежка па траве да ганка паблякла, адсунулася ад дзвюх бяроз насупраць яго. І кроны дрэў ужо прыкметна пасвятлелі, хоць усё яшчэ былі невыразнымі на цёмнай палосцы лесу, над якой усё яшчэ трапятала жоўтая намітка.

Прыгледзеўся — дык намітка не тая, не вечаровая, а ранішняя. Ад сонца, якога яшчэ не бачна, але праз колькі хвілін успыхне, загарыцца грэбень лесу...

Іосіф інстынктыўна скалануўся: перад вачамі ўспыхнуў агонь над страхой яго хаты, у твар ударыла гарачыня...

— Што з табой? — спалохалася яна і зняла галаву з яго пляча.

— Нічога. Успомнілася, як сыходзіў з вёскі. Жудасна стала.

— Не ўспамінай. Ужо нічога не перайначыш.

— А я і не хачу нічога перайначваць. Навошта? (Тэкля зноў паклала яму галаву на плячо, і ён зноў адчуў, як торгаецца жылка на яе скроні. Але ўжо не так спакойна як раней, а хутчэй, мацней). Толькі ж успамінаецца. Ведаеш, я тады не ад людзей сыходзіў, доўга не разумеў гэта. Я шмат пра сябе і пра іх думаў. Часу хапала. Ночы ў адзіноце доўгія. Асабліва зімою. Думаў і зразумеў, што я ўцякаў не ад людзей, а ад сваёй віны перад імі. Многа ў чым я вінаваты перад аднавяскоўцамі. І не толькі за Стаса. Іншы раз думаю, як толькі зямля мяне трымае.

Даўно і не раз парываўся ўладам здацца. Маўляў, такі вось і такі з'явіўся. Можа, шукаеце? А калі і не шукаеце, усё адно судзіце мяне: бацька злачынцы, ды яшчэ якога — людзей з немцамі паліў...

А потым думаю: а што ўлады? Перад імі віна адна: асудзяць і ўсё тут. Адбыў тэрмін, вярнуўся дадому — няма віны, скупіў. А перад людзьмі ж віна вечная. Памрэш, а ўсё адно не даруюць. Яна як увап'ецца ў памяць, ні чым, ніякай турмой не вытравіш. Людзі і павінны мяне судзіць сваім судом. За тое, што Стаса такім выгадаваў. Бачыў жа якім расце, але нічога не зрабіў, каб уратаваць хлопца: дзед, баба, Марыля не давалі. Ім падпарадкоўваўся, мужчына, называецца…

Дык хіба ж гэта апраўданне перад людзьмі? Яны і асудзілі мяне. Толькі як?.. Адно што да сябе не прынялі, а так жа ніхто мяне не чапаў. Ну крыкнуў Міхей Яўхіму, каб зачыняў дзверы ў хлеў, дзе яны ратаваліся. Мабыць, чуў як Яўхім упікаў мяне, маўляў, прыплыў я да іх, бо страшна аднаму ў паводку, і ўсё?.. І ўвесь суд?

— Мабыць, і гэтага табе хапіла, — сказала Тэкля. — Загінуць мог...

— Але ж не загінуў.

— Значыць, віну сваю перабольшваеш. Калі ў чым і вінаваты, то ёсць жа іншы суд. Ён як ніякі справядлівы. Перад ім ні адкупішся, яго ні чым ні правядзеш. Яго нікому не мінуць. Ні багатым, ні бедным. Ні ўладарам, ні нам з табой. Ёсць жа суд той, Восіпка?

— Чаго не ведаю, таго не ведаю. Можа, і ёсць, — адказаў ён. — Але ўсё ж, можа, той, хто ў тым судзе за мной наглядае, нешта маё кепскае прагледзеў. А можа, пашкадаваў мяне, ці даў шанец падумаць, ды самому сябе асудзіць.

— Я слухаю цябе, і бачу, што ты сам сябе судзіш, — сказала яна. — Нават цяпер. Калі толькі сустрэліся, яшчэ не нагаварыліся, а ты ўжо... Не зводзься, Восіпка. Дарэмна. І сябе не судзі, і людзей. А калі, як ты кажаш, яны цябе не судзяць, дык няма за што. Або калі нават і было, дык даравалі табе. Людзі нічога проста так не даруюць, відаць, зразумелі, што ты перад імі ні ў чым не вінаваты. Пакутнік ты. І яны пакутнікі.

— А ты?

— Была. А цяпер не пакутніца. Я ж з табой. Нам цяпер трэба жыць, а не пакутаваць. І не трэба ні на каго крыўдаваць. І ніякія суды табе не патрэбны: ні ад улады, ні ад людей. Калі б ты каго ўжо вельмі цікавіў, даўно знайшлі б: і ўлада, і людзі. Не тут, дык у горадзе. Ты ж раней часта туды плаваў. А так

жыві, не трэба, каб душа пакутавала, яна ж не каменная, церпіць церпіць пакуты, можа і не выцерпіць.

Іосіф слухаў яе і не разумеў чаму раптам ён пачаў такую размову. Ні да часу яна. А вось нешта крутнулася ў душы, вывернулася, і як тую дамбу прарвала...

Змоўк. Доўга маўчаў. І яна маўчала, мабыць, нешта ўспамінала, ці аб нечым думала. Затым як абудзілася, прыўзняла галаву, паглядзела на яго, пачала асцярожна праводзіць рукой па даўно неголенай шчацэ, па барадзе.

Гладзіла моўчкі, з пяшчотай. Потым уздыхнула, абняла яго, прытулілася шчакой да яго шчакі, ціха мовіла:

— Выгаварыцца табе хацелася, Восіпка. Мабыць, даўно хацелася. Але не было перад кім.

— Скуль ведаеш?

— Па сабе ведаю. Пагаварылі, і быццам гора не было. Ні ў цябе, ні ў мяне.

— Яно так, Тэклюшка. Як захацелася жыць! Чаўрэў я, душа ўсыхала. Спакутаваўся. А ты мяне ажывіла. Цяпер, Тэклюшка, мы сапраўды будзем жыць, а не пакутаваць.

— Каб жа ты ведаў, як ты мяне ажывіў! Мабыць, бачыў, як пры дарозе ў спякоту які атожылак памірае? Пылам яго занясе, людзі стопчуць-ператопчуць, здаецца, нічога жывога ў ім ўжо няма, а тут раптам дождж пройдзе, і — ажыў ён, ажыў. Так і я, як толькі цябе ўбачыла, адразу пазнала і ажыла: мой Восіпка, мой! Па мяне прыйшоў, каб выратаваць.

— Дзіўна што пазнала. Састарыўся. Твару няма, шчэцце на ім. Ды і, здаецца, згарбаціўся.

— А вось пазнала. Не ведаю як. З'явіўся і адчула: ты!.. А мяне як ты пазнаў, я ж ужо такая нялюдская тварам бабуля, што...

— Кінь! Якая ты нялюдская? Якая была, такая і ёсць. Вочы твае. Цяпло тваё. Уся такая, як была. Я цябе з завязанымі вачамі пазнаў бы. Адчуў бы таксама цябе: мая Тэклюшка.

Сказаў, і зноў падумаў: што з ёй будзе, калі застанецца адна? Некалі ж гэта здарыцца. Хацелася сказаць, калі раптам ён памрэ, ёй трэба ісці ў Гуду, знайсці там Яўхіма. А калі раптам таго ўжо няма — Міколу ці Міхея, ды сказаць, маўляў, я Іосіфа Кучынскага жонка. Ён памёр. Засталася адна. Дапамажыце.

Яны не пакінуць у бядзе, калі трэба будзе, схаваюць. Якім бы ні быў недружалюбным Яўхім да Іосіфа, а ні перад кім нявінную Тэклюшку ў крыўду не дасць, канечне, калі жывы. Ды і мужчыны — таксама. А жанчын у справу ўцягваць не трэба, хто ведае, як усё можа павярнуцца: яна ж самавольна сышла з ссылкі.

Не сказаў, будзе яшчэ час. І гэтае яе, маўляў, нам цяпер трэба жыць, а не пакутаваць, быццам удыхнула ў яго надзею на дабро.

## 4

Разам яны былі амаль два гады. І радасныя, і трывожныя для іх. Няпроста двум такім летным людзям жыць асобна ад ўсяго свету. Няпроста не толькі таму, што няма здароўя, што трэба неяк здабываць ежу, а яшчэ таму, што кожны дзень баішся, каб хто чужы не дабраўся сюды. Адно, калі вернецца гаспадар, іншае, калі з'явіцца ўлада... Што тады будзе? Пра гэта яны ніколі не забывалі. Калі гаспадар — ёсць надзея, што паставіцца да іх па-чалавечы, сам жа напакутаваўся. Зразумее і ў крыўду не дасць. А ўлада? Хаця ўлада

гэта таксама людзі, толькі чамусьці, колькі Тэклюшка не сутыкалася з тымі людзьмі, не бачыла ў іх нічога добрага. Раскулачвалі, са сваёй зямлі гналі, калі не хацела ісці, у спіну штурхалі, мацюкаліся, абражалі, і колькі ні плакала — ніякага спачування.

Здавалася, што ў тых людзей не было сэрцаў. Здавалася, іх нараджалі не маці, звяры. Здавалася, яны ніколі не былі дзецьмі. І яшчэ: яны ніколі нікога не кахалі. Здавалася, яны ненавідзелі ўвесь свет, у кожным чалавеку бачылі ворага.

Яна расказвала Іосіфу, як у раёне на плошчы перад нейкім будынкам, дзе і была ўлада, сабралася нямала такіх жа раскулачаных, як яна з Аўдзеем. Былі сем'і з дзецьмі. Дзеці плакалі, але і на іх, як і на дарослых, старых, тыя, хто тады быў уладай, глядзелі як на сваіх заклятых ворагаў.

І зразумела яна тады, што ты ў гэтым свеце нішто перад вось такімі людзьмі. І таксама разумела, што калі б цябе не было, то яны былі б нікім, таму ім трэба, каб былі бяспраўныя і занядбаныя.

Бяспраўнай і занядбанай была яна і ў ссылцы, куды іх везлі доўга-доўга. Везлі як жывёлу ў нейкіх закратаваных вагонах, дзе ні сесці, ні прылегчы — столькі людзей. І ставіліся да іх як да жывёлы — пра гэта цяжка было ўспамінаць, але не магла не ўспамінаць.

Казала, шмат чалавечага гора і пакут бачыла яна і па дарозе ў ссылку, і ў ссылцы. І бачыла, як у гэтым горы людзі дапамагалі адно аднаму: дзяліліся апошняй крошкай хлеба, апошнім глытком вады. Таксама бачыла такіх, хто гатоў быў адабраць у галоднага апошняе. І адбіралі.

Такія без чаргі, распіхваючы слабых, лезлі з міскай да катла, калі на якім прыпынку прыносілі якую поліўку. І елі такія не па-людску, па-воўчы глытаючы ежу. А потым вылізвалі міскі. Такія круціліся ля суправаджаючых, па-сабачы заглядвалі ім у вочы... Такіх не любілі, але і не чапалі: сабе горай...

Пра гаспадара хутара невядомага ім Антона, імем якога называў сябе Іосіф, калі плаваў у горад да свайго таварыша Архіпа, яна думала як пра добрага чалавека. Гаспадар. Змог жа сярод балот у глухамані расцерабіць пляц, паставіць хату, кашару, пуню, іншыя пабудовы.

Казала пра гэта Іосіфу, ён згаджаўся: «Вядома ж, гультай такую гаспадарку не трымаў бы. Ды і Яўхім казаў, што Антон чалавек добры. Яўхім, калі быў малады і бадзяўся па свеце, нейкі час у яго працаваў, а Баравец брахаць не будзе».

Дык хіба такі чалавек, калі і вернецца, не паспачувае ім?..

Вера ў дабрыню гаспадара хутара абнадзейвала: сяк-так дажывуць яны тут і пры ім сваю старасць. Каб жа разам памерці… Але такое не ад іх залежыць. Такое ў жыцці не бывае, каб разам...

І разумеў Іосіф, Тэклюшка адна без яго тут не выжыве. Разумеў, што калі яго не стане, нікуды яна адсюль не пойдзе, ні ў горад, дзе напакутавалася, ні ў сваю вёску, дзе ў яе ўжо даўно нікога няма. І ў Гуду да чужых людзей не пойдзе.

— Як Бог дасць, так і будзе, — неаднойчы казала яна, калі гаварылі пра гэта. — Жывём і жывём. І нечага Бога гнявіць: мы ж разам. Ты хоць цяпер мой гаспадар. Як жа я хацела гэтага!

З часам паступова, прызвычаіўшыся да хутара, да чужой хаты Тэкля пачынала адчуваць сябе тут сапраўднай гаспадыняй. Не спяшаючыся, нібы баючыся нанесці хаце які ўрон, яна вышаравала сцямнелую ад часу падлогу. Памыла вокны, пазмятала з вуглоў і з-пад печча павуцінне, словам, давяла хату да ладу.

Бедавала, што ў хаце няма абраза: у куце зеўралі сшарэлыя ручнікі, вымыла іх і павесіла на месца, а іконы ці ікон не было. Мабыць, гаспадар забраў...

У хаце прыбрала, але па-ранейшаму жылі ў сенцах: хай чакае гаспадара, сям'ю. А вось печ Тэкля прапальвала, як і раней прапальваў Іосіф — без цёплай печы жытло памірае. І ў печы варыла ежу. Было з чаго, Іосіф па-ранейшаму час ад часу выбіраўся ў горад. Вырашылі ашчадна траціць грошы, якія яму дапамог назбіраць Архіп, купляў толькі самае неабходнае: крупы, соль, хлеб. А мяса па-ранейшаму здабываў, ставіў петлі на зайцоў і дзікіх качак, цецерукоў. Рыба заўсёды была, вяршы ў затоках Іосіф не здымаў.

Калі прыплываў у горад, човен прывязваў да альхі каля Архіпавай лазні. Здаралася, сустракаў тут каго з мясцовых рыбакоў, мужчын больш пажылых, але былі і маладыя. Іхнія лодкі пагойдваліся на вадзе недалёка ад ягонай. Моўчкі кіўком галавы вітаўся, маўляў, я туташні, падымаў арэхавыя вуды, перакладваў (знарок зрабіў іх і браў у човен), хатулі з рыбай не даставаў, чакаў, пакуль застанецца адзін. Здаралася, падыходзілі да яго, пыталіся, ці клюе, а калі клюе, дык дзе. Адказваў ахвотна, але не спяшаючыся: «Паклёўвае, і няблага. На досвітку, калі туманок яшчэ клубіцца, у затоках, каля травы. Трапляецца лінь і лешч. На дно трэба класці насадку, а то драбяза не дае падысці буйной рыбе. Ды буйная бярэ толькі з дна. Клюе на чарвяка, на пучок. Падсякаць трэба, калі пакладзе паплавок (у яго ён з буслінага пяра). Але не трэба і тут спяшацца, хай крыху пацягне, тады — бяры яго! Калі лешч, дык ён ідзе, як лапаць, лёгка. Але ўсё адно падымі яго на паверхню, дай хапіць паветра, тады ён ачмурэе. Тады спакойна падводзь яго да лодкі, бяры за жабры, кідай на дно. А вось з лінём цяжэй, хаця яго таксама трэба цягнуць па паверхні, лёску нельга не расслабляць.

Рыбакі любяць, калі хто расказвае, дзе, як і што ловіцца. Такіх паважаюць, частуюць папяросай. Могуць парапанаваць і чарачку. І частавалі. Дзякаваў. Ад чарачкі адмаўляўся, як і ад папяросы: не куру, даўно кінуў.

Здаралася, хто з маладых прасіў прадаць рыбу. Маўляў, дома пахвалюся: «Рыбак! А вы кажаце, драбязу прыношу». Прадаваў. Калі пыталі колькі даць, адказваў: «А колькі дасцё».

Звычайна расшчодрываліся: ні скупендзяй дзед... І мы не жмоцімся: на! Шмат? Нічога, калі і дзе ты яшчэ заробіш...

У такія дні, калі сустракаў няўдалых рыбаловаў і аддаваў ім свой улоў, а яны за гэта расплачваліся грашыма, у горад заходзіў ненадоўга. І то толькі ў краму, каб купіць самае неабходнае, ды назад, да чоўна.

Крама, у якую ён звычайна заходзіў, стаяла недалёка ад ракі, амаль насупраць Архіпавай хаты. Наведвальнікаў там заўсёды было мала, у асноўным старыя, што жылі паблізу, ды дзеці. Ніхто на яго ніякай увагі не звяртаў.

У гэтай краме прадаваліся прадукты, адзенне, абутак, а таксама косы, сярпы, цвікі, зрэшты, шмат таго, што патрэбна і да стала, і для гаспадаркі.

Тут ён купіў Тэклюшцы буркі, плюшавую жакетку, сукенку, гарусавую і цёплую хусткі. Сабе з апраткі нічога не купляў: ёсць што насіць...

Калі прывозіў Тэклюшцы абновы, ушчувала: «Навошта ж так траціцца. Некалі ж грошы нам могуць вельмі спатрэбіцца». Але па вачах, святлелі, па ўсмешцы бачыў, што радуецца пакупкам. Асабліва радавалася квяцістай лёгкай хустцы, якую адразу ж накінула на плечы, жартам спытала:

— Ці памаладзела?

Усміхнуўся, адказаў:

— Ты ў мяне заўсёды маладая...

Калі ж каля ракі не сустракаў няўдалых рыбакоў і вымушаны быў ісці на базар, дзе перакупшчыкі яшчэ каля варот усё забіралі за бясцэнак, хваляваўся:

мала што можа здарыцца. Забіраў грошы, ды назад, да крамы каля Архіпавай хаты. Затым — да чоўна, прывязанага, як заўсёды, да альхі ля лазні.

Кожны паход у горад — трывога на душы. Плыў сюды, хваляваўся, назад — таксама: як там Тэкля...

Мабыць, баялася і яна, праводзячы яго, супакойвала:

— Не хвалюйся, Восіпка, нічога са мной не будзе. (Яна заўсёды так яго звала, прыдуманае Яўхімам «Іосіф» ёй ніколі не падабалася — чужое, калянае нейкае.) Я вось тут стаюся (паказвала ў густы зараснік ядлоўцу недалёка ад крыніцы на мяжы), і буду цябе чакаць. Трэба ж плысці, нічога не зробіш.

Згаджаўся, казаў:

— Я мігам. Ты ўжо глядзі, Тэклюшка, не бойся. Я кладкі за сабой так адкіну — ні тое, што чалавек, ніякі нячысцік не знойдзе. Але ў хаце будзь, ноч яшчэ не сышла, золка, хіба як прагрэецца, можаш і па мяжы пахадзіць.

— Аксціся, — хрысцілася яна. — Не памінай... — Затым, тры пальцы ў шчопці, ды крыж на яго: «Божа, сахрані і памілуй раба твайго Восіпа...»

І ён спяшаўся і туды, і назад. Толькі пачынала світаць, ішоў з хутара да балота, да кладак. Такім часам, каб хто і хацеў прасачыць за ім, як ішоў па багне па кладках, не прасачыў бы: за два крокі нічога не відаць. А яму што, ён і з завязанымі вачамі тут пройдзе, яго балота, і кладкі яго.

Плысці ў горад па цячэнні, вядома, лацвей. Назад горш. Адчуваў, з кожным разам сіла яго ўбывае. Баяўся, што некалі наогул не зможа ні веславаць супраць цячэння, ні шастом адпіхвацца ад дна каля берага. Баяўся, але Тэклюшцы не казаў, не паказваў віду: не трэба трывожыць.

Вяртаўся з горада заўсёды яшчэ светлым часам. Хаваў човен у трысці ў затоцы, ускідваў на плечы мех з тым, што прыдбаў, і як толькі мог спяшаўся да сваёй Тэклюшкі. Пераходзіў па плашках балота, здаецца, ішоў ціха, не шлэпаў ботамі па твані, а яна ўсё адно яшчэ здаля чула: ён, яе Іосіф. Крок яго, асцярожны, размераны: туп, туп, туп... Здаецца, і дыханне яго чула: цяжкаватае, быццам прытоенае, Восіпава дыханне.

Выходзіла насустрач, калі ўздымаўся да крынічкі, пытала:

— Нябось, стаміўся, Восіпка?..

— Ды не, — казаў ён, здымаючы з плячэй мяшок і спыняючыся ля яе. І крыху аддыхаўшыся, дадаваў: — Дай я цябе абдыму, засумаваў...

Тэкля жмурылася, нібы ад сораму — не маладыя ж, каб абдымацца, але падстаўляла твар. Ён абдымаў яе, прыціскаў да грудзей, асцярожна, нібы баяўся параніць агрубелай рукой, доўга гладзіў па галаве. Яна маўчала, не варушылася, быццам баялася разбурыць пяшчоту, якая агортвала яго.

А яму здавалася, што пяшчота тая сыходзіла аднекуль здалёк, з іхніх маладых гадоў. Яна наплывала паступова. Кранала ўсё навокал: асвятляла лес, на які ўжо апускалася валкаватая шэрасць, цёмна-зялёную траву, па якой былі раскіданы чырвоныя, блакітныя, белыя кветкі, сіняе неба з шыза-жоўтымі аблокамі, і паступова ўлівалася ў яго душу.

— Як жа мне добра, Восіпка, — казала яна. — Век бы так з табой стаяла.

Гэта была позняя пяшчота. Гэта было рэха іхняга далёкага кахання... Таго, якое аднойчы ўспыхнула між імі шмат гадоў таму, калі раптам сустрэліся іхнія позіркі на сенажаці ў Дзямкоўскіх балотах...

А было так: роснай раніцою ішоў ён з касою, каб пакласці невялікі лажок між зарасляў лазы, які ўсе абміналі — няўдобіца, а яна — насустрач яму са збанком у руцэ...

Сустрэліся вочы — і яе, і яго... Душы азарыліся невядомым ім дасюль святлом, і ў яго, і ў яе закружылася галава... І ён, і яна адчулі адно: як жа

жыла, (жыў) на свеце, не ведаючы такога пачуцця, якое людзі некалі назвалі каханнем...

І ні час, ні халады і завеі, ні мяжа між імі ў тысячы кіламетраў, ні доўгае жыццё паасобку, калі ў кожнага былі свае горасці і беды, ні крыўды адно на аднаго не змаглі патушыць у іх сэрцах той агонь кахання...

...І вось, калі ён прыплываў з горада, яна, чуючы яго, выходзіла з ядлоўцу насустрач. Ён абдымаў яе, і яны доўга стаялі абняўшыся, быццам прыслухоўваючыся адно да аднаго, да таго, што робіцца ў душы. Здаралася, яна магла пашаснуцца. Тады ён, падтрымліваючы яе, казаў:

— Пойдзем. Ногі твае...

— Ат, не ногі... Мне так добра, што ажно галава закружылася. А ногі загаіліся, і ўжо выгуляліся — дзе ж яны тут нахадзіліся — не баляць.

Ногі і сапраўды яна вылечыла. Доўга прыкладвала трыпутнік, затым, як зарубцаваліся раны, парыла адварамі з бярозавых пупырак. Па сядзібе хадзіла ў мяккіх лапцях, Іосіф добра вымачыў іх. Дакладней, хадзілі яны разам, аглядала сядзібу і ўсё хітала галавой, маўляў, колькі ж гадоў такая добрая зямля пустуе...

А зямля сапраўды пуставала. За той час, як яе не абраблялі, яна добра-такі затравела, і каб на ёй што пасееяць, трэба быў бы конь і плуг.

Іосіф бачыў, як Тэкля сумуе па сялянскай працы. Сумаваў і ён. І не толькі цяпер, а ўсё гады, што жыў тут. Канечне, ён даўно мог бы абрабляць хоць які лапічак зямлі. Мог бы касіць — косы ў пуні былі, між іншым, як плуг і барана: калі зганялі адсюль гаспадара, нікому да іх не было патрэбы. Ды і калі б было, не панясе праз балота. Не касіў, баяўся: раптам праляціць самалёт, заўважаць...

**5**

...Было гэта недзе праз месяц пасля таго як Іосіф прывёз Тэклю на хутар.

Аднойчы, калі ён пайшоў да ракі праверыць венцяры, Тэкля, чакаючы яго, хадзіла па сядзібе, бліжэй знаёмілася з ёй. Ногі крыху загаіліся, хацелася нешта рабіць не толькі ў хаце і сенцах, а на ўсім хутары. Але хату яна ўжо даўно давяла да ладу, усё чыста, вокны свецяцца, палаці (ложкаў у Антона не было) засланы тым, што засталося пасля гаспадароў, каля печы расстаўлены вілачнік, ёмкі, гліняны посуд на палічцы пры сцяне — таксама, чыгункі на прыпечку... Словам, заходзь у хату і жыві...

І ў сенцах у іх быў парадак. Тут Тэкля таксама ўсё вымыла, таксама вышаравала падлогу і нават раскідала па ёй палын, як звычайна рабілі жанчыны ў яе вёсцы, каб не было мух. А вось ганак, колькі ні шаравала, не пасвятлеў, як быў чорны, такім і застаўся, вядома, струхлявеў. (Іосіф меўся зрабіць новы).

У сенцах каля старых Іосіфавых палацяў стаяў невялікі столік. Да другой сцяны прыладзіў шырокія, у тры плашкі, палаці для Тэклі. На палацях ляжаў сяннік, пакрыты салдацкай коўдрай, — былі ў Іосіфа свае посцілкі і коўдра, некалі разжыўся ў горадзе праз Архіпа. Словам, жыць можна.

Хадзіла Тэкля па сядзібе, агледзела пустую скасабочаную кашару, з якой даўно ўжо выветрыўся пах, хіба што адчуваўся горкі пыл — мёртвая без жывёлы будыніна.

Сялянка Тэкля бедавала, што так... Зайшла і пад паветку, там ляжалі дровы з сухастою, якія нарыхтаваў Іосіф, падумала, каб перазімаваць, трэба больш назапасіць, яна яму дапаможа. Затым падышла да пуні. Вароты ў яе

былі прычынены, пацягнула, рыпнулі, лёгка адчыніліся, унутр улілося сонечнае святло, упала на дошкі, складзеныя каля сцяны.

Увайшла, адчула, што тут пахне смалой.

Пастаяла, агледзелася, заўважыла воддаль ад палоскі святла, што падала з панадворку на дол і на супрацьлеглую варотам сцяну, каля другой, папярочнай сцяны, цёмна-жоўтую доўгую скрынку. А вакол яе — стружкі.

Усё зразумела Тэкля, дамавіну ладзіў Іосіф. І нядаўна, мабыць, перад іхняй сустрэчай скончыў, яшчэ нават стружкі не прыбраў.

Ну што ж, рыхтаваўся, нічога тут дзіўнага няма, стары чалавек. Памятала яшчэ з дзяцінства: здаралася, у вёсцы старыя мужчыны, дзяды майстравалі сабе труны. Маўляў, калі сам зрабіў, то ведаю, у чым буду ляжаць...

Была труна і ў яе дзядулі, бацькавага бацькі. У клеці стаяла, ён у яе збожжа сыпаў. Стаяла некалькі гадоў, перш чым спатрэбілася.

Дык жа гэта ў вёсцы, там іншае, там людзі. А тут Іосіф адзін. Што думаў, як рабіў? І навошта, калі прачынаўся і кожны дзень чакаў, ці не з'явіцца гаспадар хутара.

Выйшла Тэкля з пуні, пайшла яго сустракаць да мяжы, да крынічкі. Неўзабаве ён паказаўся з кустоў з важкай торбай рыбы. Глянуў на Тэклюшку, заўважыў, што яна разгубленая і нейкая ўстрывожаная, спалохана спытаў:

— Што здарылася, Тэклюшка?

— Нічога, — уздыхнула яна, памаўчала і дадала: — У пуню зайшла...

— Ат, — сказаў ён. — Было. Занудзіўся. Набраў у галаву. Ну і зладзіў. Думаў, хай будзе. Некалі ж адчую, што час мой настае, зацягну куды далей, лягу, ды буду чакаць... Пасяку!

— Хай доўга не трэба будзе. Забудзь...

— Забуду. І ты забудзь.

— Але...

## 6

...Успомніў зараз усё гэта Іосіф, лежачы на зямлі, зноў паспрабаваў узняцца. І зноў разанула думка: «Як быць далей?..» Балюча разанула, сцяўся, помніў той жудасны страх, калі часам неадчэпна круцілася ў галаве — а хто ж першы...

І хоць прэч гнаў гэтую думку, але рэдка калі атрымлівалася. Асабліва гняла яна тады, у той дзень, калі Тэклюшка ўбачыла труну. Дакараў сябе, што не разабраў пасля таго, як прывёз сюды Тэклюшку. Хаця і помніў пра гэтае зусім недарэчнае цяпер збудаванне, і забываў. Забываў найчасцей калі былі разам, калі сядзелі за столікам у сенцах, або на старым ганку і гаварылі, калі ім было добра.

Прыйшлі яны тады да хаты, моўчкі высыпаў Іосіф рыбу ў начоўкі ў сенцах — чатыры вялікія, што парсюкі, ліні, ладны шчупак, і не ведаў, што казаць. Тэкля ціха падышла да яго і, мабыць, разумеючы, што трывожыць Іосіфа, сказала:

— Ды выкінь з галавы, Восіпка. Што Бог дасць, тое і будзе.

— Выкіну...

Больш яна ў пуню не хадзіла. Не хадзіў і Іосіф, быццам забыў. Хаця ці забудзеш, не таму рабіў. Рабіў спакойна, разважліва, як нешта вельмі патрэбнае, без чаго чалавеку нельга абысціся. І ніякіх асаблівых пачуццяў не было: зраблю такую, як хачу, ні каму іншаму, сабе.

Ды і рукі даўно адвыклі ад сталярнай справы. Гэта ж колькі гадоў мінула, калі разам з Яўхімам ставіў людзям хаты. Вось і размяў рукі. Адчулі, як паддаецца дрэва. Помняць яшчэ, як трымаць інструмент. Не дрыжаць, калі вядзе па дошцы спачатку рубанак, затым фуганак. Ведаюць, як не вывернуць сучок.

Шчыраваў некалькі дзён. Здаецца, нават забыў што робіць, дошкі стругаў з нейкай супакойваючай апантанасцю, наталяўся пахам смалы, свежай стружкі.

Хоць дошкі былі старыя, але не струхнелі, добра высахлі, лёгкія, ляжалі ў штабелі, па-гаспадарску пераракладзеныя плашачкамі, каб між імі гуляла паветра. Усё як мае быць, зацвярдзелі, смала застыла, узварушыў яе рубанкам — лесам пахне... Зняў першую стружку, другую — жоўтая дошка роўная — любата!

Напэўна, гаспадар меўся некалі пусціць гэтыя дошкі на падлогу, або на якую прыбудову да хаты. Яшчэ б, тоўстыя, пяцёрка (пяць сантыметраў). Пілавалі тут жа, каля пуні. Дасюль стаяць высокія казлы, счарнелі. А на зямлі гнілая пацяруха — пілавінне. Мабыць, пілаваў з кім са старэйшых сыноў. Казаў жа Яўхім, што яшчэ калі ён юнаком рабіў тут у Антона, дзеці ў таго былі ўжо ладненькія. Два хлопчыкі. Дошкам жа не больш як гадоў пятнаццаць—дваццаць. Іосіф бачыў гэта па тым, як яны счарнелі — не вельмі глыбока. Сасна добрая, спелая, шашалем не пабіта, не паточана жучком: канечне ж, Антон толк у дрэве ведаў, адразу бачна.

Мабыць, сам стаяў зверху, а сын знізу. Уверх цягнуць пілу лягчэй, а ўніз трэба добрая сіла. Звычайна маладога знізу ставяць, хай паказвае, на што здатны, хай вучыцца, пакуль бацька ў сіле...

Твараў гаспадара і яго сына Іосіф не ўяўляў. Уяўляў, як двое, старэйшы і малады, усцягваюць на козлы добра прасохлы акораны сасновы цурбан. Не доўгі, двухметровы, з такім удвух не цяжка справіцца. Спачатку падаюць наверх камель, уладкоўваюць, каб не саслізнуў, затым другі канец. Вядома, перад гэтым далей адагнаўшы малых, якія побач круцяцца — дзеці ці тут, ці ў вёсцы такую справу не абмінаюць. Трэскі збіраюць у кошыкі, нясуць маці. А яна з тых трэсак пад трыножкай будзе раскладваць агонь, каб зварыць у чыгуне на ўсю сям'ю бульбу. Вельмі ж смачная будзе тая бульба, калі і малыя занятыя справай.

Такім часам весела на пляцы, так спрадвеку было.

А калі рабілі труну, малых — прэч з падворка!..

Вось яно як задумана ў прыродзе: дошкі з аднаго дрэва можна на жыллё пусціць і на дамавіну. І праца чалавечая такая, хату ставіць і труну рабіць — аднымі і тымі ж рукамі.

Іосіф разам з Яўхімам хат паставіў нямала. А вось труны не рабілі. Здаралася, прасілі людзі, аднекваліся яны з Яўхімам, маўляў, ідзі, чалавек, да таго вось і таго, тыя ўмеюць, яны шмат за сваё жыццё іх зладзілі.

Гэтая справа была прывычнай. Жыццё ёсць жыццё. Такія і сабе загадзя рабілі труны. І хоць не многа было такіх мужчын, на вёску два-тры, але былі.

У Гудзе, помніцца, дзед Хведар і дзед Кандрат. Загінулі ў вайну, згарэлі, Людзям дамавіны ладзілі, а самі… Вецер іхні попел развеяў, як і ўсіх астатніх гуднянцаў, каго фашысты сагналі ў клуб, калі палілі вёску...

Ну што ж, сапраўды, думаў Іосіф, калі зроблена, хай будзе. Толькі, неяк не па-людску ўсё атрымалася. Ды і гаспадаровы дошкі ўзяў. Адно не было ў каго спытаць. Хаця, калі вернецца гаспадар, яму наўрад ці растлумачыш. Хіба што паспрабуе выкупіць, грошы ж ёсць. А калі здарыцца, што не дачакаецца гаспадара, яны ляжаць у хаце на палічцы, з якой зняты абразы, і над якой зеўрае сшарэлы ручнік — знойдзе. Месца прыкметнае.

Мабыць, Тэкля адчувала, што ён пакутуе з-за гэтай рэчы, якую яна нечакана ўбачыла, і на наступны дзень сказала:

— Можа, у дровы пойдзем, Іосіфка. Дзень-два, дзень-два і не заўважыш, як задажджыць, пахаладае. А там і зіма ляжа.

— Пойдзем, пойдзем, — узрадаваўся ён, разлічваючы, што такі занятак развее сумныя думкі.

А дровы, пакуль яшчэ цёпла, сапраўды трэба было назапашваць — збіраліся тут зімаваць. А дзе ж яшчэ...

Дровы рыхтавалі каля балота, гэтага, вялікага, якое Іосіф сёння перайшоў. Сушняку тут было багата. Добры сушняк, сасонкі, беразнячок. Пілавалі двухручнай пілой удваіх. Насіў жа ён адзін пад паветку, Тэклі не дазваляў, маўляў, не жаночая гэта справа.

Перазімавалі, як казала Тэкля, без гора. Крупы былі, рыба была, зайчаціна, грыбы, ягады. Сядзібу не пакідалі. Праўда, аднойчы нацярпеліся страху. Неяк адчыніў Іосіф дзверы з сенцаў, а з-за ракі коціцца рэха стрэлаў: бух, бух... Глухое, далёкае, ледзь чутнае: але ж страляюць.

Зразумеў Іосіф, там, за Дубаснай, палюе нехта. Не дай бог сюды заявіцца. Хаця разумеў, наўрад ці: балоты вакол хутара хоць і засыпаны снегам, а лёд тонкі, калі ў чалавека ёсць розум, пагібелі сабе шукаць не будзе. А ўсё ж...

— Што там? — спалохана спытала яна з сянец. — Людзі?

— Палюе нехта. Не бойся, сюды не прыйдзе.

Вярнуўся ў сенцы, зачыніў дзверы знутры на зашчапку, доўга сядзелі моўчкі. А пад вечар разгулялася завіруха, снег засціў вокны, радаваўся Іосіф, замяце іхнія з Тэклюшкай сляды на сядзібе, ды і чалавека сюды не пусціць: калі ёсць галава, дадому пойдзе тым жа шляхам, што прыйшоў...

Пасля гэтага з хутара далёка не адлучаліся. Калі і адлучаліся, дык разы тры, Іосіф ставіў петлі на зайцоў. Удваіх хадзілі, не мог ён пакінуць адну Тэклюшку. Ён на лыжах, яна ў ступаках. Лыжы ў яго былі. Сабе зрабіў яшчэ ў першы год, як прыстаў тут. З бярозавых плашак зрабіў, шырокія, лёгкія. Абстругаў плашкі, затым добра распарыў у чыгуне, крыху прыгнуў завостраныя насы, прыладзіў мацаванне з гумы — знайшлася і яна ў пуні, не лыжы — лялька.

Тэкля на іх не стала. Ёй зрабіў з яловых лапак, як яна казала, ступакі. Сама падказала, рабілі людзі там, дзе жыла ў высылцы. Ёмкія. Хадзіла ў іх у бурках, прывёз яшчэ восенню з горада, апошні раз выбраўшыся перад зімой на базар.

А пакінуў ён яе адну на сядзібе ранняй вясной, у сакавіку, трэба было яму петлі праверыць, дзень дужа сонечны быў (тады апошні раз бачыў яе жывую)...

## 7

…Унутры ў Іосіфа не сціхала бура. Сутыкаліся, змешваліся, віхурыліся і сумныя, і радасныя ўспаміны. Усё змяшалася, але гораснае зацягвала ўсё добрае, што некалі было ў яго жыцці. Хацелася хоць кропелькі святла. А яго не было. А калі і было, дык не тут, не побач з ім, а недзе далёка: няўлоўнае і чужое, з чужых жыццяў. З тых жыццяў, якія праходзілі паўз яго ў даваеннай Гудзе. Там людзі жылі. Яны нараджаліся, раслі, жаніліся, выходзілі замуж, самі нараджалі і гадавалі дзяцей. Старыліся, паміралі. Вось такі адвечны круг, вось так задумана тым, хто стварыў зямлю і ўсё на ёй, і ў тым ліку чалавека...

Але здавалася, у кожнай сям'і, толькі не ў ягонай, усё было ладам. Здавалася, там, у чужых сем'ях, любяць і шануюць адно аднаго муж і жонка, там дзядулі і бабулі радасна дажываюць сваё, цешачыся ўнукамі.

Радасць, невядомую яму чалавечую радасць за дзяцей і ўнукаў, бачыў Іосіф у суседзяў і аднавяскоўцаў у даваенныя часы. Бачыў і ўчора ў горадзе, калі невядомая жанчына, нечым падобная на ягоную маці-мачаху, гаварыла яму пра сваю дачку і ўнукаў.

Несумненна, радасць была і ў Каці і Надзі, калі яны ўчора са сваімі дзеткамі ішлі з горада праз мост да шашы, каб спыніць якую машыну і паехаць дамоў у Гуду, дзе іх чакаюць.

Радасць за іх ахапіла Іосіфа, калі ўбачыў, што ніхто за імі не ідзе… І доўга саграваала тая радасць яго: жывуць як і ўсе людзі, дзяцей гадуюць.

А зараз у яго халодная адзінота, гнятлівая, беспрасветная.

«Божа, што ж гэта за насланнё на мяне…» — прахрыпеў ён.

У адказ ні гуку…

Ды і не чакаў ён адказу. Ад каго? Адзін ён тут сярод непраходных балот, сярод густога лесу. Крычы не крычы, ніхто цябе не пачуе, і нават рэха не адзываецца.

Але ж гэта не так, над ім неба, блакітнае, крохкае, падрапанае, белыя драпіны добра відаць. Зямля пад ім — цёплая. Нагрэлася за дзень пакуль яшчэ не слабым, хоць і амаль восеньскім сонцам. Града лесу навокал, а за ім балоты справа і злева.

З правага боку, кіламетраў дзесяць адсюль, калі не больш, шаша. Яна за вялікім балотам. Дабрацца праз яго да шашы, па якой два разы на тыдзень з вобласці ў раён і назад ездзіць ягоны добры знаёмы шафёр Сяргей Гаваркоў, Іосіфу з кожным разам усё цяжэй і цяжэй. А цяпер, напэўна, ужо і не зможа, зусім абяссіліў, знасіўся, не раўнуючы, як старая вопратка.

Праязджае Гаваркоў і каля Гуды, праўда, далекавата ад яе, але праязджае... Злева за балотам, але намнога меншым чым тое, якое сёння ледзь пераадолеў, рака. Дубасна. Яна працякае каля Гуды.

Па рацэ супраць цячэння, каб і хацеў Іосіф, у Гуду яму не дабрацца, нават калі рукі змогуць трымаць шост, дык не хопіць сілы, каб завесці човен да вёскі, надта ж далёка. Канешне, можна сказаць самому сабе: «Ідзі берагам, Іосіф». Сказаць то можна, толькі ісці трэба будзе тыдзень, калі не больш, і толькі да халадоў, інакш сканаеш.

І ў горад ён не паплыве, ніхто яго там не чакае, ужо два гады як няма яго таварыша Архіпа, чалавека, які яго падтрымліваў, які яму дапамагаў і якому Іосіф так і не адкрыў свайго сапраўднага імя.

У пастцы Іосіф. Шукаў некалі на хутары збавення ад людзей, а выходзіць, сам сябе загнаў у пастку: адсюль яму ўжо каб і хацеў наўрад ці вырвацца.

Сяргей Гаваркоў цяпер адзіны на ўсім белым свеце спагадлівы яму чалавек. Яму можна было б і гора сваё адкрыць, але не адкрыў Іосіф, нешта стрымлівала. Шмат разоў спрабаваў Сяргей дазнацца, з кім Антон (і яму сваё сапраўднае імя не сказаў Іосіф) жыве пасля таго, як памерла яго «хадзяйка», адказваў: «Жыву пакуль, ёсць з кім жыць». Казаў так, бо баяўся, што возьме ды забярэ перад зімой сілком у горад ці ў сваю сям'ю, ці ў дом састарэлых прыладзіць: казаў жа, што ёсць такі, што там старых людзей даглядаюць...

Не, не трэба Іосіфу такі клопат, не будзе ён замінаць чужой сям'і. І дом той для старых не для яго.

Учора, выбіраючыся ў горад, Іосіф Гаваркова не чакаў. Прыйшоў да шашы на многа раней, чым той павінен быў ехаць тут: у райцэнтр, упершыню не

хацеў сустракацца з ім, не хацеў, каб Сяргей заўважыў, што з Іосіфам нешта не тое творыцца. Ад Гаваркова настрой свой не схаваеш. Пачне дапытвацца, што, чаму, як… Не скажаш жа, што за Тэклю помсціць едзе. Мала таго, што асадзіць, дык, чаго добрага, яшчэ замкне ў кабіне, павязе ў вобласць, і не спытае, хочаш ты таго ці не. І будзе Гаваркова праўда: не на пагулянку Іосіф у горад выбраўся, а на справу злачынную — людзей, хай і кепскіх, пакараць…

Калі б учора не жанчыны і іх дзеці, нарабіў бы Іосіф глупства. Напэўна, сутыкнуўся б з Тэклюшчынымі крыўдзіцелямі. І што б ён ім зрабіў? Солі на хвост насыпаў? А вось яны, што хацелі, тое з імі і зрабілі б.

Атрымліваецца, нейкая непадуладная яму сіла, нейкае наканаванне не дазволіла. Значыць, не дарэмна Тэкля прасіла, каб не помсціў, калі аднойчы прагаварыўся, што здзекі з яе нікому не даруе. Прасіла не чапаць яе крыўдзіцеляў. І прасіла наогул ніколі ні на каго не крыўдаваць, паўтарала:

— Людзі кажуць, таму, хто пралье чужыя слёзы, рана або позна адальюцца свае.

— Чуў, — згаджаўся ён. — Некалі таксама сярод людзей жыў, але нешта, здаецца, не бачыў гэтага.

— А калі б і бачыў, дык якая радасць? — нібы ахалоньвала яна яго, і супакойвала:— І мае слёзы адальюцца ўсім, хто мяне крыўдзіў. І твае — таксама. Толькі, кажу табе, Восіпка, суцяшацца гэтым не трэба. Якое суцяшэнне табе, калі некаму кепска?.. А добрыя людзі — скрозь на зямлі жывуць. Я ж столькі прайшла па ёй, пакуль цябе сустрэла. Каб не яны — не быць бы нам разам. Помніш, казала, што ўжо канала, калі мяне падабрала адна жанчына. Я нават не ведаю яе імя, і веры яна нянаскай была, а выратавала мяне. І калі малюся, за яе хачу памаліцца, а за каго, не ведаю. Малюся за яе, твар яе ўяўляю, кажу: «За добрую рабу Божую».

— Казалі некалі старыя (Іосіф прыўзнімаў галаву, паказваў на неба), калі ёсць ён — разбярэцца, хто які. За чалавека можна маліцца, не называючы яго імя, уяўляй яго і ўсё тут. Я табе таксама расказваў, як зімой сорак чацвёртага, калі бачыў у горадзе, як сустрэліся два браты-воіны, адзін калека з фронту ехаў, другі — здаровы, на фронт, чуў такую малітву, без імён. «...За раба Божага салдаціка», — так малілася жанчына. За яго, а значыць, за ўсіх, хто ваяваў, малілася. Можа, і за сына, ці сыноў сваіх. Мабыць, трэба каб вера была ў чалавека.

— Не будзе веры, Восіпка, не будзе і чалавека. Сам чалавек, канешне, будзе, але пусты. Без душы. Няма душы, хто ты тады такі, калі — ні спагады да іншых, ні болю ў цябе, ні радасці — нічога табе не трэба, толькі як жывот набіць. Вось і ўсё жыццё.

Калі не верыш у Бога, то трэба верыць у дабро людское. Гэта я таксама ад той жанчыны, якая мяне выратавала, запомніла. Можа, каб я не верыла, калі мяне ледзь жывую тыя мужчыны ды жанчына ставілі на базар жабраваць, не выжыла б, цябе не дачакалася б. Стаяла, слёзы вочы засцілі. Столькі людзей паўз мяне хадзілі, і мабыць, ніхто не думаў, чаму я тут. Кідалі медзякі, і кожны як камень у душу. Наскрозь яе прабівалі. А я на іх не злавала. Верыла, нехта ж знойдзецца, хто выратуе мяне. А гэта ж — ты! Ты і павінен быў гэта зрабіць. Вось і вер і не вер пасля гэтага.

— А я і веру, — казаў ён. — Інакш нічога з таго, што пражыў, што было са мной, не вытлумачыць.

— І не трэба. Ёсць тое, што ёсць. Вось і ўсё тлумачэнне.

Калі яна так казала, разумеў Іосіф, думкі яе глыбокія сягаюць некуды туды, куды ягоным сягнуць не падуладна, і яе пакорлівасць лёсу — нейкая таемная, вельмі ўжо яе, Тэклюшчына жыццёвая мудрасць, якая і зберагае.

Можа, калі так, мудрасць гэтая праяўлялася і ў тым, што Тэклюшка прасіла яго, каб не ішоў у горад, калі яна памрэ, каб нікому ні за што не помсціў. Адно: «У Гуду ідзі...» Значыць, верыла, што там яго месца, сярод сваіх людзей. Вось як: ён просіць яе, калі што з ім здарыцца, ісці туды, а яна яго. І канкрэтна да каго? Да Яўхіма найперш. Маўляў, на яго надзеі больш, чым на астатніх…

Казала яна гэта часта. Асабліва апошнім часам. Мабыць, нешта прадчувала.

Яму жахліва было ўяўляць, што будзе з яго Тэклюшкай, калі не стане яго. Ён і ўявіць не мог, што можа здарыцца так: што пахавае яе...

## 8

...Пакуль з ракі, па якой плылі, была бачна Гуда, Яўхім і Валік маўчалі. Валік вывеў лодку на стрыжань, павярнуў яе носам па цячэнні, Яўхім цяпер быў тварам да вёскі. Зараз яна была як на далоні. Адбудаваная, не так як да вайны, не ў адну доўгую вуліцу — ад ракі, ад таго яе выгіну, дзе пагорак і да таго, дзе дамба, а ў тры. Адна доўгая, даваенная вуліца, і дзве новыя, хай і не такія вялікія, як тая.

Хаты стаялі роўнымі радамі. Ладныя, як на падбор, глухой сцяны няма ні ў адной, з двума-трыма вокнамі на вуліцу, з чатырма на падворак, з двума да суседа, на той сцяне, дзе печ і кухня.

Гэта былі дамы прыезджых, лесаўчасткаўцаў. Хаты ж гуднянцаў, Каці, Сапёрскіх, Яўхіма, Міхея і Міколы, пастаўленыя раней, у першыя два гады пасля вайны выдзяляліся: меншыя, пяць на сем метраў, і вокнаў не столькі, хаця таксама без глухой сцяны.

Ставілі іх самі Яўхім, Міхей і Мікола. Ім дапамагала некалькі мужчын з Заброддзя, Саўка прывозіў. Ставілі адразу пасля таго, як пабудавалі Надзі. Зрубы ўзводзілі на сваіх сядзібах, але не на месцы згарэлых хат, а збоч. Яўхім казаў, што на згарэлым не трэба, некалі чуў, не добра гэта.

Але перш чым будавацца, бурылі абгарэлыя печы, раўнялі з зямлёй, закладвалі дзёрнам пляцы, на якіх некалі стаяла жытло.

З ракі добра была бачна і дамба. Доўгая, падковай, высокая, шэрая — земляны насып пакрыты бетонам — з дзясятак лодак каля яе.

Калі насыпалі дамбу, мужчыны там, дзе яна заканчвалася, ля пагорка на згібе ракі — адыходзіла ад вёскі, зрабілі, як сказаў нехта з прыезджых, былых маракоў прычал, дзе і трымалі лодкі: доўгі масток з дошак уздоўж берага.

Сонца ўжо стаяла высока, навокал было светла. Ззяў заліты жаўцізной луг. Ён быў злева і цягнуўся ажно да Заброддзя. Зараз яно бачылася Яўхіму ў лёгкім залацістым мроіве. Вёска таксама адбудавалася, як і Гуда разраслася, але там застаўся калгас.

Ад ракі павеяла халадком, але Яўхім, здаецца, не адчуваў гэтага. На яго плячах быў ваенны, без пагонаў, вынашаны шынель. Яго яму неяк даў Савелій, убачыўшы, што стары ў халады носіць нямецкі. Увогуле апрануты Яўхім быў у вайсковае, таксама Саўкава: гімнасцёрка і галіфэ, на галаве фуражка без цэшкі, а вось на нагах — гумавыя боты.

У вайсковае быў апрануты і Валік. У бацькава. Валік ростам ужо дагнаў яго, дарослы, школу ў Заброддзі канчаў, выдатна вучыцца, настаўнікі радаваліся за яго.

Яўхім употай ганарыўся, што Савелій даў яму гэтую апратку. Як большасць вясковых старых, у той пасляваенны час насіў тое, што давалі былыя вайскоўцы. Купіць цывільнае грошай не было. А калі і з'яўлялася якая капейчына, адкладваў, збіраў Каці і Петрыку.

Часам Яўхіму здавалася, што гэтую апратку яму праз Савелія перадалі сыны. Яны затрымаліся недзе па вайсковых справах, мабыць, у нейкім сакрэце, пісьмаў адтуль пісаць нельга, а вось вопратку можна перадаць. І перадаюць, клапоцяцца пра бацьку.

Калі Савелій даў сваё вайсковае абмундзіраванне Яўхіму, ён паклаў нямецкі шынель на калодку, пасек, укінуў у печ каля хлеўчука на пагорку.

Паліў, каб ніхто не бачыў, хаця пры Валіку гэта было. Той у вольную часіну заўсёды хадзіў з Яўхімам, многаму вучыў яго стары: і як рыбу лавіць рукамі і венцярамі, і як лодкай правіць на цячэнні і супраць цячэння, і як яе прасмольваць, і як правільна сякеру трымаць...

Малы тады яшчэ быў Валік, але ўсё яго цікавіла, усю няхітрую дзедаву навуку як і што рабіць засвойваў хутка.

А тады, пазіраючы, як Яўхім сячэ нямецкі шынель, затым кідае ашмоткі ў печ, хлопчык нічога не пытаў, моўчкі ўзяў кіёк і варушыў сукно, каб хутчэй гарэла. Мабыць, разумеў, як абрыдла дзеду Яўхіму варожае, варушыў і моршчыўся, адварочваў нос, а калі згарэла, з палёгкай, як дарослы, уздыхнуў. Было гэта ў сорак пятым…

Плылі, вёска ўсё аддалялася і аддалялася. Нарэшце яна знікла за паваротцай, рака ўвайшла ў лес, і Яўхім падумаў, дарэмна не папярэдзіў Саўку, што паплыве ў Кашару. Той, калі дазнаецца, будзе сварыцца на мужчын, што пусцілі нямоглага ў такі шлях, хай і з Валікам. Мала што можа здарыцца ў дарозе, рака далей ад вёскі бязлюдная, па лесе цячэ. І як любіў казаць Саўка, даводзячы сваё: «І ўвогуле...»

Гэтае «і ўвогуле...» азначала многае. І такое: раптам старому стане дрэнна, хто дапаможа, хто дасць рады? Ведалі, апошнім часам Яўхім нярэдка хапаўся за сэрца, моршчыўся ад болю, садзіўся дзе, чакаў, пакуль адпусціць. Калі яму гаварылі, найчасцей жанчыны, што трэба ехаць у Заброддзе да фельшаркі, аднекваўся: «Нічога страшнага, крыху састарыўся, здараецца». Жанчыны ледзь не сварыліся з ім: «Дзядзька, што ты сабе думаш…» Зноў адмахваўся: «Ат…»

Аднойчы Савелій прывёз фельшарку, пажылую жанчыну, каб паслухала старога. Яўхім заўпарціўся, але тая прыкрыкнула: «Што гэта за адносіны да свайго здароўя? Калі б на фронце — шкодніцтва, ды пад трыбунал! А ну ў дом! Я вас неадкладна абследую».

Яўхім думаў, жартуе так. Бач, пад трыбунал! Паглядзеў на яе: твар не тое што строгі, не па-жаночы суровы. Зніякавеў, не была б ваенурач, скарыўся. Што ваенурач усе ведалі: Фёдараўна, так яе звалі, жонка старшыні тамтэйшага калгаса франтавіка Жаўняровіча. Іх прыслалі з горада паднімаць сельскую гаспадарку. Таксама ведалі, што жартаваць з ёй не трэба: так адбрые, што потым хоць не трапляй ёй на вочы. Яе і муж пабойваўся. І ведалі, што ў медыцыне яна разбіраецца, паслухае хворага, паглядзіць, паставіць дыягназ, калі трэба адправіць у раённую бальніцу, а там пацвердзяць: «Фёдараўна вызначыла…»

Фёдараўна, паслухаўшы тады Яўхіма ў Кацінай хаце, сказала: «Тахікардыя. Не хваляваццa, цяжка не рабіць, ад дому нікуды не адлучацца». Словам, калі паслухаць яе — лажыся, дзед, ды ляжы... Дала старому нейкіх таблетак, сказала, як прымаць, паабяцала дамовіцца ў райбальніцы з чаргой, каб пакласці туды: «Трэба прайсці курс стацыянарнага лячэння».

Паехала, а Яўхім сам не свой: толькі яе не хапала на яго галаву. А тут яшчэ Каця: «Дзядзька, ану-ка таблетку вазьмі!..» І так тры разы на дзень. Добра, што за два дні да таго, як плысці на хутар усе таблеткі выпіў, цяпер ён нават і не ведаў, дзе ў яго сэрца, а то калацілася як зайцаў хвост...

Баліць не баліць сэрца, а ўсё адно Савелій, як зараз думаў стары, скажа мужчынам, маўляў, як так, вы ж разумелі, што старога адпускаць у такую дарогу нельга было.

Ну і хай! Як вернецца Яўхім, скажа Саўку: «Не вінаватыя яны. І якая можа быць віна, калі ўсё добра... Во і Іосіфа прывёз. А ты кажаш…»

Тое, што прыплывуць назад з Іосіфам, вядома ж, раздобрыць участковага. Але казаў, што была ўзбуджана справа: знік чалавек… Хаця колькі людзей знікла, ці не вярнулася дадому, без вестак прапала, як яго сыны. А што яны «без вестак» прапалі, дык Яўхім гэта даўно ведаў. І ведаў, што такая паперка ёсць. Таксама ведаў, што Савелій утойвае яе ад яго.

Доўга ўтойваў, мабыць, баяўся, што некалі гэта адкрыецца: што тады яму скажа Яўхім, што скажуць Мікола, Міхей, ды і іншыя вяскоўцы…

Канечне, Яўхім разумее, што Савелій не меў ніякага права так рабіць. Ведаў, што за гэта ўчастковага, калі адкрыецца начальству, пакараюць. Можа, нават выключаць з партыі, здымуць з пасады, аддадуць пад суд.

Ведаў даўно. Савелій жа кожны раз, сустракаючыся з ім, чырванеў, адводзіў вочы. Яўхім бачыў гэта, але выгляду не паказваў, што ведае пра паперку. Разумеў і апраўдваў Саўку: ён жа аберагае мяне, хоча, каб я верыў, што хлопцы жывыя і чакаў іх. І сам верыць, што вернуцца Нікадзім і Ваня.

Не здагадваўся ўчастковы міліцыянер Савелій Касмановіч, што Яўхім усё ведае. Нічога кепска тут не было б, але Савелій уцягнуў у гэтую справу забродзенскую паштарку Галю: у той жа трое дзяцей.

Калі б Яўхім узняў шум, і той не паздаровілася б. Але Яўхім маўчаў, і Саўка і Галя гора ад яго адводзілі, таксама не верылі казённай паперцы.

Пазней паштарка не вытрымала, прызналася Яўхіму. Было гэта, калі вярнуўся яе Фока, мужчына старэйшы за Савелія гадоў на дзесяць.

Бачыў Яўхім Фоку. Знявечаны твар і без нагі. Казалі, Фока трапіў у палон паранены. Можа, таму і яго жонка паперку атрымала: «Без вестак прапаў». І вось вярнуўся пасля вайны, нават ліста не напісаў…

Неяк Яўхім плаваў у Забродздзе праведаць Лявонція Кечыка, той ужо вельмі слабы быў, праз Саўку наказаў: «Хачу пабачыцца з Яўхімам Міхайлавічам Бараўцом. Наказ у мяне яму ёсць. Хай прыедзе. Мы ж з ім сябравалі. А калі я партызаніў, Яўхім падтрымліваў мяне. Сувязны наш быў».

Перадаў Савелій Яўхіму просьбу Лявонція. Яўхім адразу — у лодку. Ды да яго, Лявонція Кірэевіча.

Той сустрэў яго, лежачы ў ложку:

— Бач, Яўхім Міхайлавіч, скруціла, выбачай, што, лежачы, цябе вітаю.

— Нічога, Лявонцій Кірэевіч, здараецца.

Абняліся бацькі. На словы не ахвочыя, без лішніх слоў разумеюць адзін аднаго: як там сыны нашы...

Кечыкаў сын Васіль на вайну ішоў у адзін дзень з Яўхімавымі сынамі, з іншымі забродзенцамі і гуднянцамі: за Забродздзем на дарозе ў раён сустрэліся мужчыны і хлопцы з гэтых дзвюх вёсак, каб разам далей крочыць.

Пайшлі на вайну. Раскідала яна людзей па розных франтах. Хто загінуў, хто вярнуўся, а чый след недзе згубіўся, як і след Яўхімавых сыноў і Кечыкавага сына.

Праўда, Лявонцій на яго такую ж паперку меў як Фокава Галя на свайго мужа: «Без вестак прапаў...» Мабыць, не перахапіў яе Савелій.

Доўга гаварылі тады Яўхім і Лявонцій. Дачка яго Варка, адпартызаніўшы, пасля вайны ажно ў Маскве вучылася. Казаў бацька, на паэта. Вершы складала, нават да вайны ў газеце іх друкавалі.

Казаў, куды толькі можна было накіроўвала паперкі, брата шукала. Пэўнага адказу не мела. Але надзею не траціла, і бацька не траціў (жонка яго даўно памерла).

— І мой жывы, і твае жывыя, Яўхім Міхайлавіч. Памру, ты і майго сына дачакайся, — казаў Лявонцій Яўхіму. — Прыйдзе, хоць з табой пагаворыць. Раскажы яму, як у нас у вайну было. Хай ведае, што і мы не сядзелі склаўшы рукі, як маглі немца білі. Ды скажы, што ты дапамагаў мне, што мы знарок цябе ў лес не ўзялі, нам свае людзі ў вёсках патрэбны былі.

— Разам дачакаемся і маіх, і твайго, — адказваў яму Яўхім.

Казаў і разумеў, развітваецца з ім Лявонцій. Так і здарылася, неўзабаве ён памёр.

А пасля ўжо, калі яго пахавалі, Яўхім, ідучы з могілак да сваёй лодкі, сустрэў паштарку. Толькі пачаў спускацца з вуліцы па сцежцы сярод лазняку да ракі, паштарка, Фокава Галя, перад ім. І адкуль толькі ўзялася? Упала на калені, заламала рукі, загаласіла:

— А мой ты дзядзечка… Ародненькі… Няма мне супакою. Грэх нашу. Савелію паперку на тваіх сыноў аддала. Нікому ж не кажы, яшчэ пасадзяць мяне. А ў мяне ж дзеці, трое, ды Фока калека. І Саўку пападзе, ды яшчэ як, ён жа міліцыянер.

— Ну-ну, — схіліўся да яе Яўхім. — Устань, Га́лінка, супакойся. Не трэба, каб хто бачыў. Яшчэ хто чужы здагадаецца. Ды ка́пне куды. І ты маўчы. Я сыноў чакаю. А паперка — памылка.

Гаварыў быццам спакойна, а ў сярэдзіне — агонь…

Узнялася жанчына, схапіла Яўхіма за руку, хацела пацалаваць, вышмаргнуў, абняў яе за плечы, прытуліў да сябе, як родную.

— Галінка, доча, ты ж не са зла. Хацела, каб мне лягчэй было. І мне было лягчэй, і зараз лёгка: я ж іх чакаю. А як жа? Вунь і Фока твой прыйшоў. А паперка…

Махнуў рукой, павёў жанчыну да ракі. Ля лодкі спыніліся, пачакаў, пакуль яна супакоіцца, пакуль высахнуць яе слёзы, зноў паспрабаваў супакоіць:

— Кажу табе, Галінка, не бойся. Нават калі б хто і раней дапытваўся б у мяне, абцугамі слова не выцягнуў бы. А цяпер ідзі да сям'і, вячэру гатуй.

Пайшла. Глядзеў ёй у след і думаў: колькі пакутавала гэтая жанчына, пакуль не прызналася яму. Кепска, калі нехта хоча каму дабра, а потым сам пакутуе…

А праз колькі дзён пасля гэтага Яўхім і Савелію палёгку даў. Прыплыў той па нейкіх сваіх справах у Гуду. Прыстаў да пагорка. Яўхім якраз Іосіфаву лодку аглядаў, вынеслі з хлява мужчыны. Павітаўся, топчацца на месцы, хоча нешта сказаць і не рашаецца.

— Савельюшка, ужо даўно бачу, ты са мной быццам сам не свой.

— Чаму ж, Яўхім Міхайлавіч?

— Ды, мабыць, паперка на Ваню і Нікадзіма кішэнь прапальвае, не дае табе спакою.

Збянтэжыўся Саўка, заміргаў вачамі, уздыхнуў цяжка.

— Кінь, — працягваў Яўхім, — ведаю. І не віню цябе. Наадварот лічу, правільна ты зрабіў. Хай яна ў цябе будзе, паперка тая. Прыйдуць хлопцы, раптам мяне ўжо не будзе, тады ім аддасі яе. Скажаш, бацька чакаў, верыў, што жывыя.

Адвярнуўся ад старога былы воін Савелій Касмановіч, доўга маўчаў. Маўчаў і Яўхім. Нарэшце не вытрымаў Саўка, падышоў да старога, абняў:

— Даруй, бацька. Хацелася як лепш... Ды што паперка?! Жывыя яны.

Яўхім асцярожна вызваліўся з яго абдымкаў, мовіў:

— Вось што скажу табе, дарагі ты мой Савелій Бацькавіч. Вельмі дорага мне твая вера. Без тваёй веры я даўно паваліўся б. Часам здаецца, што падаю, трываць больш не магу, а ты не даеш, падымаеш. Ды не толькі ты, мужчыны вераць, што вернуцца мае сыны. І Каця з Надзяй таксама.

— Казаў жа, след іх ёсць, — быццам абудзіўся Саўка. — Здаецца мне, што ў пачатку вайны Ваня, Нікадзім і Васіль, Лявонція Кірэевіча сын, аднойчы начавалі на Дарашкевічавай Стражы. Казала мне гаспадыня, што трое салдацікаў-акружэнцаў у яе былі. Старая і зараз там жыве. Я заязджаю да яе калі ў раён еду ці з раёна, праведваю, адзінокая яна. Яе трое сыноў у горадзе жывуць, і дзве дачкі там, не часта да маці прыязджаюць. Працай занятыя, але старую да сябе завуць. Не хоча ехаць, кажа, чалавек мой тут пахаваны, куды я.

Дык вось, зайду да старой, пасядзім, пагаворым. Казала, падобна, што хлопцы тыя з нашых мясцовасцей былі. Чула, гаварылі, бацькі іх недзе недалёка жывуць. Пераначавалі хлопцы, сабрала яна тое-сёе, пайшлі яны на фронт.

Як яна апісвае іх, думаю, двое — гэта Іван і Нікадзім. Цёмныя, як ты. Казала, гэтыя двое прызналіся, што браты. А трэці іх таварыш. Імён хлопцаў не помніць. Здаецца, аднаго звалі Васілём. Хаця гаварыла, што дакладна сказаць не можа, за вайну шмат людзей перабыло ў яе на Стражы, шмат імён чула, памяць ужо не тая, блытаецца. А Васіля, што быў з братамі, запомніла: нос, кажа, піпкай. Ён гэта, дзядзька Яўхім, ён. Я ж помню, у Васіля быў перабіты нос. Сястрычка, Варка, перабіла засланкай ад печы. Малыя былі, гулялі, яна засланкай той чамусьці круціла ў паветры, а ён падлез.

— І я помню Васіля. Так, піпкай нос.

— Вось толькі не разумею, чаму хлопцы дадому не заявіліся.

— А я табе адкажу чаму: не маглі Іван і Нікадзім мяне не паслухаць, Савельюшка, — сказаў тады Яўхім. — Я забараніў, калі на фронт іх праводзіў. Казаў, што без перамогі — дарогі дамоў няма. А трэці, калі гэта Васіль быў, адзін не мог прыйсці: што бацьку сказаў бы… Кажаш, акружэнцы... Магло быць, што яны. Хаця нешта не вельмі сыходзіцца, іх жа везлі ў поездзе на нейкія ці то зборы, ці то вучобу. Не на фронт, ад фронту, так?

— Маглі і не давесці. Усялякае здаралася. Так што, будзем і чакаць, і шукаць.

— Будзем. Але дай мне Савелій на дзень-два паперку. Я ў раён з’езджу, у ваенкамат схаджу, ці яшчэ куды трэба, падкажуць. Скажу, каб не ўздумалі пенсію якую, калі яна мне належыць, налічваць. Жывыя хлопцы, жывыя.

Даў тады яму Саўка паперку. Яўхім нават не разгарнуў яе, дрыжачымі рукамі паклаў у кішэню. У раён ён з’ездзіў. Аказалася, не адзін такі: нейкая старая з аднае вёскі адмовілася ад пенсіі за сына, які загінуў, і нават не растлумачыла чаму.

Не пытаў ваенкам у Яўхіма, чаму і ён так зрабіў. Адно, каб напісаў паперку, што ад пенсіі адмаўляецца. Прызнаўся Яўхім, што літар не ведае. За яго напісалі. Распісацца папрасілі, таксама не ўмее. Раней замест роспісу крыжык ставіў. Цяпер так нельга. Як гэта паставіць крыж на сыноў... Тады нейкая дзяўчына, што там працавала, узяла ручку, абмакнула пяро ў чарніліцу, затым заціснула тонкае дрэўка ў нязграбную Яўхімаву руку, сваю далікатную паклала паверх ягонай, і разам вывелі яны колькі літар. Прачытала: «Баравец».

Сівы, пажылы падпалкоўнік моўчкі ўзяў Яўхіма пад руку, правеў да легкавіка на двары, загадаў шафёру, маладому салдаціку: «Даставіць бацьку воі-

наў да дому і далажыць!» А на развітанне паціснуў руку: «Мацуйся, бацька, і чакай».

Успамінаючы гэта, Яўхім яшчэ не вырашыў, будзе спыняцца каля Стражы ці не: па яго разліках заўтра, можа, крыху раней паўдня яны з Валікам будуць праплываць кіламетраў за пяць ад яе...

## 9

Тэкля памерла нечакана. На яго вачах. На новым ганку, які ён, раскідаўшы струхнелы стары, зладзіў з Антонавых дошак.

Не адразу зрабіў, пасля таго калі прывёз сюды Тэклю, доўга не браўся за гэтую справу. Тлумачыў:

— Пачакай, дай сабрацца, зраблю. Не ганак будзе — лялька. Прыйдзе Антон — залюбуецца. Скажу яму: вось ганак табе, гаспадар.

— Баюся, што не прыйдзе, — раптам сказала тады Тэкля. — Такому стараму, як цяпер ён, уцячы цяжка. Ды калі б і ўцёк, дзе будуць шукаць? Там, адкуль забралі. Яны гэта ведаюць, чула.

А чалавека, як птушку, дзе б ні быў, да свайго гнязда цягне. Душа чуе, дзе корань яго.

Іосіф не адказваў, тут не паспрачаешся, яго і самога ў Гуду цягне. Там пупавіна яго… Больш нічога ягонага там няма. Хаты няма. Можа, і бэзу няма. Можа, ссох, выкарчавалі… І лодка яго, можа, даўно рассохлася, спалілі яе.

Няма нічога, а ўсё адно хочацца прайсціся па сваёй зямлі, твар з ракі спаласнуць: там яна ў лузе святлейшая, чым тут, у лесе. Асабліва цяпер хочацца прайсціся па Гудзе, калі разам з Тэкляй. Толькі ім ходу туды няма…

Чамусьці доўга марудзіў з ганкам, за інструмент узяўся ў першае бабіна лета.

Цудоўная пара стаяла над зямлёй. Лес вакол хутара гарэў чырванню і жаўцізной, і ад гэтага навокал было светла.

Чырвоным было лісце асін і клёнаў, што там-сям сярод бярозак пракідаліся наградзе на мяжы, дзе крынічка. Чырвоным свяціліся кусты каліны там, дзе града спускалася да балота. Жаўцелі бярозы, раскіданыя паўсюль вакол сядзібы. Асабліва светлымі былі кроны дзвюх, што раслі на ледзь прыкметным пагорку недалёка ад ганка.

Адсюль, з ганка, калі глядзець на іх, бачна, як яны ўзвышаюцца над лесам і на фоне яшчэ высокага блакітнага неба празрыста свецяцца і ціха пакалыхваюцца.

Чыста і светла было наўкола, і часам, калі з-за грады лесу між хутарам і балотам выбягаў гарэзлівы ветрык, блытаючыся ў высокай спруцянелай траве, у паветры плыло празрыстае павуцінне.

Такі час для вясковага жыхара — свята... Ураджай у асноўным сабраны: скошана атава, якая вырастае пад восень пасля першага ўкосу… Даўно састагавана сена на сухім у Дзямкоўскіх балотах, дзе звычайна касілі гуднянцы. І жыта даўно зжата, абмалочана, засыпана ў засекі… Выбрана бульба: цяпер можна і перадыхнуць, крыху адпачыць. А выпадзе снег — у лес па дровы…

Цікава, а што зараз у Гудзе? Ці адбудавалася? Хто вярнуўся, а хто — не. Што з Надзіным Ігнатам, з Яўхімавымі хлопцамі? Ды і з самім Яўхімам. Ці трымаюць яшчэ яго рукі сякеру, рубанак, фуганак? Напэўна, трымаюць, сіла яшчэ павінна быць. Адпачываць яму, мабыць, няма калі: паўсюль людзі будуюцца, і Яўхімаў вопыт нялішні.

А што на месцы яго, Іосіфавай хаты? Згарэла ж, мабыць, да апошняга вянца, і попел сплыў, калі сыходзіла паводка... Як яны ўсе там?..

Іосіф у думках часта наведваў Гуду. Але не мог уявіць яе цяперашнюю. Найперш уяўлялася або даваенная, хоць і невялікая, але людная, адной вуліцай, напоўненыя дзіцячымі галасамі, рыпам калодзежных жураўлёў, рыкам кароў, ржаннем коней, крыкам пеўняў, стукам сякер...

Успамінаў і тую, якую ўбачыў пасля таго, як яе спалілі немцы. Жахаўся, заплюшчваў вочы, засланяў рукамі твар, быццам на яго кідаўся агонь, ледзь стрымліваўся, каб не закрычаць, асабліва, калі побач была Тэклюшка.

Як было ў вайну ў Гудзе і ў навакольных вёсках падрабязна расказваць ёй не хацеў. Яна такой жудасці не бачыла. Навошта цяпер ёй ведаць пра гэта. Пазней, пазней, будзе яшчэ час. Адно сказаў: «Не дай бог чуць і бачыць…»

Мабыць, па-свойму яна ўяўляла вайну, не казала як, а ён думаў, што ад аднаго пякельнага ўратавала яе высылка: не бачыла, як гінулі людзі…

Калі пачаў ладзіць ганак, яна ўзялася яму дапамагаць (як пілаваў, трымала дошкі), казаў:

— І мая Гуда, і твая вёска, мабыць, ужо даўно адбудаваліся. І мы з табой маглі б там нешта рабіць.

Тэкля не адказвала, мабыць, разумела, што ён вельмі ж сумуе па вёсцы, па цяслярскай працы, перажывае, што не з людзьмі, але нічога не зробіш — у іх няма іншага выйсця як быць тут.

І яна сумавала па вёсцы, па зямлі, па сялянскай працы. Жанчыне-сялянцы без яе надта ж скрушна, і такою асенняй парою — таксама...

— Глядзі, як свецяцца бярозы, — казала яна яму, разумеючы, чаму ён сумуе, жадаючы хоць крыху развеяць яго.

Іосіф тады адкладваў сякеру ці пілу, глядзеў навокал, на ўсю гэтую асеннюю прыгажосць, спыняючы позірк на дзвюх бярозках. Ён думаў, што прырода, калі добра прыгледзецца, падае нейкія свае знакі чалавеку. Вось як гэтыя дзве бярозы. Іх некалі мог пасадзіць Антон як знак, што ён тут з жонкай удваіх. А магло быць, што яны самі тут раслі, яшчэ да Антона. А ён, як пасяліўся тут, раскарчоўваючы месца пад сядзібу, заўважыў іх кволенькіх, пашкадаваў: расціце...

Хто ведае, як было, але выраслі дзве бярозкі, а цяпер і яму з Тэкляй таксама нейкі знак…

Многа было знакаў у яго жыцці: і сон-знак пра Архіпа на вялікай вадзе (вада яго і забрала)... І выява птушкі ў тым жа сне, у якой замест крылаў рукі (прыляцела да яго Тэкля)... І два крыжы на двух вокнах чужой хаты, якія наяве сарваў Іосіф (сарваў крыжы з іхніх лёсаў)... І вось гэтыя дзве бярозы (як ён і яна)...

Ганак Тэклі падабаўся, зрэшты як і ўсё на хутары і вакол яго. Невялікі, у тры прыступкі, але шырокі і доўгі — ладная сям’я размесціцца, каб пасядзець цёплым вечарам пасля дзённых клопатаў, а яму і ёй дык — раздолле.

Пагоднімі асеннімі вечарамі, днём схадзіўшы ў ягады ці грыбы, якіх хапала на ўскрайку лесу, што атачваў сядзібу, ды і паўз балота — таксама, садзіліся на ганак, ставілі каля сябе кошыкі і перабіралі чарніцы або буякі, брусніцы ці грыбы.

— Як дома, — казала яна, — я дома, калі яшчэ дзеўкай была, прыйду з лесу, прынясу што, на ганку і перабіраю…

— Во як, — усміхаўся ён, — і я таксама на ганку перабіраў.

Печ звычайна распальвалі ноччу, каб не было бачна дыму адкульнебудзь з ракі, калі раптам хто будзе па ёй плысці. Ноччу варылі грыбы,

затым складвалі іх у кадушку: яшчэ ў першы год свайго жыцця тут, пасля таго, як Іосіф выдзеўб човен, ён зрабіў і кадушачкі для грыбоў і ягад, сплёў кошыкі, кашолкі.

З ганка вакол сядзібы ўсё добра было бачна, малюнак заўсёды быў адзін: паўкруглая града змешанага лесу, які ў Гудзе называюць старынай, векавога, нечапанага чалавекам, і дзве бярозы насупраць хаты.

Лес мяняўся толькі колерам. Зялёны, жоўта-зялёны, чырвона-жоўты, ясным днём заўсёды светлы, шэры, калі хмарна ці дажджліва. А зімой, вядома, белы…

Тэкля паступова зжывалася з хутарам, успрымала яго як свой. Казала, маўляў, калі і было ў яе сваё жытло, дык як жыла з бацькамі. З Аўдзеем — не, ні ў замужжы на сваёй зямлі, ні там, у ссылцы.

Ён разумеў, што жанчыне без свайго дома нельга, разумеў, як яна сумуе па сваім жытле. Часам, калі сядзелі ўдваіх на ганку, казала:

— Во, Восіпка, пражыла я жыццё, а ўсё без свайго вугла. І хата вялікая была ў Аўдзея, а мне, як стадола, халодная, чужая. І ў Сібіры хата была, праз год паставіў, а не мая. А вось тут, у чужой, дык іншы раз з табой адчуваю сябе як у сваёй. Мабыць таму, што ніхто нас не трывожыць, што спакойна мне тут і добра.

А як жа мне добра, калі раптам прыгарнеш да сябе, абдымеш — здаецца, большага шчасця не трэба. Тады я нічога і нікога не баюся, усе мае страхі знікаюць.

Іосіф, пачуўшы пра страхі, у каторы раз даводзіў ёй, што сюды нікому старонняму не дабрацца, бо ніхто, акрамя яго, Іосіфа, Яўхіма і канечне ж, найперш гаспадара хутара Антона, шляху сюды не ведае. Але яшчэ ведалі тыя, хто высяляў Антона. Прасачылі, як ходзіць праз балота гаспадар, толькі хто ведае, дзе тыя людзі цяпер. Да ўсяго ён, Іосіф, плашкі Антонавы пераклаў у твані, а як — змогуць здагадацца толькі Антон і Яўхім. Ім варта намацаць адну, а тады патыркаюць побач шастом, знойдуць другую, трэцюю... Яны кемлівыя, жыццё навучыла.

Мала таго, што Іосіф шлях па-свойму праклаў, дык і маскіруе яго па-свойму. Разумны чалавек і пад прымусам у балота гэтае, тым больш у другое, што ад шашы, не палезе — гіблыя яны.

Тэкля, слухаючы Іосіфа, калі ён казаў ёй гэта, супакойвалася, а можа, і не падавала выгляду, што ўсё адно баіцца, не хацела, каб хваляваўся. Іосіф часам сам станавіўся няўпэўненым: як ні асцерагайся, а ўсялякае можа быць. Таму, калі хадзіў праверыць вяршы ў затоцы, ніколі доўга не бавіўся. Ды і хадзіў ён асцярожна, уважліва да ўсяго прыглядаўся, прыслухоўваўся да наваколля. А ягады, грыбы, арэхі заўсёды збіралі разам.

Нейк Тэкля спытала ў яго, ці прыходзіць да сядзібы які звер: глухамань, мабыць, і ваўкі ёсць. Сказаў, што далей у лесе звер ёсць: дзікі, ваўкі, казулі, але сюды ім ходу няма. Заслону ён ім час ад часу робіць: сыпле порах вакол сядзібы, звер чуе. Адкуль порах? Ды гэтага дабра хапае каля шашы, баі там некалі былі, патроны яшчэ можна накалупаць каля акопаў, вось і ўвесь сакрэт, у свой час назбіраў, надоўга хопіць.

А вось зброі ў яго не было. Яе таксама можна знайсці там жа, толькі навошта яна яму? Чалавек са зброяй ужо іншы чалавек.

Здаралася, часам збоч хутара, там дзе рака, пралятаў самалёт. З-за грады лесу яго не было відаць, але было чуваць, як стракоча матор. Яшчэ здалёку пачуўшы ў паветры шум, яны хаваліся ў хату ці ў кашару, або ў кусты ці пад дрэвы, калі былі воддаль ад пабудоў.

Іосіф разумеў, што рана або позна ўлада дазнаецца, што на хутары нехта жыве, ці леснікі дабяруцца сюды, або яшчэ хто. І тады ім з Тэклюшкай добром не скончыцца.

За сябе ён не баяўся: што яны яму зробяць? Будуць катаваць, дапытвацца, хто ён такі? Хай. Толькі яе не чапалі б. Разумеў, што тады Тэклю яму не абараніць: арыштуюць, павядуць. Ды яна і сама не будзе супраціўляцца, пакорліва пойдзе, і вінтоўку настаўляць на яе не трэба будзе.

Тады думаў, што трэба сысці куды далей, у якую яшчэ большую глухамань. Хаця, здаецца, зараз і глухамані такой наўрад ці знойдзеш дзе. Час ад часу, калі плаваў у горад, вядома, без Тэклюшкі, каб не трапіла каму на вочы, бачыў Іосіф, што недалёка ад райцэнтра лясы па берагах Дубасны пакрысе выразаюць. Канешне, там, дзе ёсць пад'езды машынам: усюды, і ў горадзе, і ў вёсцы людзі будуюцца. Павыразаюць у адным месцы, пападуцца глыбей у лес. Канечне, там дзе ёсць дарогі, але выражуць там, і сюды дабяруцца, ці доўга пракласці дарогу, калі ёсць тэхніка. Мажа, пакуль такое месца, як Кашара, нікому не патрэбна, а што будзе далей, невядома.

Чым больш тут жылі, тым часцей ён задумваўся пра тое, што будзе з Тэкляй, калі яго не стане. Памрэ ён тут — яшчэ нічога. Пагаруе Тэкля, паплача, можа, як-небудзь здолее ў дол пакласці. А потым усё ж рашыцца пайсці ў Гуду. Берагам, рака прывядзе. А калі ён дзе ў лесе ці на рацэ паваліцца?..

Тады Тэклюшка, не дачакаўшыся яго, кінецца шукаць. Будзе зваць яго, выдасць сябе рыбакам ці каму іншаму, хто будзе праплываць па рацэ. Вядома, людзі кінуцца да яе, маўляў, што здарылася, а потым, калі даведаюцца, паведамяць у міліцыю, маўляў, чалавек прапаў. Ну а міліцыя да яе: «Хто?..»

Здаралася, нібы між іншым Іосіф казаў, маўляў, някепска было б мець сабаку. Употай разлічваў, што тады Тэклі будзе смялей без яго, Іосіфа.

— Не, не, не, — палохалася яна. — Навошта? Ты без сабакі столькі гадоў жыў, і нічога. Навошта нам браць грэх на сябе? Сабака як прывыкне да гаспадара, а той не дай бог сканае, дык чакае чалавека, пакуль не акалее. Як жа ён нудзіцца. Не, не, не…

Тэкля не дагаворвала, і так было зразумела: баіцца, што некалі сабака застанецца адзін і будзе чакаць гаспадароў.

Канешне, сабаку ён мог бы ўзяць даўно. Нават думаў пра гэта, калі пачаў плаваць у горад да Архіпа. Той знайшоў бы яму шчанюка. С сабакам было б смялей. Толькі і іншае магло б быць: брэх на закінутым і нікому непатрэбным хутары мог бы падказаць людзям, якія час ад часу плаваюць па рацэ, што недзе за балотам нехта жыве, значыць, не такое яно і гіблае. А па-другое, і такая думка з'яўлялася тады ў яго: «Калі што, як жа ён без мяне…»

Цяпер, калі ён застаўся адзін на зямлі, калі аднавяскоўцы, мабыць, ужо даўно нават забыліся яго імя, Іосіф падумаў, хай бы быў у яго сабака, хай бы брахаў: аднаму без Тэклі немагчыма жыць.

Але ледзь дабраўся з шашы сюды... Зусім знясілеў... Во ляжыць на зямлі, спакутаваны душой і целам, як ні стараецца, а падняцца не можа. Быццам прыкаваны... Хаця не, не прыкаваны, прыціснуты да зямлі. І ведае чым, адчувае: цяжарам усіх тых сцежак-дарожак, па якіх прайшоў за сваё доўгае і гаротнае жыццё... І які ж страшэнны гэты цяжар, калі ўвесь і адразу на яго... І — людзі на тых сцежках-дарожках, знаёмыя і незнаёмыя, свае і чужыя, перад якімі ў нечым быў вінаваты, і перад якімі не меў ніякай віны…

Здавалася, што ўсё гэта неймаверна цяжкое вось-вось раструшчыць яго, ды так, што ўжо нічога не будзеш адчуваць: з такім цяжарам, з такім болем жыць немагчыма. А вот неяк жыў і жыве. І нават звыкся са сваім болем, з усім

— Дык Зорку, трэцюю сваю ўлюбёніцу, вы ахвяравалі на рамонт трактара пасля сынавай аварыі напярэдадні ягонай армейскай службы… Адслужыў жа, вярнуўся?

Дзіўна, але бабуля адгукнулася не адразу, а памаўчаўшы, і перш чым адгукнуцца, уздыхнула зусім не весела:

— І адслужыў, і вярнуўся, ды радасці з таго было мала… Піў мой Міша. І чым даўжэй, тым больш. Пачаў трактарыстам рабіць, як і да арміі, ды неўзабаве пратурылі. Ведама, каму патрэбен такі работнік, калі ён не за работай глядзіць, а дзе б гэта смагу прагнаць? У Мінску год-другі пааціраўся — трохі падсобнікам, трохі бульдазерыстам, трохі яшчэ там некім на будоўлях розных, але таксама не прыжыўся, не прыкарэў да працы. Мо каб жанчына якая наўрэлася ды прытуліла-прыгрэла? Але якой бабе патрэбен п'яніца! Каціўся мой Міша ўніз ды каціўся, пакуль на матчыну шыю зноў не сеў. Кармі, матка, а йшчэ й паі! І куды дзенешся?! Карміла, вядома ж... І брала грэх на душу — і паіла. Горкімі слязьмі плача, бывала, — гэтак жаласліва просіць. Не вытрываю, дам на чарніла. Пра дзевак ці жанчын яму не кажы — не трэба яму ўжо ні дзеўкі, ні бабы. Усё гарэлка засляпіла. Усё адабрала. Пятнаццацць гадочкаў сам мучыўся і мяне мучыў. Думаў, як кожны з п'яніц думае, што адолее гарэлку, а гарэлка яго самога адолела. Замерз мой Міша. Першы раз, як знайшлі яго на снежнай дарозе, дык толькі пальцы на левай руцэ адмарозіў. Выстаўлена была левая рука, а другая пад ватоўкай была, дык ацалела. А другі раз, як адкапалі яго ў сумёце, дык ужо спруцянелым быў, не адышоў, як тыя дактары ні стараліся…

І зноў змоўкла мая субяседніца. Змоўкла, каб няйначай дух перавесці, бо, пэўна, і дасюль не зажыла рана ў матчыным сэрцы. А яно і праўда, бо — хрыплавата, ціха прызналася:

— Я й сёння па ім плачу. Ляжу часам ноччу і плачу. Во, ляжу адна, як калода гнілая, нікому непатрэбная. А каб жа сынок быў, ды нявестка пры ім, ды дзеткі? От бы й я калодай не была. Дык жа не даў Бог. Думаю так, думаю, ды ўжо й скажу сабе часам: і нашто я яго нарадзіла? Мусіць, і праўдачка тая, што не будзе шчасця таму, хто з грэху пайшоў. Не яго — сябе кляну. Мінутная слабасць адолела. Ат, думала, ніхто й нічога ведаць не будзе, а сынок ці дачушка пры мне выкачаецца, падымецца, а я ж яго ці яе нічому дрэннаму не навучу, адно любоў сваю нерастрачаную бабскую і мацярынскую аддам. От і аддала…

Адвярнулася ад мяне бабуля на хвіліну, гэтак, быццам хацела слязу няпрошаную з вачэй змахнуць, і далей свой аповед павяла:

— Бачыць Бог, яго я не кляну… Але ж гэта ён, Міша мой, спрычыніўся, што мая Аўтарэня без пары і віны загінула…

— Чацвёртую кароўку Аўтарэняй звалі? І што ж з ёй здарылася, якая бяда?

— Ну так, чацвёртая мая цялушачка. Купіла яе, ужо як Міша з арміі прыйшоў. Ну такая ўжо добрая кароўка была — свет не бачыў. Не малако давала, а вяршок: за пяць процантаў тлустасць была. І сама такая ўжо дарэчная, акуратная. Ніколі не наробіць там, дзе ляжыць ці есць. І не памаўзлівая: пастухі ніколі слова благога не сказалі пра яе, не мела моды ў шкоду ўлезці. Я нарадавацца не магла. А да ўсяго — адных цялушачак прыводзіла. І дзіва дзіўнае: усе яе ўласнай масці — чорна-белыя. І адзін год, і другі, і трэці, і пяты... Усе яны ў калгас пайшлі. Я й пазнавала іх пасля, як калгасны статак бачыла. Усе на маю Аўтарэню падобныя, як у людзей дочкі — на матку. Ну, але загаварылася я… Убачыла неяк, што загарадка для свінні падгніла і ледзь ліпіць. Кажу Мішу: вазьмі аполкаў таўсцейшых, дошак якіх ды зрабі новую

загарадку, бо паваліцца, чаго добрага. Паслухаўся, пайшоў, паваландэўся там, але зрабіў. Мне не зусім спадабалася, як зрабіў, але, думаю, такой бяды, няхай, абы свінчо ад каровы было адгароджана. Не спадабалася, бо, падалося, надта ж шырока дошкі папрыбіваў, шчыліны між імі такія, што калі малое, дык і свінчо тое вылезе. І от жа, аказваецца, не дарэмна тое, што як ні прыйду ў хлеў, усё мне нешта быццам муляе, замінае. Усё на тыя шчыліны зірну ды зірну. І дайце веры — як сама сабе начаравала. Прыходжу адноечы ранічкою, ледзь развіднівалася яшчэ, і спачатку дацяміць не магла: чаго гэта мая Аўтарэня разляглася тут, што і ў хлеў не ступіць? Прыгледзелася лепш, ажно, дайце радачкі, галава яе ў свінячай загарадцы, ды неяк надта ж дзіўна выкручана. Я да Аўтарэні, нагою лёгенька таўхель — уставай, чаго тут выкацілася, як дурная?! А яна і знаку аніякага не падае. Я рукою хапілася: божачкі, халодная! Загаласіла я, зараўла — пэўна, і суседзі пачулі. Няма маёй Аўтарэнькі, няма маёй рабенькай, маёй чысцюлькі-акуратысткі… Мусіць, захацела пакаштаваць таго, што ў карыце свінячым было, і неяк даўмелася прасунуць туды галаву. А назад вылузацца не змагла, ні бокам, ні скокам, галава ў адзін бок, а сама завалілася на другі, так і задушылася, бедная… Такое гора на мяне звалілася. І ні спажыць, ні прадаць. Добра, падказалі людзі ў Карань пазваніць, там звераферма была, мо яна й цяперака ёсць, не ведаю, дык узялі за бясцэнак чарнабуркам на корм… Такая ліхая доля, чалавеча, напаткала маю чацвёртую карміцельку… — І знячэўку спытала: — Чаму так адбываецца? Вы ж вучоны чалавек, мо ведаеце, чаму так выходзіць, што як чалавеку век не спрыяе, гэтак і жывёле, што пры чалавеку?

— Мо якраз і таму, што пры чалавеку, — кажу з ходу тое, што прыйшло ў галаву. — Карову тую самую вазьміце. Вы ж самі кажаце, што ладзіце між сабою, без слоў сваю Красулю разумееце, як і яна вас.

— А нягож! — пагадзілася бабуля. — Нашто ёй тыя словы, калі ёй і аднаго майго пагляду досыць? Зірну, бывае, не так, не лагодна, як зазвычай, а злосна, калі не ў настроі, дык яна адразу ж наструніцца і ўжо на мяне зіркае сваімі бельмакамі: што здарылася, чаго палохаеш мяне?

— Ну дык і таму! Вы і Красуля ваша — ужо як бы адна істота ў дзвюх іпастасях, даруйце. Таму і атрымліваецца: што вам, тое і ёй, і наадварот.

— Мо й праўду кажаце. Два ў адным, як у той абрыдлай рэкламе крычаць… Ну дык вось. Здарылася бяда тая ў восемдзесят восьмым. Адразу ж купіць новую кароўку не выстарчала — не было за што. Два гады амаль збірала, капейку да капейкі, ад Мішы хаваючыся, у суседкі трохі пазычыла і нарэшце прыдбала кароўку — трэцім целем была. Звалі яе Рагуляй. Не падабалася мне імя такое, ды што зробіш, калі яна ўжо звыклася, акурат на яго азываецца? Ат, думаю, Рагуля дык Рагуля, малако ж не з імя, а з вымя. І нічога благога пра яе не скажу. Людзі, што прадавалі яе, праўду казалі, не хлусілі: і не наравістая, і не пераборлівая, і спакойная, і малако лёгкае, цыцкі не трэба цягаць, сілу прыкладаючы. Міша, яшчэ жыў быў, бы віну сваю адчуваючы перад яе папярэдніцай, за Рагуляй упадаў — ведама, як цвярозы быў. Ні крыкам на яе не замахваўся ніколі, ні дубцом. І п’яненькі, бывала, ідзе да яе з блінам ці скібкай хлеба, але яна як разумела, што ён п’яны, і не любіла, адварочвалася ад ласункаў. Не, я ж кажу: разумнае стварэнне. За сабаку разумнейшае... Сабак я не люблю, псіну іхнюю не выношу. Нейкі час быў у мяне цюцька, малы такі звягала, дык жа займеў моду: як ні выйду на двор, дык каб абавязкова палашчыцца, пацерціся аб мяне, аб мае ногі, спадніцу. А каб цябе пранцы, кажу, гэтак церлі, як ты ля мяне трэшся! Пасля дзе ні іду, дзе ні сяду, а ўсё мне выдае, што ад мяне псінай патыхае. Добра, што знайшоўся чалавек,

забраў яго ад мяне. Абыдуся я ўжо без такога вартаўніка, няма ў мяне чаго красці. Во, хіба Красулю толькі…

Расповед бабулін блізіўся да канца. Рагуля, да якой дайшла ў ім чарга, была ў жанчыны пятай. А шостая — гэта ўжо Красуля, што ляжала і спакойна жавала жуйку, лічы, побач. Але ўжо і сонца прыкметна паніжэла, ды і бабуля мая, па ўсім было відаць, прытамілася, час быў развітвацца. Таму ўзяў я ў гэтым на сябе ініцыятыву. Папытаў, як падагнаў усё роўна:

— І ці доўга ж была ў вас Рагуля, ці ж ручыла вам з ёю?

— Як вам сказаць, — развяла бабуля рукамі. — Каб мала, дык і не, але і каб надта доўга — таксама не. Век свой каровін, як і Аўтарэня, у мяне не зжыла. І не па маёй віне. А Мішы ўжо тады не было, як з Рагуляй тая бяда здарылася.

— І што за бяда?

— Ат, не кажыце. На рог напаролася. Ну не сама, ведама, — прапаролі. Другая карова ў полі рогам пуза прабіла. У пахвіне. Думалі, зажыве, і ветэрынар казаў, што трэба спадзявацца, ажно — не, не на спадзеў было. Ёй усё горш і горш рабілася, тэмпература паднялася, есці перастала. От і давялося дарэзаць. Мяса ў калгас узялі. Якраз тады шабашнікі кароўнік новы ставілі, вось яны маю Рагулю і з'елі, хай ім будзе добра… А тым годам, дарэчы, тым жа летам, у нас і яшчэ адна бяда з каровай здарылася. І падобная, і непадобная. Карова рогам машыну прапарола. Яна дарогу пераходзіла, а таму карцела хутчэй праехаць. Піпікаў і сунуўся карове напярэймы. Дык яна ў злосці ці проста так, ад мух адмахваючыся, матлянула галавой і рогам прабіла пярэднія дзверцы. Не наскрозь, а толькі верхнюю бляху. Добрую такую дзірку зрабіла. Дык той шафёр выскачыў з машыны з нейкай жалязякай і карове раз, другі, трэці па галаве. От карова і ногі выпрастала. А той сеў сабе і панёсся далей. Пакуль сёе ды тое, пакуль гукнулі гаспадара і прывезлі ветэрынара, дык яна і духі аддала. Во як было, чалавеча. І ў мяне рог, і там таксама рог…

Я падняўся з зямлі першым. Бабуля — следам. Значыць, і яна таксама чакала гэтага моманту? Паставіўшы на ногі свайго каня, сказаў і сам сабе, і бабулі:

— Думаў, даеду да Янушкавіч, даўно не быў, пагляджу, што там ды як, але ўжо хіба іншым разам…

— І мне пара падымаць Красулю ды клыпаць у бок хаты, — адгукнулася бабуля. — Казала Паланея — не паранее.

— Дзякуй вам за расповед пра вашых карміцелек! Не дарэмна ўсё ж я выбраўся ў дарогу. Каб пачуць такое, варта было б і куды далей паехаць.

— Ай, што вы ўжо такое там пачулі! Я ж не выдумляла нічога. Жылося і вялося гэтак, от і ўсяго.

— Ну не скажыце! Пражыць жыццё — адно, а перажыць яго — зусім іншае, не кожны на гэта здатны, — не пагадзіўся я і дадаў: — Дзякуй яшчэ раз! Здароўя вам! Пажывіце яшчэ, патрымайцеся! Разам са сваёй кароўкаю!

— Дзякуй і вам на добрым слове! Здароўечка вам і ўсяго найлепшага!

Дарога дадому, незалежна, доўгая яна ці кароткая, кажуць, заўжды лягчэйшая. А тым больш — з апошняга пагорка перад Канікавічамі. Адсюль яна бяжыць амаль без пад'ёмаў — усё з гары ды з гары, ажно, лічы, да самае хаты. Еду я няспешна, лёгка, зрэдчас націскаючы на педалі. Еду і думаў пра пачутае ад бабулі, пра яе самую. Мо трэба было б спытаць, дзе яна жыве зараз — у Канікавічах, бо ад пасёлка і следу не засталося, ці вярнулася нейкім чынам у родныя свае Айнаравічы? Зрэшты, гэта не так і важна. Важна тое, што яна ёсць, жыве яшчэ, што яшчэ наогул жывуць побач з намі такія вось

старыя людзі, якія на сваіх плячах вытрымалі, вынеслі і тую самую вайну, і пасляваенныя нягоды, і пазнейшыя свае і грамадскія беды і ўдары лёсу. Быў і ёсць у іх нейкі стрыжань, што не даў і не дае зламацца, сагнуцца, панікнуць духам і ачарсцвець душою. Не наракаюць ні на жыццё, ні на людзей. Так жылося, так вялося — навошта ж нешта выдумляць ці дамысліваць, няма ў тым сэнсу. Жыццё само па сабе — вялікі і неацэнны Боскі дар, і мусіць папраўдзе наракаць на яго не трэба. Трэба жыць, але гэтак, каб у рэшце рэшт пра цябе сказалі: ён быў дарэчны чалавек.

Гэтак добра яна сказала пра майго бацьку — дарэчны быў чалавек. Бацькі даўно няма, а людзі яго памятаюць і шануюць гэтую памяць. Ці скажа хто пра мяне гэтаксама праз колькі дзясяткаў гадоў, калі мяне не будзе?...

Думаў пра ейнага Мішу, які так і не стаў Міхаілам Міхайлавічам. Колькі падобных трагічных лёсаў у хлапцоў і мужчын ягонага і наступных пакаленняў! Гены вінаватыя? Першародны грэх бацькоў і мацярок? Грамадскія і сацыяльныя скруты і перакруты? Не без гэтага. Ды галоўная прычына ў тым, што калісь была забіта, знішчана духоўнасць, вера ў святасць і неацэннасць самога жыцця. А калі гэтага няма, тады дазволена ўсё, як пісаў расійскі класік нашага, беларускага паходжання. Усё добрае пачынаецца з павагі да чалавека, а ўсё благое — з непавагі да яго. Непавага, сцвярджэнне нікчэмнасці і таннасці чалавека ўзгадоўваюць лёкайства, падхалімства, зайздросліваcць, халуйства, прадажнасць, несумленнасць, двурушніцтва, безадказнасць, абыякавасць і — тое ж п’янства. Доўгія гады нам казалі, што чалавек — гэта гучыць горда, а самі рабілі зусім іншае, відочна паказваючы і сцвярджаючы, што чалавек — гэта казюрка, чарвяк, шрубачка, пылінка, нішто. І некаторыя людзі выраслі казюркамі, чарвякамі, шрубкамі. Бедны Міхаіл Міхайлавіч, пазашлюбны сын п’янтоса і сквалыгі міліцыянера і змучанае нішчымніцай, бояззю, бяспраўнасцю і роспачлівасцю стараннае калгасніцы, — ці мог ты ўзгадавацца, вырасці іншым? Наўрад …

Яшчэ ці не з большым болем думалася пра бабуліну Ірку ў далёкім, проста недасяжным сёння Узбекістане. Ёсць дзеці, унукі, нібыта і не трэба больш нічога для шчасця. Ды няма вакол чалавека, да якога можна было б звярнуцца з родным словам, заспяваць родную песню, паплакацца ўголас, калі сцісньуць душу і сэрца незразумелыя сум і боль. Вядома ж, Ірка не навучыла сваіх дзяцей матчынай мове: рабіць гэтага красуні-беларускі, сёння жаданыя нявесты для мужчын з усяго свету, не ўмеюць. А ў заўсёднай рупнасці і турботлівасці неўпрыкмет падкралася старасць. Яна ж заўсёды прыносіць з сабою настальгію па тым часе, калі дрэвы былі вялікія, і па тых мясцінах, дзе тыя дрэвы раслі. Бедная Ірына Міхайлаўна, дачка шчаслівай маладой жонкі і любячага, ласкавага і пяшчотнага мужа, якім суджана было сысціся і пабрацца на самым пачатку вялікай і жорсткай вайны, у выніку якой бацька не пабачыў свайго дзіцяці, а маці вымушана была цягнуць мазольнае і невыпрэжнае ярэмца маладой удавы, — як ты там, на сваёй і не сваёй радзіме? Што табе сніцца, якія песні і які водар прыносіць табе стэпавы вецер, які сугрэў цела і душы дорыць табе спякотнае паўднёвае сонца? Пэўна ж, бачыш у сне свае родныя зялёныя пагоркі і духмяныя лагчыны-лугі, ціхія лясныя баравіковыя мясціны і студню з высокім асверам над ёю, людзей, сярод якіх падрастала, хлапцоў і дзяўчат, з якімі гуляла і вучылася, — і тады цэлы дзень сумуеш і нудзішся, і ўсё ў цябе валіцца з рук, і сноўдаешся ты па хаце і ля хаты, як непрыкаяная. Ці прыедзеш закрыць вочы старой маці, што ўберагла цябе і выгадавала ў невыносна цяжкія ваенныя і паваенныя часіны? Не чуваць адказу…

Ты заўсёды нясі мяне, мой «конь», дадому. Дома — добра.



Фёдар ГУРЫНОВІЧ

# НА КУПІНЦЫ, НІБЫ АДАМ...

## НЕ МАГУ НЕ ЗДЗІЎЛЯЦЦА

Я тут усё да дробязі пазнаў:
Звярыны лаз, кастрышча, узбалотак,
Расталы луг, дзе ў сто птушыных глотак
Прастор крамсае ранняя вясна.

Я шапку зняў; па лысіне цячэ
З нябёсаў маладых блакіт бясконцы.
І ўсё жывое вылезла на сонца;
І красавік жыцця аснову тчэ.

Пакручвае-паверчвае бабёр
Лазіну ў лапах, быццам бульбу студзіць.
Варушыцца ікры жабінай студзень,
Тунэль капае ўвішны крот-сапёр.

На ўзлеску лось пафырквае, скубе
Гаркавы водар клейкае лістоты.
І коцікі рудыя на вярбе,
Нібыта ў музыканта ў сшытку ноты.

Больш за паўвека па зямлі хаджу,
Ды, дзякуй богу, не адвык здзіўляцца

---

***Гурыновіч Фёдар Фёдаравіч*** *нарадзіўся 15 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы на Салігоршчыне. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працаваў сакратаром камсамольскай арганізацыі будаўнічага ўпраўлення, мастаком-афарміцелем, карэспандэнтам раённай газеты, дырэктарам краязнаўчага музея. З 1986 г. — у газеце «Калійшчык Салігорска»: карэспандэнтам, адказным сакратаром, рэдактарам.*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы для дарослых і дзяцей: «Хлеб і соль» (1980), «Шматгалосая кветка» (1983), «Вішня цвіце» (1992), «Пад знакам Дзіяны» (1995), «Птушыная азбука» (1997), «Сто хрустальных родничков» (2000), «Рэчка» (2003), «Застаецца вера» (2010), «Соловей» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).*

Бярэзніку ў бліскучым волкім глянцы,
З аранжавымі вушкамі вужу.

Андатрам, што грызуцца на куп'і,
У бойцы заваёўваючы самку,
І куліку, які ў раскошным самым
Каўнерыку ўсё ўпрошвае: ку-пі!

Куплю, куплю, я ўсё табе аддам;
З табой і я памаладзеў, здалося.
На купінцы тваёй, нібы Адам,
Стаю, зачараваны шматгалоссем.

Між тым начлег шукае весні дзень,
Змяркаецца, і рукі пакалелі.
І вольха, быццам Ева, па калені
Стаіць у перламутравай вадзе.

## ВОГНІШЧА

У глухую ветраную ноч
Ззяе на вандроўніцкіх арбітах
Вогнішча, як паляўнічы нож,
Віртуозна ў пень гарэлы ўбіты.

Слухаю паднебныя вякі,
Дзе ў мярэжы ўблыталіся гусі.
Гэта з іх падкрылкаў шапаткі
Дождж у наша вогнішча цярушыць.

Мо зманілі б птушкі і мяне,
Хоць дарога ў вырай не прамая.
Ды Айчына цапка за каўнер
З нараджэння самага трымае.

Паляцеў — нічога б не забыў.
Але Богам мне наканаваны
Край, дзе піў з крыніц, збіраў грыбы,
Дзе каханне лёсам даравана.

Меў я шчасце ў гэтай старане,
Хоць і гора меў; маўчы, дарадца,
Тут да болю дарага ўсё мне,
Ад чаго не змог бы адцурацца.

Як з гарбом, жыць буду я з віной,
Што няшчасця многа ў Беларусі…
І крычаць, што вернуцца вясной
У куток бацькоўскі з поўдня гусі.

Астывае вязкая ралля,
Як мяздра садранай з воўка шкуры.
І ў касцёр падкідвае галля,
І ўздыхае мой прыяцель хмуры.

## СОН

Возера пад гарой,
Елак града над кручай.
Сёння мне сніўся ўнучак,
Месячык ясны мой.

Быццам вясной мароз,
Быў гэты сон зацяты —
Поўныя горкіх слёз
Родныя вачаняты.

Мне гэты плач малы
Здаўся вялікім крыкам.
Што ён прасіў, маліў?
Тату, напэўна, клікаў.

Раптам — на ўсю зямлю —
З нейкай магічнай сілай:
— Дзед, я цябе люблю…
— Госпадзі, Стась мой мілы!

Я цябе й тут шукаў
Хоць ты далёка — ведаў.
Мокрай была шчака,
Як ад расы, і ў дзеда.

## КРЫВОЕ ДРЭВА

Якое прыгожае дрэва крывое
З тарфяніка цягнецца ўверх! —
Над хмарнай вадой, над калянай травою,
Як шэры падранены стэрх.

Як тундравы птах над балотам іржавым.
У ломкім каравым галлі —
Крывая альшына, нібыта чужая.
Чужая на роднай зямлі?

Якія пад ёй прагулі землятрусы?
Якія — над ёй — перуны?
Крывая альха — быццам лёс беларуса,
Віноўны які без віны.

За рэчкай стаяць маладыя асіны,
Трымцяць палахлівай сям'ёй.
Свінцовае неба часоў Еўфрасінні
Крамсае вятрыска над ёй.

Што думае дрэва ў сваёй адзіноце?
Што хоча спытаць у Багоў?
Заходзіцца сэрца ў бязмежнай сумоце,
Калі я гляджу на яго.

## БАЛАДА ПРА ПАСТКУ

Дзе ў поўнач сава наразае кругі,
Каля занядбаных кар'ераў,
У змрочным дупле на балоце глухім
Я высачыў дзікага звера.

Я выварыў пастку ў шыпульках сасны
І цапкімі дужкамі клацнуў.
І з бэзавай грудкаю голуб лясны
Прынадаю стаў першакласнай.

І пастка схавалася ў здрадлівы змрок,
І вольху здушыў адмысловы шнурок.

Прыснілася мне, як звярок скрыгацеў,
Метал карабаціў зубамі,
Рабіў выкрунтасы на пругкім хвасце,
Нібыта ён прагнуў забавы.

Караскаўся ўпарта па шорсткай кары,
Давіўся няволяю горкай.
І тлелі нябёсы далёка ўгары
Спагадліва-зманлівай зоркай.

Пакутна я бачыў праз мроісты сон,
Як звер свой прытулак дратуе,
Як жаласна стогне і фыркае ён,
Губляючы восць залатую.

Ён лапу сваю ненавісную грыз,
Здранцвелыя кіпці абломваў,
Пакуль не скацілася прывідна ў хмыз
Пустынная зорка з аблокаў.

А ранкам матуз, набрынялы крывёй,
Прынёс я да сябра ў палатку,
І ў сціснутых сківіцах пасткі маёй
Калматую цёплую лапку.

І сябар спружынай, нібы незнарок,
Па-змоўніцку здзекліва шчоўкнуў,
І пальцам, якім націскае курок,
Пагладзіў па лапцы пяшчотна.

Дымком зацягнуўся:
— Бач, падла, ўцякла…
І быў яго позірк з разбітага шкла.

## ПРЫЗНАННЕ

Дамоў апоўначы прыцёпкаю —
Пустэльнік вечны — з палявання.
І да цябе, пад коўдру цёплую,
Тваім сагрэтую дыханнем.

Увесь азяблы і здарожаны,
Увесь няголены, як шчотка.
А ты не спіш яшчэ, трывожная;
І дотык твой — такі пяшчотны!

І я лаўлю ў спакуснай цемрадзі
Твае падатлівыя губы.
Ах, колькі ў нас яшчэ наперадзе?
І ты мне шэпчаш:
— Вечнасць, любы…

Ты пахнеш позняю калінаю,
Зарою клопатнаю яснай.
А я — журбою жураўлінаю,
Кастрамі і ружэйным маслам.

Вось і затулены ад згубы я,
І ў ноч сцякла мая трывога.
Як мне з табой спакойна, любая,
Нібы за пазухай у Бога.

Тады чаму ж начамі волкімі
У снах уладных часта бачу,
Што ў лес спяшаюся з двухстволкаю,
Пачуўшы страсны гон сабачы?





Маргарыта ЛАТЫШКЕВіЧ

# АПАВЯДАННІ

## Два літры мора

Яна ўвайшла, горда несучы цёмныя кудзеркі на галаве і цішотку з Мікі-Маўсам на худзенькім целе. Закінуўшы галаву, са спакойным інтарэсам сузірала мяне, пакуль, незалежна ад нас, адбываліся неабходныя элементы знаёмства — каго ды як завуць.

Пасля акуратна абцягнула свайго Мікі-Маўса і вельмі сур'ёзна сказала:

— А я ведаю, як маляваць русалак. А Вы?

Усе мае сціплыя дасягненні вокамгненна пабляклі на гэтым фоне, і, ураджаная да глыбіні душы, я лісліва, прыніжана папрасіла русалку мне — намаляваць.

Новая знаёмая зірнула з-пад цёмных кудзерак іранічна, але досыць паблажліва і папрасіла — перад тварам сапраўднага мастацтва — зусім няшмат: фламастараў ды паперку. І тое, і другое, на шчасце, адразу знайшлося на маім працоўным стале.

— Вы нават можаце дапамагаць, — дазволілі мне з вышыні салідных шасці гадоў. Я не такая дурная, каб адмаўляцца ад падобных прапаноў, таму з гатоўнасцю схапіла бліжэйшы фламастар.

Мой эксперт па русалках тым часам паважна казаў:

— Русалкі жывуць у вадзе. Таму спачатку, каб русалцы было хараша жыць, трэба намаляваць ёй вады.

— Колькі літраў? — азвалася я з імпэтам. Эксперт досыць глыбока задумаўся, смешна зморшчыўшы маленькі нос.

— Прыблізна два… літры… мора.

Памер А4, думаю, змясціў бы і болей, але наша русалка, відаць, была не дужа патрабавальнай. Я паспела зрабіць некалькі сініх штрыхоў на паперцы, калі мяне рашуча прыпынілі.

---

*__Латышкевіч Маргарыта Юр'еўна__ нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў горадзе Брэсце. Скончыла філалагічны факультэт БДУ (2011).*

*Працуе ў Вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору філалагічнага факультэта БДУ. Рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць».*

*Аўтар кнігі вершаў «Пульс навальніц» (2012), друкавалася ў калектыўных зборніках паэзіі і прозы «Мы — маладыя» (2012), «Кахаць і верыць», «Мост Дружбы» (абедзве 2013), «Мой дзень пачынаецца» (2015).*

— Хіба мора так малюецца? — трохі з'едліва спыталі з-пад кудзеркаў. І, не чакаючы адказу, дадалі асветніцкім тонам: — Трэба ж хваляваццa.

Увесь вопыт малявання русалкі для мяне быў досыць хвалюючым, але гэтага, як выявілася, недастаткова.

— Трэба, — тлумачыў эксперт, — каб стол хваляваўся.

У сваім жыцці я бачыла істотную колькасць самай рознай мэблі, але ніводзін з гэтых прадметаў не ўсведамляў сябе настолькі, каб унутрана перажываць хоць што-небудзь. Быў, праўда, адзін дужа падступны фатэль, што перакульваўся, як толькі хтось у яго садзіўся, але не думаю, каб гэты фатэль асабліва пераймаўся незадаволенымі гасцямі.

Усё геніяльнае, аднак, проста, і прымусіць стол быць эмацыйным аказалася лёгка.

А менавіта: трэба стол гайдаць.

— Вы штурхайце ножку, — загадалі мне. — А я пакладу паперу на стол і буду па ёй фламастарам весці. Атрымаюцца хвалі.

Эксперт падумаў і дадаў важка, са значэннем:

— Нутаральныя хвалі.

Мне адразу ж зрабілася сорамна за свае штучныя марскія спробы, таму, каб загладзіць сваю памылку, я вырашыла хваляваць стол з усяе сілы. Эксперт толькі радасна павіскваў, і хвалі атрымліваліся — як належыць: вялікія, драпежныя, пагрозлівыя, амаль як на самай вядомай карціне Айвазоўскага. А што трохі крываватыя — гэта, канечне, дробязі. Затое нутаральныя.

Праз хвілін пяць (псіхалагічна цяжкіх для майго стала) мы набралі дастаткова вады, каб русалка пачувала сябе камфортна. Эксперт трасянуў кудзеркамі, памяняў фламастар і прымаляваў да адной з вялізарных хваляў маленькую чорную кропачку.

— Карабель, — патлумачылі мне.

— А чаму такі мале…

— Ён далёка, — адрэзаў эксперт.

А я ў чарговы раз пераканалася, наколькі можа падманваць знешнасць. Напрыклад, мой русалкавы эксперт, нягледзячы на мілыя кудзеркі, ружовыя шчокі і вялікія карыя вочы, быў чалавекам суровым і бязлітасным. Кінуць карабель з дзясяткамі безабаронных перад стыхіяй людзей у адкрытае мора ў такі страшэнны шторм — дзея, што вымагае сталёвай рашучасці.

Мая новая знаёмая магла б зрабіць паспяховую кар'еру канкістадора, заваёўніка, капітана піратаў. І такі чалавек робіць мне ласку, забаўляе мяне, нябогу, маляваннем фламастарамі?..

Я была ўражана да глыбіні душы, упрост раструшчана велікадушнасцю. Але сяк-так сабралася з думкамі і нясмела спытала:

— А куды яны?..

— На востраў, канечне, — адказалі мне, змерыўшы вачыма, і нават галавою пахіталі — маўляў, што за шэрасць! Сорам засланіў мне вочы, але ў чалавеку, што сядзеў з нагамі на крэсле за маім пісьмовым сталом, незвычайная дабрыня жыла поруч з вусцішнай рашучасцю.

— Гэта востраў, — патлумачылі мне, старанна малюючы на хвалях злева вялікую жоўтую пляму. — На востраве пальмы.

— І скарб, — паспешліва ўставіла я, бо не хацела паказацца зусім ужо неабазнанай у такіх справах.

— І скарб, — пасля паўзы тактоўна пагадзіўся русалкавы эксперт. Не хацеў мяне, неразумную недарэку, крыўдзіць.

— Каштоўнасці там розныя. І пацеркі з сапраўднага пластыку лепшай пробы, і залатая біжутэрыя. Скарб.

Пад цёмнымі кудзеркамі ідзе напружаная, касмічная па маштабах работа — выкрышталізоўваюцца з нічога русалкі. Нараджаюцца не з марской нават пены, а, лічыце, зусім з нічога. З белай паперкі, некалькіх падсохлых фламастараў і двух літраў мора.

…а ў русалак — у тых, што жывуць у моры, — доўгія, доўгія хвасты з зёленай луской. Святло на марскім дне, прапушчанае праз ненажэрныя хвалі, робіцца мяккім, няўстойлівым. Аб луску святло разбіваецца, так што сыплюцца ва ўсе бакі каляровыя водбліскі, палохаючы порсткія чародкі серабрыстых рыбак.

Русалчыны валасы далёка па вадзе плывуць — пасмы мяккія, хвалістыя, зеленаватыя, быццам водарасці. Расчэсваць такія — адным грабеньчыкам не абыдзешся, у дзве рукі не ўправішся.

А рукі ў русалак гнуткія, белыя, пяшчотныя, з перламутравымі пазногцямі — вострымі, заточанымі. Схопіць — і не адпусціць. Доўгія пальцы па струнах спускаюцца і падымаюцца, быццам мора, у несканчонай мелодыі, у бясконцай русалчынай песні.

Песня, заўсёды тая самая, адзіная, крочыць па ненажэрных, па самых страшных нават хвалях, упарта ўзбіраецца на дзявяты вал. Песня падхоплівае ветразі караблёў — тых, што згубіліся ў моры, занадта далёка ад дому, занадта далёка ад берага. Песня буру закалыхае, дождж прыпыніць, вецер пакліча лагодны, самы такі, каб ашчадна нёс карабель па вадзе, вострым носам разразаючы ваду, разбіваючы хвалі на мільёны аскалёпкаў.

Русалкі пяюць, спавіваюць буры сваімі песнямі — і караблі праходзяць над безданню, вяртаюцца ў свае гавані, у блакітныя бухты салёных архіпелагаў.

У гэтай нашай русалкі, па вялікім рахунку, было не так шмат мора і толькі адзін карабель, каб апекавацца. Але яна, уссеўшыся на шэрыя (частыя штрыхі простым алоўкам) скалы, павярнуўшыся да нас спінаю, па якой плылі доўгія валасы, пільна, напружана сачыла за адзінаю чорнаю кропкай на сіні.

Каб тую маленькую кропку не праглынулі самыя нутаральныя хвалі на свеце. Каб з мачты танклявы і чорны, быццам кропка на даляглядзе, юнга радасна крыкнуў ва ўсю моц сваіх лёгкіх:

— Зямля!..

Каб карабель не збочыў і не патануў, каб у жоўтым пяску пад агромністай пальмай калі-небудзь знайшоўся скарб. З біжутэрыяй і сапраўдным пластыкам вышэйшай пробы. А можа, і з чым-небудзь яшчэ. Хто іх ведае, гэтыя скарбы.

— А не цяжка ёй? — спытала я, паківаўшы на нашу русалку. Русалкавы эксперт чмыхнуў маленькім носам і адказаў — сталы шасцігадовы чалавек — вельмі сур’ёзна:

— А каму зараз лёгка? Такая работа.

…ёсць такая работа: сачыць, каб караблі не збіваліся з пракладзенага курсу. Спавіваць словам буры, разганяць навальніцы, поўніць ветразі жывым дыханнем.

Усё для таго, каб у рэшце рэшт на маленькім востраве, згубленым пасярод бязмежнага Акіяна, знайшоўся самы каштоўны на свеце скарб.

Гэта, вядома, нялёгка.

Але — такая работа.

## Доктар Ціханава

У Лілі заўсёды быў пункцік наконт барадатых мужчын.

Пачалося, напэўна, з калыханкі з Дзедам-барадзедам. Тамтэйшы дзед — вусцішны, з ротам да вушэй — хваліўся, як нібыта абышоў белы свет, і пагражаў завітаць непасрэдна да Лілі. Апошняя, уразіўшыся ад адной сустрэчы, пачынала гучна раўці на першых жа нотах бадзёрай дзедавай песенькі і, па магчымасці, спрабавала змяніць дыслакацыю.

Папросту — збегчы.

Прыблізна тое самае адбылося і тады, калі да Лілі прыйшоў — па запрашэнні бацькоў, відаць, — Дзед Мароз. Не зусім сапраўдны, гэта было зразумела адразу. Ліля, якую падступнымі абяцаннямі завабілі ў вітальню, сарвалася з месца вокамгненна і, пакуль яе не зусім разборлівыя, але поўныя жаху скаргі яшчэ гучалі над здзіўленым чырвананосым дзядзькам, ужо досыць аператыўна схавалася ў бацькоўскай шафе.

— Дзядзечка табе падаруначак дасць, — лісліва абяцалі бацькі звонку. — Ты выйдзі, выйдзі, Лілечка.

Нязломная Лілечка дарункам данайцаў не верыла.

А калі тата, пагаліўшыся, сказаў, задумліва сузіраючы свой адбітак у люстры:

— А вось узяць бы і адрасціць бараду!..

Ліля на гэта адказала рашуча:

— Не трэба.

— Чаму? — здзівіўся тата.

— Будзе страшна, — патлумачыла Ліля і, пакутліва саромеючыся самой сябе, дадала, каб раптам не выдаць уласную слабасць: — Страшна… непрыгожа.

На Ліліна шчасце, у таты барада не расла.

А жудасны Дзед-барадзед, між іншым, пачаў часта прыходзіць: цяжка тупаў за сценамі, зазіраў у вокны. Ліля скурчвалася і дробненька дрыжала пад коўдраю, адно каб не бачыць, як па столі павольна плывуць водбліскі ад нахабных ліхтароў на бульвары. Ліхтары і Дзед-барадзед дамовіліся і былі як бы на адным баку. Вядома, супраць Лілі.

Горш стала, калі Ліля зусім захварэла. Падушка занадта хутка станавілася да агіднага цёплай, і аніяк не атрымлівалася легчы зручна, бо нылі калені і спіна, гуло ў галаве. Тлустыя водбліскі на столі падплывалі вусцішна блізка, разрасталіся, а ў вушах суха і злавесна пачыналі стракатаць нябачныя конікі.

Мама сядала на край Лілінага ложка, клала прыемную прахалодную руку на лоб ёй і казала, ссунуўшы бровы:

— Мабыць, высокая тэмпература.

Серабрысты слупок маленькага тэрмометра няўрымсліва поўз уверх. На кухні кіпяцілі чайнік, заварвалі маліну, а на століку з’яўляліся бутэлечкі з зеленаватым сіропам і бліскучастыя пласцінкі з белымі таблеткамі.

Каб не было сумна, бабуля прыходзіла чытаць Лілі старую тоўстую кніжку ў шэрай падранай вокладцы, з-пад якой так і сыпаліся пажоўклыя старонкі, — самую залюбленую кніжку. Па шэрым фоне белымі літарамі было напісана: «Беларускія казкі». Казкі былі збольшага пра дурных паноў і кемлівых сялян, часам — пра каралевічаў і цмокаў. Каралевічы і цмокі таксама былі дурнымі (па чарзе або нават адначасова), але Лілі яны падабаліся. А ў некаторых казках дзейнічалі разумныя салдаты і празмерна даверлівыя чэрці.

І тых, і другіх Ліля бачыла ў тэлевізары — яны, мусіць, памірыўшыся, разам вялі дзіцячую перадачу і расказвалі розныя цікавосткі. Часам, аднак, нахабнічалі і без запрашэння завітвалі ў сны, і гэта не столькі страшыла (безбародыя ж былі), колькі выклікала Ліліна справядлівае абурэнне.

Але калі слупок у тэрмометры вырас аж занадта, казкі не асабліва дапамагалі. Электрычнае святло рэзала вочы, і вечаровы жаночы голас «Панарамы» зрабіўся непрыемным, рэзка біў па вушах. Ліля то разлівалася ў невыноснай гарачыні, то калацілася ад холаду, так што казкі неяк праходзілі паўз яе, не складваліся, рассыпаліся на слоўцы, не пачаўшыся нават.

— Кхе-кхе!

Штурхнуўшы мяккай лапай дзверы, заходзіў кот, бязгучна крочыў па коўдры ў легкадумныя кветачкі, пасоўваўся бліжэй. Мокры і халодны, быццам льдзінка, чорны нос кранаў Ліліну шчаку — і кот, патупаўшы на месцы, клаўся побач, падкаціўшыся пад самы бок. Мяккую цёплую поўсць можна было намацаць у паўсне, ад гэтага рабілася спакайней, і Дзед-барадзед не зазіраў у акно так нахабна, і столь не калыхалася ад гарачыні. Кот умеў вельмі соладка, упрост на зайздрасць спаць, таму спаць побач, за кампанію з ім было і цікава, і прыемна.

— Калі чалавек спіць, то папраўляецца, — казаў тата і Лілі, і кату.

Ліля папраўлялася досыць марудна. Нос яе ніяк не хацеў дыхаць, таму даводзілася хапаць паветра ротам. Таксама нікуды не сыходзіла брыдкая гарачыня, і мама, у чарговы раз выцягнуўшы тэрмометр у Лілі з-пад пахі, з недаверам паглядала на слупок срэбра.

Гэты мамін недавер і стаўся прычынай таго, што раніцай у вітальні тры разы пазванілі ў дзверы. Загулі галасы, хтось цяжка пакрочыў па калідоры — і ўвайшла, падціснуўшы вусны, змрочная мажная жанчына з цёмнымі валасамі і вялікай чорнай торбай — такая, мусіць, ёсць у Дзеда-барадзеда.

Жанчына з торбай увайшла, агледзелася, прысела за стол. За ёй крочыла мама, дагаворчаючы размову, што пачалася ля дзвярэй:

— …хварэе ўсё, не ведаем, што рабіць.

Ліля і кот, лупаючы вачыма, прыціхлі на ложку.

— Нічога дзіўнага, — азвалася жанчына густым голасам, ад якога затрымцела шкло ў кніжнай шафе, і з дакорам пакруціла галавой. Выцягнула ў бок Лілі руку з доўгімі чырвонымі пазногцямі: — Вось гэта — што?

— Што? — здзівілася мама.

— Кот! — сама сабе адказала жанчына з торбай. — А кот павінен жыць там, дзе павінен жыць.

І, урачыста ўзняўшы палец у столь, патлумачыла:

— На вуліцы!

Ліля вельмі пакрыўдзілася — за ката. Яна была пераканана, што кот усётакі хутчэй «хто», а не «што», і на вуліцы жыць не павінен. Жанчына тым часам дастала з торбы чорныя правадкі з сярэбранай блямбай і, уторкнуўшы іх сабе ў вушы, стала вазіць блямбу па Ліліных грудзях і спіне. Пасля безуважна зазірнула Лілі ў горла, пачасала асадкай нос і запісала некалькі радкоў на паперцы.

— Цяжкавата, цяжкавата, — глуха басіла жанчына з торбай, сыходзячы. — Запусцілі. Каты і ўсё такое.

Чорная торба параіла маме рознага, і гэтае рознае Лілі страшэнна не спадабалася. Мама, канечне, была разумнай і не паставілася да абвінавачванняў у бок ката сур’ёзна. Але астатняе ўсё-такі спрабавала выконваць. Ад новых — жоўтых — таблетак яшчэ мацней гула галава і перасыхала ў

роце, а праз салодкі напой з какавай, куды далівалі смярдзючы каньяк, замест звычайных сноў была проста ліпкая чорная бездань. Дыхаць было цяжка, Ліля натужна хрыпела і душылася, захлыналася кашлем, і ў роце ўвесь час стаяў прысмак какавы.

Праз усё гэта Ліля не асабліва здзівілася, калі праз некалькі дзён зноў праз сон пачула ранішнія званкі. Не было сілы здзіўляцца.

Зноў з’явіліся галасы ў вітальні і крокі на калідоры, але дзверы пакоя ў гэты раз адчыніліся мякка, быццам кот далікатна падчапіў лапай. Разам з мамай укацілася ў пакой маленькая і сівая жанчына, з кароткімі валасамі тырчком, ва ўтульным шэрым світары. Несла пад пахай руды партфель — заслужаны, з пазнакамі часу, з зыркімі зашчапкамі. Пабачыла Лілю — і падміргнула, прысела побач.

— Ты, значыцца, тут хварэеш?

— Ага, — прахрыпела Ліля. Кот падняў галаву, уважліва паглядаючы на госцю. Падняўся, пацягнуўся, ленавата выцягваючы чорныя лапы, і саскочыў з ложка, закруціўся ля яе ног, падняўшы кароткі хвост.

— Не, хварэць нам не трэба, — добразычліва балбатала госця, зазіраючы Лілі ў горла з дапамогаю чайнай лыжачкі. — Нашто нам хварэць, праўда? Мы хварэць не будзем.

— Не будзем, — з гнюсавым энтузіязмам пагадзілася Ліля. Пагаджацца было і прыемна, і радасна, бо маленькая дзелавітая госця на дзіва смачна пахла: марозным паветрам і неразборлівым рэзкаватым водарам — пахам ці то чысціні, ці то лекаў. У яе рудым партфелі таксама былі правадкі з блямбай.

— Гэта каб цябе слухаць, — патлумачыла госця і прасіла то дыхаць, то не дыхаць. Ліля адказна сапла, кот цёрся шчакою аб руды партфель. Госця нават, пішучы штось на паперцы, пагладзіла яго па спіне, пачасала за вушкам.

— Нічога, што ў нас тут кот? — хвалюючыся, спытала мама. — Нам казалі…

— Што вы, наадварот, — госця замахала рукою. — Каты, сабакі — гэта ж сябры. Без гэтага — як?

Прыемная госця выступіла рашуча супраць какавы і жоўтых таблетак. Нават раз’юшылася трохі, даведаўшыся пра такое лячэнне, пачала сыпаць пагрозлівымі словамі, якія не надта пасавалі да дабрадушнага круглага твару. А пад канец звярнулася за падтрымкай да Лілі:

— Ну не, такога нам не трэба, праўда?

Ліля энергічна ківала, і так — разам — маму пераканалі. Пасля яна распавядала тату:

— …так Доктарціханава сказала!

Гучала і важка, і ўрачыста, у адно налітае непераможным аўтарытэтам слова.

— Доктарціханава! О!

Быццам гучны тытул або геройскае званне.

З аптэкі, між тым, хутка прынеслі новыя лекі — белыя кроплі, якія пахлі, быццам госця, марозам і чысцінёй, і новыя маленькія таблетачкі з крутымі бакамі. Ні ліпкай чорнай бездані, ні Дзеда-барадзеда ў снах больш не было. Замест прыходзілі пухнатыя звяры ў шэрых утульных світарах, і пра іх Ліля цвёрда ведала, што — сябры.

А яшчэ праз некалькі дзён прачнулася раніцай з лёгкаю галавой і амаль без казытлівага кашлю ў горле. Села ў ложку, працерла кулаком вочы і паведаміла кату вельмі сур’ёзна:

— Гэта ўсё Доктарціханава.

Кот маўчаў, але, вядома, усё-ўсё разумеў.

## Званіў

— Званіў, — сказала Ані, хітра паблісквраючы вачыма, Валянціна Пятроўна. — Званіў.

Бледная Анечка, якая толькі-толькі вярнулася са сталоўкі, зніякавела, знерухомела. Пакецік з апельсінавым сокам небяспечна хітнуўся ў руцэ.

— Хто?

Валянціна Пятроўна гулка, быццам у бочку, і аж занадта шматзначна засмяялася. Заскакалі на пышных грудзях залатыя ланцужкі, з выклікам заззяў залаты разец у верхняй сківіцы.

— Не ведаю, не ведаю…

І апошнім словам, быццам кантрольным стрэлам, пяшчотную Аню дабіла:

— Мужчына!..

Аня, чырванеючы, пераступала з нагі на нагу. Пакецік з сокам дробна дрыжаў, і на вейках гэтаксама дрыжалі слёзы.

Усе пяць сталоў бессаромна і сквапна разглядалі безабаронную Анечку і, натуральна, ужо выводзілі ў сваіх пергідрольных галовах, што за ён і чаму званіў. І чаму — Анечцы.

— Гэта не тое, — прабляяла Аня ледзь чутна. — Вы… не думайце.

— Мы не думаем, — з салодкай атрутаю адгукнуліся з трэцяга стала, дзе за стосамі папер мільгаў светлы чуб Зоі Піліпаўны. Другі стол напаўголаса заўважыў, што — вось яно, маладое пакаленне. Спачатку гэтыя кавалеры сюды званіць пачнуць, а тады і прыпнуцца.

— Гэта не тое, — без асаблівай надзеі паўтарыла Аня.

Сталы не верылі.

Сярод гэтых сталоў, і папер, і шафаў з непад'ёмнымі тэчкамі Аня з'явілася некалькі год таму, адразу пасля інстытута. Думала — часова, пакуль знойдзецца штосьці лепшае.

Не знайшлося.

Аня тым часам патроху ўрастала ў свой куток паміж пыльным ледзь жывым фікусам, які Валянціна Пятроўна і Дар'я Сямёнаўна выкарыстоўвалі замест попельніцы, і намёртва прыклееным да шпалераў календаром за восемдзесят чацвёрты год. Бланкі, справаздачы і дакладныя былі на стале, а пад сталом — кнігі. Збольшага «пра любоў».

Людзям, якія перанеслі голад і якім жыццёва нестае карысных рэчываў, прапісваюць вітаміны. Аня сама сабе прапісала любоўныя раманы. І ўпарта чаплялася за дробныя падслепаватыя літаркі на рыхлай шэрай паперы, асабліва калі за адзіным акном кабінета на пяць сталоў была сумная слота, калі вусцішна трашчалі пад столлю лямпы дзённага асвятлення, калі Валянціна Пятроўна выкручвала гучнасць у сваёй радыёлы напоўніцу.

Радыё голасна скардзілася на адзіноту, сталы дружна падпявалі.

Аня не скардзілася. Сядзела, падціснуўшы бледныя вусны, над бланкамі і формамі з нечытэльнымі назвамі, старанна вадзіла пальчыкам па бясконцых лічбах. Папраўляла на кірпатым носе круглыя акуляры, звяралася з тоўстымі даведнікамі.

Уся была нязграбная, недарэчная, вечна прастуджаная, з шэранькімі валасамі тырчком, з да смешнага круглым цельцам на худых ножках. Надзявала паўзверх кашулькі пярэстую камізэльку, цьмяныя валасы прыбірала ў тонкі хвосцік. Глядзела на жыццё праз тоўстыя лінзы здзіўлена і як бы загадзя расчаравана. Вуглы рота панура імкнуліся долу, незалежна ад падзей у свеце, што трымаўся на пяці сталах.

— Сіняя панчоха, — за вочы казала пра Аню Валянціна Пятроўна. Казала аўтарытэтна, тонам сапраўднага эксперта. Зрэшты, і мела на гэта права, маючы за плячыма чатыры афіцыйныя шлюбы і тры з паловай «так».

Астатнія сталы з Валянцінай Пятроўнаю пагаджаліся. Аня і сама пагаджалася: цяжка спрачацца з рэчаіснасцю. Але і, не спрачаючыся, крыўдзілася — на Валянціну Пятроўну і на рэчаіснасць.

Нешматлікія калегі мужчынскага полу глядзелі як бы скрозь яе, не затрымліваючы позіркаў. У размове, калі з нейкай прычыны і згадвалі, казалі няпэўна, неакрэслена, расплывіста:

— Ну, тая… у акулярах. Кабінет яшчэ на трэцім паверсе.

Не, дыягназ самой Валянціны Пятроўны ўпрост не мог быць няправільным.

І тут — такое. Ані, смешнай, недарэчнай, нязграбнай, тэлефануе ў абед нейкі пастаўлены мужчынскі голас.

Нонсэнс. Скандал.

— Самае галоўнае, — са смакам расказвала Валянціна Пятроўна, актыўна жэстыкулюючы. — Самае галоўнае, спытаў, калі можна застаць. Разумееце? Я яму — няма, на абедзе. А ён — а калі, значыцца, можна застаць. Падумайце!

Сталы ахалі. Чырвоная Аня сядзела, нізка нахіліўшыся над паперамі, глядзела на лічбы невідушчымі вачыма. Дрыжала ўся, да рэшты — пальцамі, вуснамі, вейкамі, плячыма.

Думала, як думаюць людзі, калі пасля доўгага шляху апынаюцца на вяршыні: стомлена, разняволена, бязладна і — адразу пра ўсё.

Мужчына. Званіў. Прасіў яе, хацеў яе пачуць. Перапытаў, калі вернецца з абеду. Значыць — будзе яшчэ званіць. Значыць — усё яшчэ хоча яе пачуць.

Ад гэтых думак сэрца замірала. Любімыя раманы быццам пераліваліся з мяккіх вокладак з самлелымі прыгажунямі ў Аніна жыццё. Мужчына пабачыў яе — мо ў метро, мо ў краме, мо на вуліцы. І, пабачыўшы, адчуў нешта. І гэтае нешта за Анечкай яго пагнала, і гэтае нешта яму дапамагло Анечку знайсці.

Сэрца пад пярэстай камізэлькай замірала ад салодкага жаху, а бледныя пальцы пад сталом мацней і мацней сціскалі зацяганы бібліятэчны томік.

Мужчына! Званіў!..

Сталы патроху ўліваліся ў працоўны рытм: хтосьці гартаў часопіс з модамі і плёткамі, хтосьці з імпэтам падпільваў пазногці. Валянціна Пятроўна з Дар'яй Сямёнаўнай, адчыніўшы фортку, дружна адорвалі паўжывы фікус конскімі дозамі нікаціну.

І тады, у самы разгар працы, вінтом укручваючыся ў шоргат глянцавай паперы, у трэск лямпаў пад столлю, у пракуранае паветра кабінета, віскліва і патрабавальна зазваніў тэлефон.

Валянціна Пятроўна і Анечка стартавалі адначасова, але на фінішнай прамой абазнаная сталасць перамагла, хай сабе і не дужа спартыўнымі прыёмамі. Спавітыя золатам пальцы Валянціны Пятроўны леглі на слухаўку і паднеслі яе да штучнай перліны ў завушніцы, а ярка-ружовыя вусны выціснулі гнюсавае:

— Трыста сёмая слухае.

Пяць сталоў замерлі ў чаканні. Валянціна Пятроўна, слухаючы кагось, крыва ўсміхнулася і працягнула слухаўку Ані. Тая ўзяла пластыкавую трубку нясмела, з заміраннем сэрца. Прагаварыла, часта лупаючы вачыма:

— Алё?..

— Ганна Сямёнаўна? — спыталі ў яе прыемным барытонам. — Ганна Сямёнаўна Васкевіч? Ленінская, пяцьдзесят, кватэра тры?

— Так, — віскнула Аня.

Трохі дзіўным было, што ён, незнаёмы, новы, ужо ведае яе дамашні адрас, але гэта ўсё, вядома, ад сілы жарсці, што яго так нечакана ахапіла.

«Я твая, — пела ўсё ў Анінай душы. — Уся, уся. На Ленінскай ці на Савецкай, у трэцяй ці ў трыццаць трэцяй кватэры».

Але гэтага Анечка не агучыла, бо барытон, заўважна спяшаючыся, казаў далей:

— З жэка вас турбуюць. Вы на заўтра ў пад’езд электрыка выклікалі? Пакуль ёсць вокны на восем і на трынаццаць.

Аня моўчкі глядзела на пяць сталоў, якія знемагаліся ад самых разнастайных здагадак і марна спрабавалі рабіць выгляд, што не падслухоўваюць.

— Тады ў восем, — цвёрда сказала Аня ў слухаўку, свідруючы позіркам Валянціну Пятроўну. І крохкім голасам дадала, — праўда, толькі пасля таго, як пачула кароткія гудкі:

— Так, так. І я цябе, канечне. Цалую, цалую.

Сталы ахнулі, і нават Валянціна Пятроўна, маналітная, непарушная, змянілася з твару.

А Анечка, расправіўшы плечы і ўскінуўшы галаву, недасяжная, прайшла да свайго стала. І цяжка села, быццам паставіла кропку.

І, ні да кога асабіста не звяртаючыся, але голасна і выразна прамовіла, няўважна кіўнуўшы на сіненькі тэлефон на сцяне ля ўвахода:

— Мой мужчына.

## Пачатак восені

Іх было дваццаць. Пекна, на самы ўрачысты лад апранутых. Твары, праўда, былі не самыя святочныя ды радасныя, хутчэй — разгубленыя.

У вачах чыталася непаразуменне і нават прыхаваная боязь.

Іх было дваццаць — дробных, быццам верабейкі, першакласнікаў. І на два дзясяткі дзяцей — дзве настаўніцы.

Ішлі, прыцішаныя, парамі, неслі ўрачыста і захоплена сваё навюткае адзенне: бліскучыя туфлікі, і белыя кашулькі, і пінжачкі, і спаднічкі, і штонікі. Хлопчыкі раз-пораз кратaлі нязвыклыя яшчэ вузлы гальштукаў, дзяўчаткі потайкам касілі вокам на свае адбіткі ў вітрынах. Думалі: і як жа існуе ў свеце такая вось прыгажосць? І пытальна пазіралі на мінакоў, правяраючы, ці адчуваюць гэтую прыгажосць тыя, сталыя, зусім не святочныя.

Ішлі — і спыніліся. Сталі гэтаксама парамі. Трэба чакаць аўтобуса, ехаць кудысьці. Так нязвыкла, так па-даросламу. Тварыкі спрэс заклапочаныя, маленькія далонькі не кідаюць рукі суседа па пары. Чапляюцца, быццам за саломінку. Гэта зразумела: яны, гэтыя святочныя чалавечкі, маленькія, а вакол усё вялікае — і машыны, і дамы, і дрэвы. Такое вялікае, такое вусцішнае жыццё. А побач толькі сусед, такі самы дробны. Калі стаяць разам, калі трымаць адзін аднаго, то падаецца, быццам трошачкі вырастаеш.

Сёння — пачатак года. Хай сабе не каляндарнага, а навучальнага, усё адно. У такія знакавыя дні, як меркавалі нашы продкі, можна нібыта сягнуць праз час, зазірнуць у будучыню. Прынамсі, калі глядзець уважліва. І я, седзячы тут жа, на звыклым аўтобусным прыпынку, гляджу з-пад пластыкавага даху. Гляджу.

Хлопчык с тоўстымі ружовымі шчокамі настойліва тузае настаўніцу за руку.

— Пецька! — кажа голасна і абвінаваўча. — Пецька!

І, пераканаўшыся, што авалодаў патрэбнай увагаю, працягвае:

— Пецька мне ў вуха крыкнуў! У вуха!

Падступны Пецька ў пары перад ім, няўседлівы і рухавы, так і круціцца на месцы. Нявінна ўсміхаецца, зазірае настаўніцы ў вочы, карцінна б’е сябе кулачком па галаве — нібыта адчуў усю глыбіню і жудаснасць свайго злачынства, нібыта тут жа, не сходзячы з месца, раскаяўся.

Пецькава ахвяра лупае круглымі цёмнымі вочкамі, трывожна прыўзняўшы бровы. Чакае справядлівасці, і ад напружанага чакання ў яго так і дрыжаць вусны.

А я, не маючы сілы адвесці пагляд, усё гляджу наперад, праз гады, праз гэтых дваіх, як праз каляровыя шкельцы глядзяць на сонца. Гляджу — і бачу.

Хлопчык з ружовымі шчокамі вырасце. Страціць, можа быць, дзіцячую пульхнасць, але рысы твару па-ранейшаму застануцца трохі размытымі, быццам няўпэўненымі. «Пецькі» будуць паўсюль: абыходзіць на вучобе і працы, адбіраць прэміі, адбіваць дзяўчат. Усяляк падразаць па дарозе да шчасця і радасна гудзець проста ў вуха сваёй «ахвяры». Ён зробіцца падазроным, ён будзе ненавідзець «пецькаў» глыбока і шчыра, усім сэрцам, і праз пэўны час пачне бачыць падступнага Пецьку ў кожным, у кожным. І зняверыцца, і атруціць самога сябе жоўцю. І будзе адчайна шукаць справядлівасці ў тых, хто вышэйшы — статусам ці пасадаю. А калі там справядлівасці не знойдзе — прыйдзе да высновы, што і тут папрацавалі «пецькі», пакрыўдзілі, абразілі, нашкодзілі.

І ніводнага разу, ніколі не прыйдзе ў ягоную круглую галаву думка не чакаць дабрадаці «зверху», а зрабіць нешта самому. Адстаяць сябе, лепшым зрабіцца. Не, на гэта не хапае ані сілы, ані часу: ён занадта заняты, вышукваючы злавесныя «пецькаўскія» ўплывы.

Настаўніца адыходзіць. Абражаная ахвяра, надзьмуўшыся, глядзіць убок. Падступны Пецька легкадумна скача на адной ножцы.

Я бачу: Пецька аднойчы зробіцца Пятром Аляксеевічам і будзе насіць на працу касцюм і гальштук — зусім як сёння. Можа быць, займее светлы прасторны кабінет з сакратаркай і крыклівымі тэлефонамі. І звыкла, упэўнена стане адводзіць пагрозы, проста б’ючы сябе кулаком па галаве, гуляючы ў сумленнае пакаянне. Інстынктыўна засвоіць асновы акцёрскага майстэрства, зразумее, якую маску перад кім варта насіць. А як толькі навальніца праміне, як толькі грымоты ды маланкі больш не будуць паграджаць — заскача на адной ножцы, і закруціцца, і здзекліва пакажа язык.

Аўтобуса ўсё няма, сыры вецер гоніць па асфальце зжоўклае лісце, а па небе — лёгкія белыя аблачынкі.

— Цёплыя дні абяцалі.

Коцяцца машыны, колы бязлітасна круцяцца, намотваючы на сябе чужыя дні, чужыя гады. А я гляджу. Не магу не глядзець.

У першай пары стаяць дзве дзяўчынкі. Дакладней, стаіць толькі адна — тоўсценькая, маўклівая, сур’ёзная. Гэтая паважна, па-даросламу сузірае свет з-за тоўстых шкельцаў акуляраў.

А другая — уладальніца тонкай рудой коскі і вострага носіка, шчодра абсыпанага рабаціннем, — так і круціцца на месцы. То возьмецца ў бокі і павядзе плячыма, то ліха адставіць нагу і драматычна закоціць вочы. Адчувае сваю значнасць, сілу сваёй прыгажосці, разумее выдатна: абы-каго ў першую пару не паставілі б.

Для гэтай Алены Траянскай ужо знайшоўся свой Парыс — аблавухі і бялявы, з пекным сіненькім гальштукам-мятлікам. Выцягвае тонкую шыю, каб быць бліжэй да прыгажосці, і кажа нешта дасціпнае, і сам хіхікае, і пільна сочыць, каб прыгажуня хаця б усміхнулася. Але тая не так проста дорыць свае ўсмешкі, і толькі здзекліва чмыхае, і робіць выгляд, быццам болей цікавіцца агромністай лужынай з вясёлкавай плёнкай.

Бабця ў пярэстым халаціку з яркай хусткай на галаве праходзіць паўз Парыса і Алену, глядзіць скоса і незадаволена хітае галавою.

— Шэльма малая, — кажа бабця голасна, звяртаючыся нібыта да дарослых на прыпынку, але так, каб прыгажуня чула. — Яно ж такое нягоднае і нараджаецца. Каторае харошае дзіця — стаіць сабе ціхенька, а тая — не-е-е, тая шальмуе, прасці Госпадзі.

Маленькая Алена Траянская застывае на месцы. Я бачу, як падціскаюцца ў яе вусны, як у вачах плешчацца крыўда.

Яна будзе чуць гэта неаднаразова. Занадта часта, пакутліва часта. Кожны раз, нават калі нікога ў пярэстым халаціку побач не апынецца, яна будзе чуць з’едлівы старэчы голас у сваёй галаве. І праз пэўны час сама паверыць, што харошыя — стаяць сабе ціхенька. Не можаш гэтаксама — туды табе і дарога, няма чаго намагацца, няма чаго спрабаваць быць лепшым.

— Адзін раз жывём!..

Тая ж, што ўчэпіста трымае аблавухага Парыса за руку, глядзіць лагодна. І ўсміхаецца, і нават смяецца з асобных жарцікаў, адчуваючы сябе нібыта часткаю дзеі. У першым класе не вывучаюць геаметрыю, таму ёй мала што вядома пра трохкутнікі. І яна ўсміхаецца — шчыра і весела. І трасе пышным белым бантам, і на румяных шчоках яе паўмесяцамі прарэзваюцца ямінкі. Яна шчаслівая.

Яна будзе трымаць свайго абранніка за руку да апошняга. Будзе трымаць нават тады, калі з крышталёваю яснасцю акрэсляцца ўсе вяршыні трохкутніка.

Яна будзе трымаць адчужаную, халодную руку ў сваёй, спрабуючы перадаць хоць драбочак цяпла. І яна будзе ўсміхацца.

Да апошняга.

## Раман з наёмнікам

— Вось, — не без гордасці сказаў Лёнька. І пляснуў на стол тоўстую тэчку з кардону. Падскочылі шклянкі, меленька задрыжала аконнае шкло.

Чакаць ад яго можна было чаго заўгодна. За месяц нашага знаёмства ён паспеў распавесці пра сябе шмат цікавай, хаця і не надта патрэбнай інфармацыі. Напрыклад, што ў яго нібыта ёсць фамільны склеп пад Люблінам. Або што ў школьныя гады ён паспяхова займаўся адзінаборствамі і стаў бы, па словах ажно трох паважаных трэнераў, сусветным чэмпіёнам, калі б не траўма левага запясця. Каб давесці свае словы, Лёнька з размаху біў леваю — той самай — рукою ў сцяну.

— Бачыце, які ўдар, якая сіла?

А яшчэ ён замаўляе сабе простыя белыя футболкі на адным сакрэтным сайце коштам за сотню даляраў кожная.

— Затое і носяцца яны па трыццаць гадоў, я правяраў.

Лёньку было дваццаць дзевяць, і простая арыфметыка абвяргала ягоныя словы наконт праверкі якасці, але ён быў вышэйшы за арыфметыку.

Апрача таго, яго стрыечная сястра, якая размаўляе на шасці мовах, выглядае як фотамадэль, жыве ў Бельгіі і вельмі любіць свайго браціка, называе яго Спартанцам.

Апошняе — заўважыўшы непаразуменне на тварах — Лёнька раздражнёна тлумачыў прысутным так:

— Ну, цар Леанід. Спартанец. І я — Леанід.

Прысутныя на гэта толькі моўчкі лупалі вачыма, і бледны, пухлы, з носамбульбінай і круглымі акулярамі спартанскі цар тады дужа пакрыўдзіўся.

— Вось, — паўтарыў Лёнька.

— Ага, — крохкім голасам прагаварыла я. І пад Лёнькавым настойлівым позіркам узяла тэчку ў рукі, узважыла. Тэчка была цяжкая, як зброя пралетарыяту, і, мяркую, у крайнім выпадку магла б выкарыстоўвацца аналагічна. Як у крымінальных зводках звычайна пішуць — «цяжкі тупы прадмет».

На шэрай вокладцы тэчкі каліграфічнымі літарамі са шматлікімі росчыркамі значылася:

— Пакроўскі Леанід.

Таксама адрас і тэлефоны. І год.

— Гэта раман, — урачыста абвясціў Лёнька. У мяне занылі зубы. Без аніякага звышнатуральнага чуцця зразумела было, да чаго ён вядзе. Занадта часта даводзілася чуць сакраментальнае «Ты ж філолаг, пачытай і скажы, як табе мой вопус».

— Вельмі, вельмі харошы раман, — выпаліла я паспешліва, адчайна спадзеючыся на гэтую сваю хітрасць.

Але Лёня не купіўся.

— Дык ты зазірні ў тэчку, пачытай, ну. Ты ж усё-такі філолаг.

Без асаблівай ахвоты я распусціла тасьму. І застыла, уражаная да глыбіні душы.

У тэчцы ляжалі сшытыя суровымі ніткамі тонкія лісты жаўтаватай газетнай паперы. На лістах з абодвух бакоў было чорна ад літар — друкаваных, на шчасце, але друкаваных такім дзівацкім шрыфтам, што мітусілася ў вачах.

— Гэта раман, — патлумачыў Лёнька і сарамліва заружавеў, быццам дзяўчынка-падлетак.

— Ага, — паўтарыла я. Вока міжволі зачапілася за фразу: «Стомлены Анхелья са стомленай усмешкай на сваім твары сеў са стомай уздыхнуўшы каля сваёй уласнай сястры».

Лёнька, верагодна, непакоячыся за чытача (раптам — не зразумее?), пастараўся як мага больш ярка вылучыць факт стомленасці галоўнага героя. Як і факты прыналежнасці гэтаму самаму герою ягонага твару і сястры. На фоне такога надзвычайнага клопату пра паразуменне з чытачом адсутнасць пары косак — гэта, вядома, дробязь.

— А… анхелья? — у мяне прыўзнялося брыво. Лёнька тут жа заззяў, быццам навюткі рубель.

— Арыгінальна, праўда? Не збіта, так? Не які-небудзь «Джон».

— Ага, — выціснула я ў трэці раз.

А Лёнька распавядаў — з захапленнем і жарсцю. Ён, бачыце, доўга ламаў галаву, як бы вывернуцца з імёнамі. Каб, значыцца, былі свежанькія, не аса-

бліва зацяганыя. Ламаць галаву — гэта ўсе ведаюць — лепей за ўсё на канапе ля тэлевізара.

— А там — навіны! — радаваўся Лёнька, паблісkваючы акулярамі. — А ў навінах, разумееш, усё пра нейкую Анхелу, пра Анхелу, дык…

Я прыпыніла яго кароткім энергічным жэстам. Лёнька прыціх на хвіліну-другую, а пасля зноў завёў сваю шарманку:

— Увогуле, гэта ў мяне фантастыка тут. Фэнтэзі. Толькі без усякай рознай прыдуркаватай магіі, разумееш?

— Фэнтэзі, — прамармытала я, спрабуючы змясціць у сабе гэтую ідэю. — І без магіі?..

Лёнька сцвярджальна затрос зарасцямі на галаве.

— Можа, раман пра Сярэднявечча? Гістарычны?

Мастака можа пакрыўдзіць кожны. І лёгка. Вось і Лёньку я змагла пакрыўдзіць зусім нявіннымі словамі.

— «Гістарычны»! — перадражніў ён сярдзіта. — Тут жа ў мяне іншая планета, не Зямля! Тут жа прынцэса! І ў іх меч! І наёмнік, карацей, яе ратуе, а пасля яна пачынае ў яго… гэта самае…

— Ну?

— Улюбляцца!

Тут Лёнька пабачыў выраз майго твару, успомніў, што ў руках у мяне досыць важкі прадмет, і прыціх. Я нетаропка прагартала рукапіс, міжвольна прыпыняючыся на асобных момантах.

«“Наёмнікі не працуюць дзеля грошай”, — сказаў горды Анхелья граючы мускуламі сваёй бранзовай рукі».

«Лес быў мёртвы. Усё жывое ў ім загінула. Дрэвы стаялі мёртвыя, птушкі злавесна маўчалі і нават мох быў сухі і мёртвы таксама як і ўсё».

«“Ніколі я не буду тваёй, падступны канцлер”, — горда ўскрыкнула прынцэса і злавесна-падступны канцлер злавесна заскрыгатаў зубамі і зарагатаў: “Нават твой горды і адважны наёмнік цябе не ўратуе”».

«Ён прыціснуў яе да сябе сваімі бранзовымі поўнымі мускулаў рукамі і адчуў біццё свайго сэрца. “Гэта любоў”, — тут жа зразумеў Анхелья”».

Горды наёмнік, які працуе не за грошы (відавочна, за аплату натураю), хадзіў па мёртвым лесе з мёртвымі дрэвамі і птушкамі, перыядычна трапляючы ў засады падступнага канцлера. Улічваючы, як часта падступны канцлер заліваўся здзеклівым рогатам, у мёртвым маўклівым лесе ягоныя засады павінна было чуваць здалёк. Але горды бранзовы Ахелья з шалёнай, упрост маніякальнай упартасцю працягваў трапляць у канцлеравы пасткі. Складвалася ўражанне, што яму самому гэта падабаецца.

Зрэшты, чаму б і не? Усё весялей, чым блукаць між мёртвых дрэў, прыслухоўваючыся да маўчання мёртвых птушак.

Пакуль Анхелья быў заняты звычайнымі справамі гордага наёмніка (пастка, засада, гранне мускуламі на бранзовых руках, слуханне мёртвай цішыні), прынцэса вяла не менш насычанае жыццё. Страціць прытомнасць тут, страціць прытомнасць там — глядзіш, і дзень мінуў.

А вось падступны канцлер, мусіць, валодаў тэлепортам (або вельмі хуткім верталётам), таму што паспяваў з зайздроснай рэгулярнасцю дапякаць і Анхелья, і ягонай каханай. Толькі, здаецца, пагражаў ажаніцца з прынцэсай, не сходзячы з месца, і раптам — бац! Ужо ў дзікіх джунглях (магчыма, таксама мёртвых, як і лес) ловіць Анхелья ў пастку з крыважэрных раслін.

— Ну? — нецярпліва спытаў Лёнька. Пакуль я праглядала рукапіс, ён аніяк не мог уседзець на месцы. То круціў аловак у пальцах, то перабіраў

паперкі на стале, то з грукатам перастаўляў шклянкі. Я зірнула на кругленькага цара спартанцаў, уперлася вачыма ў падлогу і, востра ненавідзячы сябе за сваю маладушнасць, замямліла:

— Твор, ён, канечне… І папка такая… шэранькая. І адрас на ёй прыгожа напісаны. Так. Вельмі, вельмі прыгожа напісаны.

Усе магчымыя кампліменты Лёнькаву рукапісу на гэтым у мяне закончыліся. Я не без хвалявання паглядзела на субяседніка.

Да душы, ажно сэрца сціскаецца. Кожны ж зразумее: калі, паглядзеўшы тэкст, пачынаюць весці размову пра тэчку і афармленне, значыць пра сам твор сказаць няма чаго.

Хіба ж можна чалавека крыўдзіць, нават калі той напісаў дрэнь?..

Круглы Лёнеў твар ззяў.

— Так, — са сціпласцю сапраўднага генія казаў спартанскі цар. — Так, многім падабаецца. Усё-такі — раман. І тэма не збітая, і героі арыгінальныя.

Да мяне паступова пачынала даходзіць, што хтосьці з нас кагосьці не зразумеў. Я суха кашлянула і прагаварыла:

— Лёня, а… рэдагаванне? Ты з тэкстам увогуле працаваў?

Ён надзьмуўся. Не ад крыўды — ад гонару.

— Я працаваў па дзве гадзіны на дзень, — адказаў Лёнька. — Паспрачаўся з сябрам-журналістам. Той, бач ты, казаў, што не кожны можа напісаць кнігу. І — вось.

Што «вось», Лёня не ўдакладніў. На мой сціплы густ, прыгоды гордага бранзовага Анхелья даводзілі менавіта пазіцыю сябра-журналіста, а не шчаслівага аўтара.

Але апошняму яшчэ было што сказаць свету. І мне асабіста.

— Заўтра ў выдавецтва панясу, — шматзначна заявіў Лёнька, забіраючы ў мяне сваю тэчку.

— У выда… — я задыхнулася. — У якое выдавецтва, Лёня?!

Спартанскі цар не ўлавіў маю інтанацыю, а таму пытанне зразумеў літаральна. І адказаў на яго — пытаннем:

— А якое ў нас тут самае вялікае выдавецтва?

З круглымі вачыма я — каюся — шэптам вымавіла адну ці дзве назвы.

— Вось туды, — задаволена заключыў Лёнька, паціраючы пухлыя ручкі.

— Лёня, — халадзеючы, загаварыла я. — А дамовіцца з рэдактарам? А… карэктура? І… аформіць рукапіс згодна з…

Спартанскі цар энергічна павёў плечуком, адсякаючы маё балбатанне пра правілы афармлення рукапісаў для выдавецтваў і элементарны працоўны палітэс. Сумняваюся, што ён пачуў хоць штосьці, нягледзячы на ўсе мае намаганні.

— З рукамі адарвуць, — бадзёра прарочыў Лёнька сам сабе. — У нас жа — дзе? У нас жа і няма. А тут — раман!

Я слаба хіхікнула, з апошніх сіл спадзеючыся, што ён так няўдала жартуе. Але Лёнька адказаў мне самым суровым позіркам. Круглы спартанскі цар гаварыў гэта сур'ёзна, і гэта было настолькі жудасна, што ў мяне выступіў халодны пот. Я нават разглядала магчымасць страціць прытомнасць — па прыкладзе Лёнькавай гераіні (граць мужнымі бронзавымі мускуламі не выпадала з-за іх адсутнасцю).

— І лепей бы яны далі мне належны ганарар, — тым часам казаў Лёнька, змрочна зводзячы рэдкія бровы. — А то ведаю я іх: адразу «А дайце за так». Не, мне патрэбныя добрыя грошы за добры твор, ну, як на Захадзе.

Тут я засмяялася ўжо адкрыта, не хаваючыся, але і не без адцення істэрычнасці. Абураны Лёнька звузіў вочы і падціснуў вусны.

— Гэта табе, між іншым, не жартачкі. Гэта — раман. Такога рамана ў нас тут яшчэ не было!

З апошнім пунктам я, у прынцыпе, была цалкам згодная, але наўрад ці гэта задавальняла Лёньку. Развітаўся ў той раз ён са мною досыць халодным тонам.

Недзе тыдні праз два пасля апісанай размовы я зноў сустрэла спартанскага цара. Той павітаўся жыва і, што цікава, гутарку на пытанні калялітаратурныя не пераводзіў. Затое пераявяла я:

— Ну, як раман? Што выдавецтва?

Лёнька бліснуў акулярамі. Памяўся, пакалупаў пальцам сцяну.

— Добра, — адказаў без асаблівай упэўненасці. — Ну, я да іх усё-такі прыйшоў. А там такі… чалавек. Я яму — раман, кажу, напісаў. Хочаце?..

— А ён што?

Горды спартанскі цар пацягнуў носам. На твары ў яго так і было напісана невыканальнае жаданне граць мускуламі.

— Ну…

— Ну?

— Ну, ён сказаў — пакідайце, — ціха прагаварыў Лёнька, пачасаўшы ў патыліцу. — Я і пакінуў. Усё.

Ён прачысціў горла і замаўчаў. І птушкі таксама маўчалі, і мёртвы лес, і мох, і нават падступны канцлер з асабістым тэлепортам.

І толькі дзесьці далёка-далёка, на іншай планеце гордыя наёмнікі — не за грошы, а дзеля забавы — гралі бронзавымі мускуламі, прыціскаючы да сэрца непрытомных прынцэс.





Алесь СПІЦЫН

# КАЛІ НЕРАЗВЕДЗЕНАЙ ВЫП'Ю РАДАСЦІ?

## ДОЖДЖ–РАНІЦА

Дождж-раніца сонныя вочы вітае,
Зямлю і траву пакрысе палівае.

Здаецца, смуткуе аб чымсьці прырода,
Абраўшы дажджы і адклаўшы пагоду.

Ды вось: развіднела між хмараў панурых,
Нібыта надзея скрозь смутак бліснула,

І кроплі, як росы, на кожнае гронцы,
І зёлкі імкнуцца срозь дождж — і да сонца.

І я прачынаюся ў радасць нябёсаў,
Адкінуўшы смутак прастылы-прырослы.

Балюча адкінуць — ды што тут паробіш,
Насычаны стомай любыя дарогі.

Хіба нам звыкаць і хіба нам баяцца,
Як час уставаць і пара апранацца.

Гукнуўшы малітву ў падраныя хмары,
Звышсветнае, новае сонца вітаю.

---

***Спіцын Аляксандр Аляксандравіч*** *нарадзіўся 6 верасня 1979 года ў горадзе Мінску. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2001). Працаваў у Інстытуце эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча, у Мінскім палацы дзяцей і моладзі, Інстытуце фізіялогіі НАН Беларусі. Цяпер — выкладае ў Дзяржаўным інстытуце кіравання і сацыяльных тэхналогій.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Цені верасоў» (2001).*

*Творы перакладаліся на рускую і англійскую мовы.*

І выкрасаць духам, бы крэмнем, надзею!
Я ведаю як!
Я змагу!
Я ж умею!

* * *

У вершалінах
Птушка крыляла:

Паволі,
Магутна,
Ледзь чутна...

Сэрца
Дзівоснае
Прадчувала...

Нябёсамі
Гожымі
Заварожана...

А я ішоў
Сваёю дарогаю:

Ягламі,
Хмызамі,
Верасамі...

Ці шчодраю доляй,
Ці доляю ўбогаю:

Доўга,
Па шчырасці,
Не мог
Вырашыць...

І смягнуў
Трошкі
Сваёю прагнасцю,
Чакаючы шчыра,
Калі
Неразведзенай
Вып'ю
Радасці...

* * *

З вышыні
Касмічнай станцыі
Сінай і Сіён
Не здаюцца
Высокімі...

І становіцца сумна
І боязна часам…

Быццам калісьці даўно
Было
Іначай...

* * *

Гусіная траўка,
Як выбух звышновай
Раскінула каліва
На дарожным пяску...

* * *

Тры спакойныя чаплі
Стаяць у вадзе нерухомай.

Нахохліўшыся,
Сустракаюць світанак
Быццам бы абыякава...

Глянь,
І навучыся чаканню
Нежарсліваму...

Ціш ды адпачынак...

Ды неяк халодна...

## ВОСЕНЬ

Рамонкі вянуць,
Драбы, бы ў мальвы...
Біты шыфер,
У бытоўцы каларыфер...
Вераб'і, канюшына…
Дарогу разбілі

Буйныя машыны:
Пад'ёмныя краны...
Рамонкі вянуць...
Восень...
Дождж і вецер,
Ні кону,
Ні лёсу —
Усё пройдзе, як сон.
А тое, што ў сэрцы,
Застанецца...

* * *

Чорны коцік,
Свечкі кноцік,
І маркота да душы
Грэцца на агмень заходзіць...

Дзесьці ветах,
Брэндзі келіх.
Рана класціся мне спаць,
Варажыць на гнуткіх ценях...

Гэта праўда,
Маю права
Трошкі ў цішы пасядзець,
З думкай вольнай меці справу...

Чорны коцік,
Свечкі кноцік,
І маркота да душы
Грэцца на агмень заходзіць...



# СЭРЦА КАЖА, ШТО Б’Е ТРЫВОГУ...

*Зазіраючы ў гісторыю сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі народаў Расіі, можна знайсці шмат цікавых, вартых увагі фактаў. Як прыклад — франтавая повязь з Беларуссю ўдмурцкага паэта Філіпа Кедрава, які загінуў у нашым краі ў Вялікую Айчынную вайну. На Віцебшчыне партызаніў татарскі паэт Закі Нуры. Беларусь вызваляў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў горна-яўрэйскі празаік з Дагестана Хізгіл Аўшалумаў, у фашысцкім канцлагеры пад Бабруйскам загінуў заснавальнік кабардзінскай літаратуры Алі Шагенцукаў... Шмат хто з творцаў народаў Расіі пісалі пра Беларусь, пра нашых людзей...*

*Геаічнаму народу Беларусі прысвяціў сваю паэму калмыцкі паэт Міхаіл Ханінаў. «Званы Хатыні» — гэта не толькі мастацкі твор, але і мастацкі і жыццёвы дакумент часу. Так склалася ў лёсе легендарнага беларускага партызана Мішы Чорнага, што ён зрадніўся з народам Беларусі. А іначай і не магло быць. Ён жа, выкараскаўшыся з фашысцкай няволі, быў выхаджаны беларускай сялянкай. У лесе сярод народных мсціўцаў жыў адной душой, аднымі думкамі і памкненнямі з сынамі Беларусі. Змагаўся за абяздоленых і пакрыўджаных фашыстамі мірных жыхароў Беларусі. За сваю партызанку Міша Чорны (а гэта і ёсць Міхаіл Ханінаў) атрымаў ордэн Чырвонага Сцяга. Высокая ўзнагарода не выратавала паэта ў будучым ад дэпартацыі разам са сваімі землякамі-калмыкамі. А калі вярнуўся ў Элісту, то рваўся ў Беларусь, імкнуўся як найчасцей наведвацца ў Мінск і розныя куточкі сваёй партызанскай, сваёй баявой маладосці. І, канешне ж, шмат пісаў пра Беларусь. У вершах і прозе згадваў эпізоды ваеннага ліхалецця, згадваў сыноў і дачок Беларусі.*

*А ў Элісце друкаваў пераклады з беларускай паэзіі на калмыцкую мову. Быў своеасаблівым паўнамоцным прадстаўніком беларускай паэзіі ў роднай сваёй старонцы. Выдаў кнігу перакладаў паэзіі Янкі Купалы — якраз да юбілею народнага песняра ў 1962 годзе. Пераклаў вершы Якуба Коласа. Мо з часам яшчэ выдаў бы і яго калмыцкую кнігу ў сваіх перакладах. Стараўся ўцягнуць у працэс сяброўства з беларускай літаратурай, беларускімі пісьменнікамі і сваіх калмыцкіх калег. Ліставаўся з Максімам Танкам, Петрусём Броўкам, Васілём Быкавым, Алесем Бачылам, Сяргеем Грахоўскім, Пятром Шасцерыковым... На*

*беларускай мове пабачылі свет дзве кнігі вершаў Міхаіла Ханінава. Адну з іх цалкам пераклаў Аляксей Пысін. Беларускі паэт-франтавік упадабаў паэзію калмыцкага мастака слова. Вельмі адказна паставіўся да праўвасаблення яго твораў на беларускую мову... А народны паэт Беларусі Максім Танк так пісаў у адным з лістоў Міхаілу Ханінаву: «Адна твая біяграфія — калі задумацца, глыбока ўсё асэнсаваць, звязаць з лёсам свайго народа — у тысячу разоў грандыёзней многіх сусветна вядомых твораў...»*

*Але, канешне ж, не ўсё з твораў Міхаіла Ханінава вядома беларускаму чытачу. Шкада, што за столькі гадоў пасля смерці паэта (памёр Міша Чорны ў 1981 годзе) так раней і не перакладалася паэма пра Хатынь. Не здольны «забыцца вогненнага шквалу», Міхаіл Ванькаевіч вельмі даражыў гэтым сваім творам. Болей таго — ён меркаваў выбудаваць паэтычны цыкл з трох паэм. У 1975 годзе паэт у складзе пісьменніцкай дэлегацыі пабываў у В'етнаме. Ён ведаў пра в'етнамскую вёску Сонгмі і пра чэшскую вёску Лідзіцэ, спаленыя разам з жыхарамі захопнікамі, крываж эрнымі катамі. І вельмі хацеў, вельмі марыў, як і пра Хатынь, пра кожную з іх напісаць паэму...*

*«Званы Хатыні» толькі што з'явіліся ў перакладзе на беларускую мову. Гэты клопат ажыццявілі маладыя беларускія перакладчыкі Рагнед Малахоўскі і Адам Шостак. Рагнед Малахоўскі і раней звяртаўся да перакладу паэзіі М. Ханінава на беларускую мову. Кансультантам у маладых літаратараў выступіла кандыдат філалагічных навук Рыма Міхайлаўна Ханінава, дачка калмыцкага паэта. Яна рыхтавала падрадкоўнік. Яна, між іншым, ажыццявіла і другі пераклад паэмы на рускую мову. Раней твор пераклаў Аляксандр Нікалаеў. Чытачу самому ацэньваць вартасці паэмы «Званы Хатыні». Зараз хацелася б заўважыць толькі тое, што самім фактам публікацыі перакладу паэмы «Званы Хатыні» беларусы аддаюць даніну памяці творцу, партызану, які шмат зрабіў для нашага народа, нашай Айчыны. І мо з часам у Мінску з'явіцца новая беларуская кніга Міхаіла Ванькаевіча. Ужо з перакладамі нераўнадушных творцаў новага пакалення...*

*Новы зварот беларускіх перакладчыкаў да творчасці Міхаіла Ханінава можна смела разглядаць як выразны крок у развіцці беларуска-калмыцкіх літаратурных стасункаў на новым этапе. Вядомы калмыцкі паэт, перакладчык Эрдні Эльдышаў пераклаў вершы Максіма Багдановіча, прадмову Францыска Скарыны да кнігі «Юдзіф». Народная паэтэса Калмыкіі Вера Шуграева праўвасобіла на калмыцкую мову творы беларускай паэткі Таццяны Сівец. У беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы друкуюцца па-беларуску Рыма Ханінава, Эрдні Эльдышаў, Вера Шуграева. З'явіўся цэлы шэраг артыкулаў, прысвечаных ранейшым этапам стасункаў беларускіх і калмыцкіх пісьменнікаў. Мо гэта ўсё стане падставай для з'яўлення беларускай анталогіі калмыцкай паэзіі? Чаму б і не. Літаратура старажытнага калмыцкага народа вартая гэтай праявы шчырай сяброўскай увагі. А пакуль што мы знаёмімся з паэмай Міхаіла Ханінава «Званы Хатыні».*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***



**Міхаіл ХАНІНАЎ**

# ЗВАНЫ ХАТЫНІ

*Паэма*

Беларусь. Ўсё болей з кожным годам
Прыязджае і сяброў, і блізкіх.
Тут пра подзвіг мужнага народа
Нагадаюць сумна абеліскі.

Кроў і прах, і попел ад пажарышч —
Гэта ўсё было ужо даўно.
Толькі сцежку, дзе упаў таварыш,
Не забудзеш ты усё адно.

Не забудзеш вогненнага шквалу.
Кубак гора, выпіты да дна.
Гэта тры гады тут бушавала
Наша партызанская вайна.

Стань пад Мінскам ля Кургана Славы.
Бы народу гонар — кружыць сокал.
Паглядзі налева і направа,
Колькі тут святых магіл навокал.

Створаны руплівымі рукамі,
Памяць каб не канула ў нябыт,
Увянчаны той курган штыкамі —
Горда узвышаюцца ў зеніт.

З гонарам стаіць на варце міру,
Сімвал памяці і вартаўнік,
Курган Славы, быццам брат Хатыні
Да пляча сястрынага прынік.

Больш няма яе на белым свеце.
Як перад святыняю — застынь:
І старыя, і жанчыны, дзеці —
Спалена фашыстамі Хатынь.

Галаву схілі на месцы гэтым,
Тут сто сорак дзевяць чалавек
Спалены ў агні пакут Сусвету.
Памяць захавай аб іх навек.

Дзірлевангер выканаў загад:
Нібы д'ябал у хлеў усіх сагнаў,
І агонь ў шчыльны ўзяў абхват,
Баццам ў пекле страшным запалаў.

Раздзіралі сэрца крыкі, гукі,
Што гучалі, быццам з-пад зямлі,
Ды звязаныя вяроўкай рукі
Парабіць нічога не маглі.

Ці жанчыны, ці дзіцяці слёзы…
Дзірлевангер распаліў пажар,
І — у хлеў, бы ў топку паравоза,
Вугаль падкідае качагар.

З моцным крыкам тут усе палалі.
Енчаць дзеці і равуць дарослыя,
Нават з сумам дрэвы ўздыхалі
І сабакі вылі невыносна.

Я праз сон прачнуўся па адрыне,
Бы ў агні жахлівым заблукаў.
І з надзеяй, што няшчасце міне,
Людзям ува сне дапамагаў.

Быў далёка я тады, пад Мінскам,
Ды нібыта з імі разам — там.
Бачу — да мяне бяжыць Камінскі,
На руках — як свечка — сын Адам.

Калі б мог бы я перамагчы
У той дзень, я высек бы агонь
Проста з сэрца. Людзі б уцяклі,
Каты б самі ўвайшлі ў загон.

Часта ў хаты я хадзіў Хатыні.
Помню, што ля самага акна
Стол і лаўка жоўтая, як дыня,
Гладка габляваная сасна.

Горкаю падушкі на пасцелі.
Абразы. Пах бульбы ў паветры.
І маляты на мяне глядзелі
Вочкамі блакітнымі, як ветразь.

Кот як сон ідзе на мяккіх лапах,
Дзеці весела сядзяць на печы.
Толькі зараз узгадаю з жахам
Як гарэлі дзеці ў галечы.

Я сюды заехаў неяк ноччу…
Зноў цяпер набрыў на стары след.
Дзе ж Навіцкі Аляксандр Раманыч?
Усіх спалілі. Дзе малы? Дзе дзед?..

Усе згарэлі прахам як адзін.
Тут імёны — смутку абеліск.
Даты тут кароткія малых:
Ані, Мані, Лёні ды ўсіх…

Хтосьці з іх хадзіў учора ў школу,
А каму да школы колькі год.
Лёня ў дзявятым, Жэня ў шостым.
Дзеці сціхлі… І згарэў той род.

Ні ў якім не пабывалі класе
Маляняты да пяці гадоў:
Касцючок, Антосік і Міхаська
Да мяне ўва сне прыходзяць зноў.

— Дабрыдзень, лянок мой беларускі! —
Зваў я цёзку, хлопца Міхася,
І Міхась па вулцы ціхай, вузкай
Да мяне ляцеў-імчаў здаля!..

Цёзка мой Міхасік граўся шчыра:
На плячо мне скокне — разам ў бой.
Але клічуць мне «пара». — Я з мірам
Адыходжу, у думках я з табой.

Мне Навіцкі з жонкай хлеб давалі.
Бласлаўлялі, гледзячы у след.
Мы дарогай іншай кіравалі,
Не маглі паратаваць Хатынь ад бед.

Накрываюць успамінаў хвалі…
Раптам быццам голас зазвініць:
«Дзя-дзя Мі-і-і-ся», бы мяне пазвалі
Да сябе хатынскія сябры.

Няўжо ты, Лянок, мяне паклічаш.
Голас звонам зычным у вушах.

«Можа не згарэў Міхась? Ён выжыў?» —
Думка праляцела, як кажан.

Звар'яцеў, як быццам, ў гэты міг,
Розум мой не вытрываў той праўды.
Такім гучным быў дзіцячы крык.
Толькі мроі... Ўжо не прыйдзе радасць.

Ты загінуў, двухгадовы сябар,
Як бы ні хацеў, не ўстанеш з праху.
Я цябе дагэтуль з жахам бачу:
Да дзвярэй ты крок зрабіў з размахам.

Крок Міхасіка амаль што першы,
Стаў апошнім. Толькі ўявіць:
Крок дзіцёнка быў насустрач смерці,
Крок даўгі, бы ўсе гады вайны...

Я вайною праз палі, лясы
Беларусі крокаў безліч крочыў,
А Міхасік большы крок зрабіў.
Крок той — мужнасць, не дзіцячы роздум!

Свет наш назаўжды запомніў Міша
Вогненным, палаючым, чырвоным,
Нават ён не змог у пекле выжыць,
Целы ўсіх змяшаў агонь з зямлёю.

Дзірлевангер кінуў позірк палкі,
У кішэні штосьці ўзяў ў далонь
І дастаў. Не ледзянец — запалкі.
Шоргнуў ён і запаліў агонь.

Злодзей, кат, вядома, ён быў вінны,
Што агонь пачаў у сене бег?
Ён, адданы людзям, у Хатыні
З'еў сто сорак дзевяць чалавек.

Слёзы ў Хатыні быццам кіпень.
Горыч — ўсё. І ком у горле тут:
Снежань, студзень, май ці шчодры ліпень,
Бо у вёсцы болей не жывуць.

Быў Міхась святым, нявінным, чыстым.
Хіба можна перадаць мне словам,
У хляве замкнёным як фашысты
Спальвалі дзяцей малых, як дровы.

Спаленых людзей мы не забудзем.
Гэта гонар наш і абавязак.
Мы паклон нясём нявінным людзям,
Не было каб болей ў свеце здрады.

У Хатыні жытлаў мёртвых — шэраг,
А на іх званы — бы вечны помнік.
Колькасць гора проста не адмераць.
Гора — ўсё, як той адзіны комін…

Зычны звон мне чутны ўдзень і ўночы,
Вецер стогне і крычыць, раве,
Я б аддаў усё дашчэнту, Божа,
Каб Міхась вярнуўся да мяне.

З ранаю падпаленай у сэрцы,
Думаю бясконца пра яго.
З Міхасём глядзелі ў вочы смерці,
Быццам беглі разам пад агнём.

Ці пішу, ці рушу я ў дарогу,
Сплю калі, альбо калі прачнуся,
Сэрца кажа мне, што б'е трывога
У званы Хатыні Беларусь!

***З калмыцкай.***
***Пераклад Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА***
***і Адама ШОСТАКА.***



**Муратбек ТАКТАГАЗІН**

# ПІСЬМО ЯК АДЗІН З ЛІТАРАТУРНЫХ ЖАНРАЎ

Эпісталярый як адзін з літаратурных жанраў даўно і досыць шырока асветлены ў працах даследчыкаў (Г. Елістратава, Л. Шчэрба, Г. Вінакур, Е. Галкіна-Федарук, А. Далінін і інш.), разгледжаны яго жанрава-стылёвыя асаблівасці (напрыклад, у працах Г. Кур'яновіч, В. Сядовай, Л. Ніжнікавай, П. Бухаркіна і інш.), функцыі і класічныя кампазіцыйныя прынцыпы (Н. Глухіх, І. Вяткіна, А. Гвоздзеў, І. Гальперын і інш.), асаблівасці лексіка-семантычнага складу (Л. Калімуліна, В. Фесенка, Ю. Філіповіч, Н. Аруцюнава і іншыя), уласцівая эпісталярнаму жанру дыялагічнасць (А. Какуніна), міфа-паэтыка пісьма (працы Е. Меляцінскага, Ю. Лотмана, М. Гаспарава і інш.) і іншыя аспекты.

Нягледзячы на ўсебаковае вывучэнне, думкі даследчыкаў адносна эпісталярнага жанру палярна адрозніваюцца. Г. Вінакур, А. Яфімаў, Л. Кэцба і іншыя вучоныя гавораць пра тое, што эпісталярны жанр варта вылучаць як асобны літаратурны мастацкі жанр [3, с.84].

У сваю чаргу, А. Акішына, К. Вінаградава, І. Гальперын і інш. пішуць пра тое, што эпісталярны жанр не з'яўляецца ў строгім вызначэнні сапраўдным мастацкім жанрам. У іх разуменні ў аснове пісьма (за выключэннем выкарыстання эпісталярыя як прыёму жанравага афармлення мастацкага твора) ляжыць некаторы аб'ектыўны факт, пра які ўласна ў пісьме і піша аўтар, звяртаючыся або да іншай персаналіі, або да шырокага кола чытачоў [2, 54].

Аднак у адным факце даследчыкі сыходзяцца. Пры публікацыі пісьма захоўваюцца ўсе яго асноўныя прыкметы, дзе і ў якім выглядзе яно б ні публікавалася. Сярод такіх прыкмет перадусім назавём наступныя:

■ Дыялагічная структура перапіскі (пры публікацыі тэксту ў жанры пісьма аўтар у першую чаргу мае на ўвазе, што пісьмо — адзін з маналогаў у складзе дыялогу, няхай і адкладзенага). У публіцыстыцы выкарыстанне дыялагічнага маналогу прадугледжвае, што чытач будзе самастойна дыскутаваць з аўтарам. Дыялагічную структуру перапіскі мы можам бачыць як у гістарычных дакументах, так і ў мастацкіх творах. Так, Д. Шарафутдзінаў пры аналізе дыпламатычнай перапіскі XIX стагоддзя звяртае ўвагу на абавязковую інтытуляцыю — абазначэнне суразмоўцы, да якога скіравана пісьмо [5, с. 722]. Прыклады выкарыстання эпісталярнага жанру ў якасці мастацкага прыёму або самавартаснага мастацкага твора ў эпісталярным стылі прыводзяць Г. Кур'яновіч (эпісталярны раман-перапіска Дж. Барта «Пісьмы» ці эпісталярны раман В. Шклоўскага «ZOO. Пісьмы не пра каханне, або Трэцяя Элаіза») [4], Н. Лагунова («Яўгеній Анегін», «Капітанская дачка» А. Пушкіна; «Фаўст» І. Тургенева; «Герой нашага часу» М. Лермантава) [4], А. Какуніна [2, с.56].

■ Варта адзначыць, што змест пісьма, як правіла, вызначае яго форму. Так, дзелавая перапіска (напрыклад, дыпламатычнае ліставанне Г. Строганава і імператара Мікалая I) адпавядала прынятым умоўным фармулярам дыпламатычнага пісьма [5, с. 723]. Калі пісьмо мае асабісты характар, яму адпавядае выкарыстанне мастацкіх элементаў, гутарковага стылю маўлення, нелітаратурнай мовы, наяўнасць жаргонных слоў. Для прыкладу, такія гістарычныя дакументы,

як вайсковыя пісьмы часоў Другой сусветнай вайны ўтрымваюць абавязковае для пісьма рамачнае абрамленне, але іх змест вельмі моцна адрозніваецца, у залежнасці ад кантэксту напісання. Калі пісьмо мае характар звароту і закранае важныя для аўтара сацыяльныя пытанні, то яго мова будзе эмацыйная, але, як правіла, вобразная і літаратурная (напрыклад, пісьмо В. Бялінскага да М. Гогаля 1847 года). Шматстылёвую разнастайнасць эпісталярнага жанру дазваляе пісьму «працаваць» у шырокім спектры сфер чалавечай дзейнасці: пры перапісцы навукоўцаў (Ч. Дарвін і А. Грэй), дыпламатаў (Г. Строганаў і цар Мікалай І), мысляроў, палітыкаў і філосафаў (Вальтэр і еўрапейскія правіцелі), сяброў і закаханых, выкарыстанне эпісталярнага жанру як сродку выразнасці пры стварэнні мастацкага твора і інш.

■ Аповед, які вядзецца ад першай асобы адзіночнага ліку. Н. Лагунова ўказвае на тое, што аўтар пісьма заўсёды сам звяртаецца да чытача, расказвае яму той ці іншы факт, даводзіць той ці іншы пункт погляду, не перакладаючы дадзеную функцыю на адцягнена-навуковы стыль выкладу мастацкага тэксту [4, с. 8—10]. У якасці прыкладу можна назваць пісьмо Уладзіміра Манамаха дзецям, у якім, нягледзячы на мастацкі характар тэксту, прасочваюцца ўказаныя прыкметы, характэрныя для эпісталярнага жанру, — рамачнае абрамленне, зварот ад першай асобы адзіночнага ліку, афармленне пісьма ў адпаведнасці з яго зместам.

■ Пісьмы нязменна маюць інтымна-дыялагічны характар. Аўтар можа адрасаваць пісьмо наколькі заўгодна шырокай грамадскасці (напрыклад, пры выкарыстанні пісьма як мастацкага прыёму пры афармленні літаратурнага твора), але, як правіла, яго лексіка будзе скіравана ад канкрэтнага аўтара да канкрэтнага адрасата. Так, перапіска Анегіна і Таццяны інтымна-дыялагічная, у пісьмах Ч. Дарвіна да А. Грэя мы бачым рамачны зварот «Дарагі сябар!». У пісьмах дзелавога, павучальнага і навуковага характару дыялагічнасць захоўваецца (ліставанне Г. Строганава і Мікалая І, павучанні Ул. Манамаха), але інтымнасць, характэрная для дыялагічнага камунікавання двух чалавек, якія знаходзяцца ў пэўных адносінах (сяброўскіх, любоўных ці варожых), згладжваецца або адсутнічае. Пісьмо, што ўтрымлівае не толькі дыялагічны, але і інтымны, асабісты падтэкст — свайго роду споведзь аўтара, якая прадугледжвае яго эмацыйную і слоўную шчырасць. Гэтым, на жаль, у наш час шмат і паспяхова карыстаюцца як інструментам псіхалагічнага маніпулявання пры стварэнні паведамленняў на форумах, сачыненні фальшывых пісьмаў ад чытачоў і да т. п.

Прааналізаваўшы розныя віды ліставання, мы змаглі адрозніць больш за 20 відаў пісьмаў як літаратурнага жанру, пры гэтым некалькі відаў пісьма можа ўтрымлівацца ў адным тэксце.

1. Сяброўскае пісьмо. Сяброўскае пісьмо вызначаецца намі як неафіцыйнае, персанальнае, апасродкаванае камунікаванне асоб (аўтара і адрасата), якое характарызуецца дастатковай зместавай свабодай, наяўнасцю рытуальных эпісталярных элементаў (зварот, подпіс, а таксама дата, месца напісання), арыентаванае, як правіла, на атрыманне адказу або яно само па сабе з'яўляецца адказам.

2. Рэкамендацыйнае пісьмо. Рэкамендацыйнае пісьмо вызначаецца намі як афіцыйнае персанальнае апасродкаванае камунікаванне асоб (аўтара і адрасата), якое характарызуецца наяўнасцю рытуальных эпісталярных элементаў (зварот, подпіс, а таксама дата, месца напісання), арыентаванае, як правіла, на прадстаўленне рэкамендацыі пра каго-небудзь

3. Грэблівае (рус. пренебрежительное) пісьмо — мае характар сведчання таго, што яго аўтар не лічыць сябе абражаным.

4. Папракальнае (рус. упрекающее) пісьмо — мае на мэце данясенне да адрасата папроку.

5. Суцяшальнае пісьмо — данясенне да адрасата скрушнай весткі.

6. Ганьбавальнае (рус. порицающее) пісьмо — данясенне да адрасата ганьбавання.

7. Навучальнае (рус. вразумляющее) пісьмо — данясенне да адрасата парады ад аўтара.

8. Пагрозлівае пісьмо — данясенне да адрасата пагрозы або мае на мэце нагнаць на адрасата стан страху.

9. Ганьбавальнае (рус. хулительное) пісьмо — данясенне да адрасата абраз.

10. Хвалебнае пісьмо — данясенне да адрасата пахвалы.

11. Дарадчае пісьмо — утрымлівае просьбу парады ад адрасата па пэўным пытанні.

12. Просьбітнае (рус. просительное) пісьмо — утрымлівае просьбу ад адрасата па пэўным пытанні.

13. Іншасказальнае пісьмо — калі мы хочам быць зразуметымі толькі той асобай, якой пішам, і для гэтага вядзём гаворку нібы пра іншую справу.

14. Тлумачальнае пісьмо — утрымлівае тлумачэнне пра тое, чаму пэўная падзея адбылася ці не адбылася.

15. Запытальнае (рус. вопросительное) пісьмо — задае пытанне.

16. Зваротнае (рус. ответное) пісьмо — дае адказ.

17. Абвінаваўчае пісьмо — заключаецца ў ганьбаванні за якія-небудзь несамавітыя ўчынкі.

18. Ахоўнае (рус. защитное) пісьмо — вінаваўцу-адрасату падаюцца довады пра невінаватасць аўтара ці каго-небудзь.

19. Віншавальны ліст — утрымлівае віншаванні.

20. Іранічнае пісьмо.

21. Падзячнае пісьмо.

Інтэграцыя эпісталярнага жанру ў публіцыстыку адбывалася паступова, як паступова развіваліся і самі СМІ. Калі раней, у старажытныя часы, адказам на працу аднаго мысляра была праца іншага, і ўся эпісталярнасць абмяжоўвалася выключна зваротным надпісам у назве ці прысвячэнні трактата, то паступова друкаваныя СМІ сталі публікаваць перапіску вядомых асоб, яна станавілася набыткам грамадскасці. Такім чынам, СМІ станавіліся свайго роду інструментам укаранення паглядаў, і ў розныя часы розныя індывіды шырока карысталіся гэтым фактам.

У часы Вальтэра яго ліставанне з філосафамі, мыслярамі, палітыкамі, пісьменнікамі служыла, напрыклад, папулярызацыі досыць вольных па тым часе поглядаў, а ў даваенныя паслярэвалюцыйныя часы ў СССР шэраг бальшавіцкіх дзеячаў часта друкавалі ў СМІ «сапраўдныя» пісьмы ад дысідэнтаў пра тое, як жа дрэнна жывецца за мяжой, прышчапляючы насельніцтву пэўную зададзенасць паглядаў.

Цяпер з пункту гледжання сінкрэтычнага падыходу да пісьма можна сказаць, што чым больш дакладна ўзноўлены тэкст пісьма, яго стылістыка, мова, умовы яго напісання і атрымання адрасатам — тым большай каштоўнасцю яно будзе валодаць як гістарычны дакумент і культурны артэфакт.

З уваходжаннем у наша жыццё найноўшых тэхналогій сувязі, інтэрнэту, магчымасці імгненнай мабільнай і відэасувязі самых аддаленых куткоў зямнога шара, з узнікненнем у нашым свеце тэндэнцый да мультыкультуралізму і глабалізацыі, эпісталярны жанр, як і іншыя жанры, зведаў досыць сур’ёзныя змены. Цяпер пісьмо магчымае ў рамках імгненнага пісьмовага дыялогу ў сацыяльных сетках, у выглядзе sms-паведамленняў, ліставання ў чатах, на форумах і пры публікацыі агульнадаступных паведамленняў у блогах.

Але і на старонках друкаваных СМІ эпісталярны жанр па-ранейшаму мае месца. Так, пры даследаванні СМІ Расіі, Казахстана і Беларусі мы адзначылі, што ў друкаваных выданнях вядзецца шырокая перапіска рэдакцыі з чытачамі. Пісьмы, якія друкуюцца ў сучасных СМІ, як і раней, маюць розную форму і змест — навуковыя («Российская газета» № 4782 ад 18.11.2010; артыкул «Прыход Талстога») і дзелавыя («Расійская газета» № 6482 ад 10.04.2014; адкрытае пісьмо У. Пуціна еўрапейскім лідарам аб урэгуляванні доўгу Украіны за газ), шмат-

стылёвыя асабістыя пісьмы на палітычную і сацыяльную тэматыку (рубрыка «Пісьмы чытачоў» — архіў часопіса «Континент-Казахстан» 2009 года), асабістыя лісты інтымна-дыялагічнага характару («Савецкая Беларусь» № 142 (23847) 25.05.2013; артыкул «Напішыце пісьмо ветэрану»).

Між тым, дыялагічнасць маналога сучаснай эпісталярнай публіцыстыкі зусім не ў фокусе ўвагі сучасных даследаванняў, прысвечаных эпісталярыю праз прызму журналістыкі.

Цяпер найбольш развіты эпісталярый у сферы інтэрнэт-перапіскі, і мабільная перапіска, як мы можам адзначыць, таксама часта становіцца крыніцай цэлага пласта ўзаемаадносін. Можна сказаць, што ў сучаснай рэальнасці разгортваюцца sms-раманы і sms-войны.

З прычыны такой папулярнасці неасабістага камунікавання праз перапіску не так важна, увогуле, якім менавіта сродкам карыстаецца чалавек, што стварае пасланне ў эпісталярным жанры — гэта ручка і папера або пальцы і клавіятура. Сутнасць нязменна застаецца той жа, таму адсутнасць цікавасці да эпісталярнага жанру ва ўмовах сучасных рэалій незразумелая і даволі здзіўляльная.

Асноўнымі прыкметамі эпісталярнага жанру можна назваць: дыялагічную структуру перапіскі, наяўнасць лірычнага і сацыяльнага адценняў, выкарыстанне гутарковага стылю і жарганізмаў, апавядальны характар пісьма ад першай асобы адзіночнага ліку, адсутнасць стылёвых рамак, інтымна-дыялагічны характар.

Прынята адрозніваць больш за 20 відаў розных пісьмаў, пры гэтым некалькі відаў пісьмаў можа ўтрымлівацца ў адным тэксце.

Інтэграцыя эпісталярнага жанру ў публіцыстыку адбывалася паступова, як паступова развіваліся і самі СМІ.

XXI стагоддзе, па нашым меркаванні, можна назваць эпісталярным — людзі ўсё часцей маюць зносіны не асабіста, а праз перапіску, якая шмат у чым становіцца публічным феноменам, што патрабуе асобнага грунтоўнага вывучэння.

***Пераклад з рускай мовы.***

## Спіс літаратуры:

1. Вишнякова, Е. А. Электронное письмо как способ диалогического взаимодействия / Е. А. Вишнякова, О. А. Ефимова [Электронный ресурс]. — Режим доступа: Internationalscientificandpracticalconferencein 2014. — http://www.asconf.com/eng/archive_view/395.

2. Кокунина, Е. В. Переписка как опосредованный диалог: лингвопрагмматический аспект: На материале переписки И. С. Тургенева и его повести «Переписка»: Дисс. канд. филол. наук. / Е. В. Кокунина. — Череповец, 2005. — 200 с.

3. Курьянович, А. В. «Фигура умолчания» в системе функциональной стилистики: к вопросу определения стилистического статуса эпистолярия / А. В. Курьянович // Вестник Томского государственного педагогического университета. — 2010. — № 6. — С. 84—88.

4. Логунова, Н. В. Русская эпистолярная проза XX — начала XXI века: эволюция жанра и художественного дискурса: автореф. дисс. докт. филол. наук / Н. В. Логунова. — М., 2011. — 46 с.

5. Шарафутдинов, Д. Р. Методика формулярного анализа в прочтении исторических документов: дипломатическая переписка первой трети XIX века / Д. Р. Шарафутдинов // Молодой ученый. — 2013. — № 11. — С. 722—724.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 1 сакавіка 2017 года.

**Рэзюмэ**

**Муратбек ТАКТАГАЗІН**

**Пісьмо як адзін з літаратурных жанраў**

УДК 070.41

У артыкуле разглядаюцца асноўныя асаблівасці пісьма як літаратурнага жанру. Таксама вызначаны сучасныя віды пісьма як літаратурнага жанру і коратка разгледжаны працэс інтэграцыі эпісталярнага жанру ў публіцыстыку. Аўтар разглядае відавыя змены пісьма як літаратурнага і публіцыстычнага жанру ў нашы дні. Мэта даследавання — вывучыць пісьмо як адзін з літаратурных жанраў. Навізна артыкула палягае ў тым, што да цяперашняга часу пісьмо вывучалася ў сукупным уяўленні эпісталярнага жанру і эпісталярнай формы, што непрымальна. Змест артыкула будзе карысны журналістам, гісторыкам, даследчыкам эпісталярнага жанру, літаратуразнаўцам.

**Ключавыя словы:** пісьмо, эпісталярны жанр, эпісталярная форма, асаблівасці структуры і зместу пісьма, віды пісьма, інтэграцыя эпісталярнага жанру ў публіцыстыку, сучасныя відавыя змены эпісталярнага жанру

**Summary**

**Muratbiek TAKTAHAZIN**

**Letter as one of the literary genres**

This article describes the main features of the letter as a literary genre. As defined modern types of letters as a literary genre and briefly reviewed the process of integration of the epistolary genre in journalism. The author considers the modification of writing as a literary and journalistic genre nowadays. The purpose of the study — to explore writing as one of the literary genres The novelty of the paper is that to date, the letter has been studied in a total representation of the epistolary genre, and epistolary form, which is unacceptable. The content of the article will be useful for journalists, historians, researchers of the epistolary genre, literary critic.

**Keywords:** Letter, epistolary genre, epistolary form, features of the structure and content of the letter, types of letters, the integration of the epistolary genre in journalism, modern modification of the epistolary genre.



Ігар МІХАЛЕНЯ

# У СВАІМ ЧАСЕ І НЕ ТОЛЬКІ Ў ІМ

*Многім знакамітым людзям дала жыццё беларуская зямля. Якую сферу дзейнасці ні возьмеш, абавязкова напаткаеш тых, кім не можа не ганарыцца нацыя. Некаторыя ж вядомыя і далёка за межамі краіны. Як не выключэнне і тое, што шмат хто годна праявіў сябе ў некалькіх пачынаннях. Аднак далёка не кожнаму ўдалося раскрыцца такімі многімі гранямі, як Ён: паэт, празаік, драматург, акцёр, рэжысёр, адзін з заснавальнікаў новага беларускага тэатра — таго тэатра, які ўзнік на хвалі нацыянальнага адраджэння ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Гэта Уладзіслаў Галубок. Яму першаму 20 снежня 1928 года было прысвоена ганаровае званне народнага артыста БССР. Сустрэў такую, безумоўна, прыемную для яго навіну, з уласцівай яму сціпласцю. Напаткаўшы акцёра і тэатразнаўцу Яўгена Рамановіча, сказаў: «Вось бягу, каб перабілі на заслужанага. Ты разумееш, я заўсёды ў народзе, сярод простых людзей, а яны скажуць: «Народны артыст? Ды ён жа заўсёды быў, ёсць і будзе народны. Ніякая гэта не заслуга»... Вось заслужаны, гэта іншая справа: кожнаму ясна — заслужаны чалавек, тут табе пашана і аўтарытэт». Сапраўды, Уладзіслаў Іосіфавіч быў «заўсёды ў народзе». У народзе і застаўся.*

## Настойлівасць — якасць важная

Сапраўднае яго прозвішча не Галубок, а Голуб. Нарадзіўся 15 мая 1882 года на станцыі Лясная. Гэта непадалёку ад Баранавіч. Бацька Уладзіслава — Іосіф Тамашавіч працаваў рабочым на чыгунцы. Але на Лясной Голубы жылі нядоўга. Неўзабаве сям'я пераехала ў Мінск. Іосіф Тамашавіч сваю прафесію, па-сутнасці, не памяняў. Быў рабочым, стаў слесарам чыгуначнага дэпо. Са сваіх дзяцей асабліва любіў старэйшага сына Уладзіслава. Бадай, неяк падсвядома адчуваў, што яму ў будучым наканавана вялікая дарога, многага дасягне ў жыцці. Хоць пастаянна не хапала грошай, жылося цяжка, аддаў яго пасля заканчэння царкоўна-прыходскага вучылішча ў Мінскае гарадское вучылішча. Але ў ім Уладзіслаў вучыўся нядоўга. Калі яму споўнілася трынаццаць гадоў, бацька трагічна загінуў.

Памяць Уладзіслава назаўсёды захавала воблік дарагога чалавека, якому давяраў свае самыя запаветныя мары. Удзячны быў яму і за тое, што нямала расказваў пра паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, удзельнікам якога быў бацька Іосіфа Тамашавіча, а Уладзіславаў дзед. Тамаш Голуб знаходзіўся ў шэрагу тых, хто хацеў свабоды свайму народу, змагаўся з царызмам. Уладзіслаў вельмі ганарыўся дзедам, якога, на жаль, ніколі не бачыў.

Пасля смерці бацькі пачаліся для юнака жыццёвыя «ўніверсітэты». Як старэйшаму, давялося дапамагаць маці ставіць на ногі малодшых дзяцей. Каб зара-

біць хоць крыху грошай, кім толькі ні працаваў! Быў грузчыкам на дрывяным складзе пры чыгунцы. Праз некаторы час уладкаваўся прыказчыкам у гастраномічны магазін купца Стараневіча. Але хацелася больш пастаяннага заробку, таму з магазінам развітаўся. Пайшоў слесарам у тое ж чыгуначнае дэпо, у якім дагэтуль працаваў ягоны бацька. Праца была цяжкая, знясільваючая. Але прываблівала тое, што заробленыя грошы плацілі рэгулярна. Дый працоўны дзень хоць быў доўгім, але распарадак яго строга вытрымліваўся.

Апошняе для Уладзіслава было важна. Як ні стамляўся за дзень, але вечарам, крыху адпачыўшы, штодня знаходзіў час пасядзець за падручнікамі. Мара ўсё ж скончыць гарадское вучылішча не пакідала яго. Таму і рыхтаваўся, каб здаць экзамены за поўны курс навучання ў ім экстэрнам. Калі ж дамогся гэтага, стаў больш часу ўдзяляць іншым заняткам, без якіх не ўяўляў свайго жыцця.

## Музыка і жывапіс — два захапленні

У ягонай юнай душы жыла прага да прыгожага. Вабілі Уладзіслава музыка, выяўленчае мастацтва. Маючы да гэтага прыродныя задаткі, самавукам навучыўся іграць на барытоне, трамбоне, баяне. Складаней было з выяўленчым мастацтвам. Узяўшыся чытаць спецыяльную літаратуру, зразумеў, што самому спасцігнуць ягоныя азы немагчыма. Выйсце было ў тым, каб знайсці якога-небудзь настаўніка.

Пасля настойлівых пошукаў выйшаў на мінскага мастака Пракоф’ева. Ён якраз набіраў сабе вучняў. Праўда, за вучобу прасіў пяць рублёў у месяц. Па тым часе — грошы немалыя. Аднак жаданне вучыцца ва Уладзіслава было такое моцнае, што не пашкадаваў іх, заплаціў. Дый у далейшым неабходную суму кожны месяц уносіў своечасова. На заняткі спяшаўся, як на свята. Шкада толькі, што гэтае свята працягвалася нядоўга.

Прычына банальная: Уладзіславу хацелася займацца выяўленчым мастацтвам усур’ёз. Ён марыў калі не стаць прафесійным мастаком, дык пісаць уласныя творы на прыстойным узроўні. Інакш да ўсяго ставіўся Пракоф’еў. Ён менш за ўсё дбаў аб тым, каб ягоныя вучні фарміраваліся як творчыя асобы. У іх ён бачыў усяго толькі сваіх памочнікаў. У асноўным рыхтаваў з іх звычайных капіравальнікаў, якія б маглі перамаляваць тую ці іншую карціну вядомых мастакоў так, каб яна была блізкай да арыгіналу. Адпаведна, знаходзіла б пакупнікоў, якія хацелі б ёю ўпрыгожыць сцены свайго дома.

Ды што зробіш — свае ўмовы не выставіш. Згаджайся з тым, што прапануе настаўнік. Уладзіслаў і згаджаўся. Але так працягвалася толькі да таго часу, пакуль ён не пазнаёміўся яшчэ з двума мінскімі мастакамі — Сухоўскім і Яроменкам. Тыя аказаліся не роўняй Пракоф’еву. Яны былі не звычайнымі рамеснікамі ад мастацтва, як Пракоф’еў. Вялікай вядомасці, канешне, таксама не дасягнулі. Праўда, пастаянна клапаціліся аб павышэнні свайго прафесійнага майстэрства. Добра засвоіўшы законы жывапісу, давалі сваім вучням карысныя парады. У іх Уладзіслаў многаму навучыўся. Гэта дазволіла яму ў далейшым стварыць нямала яркіх, самабытных жывапісных твораў.

З пэндзлем Уладзіслаў Іосіфавіч не развітваўся, дарэчы, і калі стаў прызнаным майстрам сцэны. Асабліва любіў ён маляваць летам. Зімой, ранняй вясной ці сырой восенню даваў знаць аб сабе раматус, які спадарожнічаў яму ўсё жыццё. А летам — іншая справа. Падымаўся ранічкой, гадзін у шэсць ці яшчэ раней і праз увесь Мінск пехам ішоў на тагачасную ўскраіну Мінска — Кальварыю. Пісаў краявіды — лірычныя, прасветленыя. Хоць у асобных работах заўважаецца і нейкая ледзь прыкметная туга. У залежнасці ад таго, які настрой быў на душы ў момант напісання пэўнага твора. Афармляў і свае п’есы.

Цікавыя згадкі пра Галубка-мастака пакінуў жывапісец і графік, зяць Уладзіслава Іосіфавіча (быў жанаты на ягонай дачцэ Людміле) Яўген Ціхановіч: «Любіў ён грубае шурпатае зрэбнае палатно або кардон і маляваў часцей за ўсё мастыхінам, а не пэндзлем. Паверхня яго карцін заўсёды была, як мы кажам, «мазістая», фарбы былі пакладзены густа, і толькі здалёк твор чытаўся ясна і добра. Маляваў Галубок спачатку невялікія памерам эцюды, а пасля павялічваў іх да метровага і больш памеру, але ніколі не капіраваў іх механічна. Павялічэнні рабіў не з усіх эцюдаў, а доўга выбіраў з іх той, які здаваўся яму найлепшым і выразнейшым, доўга раіўся з сябрамі і пачынаў працу толькі тады, калі быў цвёрда ўпэўнены ў добрай якасці іх».

## Паэзія — таксама занятак не чужы

У маладосці захапіўся і літаратурай. Пазнаёміўся з беларускім паэтам-гумарыстам, драматургам, перакладчыкам Альбертам Паўловічам. Іх хуткаму збліжэнню, безумоўна, не магло не паспрыяць і тое, што Альберт Францавіч таксама маляваў, хоць і не лічыў гэта асноўным сваім заняткам. Паўловіч звёў Галубка з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем. Дый іншымі беларускімі пісьменнікамі, якія гуртаваліся вакол газеты «Наша ніва», Уладзіслаў Іосіфавіч пазнаёміўся дзякуючы яму.

На старонках «Нашай нівы» Галубок і дэбютаваў як пісьменнік. У нумары за 9 мая 1908 года было змешчана яго апавяданне «На вяселле». Пад творам значыўся псеўданім Сымонка, узяты ад імені галоўнага героя. Гэтым літаратурным прозвішчам у далейшым Уладзіслаў Іосіфавіч не карыстаўся. Часам пад сваімі творамі ставіў псеўданімы В. Галубок, У. Галубок, Уладыслаў Галубок. Калі-нікалі ў якасці аўтарства браў крыптонімы Г-к, Г-у-к, В. Г-к. Але паступова з псеўданімам канчаткова вызначыўся: Уладзіслаў Галубок. Хоць псеўданімам гэтае прозвішча можна лічыць умоўна. Памяняў і свой пашпарт. Замест Уладзіслаў Голуб у ім значылася Уладзіслаў Галубок. Значыць, Галубок і сапраўднае ягонае літаратурнае прозвішча.

Амаль праз месяц пасля дэбюту, 6 чэрвеня 1908 года, заявіў пра сябе і як паэт, выступіўшы, таксама ў «Нашай ніве», з вершам «Доля мужыка». У гэтай газеце былі надрукаваны і яго вершы «Чакай, браце!..» (1 жніўня), «Забытая хатка» (23 верасня). Увогуле, у галіне паэзіі ён працаваў не так і шмат. Ва ўсякім разе, апроч названых твораў, да нас дайшлі яшчэ тры ягоныя вершы, у розныя гады апублікаваныя ў «Нашай ніве»: «Сярмяжнік», «Будучыня», «***Хачу мець зямельку і мру без работы…»

Вершы Галубка мала чым розняцца ад паэзіі, што трапляла на старонкі «Нашай нівы». Асабліва ад твораў аўтараў, якія яшчэ не паспелі самасцвердзіцца. Аднак, маючы задаткі таленту, яны пісалі пра тое, што іх найбольш хвалявала, вымагала споведзі перад чытачом. Галубок выключэннем не з'яўляўся. Ён, як іншыя паэты-нашаніўцы, быў занепакоены цяжкім, бяспраўным лёсам беларускага народа.

Беларускі ж народ у сваёй пераважнай большасці жыў на сяле. Калі ж вырываўся ў горад, нямногія станавіліся рабочымі, бо прамысловасць, нават у губернскім Мінску, была развіта слаба. Развітаўшыся са звыклым для іх асяродкам, сяляне ў душы сваёй усё адно заставаліся вяскоўцамі. Кім бы яны ні станавіліся — рамеснікамі, прыказчыкамі, рабочымі-падзёншчыкамі ці выбіралі іншыя прафесіі, вёска для іх з'яўлялася роднай стыхіяй. Арыентуючыся на іх, і пісаў Галубок. Нават ужо для таго, каб напомніць, адкуль яны выйшлі і чаго не пазбавіліся. Іншым жа, хто працягваў жыць у вёсцы, нагадаць пра іхнюю цяжкую долю.

## З мужыком — на роўных

Гэта добра відаць з дэбютнага верша Галубка, які так і названы — «Доля мужыка». У творы згадваецца канкрэтная вёска Ліпнякі, але перад чытачом паўстае, па-сутнасці, уся абяздоленая, гаротная тагачасная Беларусь. На гэтым аўтар, між іншым, і засяроджвае ўвагу на завяршэнні верша: «А колькі іх на свеце божым, // Такіх ліпняцкіх мужыкоў». Сапраўды, паўсюдна на сяле «ў нізкіх, курных хатах» жылі «галота-мужыкі». Іхняе тагачаснае жытло было настолькі непрыгляднае, што сёння і паверыць цяжка, як у такіх умовах маглі існаваць (так, існаваць, а не жыць!) людзі:

Сагнуўся ракам і у дзверы
Упоўз я ў хату мужыка,
Каб сам не бачыў, не паверыў,
Як горка доля бедака.
На сценах голых і вільготных
Растуць грыбы, цячэ вада,
І льецца на дзяцей гаротных
Хвароба, нэндза і бяда.

«Няма каму прыбраць у хаце», бо маці «ляжыць схварэўшая адна». Чым пільней узіраецца лірычны герой, тым скрушней становіцца ў яго на душы: «Аконца мала чуць свіціцца, // Ніколі сонца не відаць, // Смурод і чад, у брудах дзеці: // Адно дзярэцца — пяць крычаць». З'яўленне нечаканага наведвальніка ім не ў радасць: «А дзеці воўкам пазіраюць //, З мяне дзівяцца: хто такі? // Як бы нічога больш не знаюць, // Апроч балота, асакі!» Гаспадар гэтай халупы — пасля ўсяго язык не паварочваецца назваць яе хатай, дый нездарма ў творы з'явілася такое прызнанне: «Здалося, я папаў ў магілу, // Але не ў хату мужыка…» — не ведае, як і быць далей:

Яфімка цяжка уздыхае,
З бядой не можа саўладаць,
Галодны дзеці, сам не мае
За што і рук сваіх заняць.

Верш «Чакай, браце!..» сваёй першай страфой успрымаецца працягам «Долі мужыка». Канешне, рытміка яго іншая, але сутнасць тая ж: у вясковага бедака ў жыцці няма ніякага прасвету. Як ні стараецца ён, нічога для сябе ад гэтага не мае. Дзень на дзень падобны, а год на год:

Ад году да году мужык наш марнее,
А працы сваёй ён нямала кладзе,
І ўсё без карысці: як ліст той гібее
У восень халодную — ў горы, ў нудзе…

«Дух надрывае» гаротнік, а «прывету ні скуль не чуваць». Дый ніколі ён «не чуў сабе «дзякуй!» Аднак, калі б іншы пасля ўсяго гэтага зламаўся б, зусім расчараваўся б у людзях, на зло пачаў адказваць злом, на няўвагу — няўвагай, на злаславасць — злаславасцю, дык герой паэта не такі. Ён здолеў захаваць у сабе высокія маральныя якасці, не растраціў чалавечы патэнцыял. Людскасць — ягоная вызначальная якасць. У такім стаўленні да мужыка выявілася глыбокае спасціжэнне Галубком самой дыялектыкі жыцця. Перакананы ў тым, што за людзьмі працы будучыня, ён з такой упэўненасцю і звяртаўся да мужыка. Пры гэтым размаўляў з ім, як роўны з роўным:

Чакай, брат! Без часу не лезь у магілу!
Ўзмацуецца дух твой — яшчэ аджывеш!
Свет, браце, убачыш, пачуеш ты сілу
І песню свабоды гуртом запяеш!

Матывамі чалавечнасці, спагады прасякнуты і верш «Сярмяжнік». І гэтым разам Галубок звяртаецца да таго, хто абдзелены лёсам. Для каго жыццё не ў радасць. Задае пытанне за пытаннем. Як быццам адказ на іх і не патрэбны, бо і так усё зразумела. Але падобнае меркаванне памылковае, бо акурат пастаноўкай гэтых пытанняў узмацняецца выкрывальны пафас, а разам з ім завастраецца ўвага на тым, міма чаго чалавек сумленны, спагадлівы не павінен праходзіць:

Скажы мне, сярмяжнік! Скажы мне, маркотны!
Адкуль ты? Адкуль ты? З нядоляй сваей
Чаму век снуешся пуцінай гаротнай,
Чаму ты ўсіх чыста бядней і цямней?
Ці ты нарадзіўся ў такую часіну,
Ці кару якую зняволен адбыць?
Ці можа хто чары такія накінуў
І мучышся вечна — ні ў чым не ручыць.

Пасля гэтага твор набывае большую канкрэтнасць. Сярмяжнік становіцца апавядальніку настолькі блізкім, што ён ужо ўспрымае яго сваім кроўным братам. Таму і не саромеецца слёз, якія з'яўляюцца пры адной толькі думцы, што некаму балюча не толькі маральна, а і фізічна. Як жа іначай, калі чужы боль — ужо і твой боль. Хочацца абавязкова дапамагчы сярмяжніку. Аднак як гэта зрабіць, адказу яшчэ няма:

Аж слёз не стрымаці, як губіш ты сілы,
Крывава гатоўлячы ніву к сяўбе:
Галодны, халодны да самай магілы,
Усё на пажытак людзям, не сабе.

Дый заклік да дзеяння, да барацьбы таксама адсутнічае. Гэта, як быццам, значна паслабляе ў вершы публіцыстычныя моманты. Аднак, тым не менш, стану пасіўнасці няма. Ёсць у творы не менш важная якасць — вера. Вера ў тое, што ўсё будзе лепш. Няхай не сёння, дык заўтра — пэўна:

Цярпі, мой ты браце, і вер, што настане
Сярмяжніку лепшае шчасце, жыццё.
Вер, будзе тваё на зямлі панаванне,
Навекі зваюеш ты гора сваё…

Асабліва моцны гэты аптымістычны пафас у заключных радках верша: «І хоць цяпер мачыхай родная ніва, // Ты ў памяці мей свой народ і свой край». Гэта, калі глядзець шырэй, пранікаць глыбей, — сама будучыня.

## Дом для святлейшых дзён

Пра гэтую будучыню Галубок гаварыў у аднайменным вершы «Будучыня»:

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды, сюды снуе народ.
Будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Звініць сталёвы лом;
На месцы даўняй старыны
Будуюць новы дом.

Несумненна, дом гэты — не проста нейкая новая будоўля, а сама Беларусь: «Настане дзень, надойдзе час, // Мы крэпку столь звядзём, // І лепшай прышла-

сцю для нас // Быць мусіць новы дом!». Завяршаецца верш на высокай публіцыстычнай ноце:

Працуйма, брацця! Хай хутчэй
Наш льецца пот цурком:
Прыжджэм і мы святлейшых дней,
Як скончым строіць дом!..

Някепскае ўяўленне пра Галубка-паэта дае і верш «Забытая хатка». Як і звычайна ў яго, у гэтым творы няма ні яркіх параўнанняў, ні маляўніча-насычаных вобразаў, а прысутнічае сама праўда будняў, што дазваляе яшчэ раз убачыць непрыглядныя бакі рэчаіснасці, калі просты чалавек не жыў, а пакутаваў:

Над соннай далінай
Відаць хмызнячок,
Пры ім сірацінай
Хацінка-ламок.
Жыве там гаротны
Дзядуля з дня ў дзень,
Збалелы, маркотны,
Снуе толькі цень.

Прайшлі гады, непрыкметна наступіла старасць: «Жыццё прамінула, // Як сон той вясной, — // Старога сагнула // Бяда, неспакой…» Старасць — ніколі ў радасць, але ў гэтага безыменнага дзядулі яна тым больш гаротная: «…сына // Забрала вайна; // Другога машына // Ў магілу звяла…» На гэтым няшчасці не скончыліся: «За імі і маці // Пайшла на той свет…» Застаўся ён адзін у хаце:

Сядзіць скачанеўшы,
Сагнуты дугой,
Не піўшы, не еўшы,
З нямою душой…
Віхура за хатай
Гудзіць і шуміць,
З пагудкай заклятай
У шыбы гручыць.
І як бы галосіць
Над ім, сіратой,
І нібыта просіць
На вечны спакой…

Як ні «крапіўся дзядуля», «прыйшла смерць-зязюля, // Як свечка патух». Цяпер у гэтай хатцы «гуляе // І холад, і цьма».

Але па сваім унутраным патэнцыяле паэзія Галубка была ўсё ж аптымістычнай, што відаць і з верша «*** Хачу мець зямельку і мру без работы…» Лірычны герой твора прызнаецца: «Я рад працаваць да крывага поту // І жду ўсё — падмогі няма ніадкуль». Гэтае сваё памкненне ён падмацоўвае такімі словамі:

Глядзіце, зямелькі вось колькі пустуе!
Аблогам марнуецца колькі пасек!
А я даў бы рады, мне ж сіл не бракуе.
Без працы чы ж можа пражыць чалавек?

Тыя тэмы, якія Галубок закранаў у вершах, як раскрываў іх, былі блізкія чытачам «Нашай нівы», якія з нецярпеннем чакалі кожны нумар сваёй любімай газеты. Ягоныя творы таксама станавіліся падмогай ім у сваім жаданні «людзьмі звацца». Хай сабе гэтыя словы ў знакамітым Купалавым вершы прагучалі пазней, ды ў жыцці простага люду яны жылі пастаянна. У рэшце рэшт, як і ў кожнага, хто ўсведамляў сябе беларусам ці імкнуўся пераканацца, што

ён — не чалавек без роду-племені, не проста тутэйшы, а гэткі ж самы, як і прадстаўнікі іншых народаў, якія жывуць поруч з ім. У падобным памкненні беларусаў стаць беларусамі дапамагаў Галубок. Яшчэ ў большай ступені Галубок-празаік.

## Вяселле, якога… не было

Не толькі першае апавяданне Галубка «На вяселле», а і некаторыя наступныя яго творы «малога жанру», як скажам, «Журавінка», «Не паклаўшы, не возьмеш», «Марымонавы сабакі» і іншыя маюць усе прыкметы так званай народнай прозы. У аснову іх, як правіла, пакладзены нейкі выпадак, што меў месца ў сапраўднасці, часцей анекдатычны, відавочна жартаўлівае ўспрыманне аўтарам жыцця. Часам гэта не проста смех, а смех з прыкметамі роспачы, што адкрыта не бачна, а праяўляецца пры вельмі ўважлівым прачытанні твора, які, маючы бытавую аснову, сюжэтам сваім як бы імкнецца вырвацца за межы гэтай схемы. Міжвольна напрошваецца нават параўнанне згаданых твораў з малюнкамі, асабліва распаўсюджанымі ў Расіі, што называліся лубкамі, і якія можна было ў дарэвалюцыйны час прыдбаць на рынках, вуліцах за мізэрную плату. Пакупнікі такіх, часцей за ўсё гумарыстычных твораў, не заўсёды ведалі імя іх аўтараў. Галубок таксама як бы адмаўляўся ад свайго аўтарства, у асобных выпадках пазначаючы ў падзагалоўках «Апавяданне старога дзеда», «Стары ўспамін». На такі крок ішоў свядома, ужо гэтым падкрэсліваючы народнасць сваіх твораў. Нагадваў, што яны, маўляў, — не плод яго мастакоўскай фантазіі, сюжэт грунтуецца на тым, што было ў сапраўднасці ці, прынамсі, магло быць.

«Апавяданне старога дзеда» значыцца і ў падзагалоўку апавядання «На вяселле». Гэта і сапраўды ўспамін з часоў ужо далёкіх, што відаць з самага пачатку твора: «Было мне гадоў шаснаццаць. Помню, як сягоння, часценька ў свята мы траляваліся ў Барысаў на кірмаш — бывала, сам я адзін, бывала, з сястрой Петрунэляй, а яна тады была дзяўчынай.

У Барысаве заўсягды спатыкалі мы дзядзьку нашага, а то часцей цётку; вось яны, абы толькі сустрэўся, зараз пачынаюць пытацца, што чутно і ці скора Петрунэлю замуж аддаваць будзем».

Падобная настойлівасць сваякоў апавядальніку надакучыла: «…гэтае пытанне так абрыдла, так далося ў косці, што стаў я маракаваць, як адвучыць іх ад яго». Выйсце знайшлося, можна сказаць, выпадкова. Загуляўся тады дапазна, а тут яшчэ «дождж лупянуў такі, што як з лубу ліе». Хлопец, нягледзячы ні нашто, хацеў перш ісці дадому, але аднаму неяк было боязна, дый далёка — вёрст восем па дажджы цёпкацца». Разважаў ён, разважаў дый знайшоў нечаканае выйсце: «дай, думаю, пайду да дзядзькоў і папрашу іх на вяселле. Пэўна пойдуць!»

Каб было больш праўдападобна, схлусіў, што «пакуль па дарозе зайшоў да аднаго, да другога, то хоць і выйшаў з хаты да свету, але да дзядзькі крыху спазніўся». Сваякі, хоць і не адразу, але ўсё ж паверылі яму. Ішлі ў цемры гадзіны дзве, «змоклі да ніткі». Нарэшце падышлі да хаты, дзе мелася быць вяселле. Канешне, у вокнах цёмна, усе даўно спяць. Калі гаспадары на стук у дзверы прачнуліся, вельмі здзівіліся, пачуўшы пра вяселле. Дый і здагадаліся, хто гэта так пажартаваў з іхнімі сваякамі: «Якое вяселле, хто вас клікаў; ці не Сымонка, каб ён прапаў?» — «Але ж, ён!» — «Зманіў, каб ён затануў! Скарэй у хату ідзіце!» Канешне ж, «з таго часу ні цётка, ні дзядзька ніколі больш не пыталіся, калі вяселле Петрунэлі».

Напісана па-майстэрску, каб не ведаў, што гэта дэбют маладога на той час празаіка, наўрад ці паверыў бы. Можна, вядома, гаварыць пра тое, што аўтар яшчэ знаходзіцца ў палоне фальклорных небыліц. Праўдзівым будзе і папрок яму ў тым, што псіхалагічна слаба матывуюцца паводзіны дзядзькі, які вельмі ж

хутка паверыў, што вяселле і сапраўды ладзіцца. Але апавяданне чытаецца. А цяпер уявім сабе тагачаснага нашаніўскага чытача. Не столькі нават гарадскога — віленскага, мінскага, маладзечанскага, слуцкага… Чытача, які жыве ў самай глыбінцы.

Трапляе ў Богам забытую, уладамі забітую вёску «Наша ніва». Знаходзіцца нейкі грамацей, разгортвае… Яго позірк запыняецца на публікацыі, якая падпісана «Сымонка». Само па сабе ўжо гэта не можа не прыцягнуць увагу. Піша ж нехта свой. Ці не гэткі ж мужык. Пачынае вясковец чытаць апавяданне і ад смеху не можа ўтрымацца. Падобнае магло здарыцца і ў якой-небудзь суседняй вёсцы. Потым уражаннямі дзеліцца з суседзямі, знаёмымі. Яны просяць пачытаць ім. Сабраўся цэлы гурт.

## «Вуда», што сама ходзіць, і як лічаць рэбры

Гэткая ж рэакцыя была і на іншыя гумарыстычныя апавяданні Галубка. Яны таксама зместам сваім звязаны з тым, што было ці, прынамсі, магло быць. Узятыя з народнага жыцця, і ў сутнасці сваёй народныя. Як і апавяданне «“Журавінка”». Слова гэтае невыпадкова самім аўтарам узята ў двухкоссе, бо не пра ягаду, што расце на балоце, гаворка. Журавінкай герой твора называў сваю любую: «Аж дзівіліся людзі, як жаніўся наш герой: сам вялізарны, сутулаваты, як крук, а маладзіцу браў маленькую, чырвоненькую, быццам журавінку. Вяселле згулялі як след — ну, жылі спярша нішто». Але потым пачало адбывацца штосьці незвычайнае: Рыгор худзее і худзее, «з крука зрабіўся, як вуда, і з твару пачаў чарнець, а жонка «Журавінка» — круглець». Спалохалася, стала «жаліцца на нейкую хваробу». Рыгор таксама спалохаўся: «курыцу, што пеўнем пяе, дастаў; шаптух і блізкіх і далёкіх запрасіў; усялякае зелле гатавалі, палілі, курылі; качалкі праз акно кідалі». Аднак нішто не дапамагала: «Журавінка — журавінкай: як на балоце ўзросшы, разбохалася, але папраўы няма».

Браўся лячыць і «нейкі стары знахар». Але выйсце падказала сама Журавінка: «…пяску з мора прыцягні, як рукой усё зніме». Згадзіўся Рыгор і на гэта. На поўдні ж напаткаў свайго даўнейшага суседа Язэпа. Ён пайшоў у прымы ў суседнюю вёску. Разгаварыліся, той паабяцаў сам вылечыць Журавінку. Вярнуўшыся ў Рыгораву вёску познім вечарам, убачылі пра акно, што жонка бавіць час з маладым хлопцам Янкам Канцавым. Язэп загадаў Рыгору лезці ў мяшок, а сам папрасіўся паначаваць: «спярша гулякі ані блізка, але, нешта пашаптаўшыся, згадзіліся».

Тое, што было далей, перададзена так пераканаўча, што ўсё выразна ўяўляеш сабе, быццам гэта адбываецца ў сапраўднасці. Ты ж стаіш непадалёку і ўважліва назіраеш. Па-сутнасці, перад табой праходзіць сцэнічнае дзейства, што паступова набліжаецца да свайго лагічнага завяршэння. Язэп адышоў у кут хаты і ўзяўся развязваць мех. Журавінцы ж з Янкам не да таго, каб назіраць за нечаканым госцем. П’юць, ядуць. Журавінка ад задавальнення, што побач каханак, «яшчэ і запяяла: «Няма майго Рыгора, пайшоў па пясок да мора», а Янка, падхапіўшыся ў бокі, падцінае: «Тунда, тунда, тундада!» Тут ужо і Язэп з кута голас падаў: «Не вытрываю — запяю і я: «А мой жа ты Рыгору, вылазь з меха на волю, вісіць бізун на сцяне, дай ты Янку і жане: Янку раз, жонцы два, тунда, тунда, тундада!»

Што адбылося пасля, здагадацца не цяжка. Але Галубок наконт гэтага нічога не гаворыць. На завяршэнне апавядання ён абмяжоўваецца толькі запытаннем: «Мусіць, хочаце ведаць, што было далей?» І адразу ж інтрыгуюча адказвае: «Вось, не скажу! Хіба толькі тое, што наша «вуда» цяпер стала працей хадзіць, а гладкая скурачка Журавінкі пачала моршчыцца…» Тым самым, як бы прапаноўвае чытачу стаць свайго роду суаўтарам. Штосьці дадумаць, нешта дадаць. Адно

відавочна: сярод тых, хто пазнаёміўся з такой няхітрай жыцейскай гісторыяй, абыякавых не будзе. Таму не будзе, бо ўсё ўзята, як кажуць, з самой натуры. Тое, пра што расказана, у той ці іншай ступені і было знаёма тагачасным чытачам. З пэўнымі сітуацыямі гэткага любоўнага трохкутніка ў яго гумарыстычных варыянтах яны сутыкаліся.

Уважліва сочачы за разгортваннем сюжэта, чытачы і не заўважалі, што ў апавяданні прысутнічаюць пэўныя няўвязкі. Не да таго было яму, каб звяртаць увагу на гэта. Пра ўсё ж расказвалася так лёгка, нязмушана. Аднак, калі паглядзець з прафесійнага пункту гледжання, то ніякія гэта і не дробязі…

Безумоўна, трэба прыняць пад увагу, што Галубок свядома наследаваў фальклорныя матывы. Сведчанне таму і тое, што Журавінка, каб выздаравець, прасіла мужа прынесці ёй з мора пяску. Як вядома, гэта традыцыйна для многіх казак, паданняў, легенд, іншых жанраў вусна-паэтычнай творчасці, героі якіх накіроўваюцца за «мора-акіян». Аднак, прытрымліваючыся гэтага, нельга ўсё ж цалкам адмяняць і рэалістычнага падыходу ў адлюстраванні таго, што адбываецца. Відаць, трэба было неяк удакладніць, як гэта Язэп раптам апынуўся каля мора. Тым больш дзіўна, што яго не паклікала Рыгорава жонка.

У падзагалоўку твора «Як Сымон у воласці выкруціўся» таксама значыцца «апавяданне старога дзеда». Гэта, бадай, не толькі адно з лепшых дасягненняў Галубка-гумарыста, а ўсёй беларускай літаратуры ў гэтым жанры. «Нябожчык Мікіпар, працуючы, як вол, цэлы тыдзень, толькі ў нядзелю плечы разгінаў, а каб гэты дзень меў адлічча ад другіх — заходзіў к Ёселю лыкнуць картаплянкі.

Вось тады ніхто не паткніся пярэчыць яму».

Сын Сымон увесь у бацьку пайшоў. Таксама быў да працы ахвочы, але калі «расслабляўся», то лепей на ягонай дарозе не стой і яму не пярэч. Сапраўды ўжо: два боты — пара. Дайшло да таго, што кожны дзень «лаянка, бойка». Бацька і сын, «ходзячы на жальбу ў воласць, парогі паабівалі… Ідуць ды ідуць: то сын, то бацька, ці то так ужо за звычай мелі, ці затым, што воласць недалёка была». Гэтым разам стары зноў памкнуўся праўды шукаць. Сымон не збіраўся адставаць ад бацькі. А тут яшчэ жонка яго, а Мікіпарава нявестка жару падсыпала. Прапанавала мужу:

«— На табе трохі грошай, там, можа, каму падаткнеш, каб старому рэбрыны палічылі, а сам кіруйся, каб як выкруціцца».

Прайшло шмат часу, але ні бацька, ні сын з воласці не вярнуліся. Нявестка «зацікавілася і пабегла даведацца», што здарылася:

«Толькі пачала мінаць Петуховы гароды, як бачыць: бяжыць Сымон, трымаючыся за паясніцу, збялеўшы, як палатно.

— Ну, як жа? Ці выкруціўся? — спытала жонка.

— Я ўжо выкруціўся, а стары яшчэ выкручваецца! — прамармытаў скрозь слёзы Сымон…»

## Шмат сказаў стары сад

Аднак Галубок пісаў не толькі гумарыстычныя апавяданні. Ёсць у яго і «сур’ёзныя» творы «малога жанру». У тым ліку і тыя, у якіх ён па-свойму асэнсоўвае даўніну. Праўда, у такіх апавяданнях не заўсёды ў наяўнасці сюжэт. Найчасцей гэта звычайны роздум пра тое, што некалі было, і ацэнка ўсяго з вышыні пройдзенага часу. «Мінуўшчына», «Мінулае», «Званы» — гэта тое, што магло б стаць і эскізам да чаго-небудзь больш значнага, разгорнутага. Але Галубку было дастаткова і таго, што ён сказаў. Дзеля душэўнага ачышчэння, дзеля спатолення прагі памяці, якая здатная выступаць і свайго роду камертонам, дзякуючы якому можна лепш убачыць і дзень сённяшні.

Да месца ў некаторых са згаданых апавяданняў і алегарычныя моманты. Як у той жа «Мінуўшчыне»: «Заглох і апусцеў стары сад. Затаіўшы нуду аб мінуўшчыне, стаіць ён, як знак пракляцця. […] Нудна і нават шорахна глядзець на колішняе месца жыцця, сілы і працавітасці. Нават зелень плакучых бярозак нікне, адбіваючыся на трухлявых сценах.

Дзе ж падзеліся багатыры і іх бязмежнае права? […]

Цяпер толькі сівы палын, здружыўшыся з крапівой, запанаваў і заглушыў усё ўшчэнт.

Пакінут дом, пакінут сад, няма і следу, што тут было паўвеку назад».

Пры чытанні з'яўляецца элегічны настрой. Адпаведнае і ўспрыманне твора. Аднак шкадаванне таго, «што раньш было», не перашкодзіла аўтару ў гэтым апавяданні застацца і цвярозым рэалістам, сказаўшы ўсю праўду пра таго, хто некалі тут жыў. Галубок нешматслоўны, ды прамоўленага дастаткова для таго, каб уявіць, як і што раней было на гэтым месцы: «Яшчэ пры жыцці нябожчык гаспадар пад шумок адпаліваў такія штукі, што і цяпер душа халадзее, таму ўсё тое хоць крышку ў памяці засталося… Без працы, без клапот правалок ён тут сваё пустое жыццё».

Не ўвогуле пра марнасць людскога існавання гаворыцца. Не пра тое, што чалавек у Сусвеце толькі маленькая пясчынка, якая цягам часу бясследна знікае. А пра тое, што трэба баяцца «пустога жыцця», каб, калі нешта і пакідаць пасля сябе, дык памяць аб сваіх добрых учынках і набытках.

Ці не самае алегарычнае ў Галубка апавяданне «Навальніца»: «Над вялікім, даўно ўжо пакінутым і заглохшым садам збіралася навальніца. Цяжкія хмары паўзлі па шэрым, як арыштанцкі армяк, небе і, выцягваючы свае лапы, падпаўзалі бліжэй к сонцу, каб згасіць яго. Чорныя цені, што паляглі на зямлі ад хмар, наводзілі на ўсё жывое страх».

У чаканні буры «спужаўся і задрыжэў сад». Ён «прадчуваў, што можа стацца, калі навальніца пачне крышыць без міласці худзенькія дрэўцы». Адзін стары дуб не баяўся яе, «стаяў смела і адважна, паглядаючы вясёла ў вочы цёмным хмарам». Неаднойчы «віхуры парываліся схіліць яго к зямлі», ды намаганні гэтыя заставаліся марнымі: дуб «толькі смяяўся над непагодай». Ды гэтая навальніца была моцная, як ніколі. Зразумеўшы гэта, «страпянуўся дуб і, выпрастаўшы шырокія грудзі, прыгатаваўся спаткаць націск, як калісь бывала». Толькі не пашанцавала яму: «ударыла маланка, задыміўся і зваліўся апалены дуб».

Пісалася гэтае апавяданне ў 1911 годзе. Як у прыродзе наспявае навальніца, так у Расіі пакрысе наспявала новая рэвалюцыя. З верай у яе твор і быў надрукаваны 21 красавіка 1911-га ў «Нашай ніве». Дуб, які так упэўнены ў сабе, як няцяжка здагадацца, — сам цар, са звяржэннем якога ў грамадстве звязваліся найлепшыя спадзяванні.

Як быццам крыху ў баку ад іншых твораў стаіць апавяданне «Голад». Яно пра «худога, ледзьве жывога вартаўніка Сёмкавай сялібы сабаку Дудку, не раз галадаўшага колькі дзён запар». У пошуках ежы ён пайшоў ад свайго гаспадара, «туляўся ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі», але нідзе падсілкавацца яму не ўдавалася. Нарэшце, убачыў «пекны дом, што, як багатыр, стаяў паміж зяляніны, ласкава ўглядаючыся маляваным дахам у неба». З цяжкасцю прабраўся Дудка за агароджу.

Дагэтуль у творы часам адчуваецца апісальніцтва. Ім, будзем шчырымі, грашаць месцамі нават лепшыя апавяданні Галубка. З гэтага ж моманту пісьменнік дасягае такога глыбокага псіхалагізму, што Дудка ўспрымаецца ўжо не проста жывой істотай. Ён нагадвае сабой чалавека, які знаходзіцца на мяжы жыцця і смерці. Разумее сваё незайздроснае становішча. Таму, страціўшы ўсякую асцярогу, крочыць да ганка, адкуль «прыемны дух засвідраваў у носе яго і разбудзіў сонныя, галодныя трыбухі». Пакорнасць Дудкі разжаліла гаспадарскага «беленькага

пудліка з нейкімі цацкамі на шыі». Ён не толькі не загаўкаў на нечаканага госця, а і нават павёў яго за сабой да талеркі, ад якой ішоў такі прыемны пах.

Усё было, лепш не прыдумаеш, але Дудку, пачаставаўшыся, захацелася пакаштаваць і костачку, што ляжала на талерцы. Па неасцярожнасці ён «клыком адбіў споры кавалак» яе. І ў гэты момант «убачыў, як чыясь доўгая цень выпаўзла з-за вугла. Ён зірнуў і абмёр. К яму краўся нейкі чалавек быццам бы са стрэльбай у руках. […] Нешта зашумела, пляснула і пацягнула дымам. […] Чырвоныя плямы закрасаваліся на жоўтым пяску, і промні сонца выпаўзлі з-за зялёнага куста і доўга асвячалі цела галоднага бедака».

Несумненна, што апавяданне «Голад» належыць да лепшых узораў нацыянальнай навелістыкі, у якіх расказваецца пра «братоў нашых меншых». Хоць месцамі Дудка, па волі аўтара, і разважае занадта па-чалавечы, на гэтым не хочацца засяроджваць увагу, бо яе запыняе іншае. Тое, з якой чалавечнасцю, пяшчотай расказаў Галубок пра сабаку, наколькі пранікнуў у патаемныя думкі таго, хто гэтаксама абяздолены, няшчасны, як і вяскоўцы, сярод якіх жыў гэты бедалага.

Апавяданні Галубка высока ацаніў Максім Багдановіч. У артыкуле «Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911 — 1913 гадоў» ён сведчыў: «Галубок, як і раньш, пісаў бойкія і вясёлыя апавяданні, да чаго меў праўдзівую здольнасць. Мова іх заўсягды жывая, тэмы іншы раз даволі цікавыя».

## Тэатр — гэта святое

Але над усім — музыкай, літаратурнай творчасцю — у Галубка пераважала любоў да тэатра. У Мінск даволі часта заязджалі тэатральныя калектывы з Пецярбурга, Масквы, Украіны, і ён імкнуўся не прапусціць кожны больш-менш значны спектакль. Глядзеў звычайна з галёркі — гэтак танней абыходзілася.

Сцэнічнае дзейства і захапляла, і чаравала, і здзіўляла сваёй таемнасцю. Часам не верылася, што звычайныя людзі гэткія, як ён сам — у тэатральных трупах заўсёды было нямала моладзі, — здатны на такое пераўвасабленне. Неаднойчы прыходзіла думка: «А ці змог бы гэтак выступіць я?» Прыходзіла і хутка знікала, бо спачатку і не ведаў, у якой ролі паспрабаваць свае сілы. Драматурга? Апавяданні ж, вершы піша, чаму б і за п’есы не ўзяцца?! А мо ўсё ж у ролі акцёра выйсці на сцэну, пагаварыць, паразважаць пра жыццё-быццё, увасобіць вобразы гэткіх жа, як і сам, людзей... Людзей працы, людзей з мазольнымі рукамі. А тут яшчэ трапіўся на вочы чарговы нумар «Нашай нівы» — Галубок ужо даўно быў яе сталым чытачом. Здаецца, у нумары за 1906 год пісалася: «Пытаецеся, ці ёсць беларускі тэатр? Пакуль што няма, але, здаецца, што на калядах ужо будзе. Прысылайце толькі п’есы, каб іх можна было ставіць».

Захады па стварэнні беларускага нацыянальнага тэатра тады рабілі Ігнат Буйніцкі, Фларыян Ждановіч, Усевалад Фальскі і іншыя. Ужо ў тым жа 1906 годзе адбыўся спектакль на колішнім хутары Пятроўшчына, цяпер мікрараён Паўднёвы Захад у Мінску. Асобныя спектаклі ставіліся і ў наступныя гады. Некаторыя з іх Галубок глядзеў, пра іншыя чуў. Ён ужо жыў тэатрам, тэатр быў для яго той прыцягальнай сілай, уздзеянне якой з кожным днём мацнее і мацнее.

Нарэшце, у чэрвені 1907 года заявіла аб сабе трупа Ігната Буйніцкага. Працавала нядоўга, ды пачатак быў зроблены. У 1913 годзе ствараецца «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі», якім кіраваў Ждановіч. Галубок не хавае радасці — гэта якраз тое, што яму патрэбна, пра што марылася. Далучаецца да таварыства разам з жонкай і дочкамі. Піша п’есы «Забыўся падперазацца» (тэкст яе, на жаль, не захаваўся), «Апошняе спатканне», «Пісаравы імяніны» і іншыя. Яны і былі пастаўлены ў тым жа 1917 годзе, калі і напісаліся.

Пасля вызвалення Мінска ад немцаў «Першае таварыства...» было рэарганізавана ў Беларускі дзяржаўны тэатр. Уладзіслаў Іосіфавіч марыць ужо аб улас-

ным калектыве. Спрабуе стварыць тэатр на Пярэспе ў Мінску, ды не атрымалася. Вясной 1920 года едзе ў Слуцк, узначальвае драматычную секцыю культурна-асветнага гуртка «Папараць-кветка».

Выступае месяц-другі — і ў Слуцку, і ў Капылі... І вяртаецца ў Мінск, каб стварыць сваю трупу. Яна атрымала назву «Трупа беларускіх артыстаў пад загадам Галубка». Першы спектакль адбыўся 15 жніўня 1920 года ў Беларускім рабочым клубе. Назвы мяняліся, ды трупа працягвала працаваць ажно да 1937 года, стаўшы ўжо БДТ-3 (Беларускі дзяржаўны тэатр)...

Уладзіслаў Галубок адразу згуртаваў вакол сябе аднадумцаў. Першымі акцёрамі сталі ён сам, жонка Ядвіга Аляксандраўна, дочкі Багуслава, Вільгельміна, Эмілія, сябры-суседзі. Першыя крокі рабіла будучая народная артыстка СССР Стэфанія Станюта. Музычнай часткай кіраваў Нестар Сакалоўскі — гэта ён аўтар музыкі Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. На скрыпцы іграў Міхаіл Лучанок — бацька цяперашняга народнага артыста СССР Ігара Лучанка. Далучыліся і пісьменнікі — Алесь Дудар, Іларыён Барашка, Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот. Але гэта ўжо крыху пазней, калі тэатр заявіў аб сабе.

Папулярнасць трупы расла вельмі хутка. Ужо да сярэдзіны 20-х гадоў «галубяняты» аб’ездзілі літаральна ўсю Беларусь. За шэсць гадоў было паказана ажно 1500 спектакляў, многія з якіх адбываліся ў глухіх вёсках, куды і газеты з цяжкасцю даходзілі. Не хапала сродкаў, не было з чаго рабіць рэквізіт. П’есы ж свае Галубок пісаў ці позняй ноччу, ці на рэпетыцыях, калі ўдавалася ўварваць вольную хвіліну, а часам і на падводзе. Бачылі акцёры, што нешта дзядзька Галубок вельмі засяроджаны, адразу разумелі, у чым прычына. Замаўкалі, сцішваліся, а ён, ні слова не кажучы, вымаў з кішэні стары блакноцік, аловак і хуценька штосьці занатоўваў.

Так нараджаліся дыялогі ў яго п’есах «Плытагоны», «Пан Сурынта», «Суд», «Бязвінная кроў» і іншых творах, у якіх само жыццё паказана, ажываюць паўнакроўныя людскія характары. Ды і як жа было не ведаць гэтае жыццё, калі пасля кожнага спектакля яшчэ не адну гадзіну цягнуліся-доўжыліся гаворкі з гледачамі, калі людзі расказвалі такое, пра што і ў самай выдатнай кнізе не прачытаеш.

## Супраць «дрэва зла»

Уладзіславам Галубком напісана каля 40 п’ес. Яны — розных жанраў. У сваіх драматургічных творах ён закранаў шмат якія тэмы: камедыйныя, бытавыя, гісторыка-рэвалюцыйныя, гістарычныя. Шкада толькі, што не ўсе гэтыя творы дайшлі да нас. Але, на шчасце, уяўленне пра іх можна атрымаць дзякуючы рэцэнзіям, змешчаным у тагачасным перыядычным друку. Крытыкі, журналісты, аналізуючы спектаклі, падрабязна ўзнаўлялі змест драматургічнай першаасновы. Але камедыі «Забыўся падперазацца» і ў гэтым сэнсе не пашанцавала. Яна чамусьці не трапіла ў поле зроку тэатралаў. Затое меладрама «Апошняе спатканне», увасобленая Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі, прыцягнула да сябе пільную ўвагу.

Не ў апошнюю чаргу таму, што ў аснову яе Галубок паклаў сваё аднайменнае апавяданне. Яго ўвагу прыцягнулі не такія і далёкія падзеі з жыцця беларускага народа. Тое, што, у рэшце рэшт, і прывяло да некалькіх рэвалюцый. Ураженні ж аб апошняй з іх, Кастрычніцкай, былі самыя свежыя. У галоўным героі Якіме гледачы пазнавалі і некаторых з тых, з кім былі самі знаёмы. Змены ў жыцці імпанавалі ім, а на сцэне адбывалася тое, што гэтыя змены, па сутнасці, рыхтавала. Пазіцыю Якіма яны ўспрымалі блізкай сабе і знаёмай. Многія ж іх таксама былі нядаўнія вяскоўцы. Тое, што прамаўляў ён, было і на іхніх вуснах: «Места і вёска, што неба і зямля. Жывуць людзі ў вёсцы, адчуваюць няпраўду, але не ведаюць, хто рассадзіў яе, хто даглядае яе, а тут, бы ў вадзе, адбіваецца тое дрэва зла;

і відаць карэнне, упіўшаеся ў цела замучаных людзей. Эх дрэва, дрэва, што б было, каб не падрубалі цябе».

Падрубіць дрэва зла — стаць на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Што і робіць Якім са сваімі сябрамі-аднадумцамі. Яны гінуць, перакананыя ў праваце справы, якой прысвяцілі сваё жыццё. Такі ж лёс напаткаў і роднага братам Якіма. Рыгор таксама не мірыцца з сацыяльнай несправядлівасцю, адкрывае вочы праўды на тое, што адбываецца, сваім аднавяскоўцам. Разам з тым, ужо з агледзін сённяшняга дня, бачна, што метады барацьбы, узятыя маладымі людзьмі, антыгуманныя. І Якім, і яго сябры — звычайныя тэрарысты. Але гаворка не пра тое, як дзейнічалі яны — правільна ці няправільна. Размова пра сам твор. Безумоўна, у ім заўважаецца адсутнасць вопыту Галубка-драматурга. Няма напружанасці, належнага дынамізму дзеяння. Дае аб сабе знаць празмерная прывязанасць да першаасновы — апавядання, з якога гэтая п'еса і «вырасла». Дый выбар жанру — меладрама — не заўсёды ішоў на карысць.

Аднак тое, пра што пісаў Галубок, было блізка тагачаснаму гледачу, таму спектакль «Апошняе спатканне» меў вялікі поспех. Разам з драматургам, разам з акцёрамі, гледачы задумваліся над тым, што трэба рабіць, каб хутчэй выкарчаваць «дрэва зла». Так было не толькі падчас прэм'еры. Не сталі выключэннем і далейшыя прагляды. Пазней пастаноўку «Апошняга спаткання» ажыццявіў Беларускі тэатр. На гэты спектакль адгукнулася газета «Звязда», даўшы ў нумары ад 4 лютага 1919 года яму такую высокую ацэнку: «Цудоўная навінка беларускага рэпертуару «Апошняе спатканне» Галубка па свайму зместу […] найбольш падыходзіць да запатрабаванняў нашай сучаснай сцэны… Яна цалкам заслугоўвае найбольш частай пастаноўкі і хутчэйшага перакладу на іншыя мовы».

«Апошняму спатканню» сваёй праблематыкай блізкая і меладрама «Бязвінная кроў». Свядома не пішу «зместам», бо ўвесь тэкст гэтай п'есы не захаваўся. Пэўнае ўяўленне аб ім можна атрымаць толькі з рэцэнзій на спектакль, пастаўлены ў лютым 1919 года Беларускім тэатрам, а таксама па пастаноўках Беларускага вандроўнага тэатра ў 20-х гадах мінулага стагоддзя. Дзякуючы таму, што быў змешчаны ў другой частцы кнігі «Выпісы з беларускай літаратуры» (1923), цалкам захаваўся першы акт «Бязвіннай крыві». Аднак, бадай, не менш важнае сведчанне Максіма Гарэцкага ў ягонай кнізе «Гісторыя беларускае літаратуры»: «…сюжэты на тэмы аб змаганні прыгнечаных з панамі-прыгнятальнікамі ў эпоху набліжэння віру рэвалюцыі болей удаюцца яму (Галубку. — *І. М.*), чым зарысоўкі дзён пачатку сацыяльнай рэвалюцыі («Бязвінная кроў»), нягледзячы на ўсю выгаду гэтакіх эфектаў, як разбіванне панскага двара сялянамі».

Ацэнцы каго-каго, а Гарэцкага нельга не давяраць. Пра тое, як сяляне, натхнёныя рэвалюцыйнымі падзеямі, у Грамадзянскую вайну грамілі панскія маёнткі, сапраўды расказвалі многія пісьменнікі, у тым ліку і драматургі, але найбольшага поспеху дасягнуў менавіта аўтар «Бязвіннай крыві». Бадай, і таму, што адмовіўся ад традыцыйнага падыходу да гэтай тэмы. Звычайна, стыхійная нянавісць нараджалася сярод абяздоленых, якія да гэтага «былі нічым», і якім так хацелася «стаць усім». У Галубка ж ад спадчыннага маёнтка адмаўляецца сын памешчыка, і абараняе ён інтарэсы народа. Не парывае з простым людам нават пасля таго, як сяляне забіваюць яго бацьку, а маёнтак разбураюць.

Нярэдка Галубок дапрацоўваў, а то і перапрацоўваў свае п'есы. Гэта, канешне, сведчыць на карысць яго патрабавальнасці да сваёй творчасці. Так працаваў ён і над меладрамай «Праменьчык шчасця», у цэнтры ўвагі якой вясковы інтэлігент Ігнат. Гэта ўсвядомлены рэвалюцыянер. Адбыўшы пакаранне, ён не зламаўся, а працягвае змагацца за правы працоўных. Сярод сялян праводзіць прапагандысцкую работу, заклікае іх станавіцца на шлях барацьбы з прыгнятальнікамі. Ёсць у п'есе, аднак, і яшчэ адна сюжэтная лінія, якая і надае твору меладраматычнасць. Ігнат закахаўся ў Марысю, дачку памешчыка. Тая адказвае яму ўзаемнасцю. Але з ёю хоча ажаніцца панскі аканом Якуб. Зразумела, што ў Ігнату ён бачыць саперні-

ка, ад якога хоча любым спосабам пазбавіцца. Ён піша на Ігната данос. Так юнак зноў трапле ў астрог, а з яго — у Сібір. Але па вяртанні ўсё ж звязвае свой лёс з Марысяй.

Спектакль па гэтай п'есе быў пастаўлены ў 1919 годзе, меў поспех. Праўда, сам Галубок праз некаторы час узяўся ствараць другую рэдакцыю «Праменьчыка шчасця». Яму захацелася ўзмацніць рэвалюцыйныя моманты. Адпаведна змянілася і назва твора — «Госць з катаргі». Такім госцем для сялян стаў Ігнат, які нечакана вярнуўся з катаргі. Ды яго турбуе не толькі асабістае шчасце. Урокі барацьбы, паднесеныя ім сялянам, не прайшлі бясследна. Просты люд узнімаецца на паўстанне супраць сваіх прыгнятальнікаў.

## Палкоўніца, Ганка і іншыя

З ранніх драматургічных твораў Галубка самую вялікую вядомасць набыла п'еса «Ганка». Гэта таксама меладрама, першапачатковая назва яе «Ні тая, ні другая». У гэтым творы пісьменнік таксама звярнуўся да тэмы сацыяльнай няроўнасці, але падышоў да яе больш узважана, чым дагэтуль, значна ўзмацніўшы выкрывальны пафас. Зрабіў гэта праз вобраз адной з гераінь — некалі багатай, а цяпер збяднелай памешчыцы-палкоўніцы. Мэта яе жыцця — дамагчыся ранейшага багацця. Якімі сродкамі, не так і важна. Галоўнае, каб хутчэй і з большай аддачай. Дзеля дасягнення гэтага, палкоўніца не абцяжарвае сябе якімі-небудзь маральнымі прынцыпамі. Кінуўшы свой хцівы позірк на пані Пясэцкую, яна загарэлася жаданнем парадніцца з ёй. Як быццам, зрабіць гэта не так і складана. У Пясэцкай ёсць дачка Марыся, у самой палкоўніцы — прыёмны сын Васіль. Іх яна і ўзялася пажаніць. Не зважаючы на тое, што Васіль кахае пакаёўку Ганку.

Сюжэт п'есы, як бачым, асаблівай навізной не вылучаецца. Аднак гэта не значыць, што Галубок у асэнсаванні яго пайшоў толькі пратаптанымі сцежкамі. Так, калі падыходзіць да ўсяго схематычна, яму было цяжка сказаць штосьці новае, сваё. Правільней, было б цяжка зрабіць гэта, калі б загадзя старанна, глыбока і псіхалагічна-ўзважана не распрацаваў вобраз палкоўніцы. Ён далёкі ад таго, каб паказваць яе аднабакова. Аднабакова — значыць як толькі маральнага вылюдка. Хоць, бадай, тут лепш падыходзіць рускамоўнае азначэнне «исчадие ада».

Не такая і простая — гэтая палкоўніца. Раней яна магла і спагаду, чалавечнасць праявіць. Таму і пашкадавала сялянскага сірату Васіля, узяла яго ў сваю сям'ю. Праўда, выхавала яго бязвольным, бесхарактарным. У рэшце рэшт і імкнецца, каб такія людзі знаходзіліся поруч з ёй — моцнай, рашучай. Не чалавекам нават, а зверам, прытым лютым, у чалавечым вобліку. Сярод крытыкаў былі нават спробы параўнаць палкоўніцу Галубка з вядомай гераіняй Максіма Горкага Васай Жалязновай. Не абмінуў такой спакусы і адзін з найбольш вядомых даследчыкаў беларускай драматургіі Антон Семяновіч.

Аднак менавіта Семяновіч, як ніхто іншы, хто не адмаўляў такога «суседства», зразумеў усю сапраўдную сутнасць палкоўніцы. Семяновіч сказаў не толькі пра тое, што родніць гэтыя літаратурныя персанажы, а і дакладна адчуў іх рознасць: Як і Васа Жалязнова, «страшэнна ненавідзіць людзей і дзеля сваёй выгады ідзе на любое злачынства, гатова «паліць усё, дагала раздзець усіх, голадам марыць, вымаражваць, як тараканаў». Але «гераіня п'есы У. Галубка ў адрозненне ад Жалязновай накаплівае багацце без пэўнага сэнсу; у яе нават няма наследнікаў, якім яна магла б пакінуць нажытае».

Ды грошы зацьмілі ёй увесь белы свет. Мала таго, што прымусова жэніць Васіля на Марысі. Яшчэ і Ганку выгнала з дому разам з бацькам, панскім пастухом. Дый тых, хто па сацыяльным статусе роўня ёй, не шкадуе: «абула ў лапці Пясэцкую». У сувязі з гэтым глыбокі сэнс набывае размова, што адбываецца ў

палкоўніцы з мужам. Свайго задавальнення ад удала праведзенай аперацыі яна не хавае. Як і радасці, што і далей усё пойдзе па плане:

«Гаспадыня (*лічыць грошы).* План мой удаўся як найлепей. У працягу шасці месяцаў сталі на ногі самі і паставілі на ногі гаспадарку. Студэнта ажаніла, заграбла багацце да сваіх рук, пані Пясэцкая голая, як мыш. Цяпер трэба парваць сувязь са студэнтам, і манеўр скончаны. А матэрыялы для гэтага ёсць. (*Бярэ пракламацыі.)* Адозвы да бунту. *(Чытае.)* «Браты рабочыя і сяляне! З дарогі прэч капіталістых». Гэта значыць нас. Не, мой дарагі, з дарогі сыдзеш сам, бо ты мне на дарозе; я не дапушчу, каб хам, мужык свае законы дыктаваў…

Палкоўнік *(бачыць, што яна лічыць грошы).* На чужым няшчасці — будуеш сваё шчасце?

Гаспадыня. Хто там ведае, чыё яно?

Палкоўнік. Ты ж абула ў лапці Пясэцкую.

Гаспадыня. Не абула б я, абуў бы нехта другі. На тое шчупак у моры…

Палкоўнік. Ажаніла студэнта, атлуміла Пясэцкую, забрала грошы і рада.

Гаспадыня. Абы жыць».

Абы жыць — нязменнае правіла палкоўніцы. Хай сабе і за кошт жыцця іншых людзей, абы толькі самому было добра. Гэтага правіла яна прытрымліваецца з нейкай садысцкай паслядоўнасцю. Задумала напісаць данос на Васіля — напісала. Ніякага жалю да прыёмнага сына ў яе і раней не было, а цяпер — тым больш. Для Васіля зноў пачаліся суровыя выпрабаванні. Як костка ў горле для палкоўніцы была і Ганка. Давяла яе да самазабойства.

Вобраз галоўнай гераіні п’есы распрацаваны гэтаксама глыбока і ўсебакова, як і палкоўніцы. Ён таксама мастакоўская ўдача Галубка. Чаго не скажаш пра Васіля, ягонага паплечніка па рэвалюцыйнай барацьбе Незнаёмага. Прынамсі, так мяркуе сучасная крытыка, аналізуючы гэты твор. Прэтэнзіі, канешне, правільныя. Але гэта калі глядзець на твор у кантэксце ўсёй тагачаснай беларускай драматургіі. У цэлым жа «Ганка» — адна з лепшых п’ес Галубка ў яго творчасці. Так ён мусіў пісаць і на запатрабаванне дня. Несумненна, словам драматурга выконваў і пэўную ролю ў агітацыі насельніцтва за новае жыццё. Таму проста не мог выкрываць тых, хто перашкаджаў яму. З-за гэтага не заўсёды персанажы, якія прынята называць станоўчымі, атрымліваліся пераканаўчымі.

Ды гэта асабліва бачыцца сёння. У гады ж Грамадзянскай вайны, дый у 20-я гады мінулага стагоддзя спектаклі па п’есе «Ганка» карысталіся надзвычайнай папулярнасцю. Адбылося каля 500 паказаў. Пры тым у розных раёнах Беларусі. Была паказана «Ганка» і ў Нараўлянскім раёне. Як пісала газета «Звязда» ў нумары ад 25 сакавіка 1928 года, пасля спектакля артыстаў-вандроўнікаў да Галубка падышоў селянін, ён рвануў за барты свайго кажуха і прамовіў: «Братка ты мой, вось гэты кажух мяне так не сагрэў, як твая «Ганка» сагрэла».

Асабліва блізка да сэрца ўспрымалі гледачы галоўную гераіню. Найбольш блізкай, сваёй яна станавілася для вяскоўцаў. Яны ж таксама неаднойчы з’яўляліся сведкамі таму, як закаханыя маладыя людзі не маглі стварыць сям’ю з-за таго, што нехта быў супраць іхняй жаніцьбы. Калі Ганка праклінала сваю долю, некаторыя жанчыны не хавалі слёз. Тое, што прамаўляла яна, прыгожая, чулая, спагадлівая, успрымалі, як уласнае гора: «Так, вось і паненку панічу сватаюць багатую, вучоную дваранку. Не зайздрошчу, але радуюся шчасцю людзей. Абы ім добра было. Толькі ў мяне нічога лепшага ў будучыні няма. Мужычка я, бедная батрацкая дачка, не маю права думаць ні аб шчасці, ні аб долі і сказаць нікому не магу, што ў маім сэрцы жыве. Павінна маўчаць і маўчаць. О, доля батрачкі! О, шчасце наймічкі. Дзе ж ты? *(Плача, прыпаўшы к сталу.)*» Пасля гэтага жанчыны-гледачы пачыналі плакаць голасна. Спектакль кранаў самыя чуйныя струны іхняй душы.

Была ў Галубка і яшчэ адна Ганка. Так назваў ён гераіню ў лубку «Бязродны». Гэтая Ганка, закаханая ў Янука Бязроднага, працівіцца свайму айчыму, які хоча аддаць яе замуж за старшага ўрадніка Панцялея Качаргіна. Па-сутнасці, падобна на купалаўскую Паўлінку, якая не хоча жыць з нялюбым чалавекам.

Згадаўшы яшчэ п’есу «Душагубы», атрымліваецца, што Галубок напісаў свайго роду любоўную меладраму-камедыю, хоць і з рознымі персанажамі. У ёй «Душагубы» вылучаюцца найбольш пакручастым дзеяннем. Апроч таго, як дакладна прыкмеціў Семяновіч, «асноўны канфлікт твора вельмі стары, традыцыйны ў літаратуры: каханне і здрада. Заснаваны ён на ўзаемаадносінах маладых людзей — Андрэя і Агаты, Васіля і Паўліны, Паўліны і настаўніка, Агаты і Васіля». Паколькі тэкст і гэтай п’есы не захаваўся, ён, адштурхоўваючыся ад скупых звестак, якія можна ў тагачасных рэцэнзіях на спектаклі, і зрабіў гэтую свайго роду рэканструкцыю сюжэта.

У прачытанні таго ж Семяновіча гэта выглядае наступным чынам: «Сын багатага шынкара Андрэй пакахаў дзяўчыну Агату, што служыла прыслугай у шынку, а тая — прыгожага хлопца Васіля, таварыша Андрэя. Сяброўка Агаты Паўліна, якую любіць настаўнік, таксама закахалася ў Васіля, і ён адказаў ёй узаемнасцю. Праз некаторы час Васіль злучае свой лёс з лёсам Паўліны, а Андрэй — Агаты. Аднак сямейнага шчасця ні першая пара, ні другая не знайшлі. Васіль, які хутка маральна апусціўся (п’янствуе, гуляе ў карты), даведваецца аб здрадзе сваёй жонкі Паўліны і ў прыпадку рэўнасці п’яны забівае яе. Неўзабаве ён сходзіцца з хітрай і падступнай Агатай. Але цень нябожчыцы Паўліны, мукі сумлення не даюць Васілю спакою, урэшце ён кідае Агату і канчае жыццё самагубствам. Андрэй жа перад смерцю завяшчае сваё багацце не жонцы, а хлопчыку, што прыслужваў у шынку. У роспачы Агата вар’яцее. З усіх галоўных герояў урэшце застаецца жыць толькі настаўнік, які так і не змог забыць Паўліну, бо шчыра, самааддана яе кахаў».

Страсці, блізкія шэкспіраўскім. Напісаўшы «Душагубы», Галубок выканаў, прынамсі, дзве важныя задачы. Сюжэтнай займальнасцю, вастрынёй любоўнай інтрыгі ён прывабіў гледача, якога прыцягвае эфектнае тэатральнае відовішча з нечаканасцю сюжэтных развязак і развіцця калізій. Але адначасова, зыходзячы з гэтай задачы, выканаў і іншую. Зрабіўшы гледача сваім субяседнікам, прымусіў яго ў думках паразважаць і аб не менш, а ў нечым і больш істотным: над тым, як прага грошай, нажывы губіць чалавека. Над гэтым ён, як ужо адзначалася, задумваўся і ў ранейшых сваіх п’есах, але на поўны голас загаварыў у «Душагубах». Асабліва ў новай рэдакцыі пад назвай «Чорная душа». Агата ж выйшла замуж за Андрэя не па каханні. Паквапілася на ягоныя грошы, што потым і прывяло да трагедыі. У гэтым трагічным ланцужку паступова пачалі з’яўляцца новыя звёны. А выніку ламаліся людскія лёсы.

Уладзіслаў Галубок п’есай «Душагубы» («Чорная душа») яшчэ больш наблізіў тэатр да народа. Узнімаючы праблемы, блізкія простым людзям, прывіваў ім любоў да аднаго з даўніх відаў мастацтва. Тым самым, спрыяў эстэтычнаму выхаванню, а гэта ў маладой краіне, што прачыналася да новага жыцця, было вельмі важна.

## Меладрама з элементамі трагедыі

Каторую п’есу Галубка ні возьмеш, гэта абавязкова тое, што прыцягвала гледачоў. Асабліва тых, якія ці не ўпершыню траплялі на сцэнічнае прадстаўленне. Дзеля іх Уладзіслаў Іосіфавіч найперш і пісаў творы. Каб прывабіць вяскоўцаў сцэнічным дзействам, захапіць ім. Дый і пераканаць іх у тым, якая гэта вялікая сіла — родная мова. Ёй можна шмат сказаць і выказаць. Найчасцей распрацоўваў сюжэты, што прываблівалі сваімі нечаканымі калізіямі, прыгодамі. Пры гэтым часам не звяртаў належнай увагі на псіхалагічную матывіроўку тых ці іншых

паводзін персанажаў. Разумеў, што гэта на шкоду мастацкасці, але ад такога падыходу не адмаўляўся. Яму неабходны быў свой глядач. Такі глядач, які б у яго верыў, а сам ён, каб верыў у гэтага гледача.

З падобным разлікам пісалася і п’еса «Блуд», назву якой пазней перайначыў — «Пан Сурынта». Абедзве назвы дакладныя. Шмат якія персанажы гэтага драматургічнага твора — людзі разбэшчаныя, даўно пагразлі ў блудзе. Найбольш амаральны, распусны сярод іх Сурынта. Для яго даўно няма нічога святога ва ўзаемаадносінах з жанчынамі. Гатоў ламаць людскія лёсы, абы толькі самому ад гэтага мець задавальненне. Так паступіў ён і са сваёй прыгоннай Касяй. Што яму да таго, што ў яе ёсць каханы Віцька.

Дзеянне ў п’есе адбываецца ў канцы XVII стагоддзя, калі такія паводзіны ўспрымаліся звычайнай з’явай. Ды Сурынта пераўзышоў усіх. Як высвятляецца, Кася, якую ён зрабіў сваёй чарговай палюбоўніцай, ягоная родная дачка. Яна нарадзілася ад зганьбаванай ім гэткай жа прыгоннай жанчыны. Тым самым у меладраме з’яўляюцца трагедыйныя матывы, а выкрыццё прыгнятальнікаў узнімаецца на больш высокую ступень ганьбавання ўсёй эксплуататарскай сістэмы.

Найбольшая мастакоўская ўдача Галубка ў гэтай п’есе — вобраз Касі. Хоць яна ніколі не кахала Сурынту, усё ж мусіла мірыцца з ягонай прысутнасцю, бо з палюбоўніцы стала жонкай. Але тое, што яна — ягоная дачка, стала для маладой жанчыны сапраўдным ударам. Як ні просіць Сурынта дараваць яму — на гэта не ідзе, бо стала яшчэ больш ненавідзець яго. Не спакушаецца Кася нават тым, што Сурынта абяцае апісаць на яе ўсё сваё багацце: «Прэч ад мяне!.. Мне нічога не патрэбна!.. Няхай люд бедны скарыстае, убогай я прыйшла і гэткаю адыду!..» Яна праклінае Сурынту, але ў гневе, роспачы праклінае і Бога, будучы перакананай, што менавіта ён вінаваты ў тым, што такое дапусціў.

Як быццам, усё заканамерна. Чаго не скажа чалавек у хвіліны адчаю, роспачы! Тым не менш, Галубок належным чынам «не падрыхтаваў» Касю да такога праклёну. Несумненна, яна была чалавекам веруючым. Аднак чалавек веруючы і сёння не можа рэзка памяняць свае погляды. Тым больш, у XVII стагоддзі. Адна справа — распуснік Сурынта. Той нічога і нікога не баіцца. Кася ж зусім не такая, але яна «ставіць» іх поруч:

«Кася. Праклінаю цябе ў тваім палацы, як вырадка людскога!.. Няхай пралён пачуе зямля сырая!.. Хай паглыне яго і палац пракляты! О, доля, доля!.. Куды ж ты завяла мяне!.. Дзе цяпер мая дарога! (*Упала на калені ля крэсла і ціха плача).*

Увайшла нянька.

Нянька (*на абраз).* Божа справядлівы!.. За што твая напасць?! Божа, Божа!..

Кася (*моцна крыкнуўшы).* Няпраўда!.. Няма Бога!.. Я перад усім светам скажу, што няма!..

Нянька *(спалохаўшыся).* Кася! Што ты кажаш?1

Кася. Ну, нянечка, якую ж назву заслужыла я цяпер?.. Дзе ж ты быў, Бог! Я з родным бацькам жыла, як яго жонка!.. Дзе ж Божая рука была?!»

Затое, раскрываючы вобраз Аканома, Галубок дасягнуў такой пераканаўчасці, што гэты хціўца, двурушнік паўстае быццам жывы. Нічога святога няма ў пана Сурынты, а ў яго — тым больш. Са сваёй прагай багацця, бадай, пераўзыходзіць палкоўніцу з п’есы «Ганка». Асабліва яго каварнасць раскрываецца, калі Сурынта дыктуе яму сваё завяшчанне. Не задумваючыся, замест прозвішча Касі ў тэстамент упісвае сваё. Потым, схаваўшыся пад сталом у панскім пакоі, чакае апошняга ўздыху свайго гаспадара. Калі ж Сурынта пачаў клікаць Касю, каб аддаць ёй завяшчанне, Аканом нечакана з’явіўся перад паміраючым. Выхапіў гэтую паперу, а на Сурынту наступіў нагою:

«Аканом. А, подлы ты, сабака! Жыў, як быдлё, і паміраеш, як быдлё!.. Адна кропля атруты — вось нагарода за твае ўчынкі!.. Здох?! Цяпер я на тваіх касцях

збудую сваё шчасце! *(Трымаючы ў руках завяшчанне, падыходзіць да абраза, як бы хвалячыся.)* Усё маё.. І грошы!.. І зямля!.. І Касенька — мая!

У гэты момант, крадучыся, увайшоў Віцька, пачуў усё, злажыўся з пісталета і стрэліў.

Віцька. І куля твая! *(Аканом як сноп валіцца).* Сабаку — сабачая і смерць!..»

Скуль у Віцьку пісталет узяўся? Ды ён — атаман паўстанцаў. Касі Віцька гаворыць: «Шырокая дарога перад намі — увесь белы свет!..

«Кася. А дзе ж яна, мая дарога?

Віцька. Са мною, любая! З усімі намі, хто змагаецца з няпраўдай чорнай. Туды, дзе ёсць прастор і воля! Дзе няма прыгнёту!..

Пачынае гарэць палац. Уваходзіць з каганцом панская ахмістрыня Агата, трымаючы ў руках паходню:

«Віцька. Палі ўсё, Агата!.. Няхай агонь яскравы на попел знішчыць месца людское нядолі!..

Агата. За слёзы, за знявагу, за кроў нявольнікаў — агнём адказ наш!..»

Відавочна пераклічка з драмай Янкі Купалы «Раскіданае гняздо». Ды Галубок свядома пайшоў на гэта. Віцька, Кася, як і Сымон Зяблік разам са сваёй сястрой Зоськай, гатовы спяшацца «на вялікі сход», па-сапраўднаму адкрываць для сябе Бацькаўшчыну.

Упершыню спектакль «Пан Сурынта» быў паказаны 16 чэрвеня 1923 года ў Мінску. Па сведчанні газеты «Савецкая Беларусь», «народу было ў тры разы больш, чым змяшчае будынак клуба, і шмат жадаючых пабачыць п'есу змушаны былі вярнуцца назад». Тыя ж, каму пашчасціла трапіць на прадстаўленне, былі ў захапленні. Не ў апошнюю чаргу ўразіў іх пан Сурынта, ролю якога цудоўна выканаў сам Галубок. Гэта быў не першы яго выхад на сцэну. Пераўвасабляўся ён і ў іншых персанажаў сваіх п'ес.

## Смех — не дзеля смеху

З асаблівым задавальненнем глядач ішоў на пастаноўкі камедый Галубка. Як, для прыкладу, «Пісаравы імяніны». Назва, як вядома, пераклікаецца з аднайменным апавяданнем Якуба Коласа. Праўда, у розны час спектаклі ставілася і пад назвамі «Залёты дзяка» і «Хвароба ў добрым здароўі». Сюжэт жа камедыі, зразумела, самастойны. Але і пад назвай «Пісаравы імяніны» ў Галубка было два варыянты. Прагледзеўшы спектакль па першым варыянце, нехта, схаваўшыся пад псеўданімам Аматар, пісаў у газеце «Вольная Беларусь», што гэта толькі «генеральная проба ў вопратках». Заўважыў гэты Аматар і тое, што назва камедыі не адпавядае яе зместу. Сапраўды, у ёй расказвалася пра тое, як жонка пісара, каб непрыкметна сустрэцца са сваім каханкам дзякам, прыкінулася хворай, а мужа адправіла шукаць лекі. Але наймічка, даведаўшыся пра яе «хваробу», усё расказала пісару…

Улічыўшы заўвагі, Галубок у другой рэдакцыі камедыі змяніў акцэнты. Асноўную ўвагу скіраваў не на любошчы нявернай жонкі, хоць, канешне, і праз іх гаворыцца, а на імяніны пісара. Паколькі на ягоны дзень нараджэння сабралася бліжэйшае акружэнне, узмацніўся выкрывальны пафас твора. З'едліва, месцамі з сарказмам, часам з іроніяй драматург высмеяў усю вярхушку мясцовай інтэлігенцыі, для якой норма паводзін — угодніцтва, халуйства.

Прозвішчы яе прадстаўнікоў гавораць самі за сябе. Гэта — старшыня воласці Біч,ураднікі Абібок, Набінос і Лупадзёр. Дый той жа дзяк, фельчар, сядзелец, вучыцель — не лепшыя за іх. Усе пісаравы госці не шкадуюць слоў, каб засведчыць сваю прыязнасць да імянінніка. Выслужваюцца як толькі могуць. Аднак

усіх пераўзышоў Біч: «Хто мая правая рука? Пісар! Хто перуном уздумае і напіша, што самому Люцыпару горача стане? Пісар! Хто мужыка наскрозь бачыць? Пісар! Хто пад мяцежнікаў стаццю падвёў за парубку лесу? Пісар! А праз каго матыля гэтага павесілі мне? *(паказвае на медаль.)* Так вось, маючы яго на ўвазе, як спрытнага чалавека, сам шаную яго і вам усім прэпісваю шанаваць яго».

І ў камедыі «Суд» (ёю 10 жніўня 1920 года пачала сваю дзейнасць «Трупа беларускіх артыстаў пад загадам Галубка») выкрываюцца суддзя, старшыня, якія па сваім убостве блізкія не толькі персанажам «Пісаравых імянін», а і Кручкову і Пісулькіну з «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Пацярпелы ад панскага аканома селянін Гарбуз упэўніваецца: праўду казаў яму валасны сторож Мірон, папярэджваючы, што «з багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца». Як і шмат у якіх іншых сваіх творах (і не толькі драматургічных), Галубок сімпатызуе тым, хто ўвасабляе сабой лепшыя якасці беларускага народа. Дасціпным, кемным, з пачуццём гумару паказаны селянін Авечка, які выступае ў судзе сведкам. Ён па слова ў кішэню не лезе. Прыкідваецца прасцячком, гаворыць зусім не тое, пра што ў яго пытаюцца, аднак не прамінае магчымасці пакпіць з паноў, чыноўнікаў.

Нямала сатыры і ў камедыі «Ветрагоны». У адрозненне ад дзвюх папярэдніх п’ес, яна пабудавана на блізкай Галубку сучаснасці. Шмат што ў жыцці змянілася, ды толькі як былі мяшчане, прыстасаванцы, аматары доўгага рубля, так і засталіся. «Шчасце там, дзе бляск» — у гэтым пераканана і васямнаццацігадовая Фрося, пра што прама кажа закаханаму ў яе вясковаму кавалю Пётру. Замуж яна збіраецца не за яго, а за «прыгожа апранутага» Ігната. Ён жа, як высветлілася, звычайны жулік. Выкраў у яе пасажныя грошы, а на вяселле не з’явіўся. Не лепшым аказаўся і другі «модны кавалер» — Сцяпан. Праўда, з Фросяй ён ажаніўся, але пражыў з ёй усяго чатыры дні, а потым — шукай ветру ў полі. Таксама прыхапіў пасажныя грошы.

Тое, што Фрося выгадавалася такой прыстасаванкай, віна і яе бабкі Агаты, якая шэсць разоў была замужам. Дый іншыя, хто знаходзяцца поруч з дзяўчынай, — яшчэ тыя «ягадкі». Стары халасцяк Грыбоўскі, па вызначэнні аўтара, «камічны тып, носіць жоўтую кашулю і камізэльку, у цвёрдым капелюшы» кінуў вока на Агату, не зважаючы на тое, што маладзейшы за яе на дваццаць гадоў. І для яго важней за ўсё — багаты пасаг. Сваццярадзе, якая шукае Фросі «модных» жаніхоў, таксама нос па ветры трымае.

Адна толькі маці Фросі — свайго роду светлы прамень у гэтым цёмным царстве мяшчанства. Яна і дала трапную характарыстыку сваёй дачцэ — ветрагонка. Але ж ветрагоны і тыя, хто акружае Фросю. Адсюль і назва твора — «Ветрагоны». Хоць на сцэне гэтая камедыя ішла і як «Хціўцы», «Дваяжэнцы».

Напісаў Галубок і шэраг іншых драматургічных твораў. Сярод іх і камедыя «Пінская мадонна», тэкст якой не захаваўся. Падступаўся Уладзіслаў Іосіфавіч і да моднай пры савецкай уладзе рабочай тэме, пра што сведчыць датаваная 1933 годам п’еса «Белая зброя». Праз два гады яна была пастаўлена пад назвай «Рыкашэт». У гэтым творы расказваецца пра справы завода, што выпускае сельскагаспадарчыя машыны. Але рабочыя вымушаны змагацца і са шкоднікамі, якія дзейнічаюць пад кіраўніцтвам самога дырэктара, былога афіцэра-калчакаўца. Што ж, такі быў час, калі ўсюды шукалі «шкоднікаў», «шпіёнаў», іншых «ворагаў», а на такую ролю добра падыходзілі замаскіраваныя былыя афіцэры ці розныя спецыялісты. Падобная сюжэтная зададзенасць не лепшым чынам адбілася на мастацкіх якасцях твора.

У розны час Галубок напісаў і п’есы «Фанатык», «Плытагоны», «Ліпавічок», «Бабы-ліхадзейкі», «Краб», «Сяржант Дроб», у аснову апошняй пакладзена аповесць Эдуарда Самуйлёнка «Тэорыя Каленбрун»… Гэта толькі творы, што набылі сцэнічнае жыццё. Працаваў жа Уладзіслаў Іосіфавіч плённа. Было і тое, што засталося ў рукапісах, штосьці жыло ў задумах. Ды ўсё гэта бясследна знікла.

* * *

Як і многіх іншых пісьменнікаў, Галубка ў 1937 годзе аб'явілі ворагам народа. Пры вобыску забралі не толькі ўсе рукапісы, а і ягоныя карціны. Праз некаторы час выклікалі з Гомеля мастака Міхаіла Сімкоўскага. Загадалі на ўсіх работах замаляваць подпіс Уладзіслава Іосіфавіча. Сімкоўскі працаваў усю ноч, са страхам думаючы, што і сам ужо наўрад ці вернецца на волю. Аднак не толькі выпусцілі, а і, як ні дзіўна, дазволілі забраць з сабой чатыры творы. Цяпер яны экспануюцца ў адным з гомельскіх клубаў.

Жонка Галубка, перажываючы за мужа, спрабавала скончыць жыццё самагубствам, але яе ўратавалі. Старэйшы сын Уладзіслава Іосіфавіча — Эдуард працаваў над кандыдацкай дысертацыяй. Паля арышту бацькі абараніць яе не дазволілі. Дачку Галубка — Багуславу паслалі на перавыхаванне ў адзін з калгасаў. Яго малодшыя сыны былі выключаны з камсамола — палічылі, што ў гэтай арганізацыі не месца дзецям ворага народа.

Сам Галубок, хутчэй за ўсё, у тым жа 1937 годзе і быў расстраляны. Афіцыйна ж лічыцца, што памёр ён 7 сакавіка (па іншых звестках 7 ліпеня) 1942 года ад гіпертаніі. Дзе пахаваны — невядома. Хоць, паводле даследчыка Уладзіміра Замкаўца, быў высланы ў Сібір, дзе стварыў тэатральную трупу з ссыльных. З ёй нават выступаў на паромах вялізных сібірскіх рэк.

Жывучы ў сваім часе, Галубок, як і многія іншыя творцы, натхнёныя рэвалюцыйнымі падзеямі, пільна ўзіраўся ў дзень заўтрашні. А дзень заўтрашні для яго — гэта найперш свабодная, незалежная Беларусь. Ён у нечым, зноў жа, як і многія, памыляўся. Але не памыляўся ў адным, самым галоўным: у тым, што беларускі народ быў, ёсць і заўсёды будзе. За гэта яму наша найвялікшая ўдзячнасць. Адначасова тое, як жыў ён, што рабіў на карысць Бацькаўшчыны — прыклад таго, як трэба жыць, працаваць, марыць, каб гэта былі не проста словы, няхай і вельмі важныя, а і падмацоўваліся канкрэтнымі дзеяннямі. Таму, жывучы ў сваім часе, ён успрымаецца намі і па-за гэтым часам, бо створанае ім, асабліва ў галіне тэатра, — гэта тое, чаму працаваць на карысць новых і новых пакаленняў

Кажучы словамі Сцяпана Лаўшука, «упэўненай рукой трымаў Галубок паходню культурнага асветніцтва, штодзённай самаахвярнай працай змагаўся за лепшае заўтра. А ўрэшце, ён сам быў гэтай паходняй, узнятай над плынямі бурнага часу, якая без астатку аддала святло і цяпло роднай старонцы…»



**Мікола ТРУС**

# З ГІСТОРЫІ МЕМАРЫЯЛЬНАГА ЎШАНАВАННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Прамінулае стагоддзе ад часу сыходу з жыцця класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча звязана не толькі з выданнем і вывучэннем яго творчай спадчыны, але і з мемарыяльным ушанаваннем «песняра чыстай красы» (А. Луцкевіч) — у выглядзе памятных дошак, помнікаў, музеяў у розных гарадах і вёсках Беларусі, Расіі, Украіны. Гэта ўжо сфарміраваная цікавая тэма сама па сабе, вартая сістэматызацыі і асобных даследаванняў. Гэтым разам нас зацікавіла гісторыя двух месцаў, звязаных з замкнёным кругабегам жыцця паэта: дом, дзе ён з'явіўся на свет 9 снежня 1891 года, і месца яго вечнага спачыну 25 мая 1917 года.

* * *

Дом, дзе нарадзіўся паэт, знаходзіўся ў Мінску на былой Аляксандраўскай вуліцы, якая потым называлася Камунальнай, насіла імя Максіма Горкага, урэшце была пераназвана ў гонар М. Багдановіча. На гэтым будынку, ці не ўпершыню ў хроніцы сталічнага горада, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар паэта. Дзякуючы навуковым знаходкам сёння можна хоць часткова ўзнавіць гісторыю яе ўзнікнення і далейшы лёс.

Даследаванне гэтага пытання спарадзіла рэтраспектыўнае бачанне грамадска-культурнага жыцця ў Мінску (тады Менску) 1920-х гадоў. У той час горад быў на ўздыме энтузіязму нацыянальнага і сацыяльнага будаўніцтва, стваральнай інтэлектуальнай працы, беларусізацыі. Пачалі сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Інстытут беларускай культуры. Актывізацыя навуковага і літаратурна-мастацкага жыцця ў новых грамадска-палітычных умовах атрымлівала дзяржаўную падтрымку.

Новы час патрабаваў новых нацыянальных герояў. Адным з першых у нацыянальным пантэоне барацьбітоў за лепшую будучыню свайго народа становіцца заўчасна спачылы М. Багдановіч. У чэрвені 1923 года на афіцыйнае запрашэнне з Яраслаўля ў Мінск прыязджае бацька паэта Адам Ягоравіч, які ўрачыста перадае Інбелкульту архіў, што стане неўзабаве асновай першага акадэмічнага двухтомніка «Творы М. Багдановіча», выдадзенага ў 1927—1928 гадах пад рэдакцыяй прафесара Івана Замоціна. Падзея атрымала шырокі грамадскі рэзананс, падрабязна асвятлялася на старонках газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя».

У фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча захаваліся два лісты Адама Багдановіча да яго сына Паўла, зводнага брата Максіма, у якіх больш дэталёва і па-свойску, чым у афіцыйных крыніцах, перададзены абставіны прыёму. У адным з іх чытаем (захоўваецца правапіс арыгінала):

*«18/VI 23 г. Минск.*

*Жаль, милый Павлуша, что ты не был на торжестве в честь твоего брата: много и трогательного, и восторженного ты испытал бы. Мне устраивали такие овации, что, казалось, не будет им конца. И когда мне надо было выступать, то я долго не мог найти голоса: дыхание захватывало.*

*Его портрет был выставлен на эстраде. Написана специальная кантата в его честь, прекрасная и по содержанию, и по музыке. Доклады и речи...*

*Выступали ректор университета проф. Пичето о Максиме как ученом, проф. Петухович с общей характеристикой его поэзии и ее значения в белорусской литературе. Громыка — выдающийся поэт — о приемах и особенностях его творчества; выступали и другие, рассматривавшие его творчество с разных точек зрения. Был специальный доклад о разборе и содержании его архива. Но первая речь была посвящена мне и моей культурной и научной работе с просьбой перенести свою деятельность в родную Белоруссию. Тут раздались столь восторженные аплодисменты, что все сотрясалось, как от грома. Каждое выступление заканчивалось славой: Беларуси песняру, Богдановичу Максиму, слава! и пр. Общий вывод всех выступлений, что Максим краса и гордость белорусской литературы, превосходящий своим значением всех других поэтов».*

Праўдападобна, што А. Багдановіч апісвае ўрачыстасць, арганізаваную ў БДУ. На ёй, як вынікае з наступнай цытаты, і было прынята рашэнне, падтрыманае навуковай і творчай элітай Мінска, наконт памятнай дошкі: *«К сожалению под конец вечер пришлось скомкать: электричество погасло и подписка на памятную мраморную доску на доме, где он родился, проводилась при лампах».*

Што і казаць, гаспадарчая неўладкаванасць у пасляваенным і паслярэвалюцыйным Мінску адчувалася і ў наступныя гады. У час працы над стварэннем кабінета-музея беларускай філалогіі БДУ ў 2004 годзе нас асабліва зацікавіла



Падпіска

на мармуровую дошку, дзеля азначэння на Комунальной вуліцы, дзе радзіўся Максім Багдановіч

253

100р. +
34. 100р. +
35. 100р +
100р +
36. Стасевіч 100р +
37
100р +
38 невядома хто — 7р. 50к. +
100р +
39. 60р +
40.
41
25р +
10р + (Малько з Наркамзему)
50р +
10р +
(Шуткевіч) 50р.

*Падпісны ліст на ўстаноўку мармуровай дошкі на доме, дзе нарадзіўся М. Багдановіч. 1923 год. Фонд ЦНА НАН Беларусі.*

папера, што захоўваецца ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Гаворка ідзе пра паведамленне Праўлення БДУ ад 7 верасня 1926 года. Асаблівай увагі варты апошні абзац вытрымкі з гэтага дакумента (захоўваецца правапіс арыгінала):

*«З 15—20 верасьня г. г. склікаецца Праўленьнем і Дэканатам Пэдагогічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту Усебеларуская Прыродазнаўчая конфэрэнцыя, на якую запрашаюцца выкладчыкі прыродазнаўчых навук Рабфакаў, Тэхнікумаў, праф. школ і поўных сямёхгодак. <…>*

*Унівэрсытэт прадастаўляе дэлегатам конфэрэнцыі дарэмнае карыстаньне інтэрнатам.*

*Конфэрэнцыя працягнецца 5 дзён. Дэлегаты павінны узяць з сабой падушку і пасьцельныя прылады».*

На наша шчасце, у архівах НАН Беларусі (фонд ЦНА) захаваўся ўнікальны рукапісны дакумент 1923 года пад назвай (захоўваем правапіс арыгінала) *«Падпіска на мармуровую дошку, дзеля азначаньня дому на Комунальнай вуліцы, дзе радзіўся Максім Багдановіч»*. Упершыню ён быў апублікаваны ў кнізе А. Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш: Некрашэвічы герба “Любіч”…”» (2012), наўпрост не звязанай з уласна багдановічазнаўствам.

У «Падпісцы…» пададзены аўтографы ўсіх асоб, якія прынялі ўдзел у першай сталічнай акцыі па мемарыяльным ушанаванні класіка беларускай літаратуры. Усяго зафіксаваны 32 прозвішчы; побач — лічбы ўнесеных сум грошай. Калі подпіс неразборлівы, даецца расшыфроўка. Толькі адзін чалавек не назваў сябе, пра што ў канцы спісу выведзена дробным почыркам — «Невядома хто». Скідваліся ў асноўным па 20 — 100 рублёў. («Невядома хто» даў 7 руб. 50 кап.) Усяго было сабрана 467 рублёў 50 капеек.

Традыцыя падтрымкі культурных акцый рознага кшталту, што называецца, у складчыну, захоўваецца і цяпер. Але каментаванне падобных спісаў заканамерна выкліча папрокі ў меркантыльнасці, абвінавачанні ў неэтычных мяшчанскіх паводзінах і інш. «Падпіска…», пра якую ідзе гаворка, аддалена ад нас на 94 гады. Цягам часу гэты дакумент стаў унікальным сведчаннем гісторыі, набыў сваю прыцягальнасць і непаўторную жывінку — цяпер ужо не толькі ў мемарыяльным ушанаванні аўтара «Вянка», але і адмысловай ролі ва ўзнаўленні падзей мінулага.

Пачынае спіс Аркадзь Смоліч, які М. Багдановіча ахарактарызаваў запамінальнымі ўзнёслымі словамі — «Госць з высокага неба», у гонар паэта назваў свайго сына Максімам. Беларускі грамадскі дзеяч Л. Заяц у мемуарных запісах 1925 года, зробленых у Чэхаславакіі, занатаваў наступнае: «У найбольшым звязку і дружбе быў Багдановіч з А. Смолічам, які думаю, мог бы многа цікавага расказаць аб апошніх настроях і думках паэта перад яго ад’ездам да Ялты…»

Далей ідуць Адам Багдановіч, Язэп Лёсік, Язэп Дыла, які шмат рупіўся пра рукапісную спадчыну паэта, займаўся пытаннем яго перазахавання. Замыкае першую пяцёрку падпісантаў з унесенымі ў скарбонку ста рублямі Якуб Колас.

Менавіта некаторы «меркантылізм» мыслення, а таксама даследчыцкая цікаўнасць прымусілі шукаць сярод удзельнікаў акцыі іншых беларускіх класікаў, асабліва, блізкіх да М. Багдановіча. Яны знайшліся ў сярэдзіне спісу: Змітрок Бядуля, і сям’я Луцэвічаў, бо менавіта сваім сапраўдным прозвішчам падпісаўся паэт Янка Купала, а побач — яго жонка Вл.[адка] Луцэвіч (на прынцыпах гендэрнай роўнасці ўнеслі кожны ад сябе па 50 рублёў).

Пісьменніцкія грошы не прапалі, мемарыяльная дошка, па ўсім відаць, была ўстаноўлена, пра што сведчаць наступныя дакументы, якія пераносяць нас у 1950-я гады.

Захаваўся афіцыйны ліст ад 29 мая 1952 года на імя Старшыні Савета Міністраў БССР Аляксея Кляшчова, падпісаны старшынёй пісьменніцкай арганізацыі і дырэктарам акадэмічнага інстытута. Змест гэтага дакумента вельмі важны ў асвятленні гісторыі дома, дзе нарадзіўся аўтар «Вянка»:



*Макет дома, дзе нарадзіўся паэт. З фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча. Публікуецца ўпершыню.*

*Старшыні Савета Міністраў БССР*
*тав. Кляшчову А. Е.*

*Прэзідыум Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР і Інстытут літаратуры Беларускай Акадэміі Навук у сувязі з 35-годдзем з дня смерці беларускага паэта, класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча просіць Вас аб наступным:*

*У Мінску па вуліцы Максіма Горкага д. № 25 ёсць дом, дзе нарадзіўся Максім Багдановіч. Фасад гэтага дома абшарпаны, пасля аднаўлення ў пасляваенны час не атынкоўваўся, няма балкона (засталася толькі адна пляцоўка). Мемарыяльная дошка, якая ўмуравана ў сцяну, амаль непрыкметна.*

*Згодна рашэння Прэзідыума праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР звяртаемся да Вас з наступнай просьбай:*

*1. Пажадана прывесці ў парадак — атынкаваць фасад дома № 25 па вул. Максіма Горкага, дзе нарадзіўся М. Багдановіч у 1891 годзе.*

*2. На доме № 25 па вуліцы М. Горкага просім вывесіць мемарыяльную дошку з наступным тэкстам «У гэтым доме нарадзіўся 27 лістапада 1891 г. беларускі паэт Максім Багдановіч».*

*Старшыня Саюза савецкіх*
*пісьменнікаў Беларускай ССР* *П. Броўка*

*Дырэктар Інстытута літаратуры*
*Акадэміі Навук БССР* *В. Барысенка*

Мяркуючы па рэзалюцыі на вышэй названым дакуменце, справе быў дадзены ход. На імя намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР тав. Уралавай была падрыхтавана даведка, якая інфармавала аб стане будынка і яго плануемым рамонце.




*Эскіз надмагільнага помніка М. Багдановічу ў Ялце. Мастак Павел Лук. 1991 год. Публікуецца ўпершыню.*

Паводле гэтага дакумента, дом «…принадлежит Белорусскому управлению Министерства трудовых резервов СССР и используется под квартиры; здание двухэтажное. На уровне 2 этажа, с левой стороны, мемориальная доска размером 40х35 см. с текстом: “У гэтым доме 27 лістапада 1891 года радзіўся беларускі паэт Максім Багдановіч”, доска замурована по уровню старой штукатурки, еле заметна. После Отечественной войны фасадная сторона дома не ремонтировалась: балконы не восстанавливались; штукатурка обшарпана, сохранилась пятнами, тротуар возле дома не приведен в порядок».

Такім чынам, даведка дае інфармацыю пра дакладны памер мемарыяльнай дошкі і змест надпісу на ёй. Выявы дошкі нам адшукаць пакуль не ўдалося. На тое, што мы маем справу з аўтэнтычным памятным знакам, пра які дбалі дзеячы беларускай культуры і навукі ў 1923 годзе, указвае і дата нараджэння паэта па старым стылі.

Паводле дакумента, Беларускае ўпраўленне працоўных рэзерваў падрыхтавала праектна-тэхнічную дакументацыю на рамонт будынка ў 1952 годзе. Планавалася дабудаваць трэці паверх, замяніць пячное ацяпленне на цэнтральнае, аформіць фасад і інш., а таксама вырабіць і ўстанавіць новую мемарыяльную дошку з тэкстам, узгодненым з Праўленнем Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

Прыведзены афіцыйны ліст, з якім аўтара гэтага артыкула ўпершыню пазнаёміў старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, а таксама працытаваная даведка маюць вельмі важнае значэння ў справе праўдзівага ўзнаўлення лёсу пабудоў, звязаных з вехавымі перыядамі жыцця «песняра чыстай красы».

Праблема ў тым, што існуючыя жыццяпісы М. Багдановіча адносна дома, дзе нарадзіўся паэт, вельмі часта груба скажаюць гісторыю, па інерцыі паўтараюць наступныя памылковыя сцверджанні: пашкоджаны ў час Першай сусветнай, канчаткова знішчаны ў гады Другой сусветнай вайны. Нават у афіцыйных даведках XXI стагоддзя даводзіцца сустракаць сведчанні пра яго страту ў 1940 — 1950-х гадах. І прычынай называецца новая забудова гарадскога квартала. Вынікае, што дом, дзе нарадзіўся класік беларускай літаратуры, быў не рэстаўраваны (як планавалася і на тое было афіцыйнае рашэнне), а ціха знесены, можам меркаваць, пры маўклівай згодзе грамадскасці і дасведчанага кіраўніцтва дзяржаўных устаноў і арганізацый. Дакладна не вядома калі, але на яго падмурку пазней з’явіліся прыёмны пункт шклатары і крама непрадуктовых тавараў, якія на некалькі дзесяцігоддзяў сталі пастаяннымі раздражняльнікамі для творчай інтэлігенцыі і музейных супрацоўнікаў сталіцы рэспублікі.

* * *

Пытанні, звязаныя з магілай М. Багдановіча ў Ялце, магчымым перазахаваннем паэта раз-пораз актуалізуюцца ў СМІ і, як правіла, іх чарговае абмеркаванне прымяркоўваецца да юбілейных дат. Аўтару гэтых радкоў ужо неаднаразова

даводзілася публічна выказваць сваю думку, у планах — прысвяціць гэтай тэме асобную публікацыю з разглядам усіх «за» і «супраць», вызначэннем сваёй пазіцыі і аргументаў на яе карысць.

«Апошні прытулак паэта» — так называецца адзін з найбольш вартых увагі, на наш погляд, артыкулаў па гэтай тэме за нядаўнія гады. Ён належыць пяру Міхася Бараноўскага, навуковага супрацоўніка Літаратурнага музея М. Багдановіча, і апублікаваны ў часопісе «Маладосць» (2014, № 5). Для ўзнаўлення гісторыі ўстаноўкі надмагільнага помніка вылучым з тэксту публікацыі дасведчанага спецыяліста наступныя словы, звязаныя з падзеямі 1927 года: «У. Дубоўка дадаткова сустрэўся з Ц. Гартным, звазіў яго на могілкі, паказаў месца. Ц. Гартны па сваім эскізе за грошы Беларускага ўрада арганізаваў устаноўку надмагільнага знака. Хаця адразу планавалася акультурыць месца захавання да 10-х угодкаў смерці паэта. Абеліск прастаяў да 2003 года, калі на магіле паэта быў устаноўлены помнік скульптараў С. і Л. Гумілеўскіх».

У пачатку 1990-х гадоў, да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча, у Беларусі і за яе межамі разгарнулася вельмі шырокая дзейнасць па мемарыяльным ушанаванні паэта. У Мінску ўзніклі дзве знакавыя культурна-асветніцкія ўстановы сталіцы — «Беларуская хатка» і Літаратурны музей М. Багдановіча, які ініцыявалі многія наступныя праекты. Была падрыхтавана навукова-тэхнічная дакументацыя на аднаўленне дома, дзе нарадзіўся паэт. Узнікла задума ўстаноўкі новага надмагільнага помніка ў Ялце. Эскіз быў падрыхтаваны Паўлам Лукам. Яго мастацкія працы (у суаўтарстве) ужо ўпрыгожвалі франтон будынка Літаратурнага музея М. Багдановіча і адзін з уваходаў у дворыкі Траецкага прадмесця ў Мінску. П. Лукам былі таксама выкананы помнікі, устаноўленыя на магілах Адама і Аляксандры Багдановічаў у Яраслаўлі. Праект стварэння новага надмагільнага помніка тады не быў ажыццёўлены, але стаў цікавай старонкай у гісторыі мемарыяльнага ўшанавання любімага паэта.

…Мемарыяльныя знакі вельмі часта сустракаюцца нам у жыцці, у час шпацыраў нязмушана нагадваюць пра выбітных людзей, пакінутае імі для нашчадкаў. Але, вядома, паэты ўваходзяць у гісторыю народа найперш сваёй творчасцю, пра што сам М. Багдановіч пісаў услед за старажытнарымскім класікам літаратуры Гарацыем:

Лепшы медзі сабе памятнік справіў я,
Болей ўсіх пірамід царскіх падняўся ён;
Не зруйнуе яго сівер, ні едкі дождж,
Ні гадоў чарада, вечнага часу рух…



# СВЕДЧЫЦЬ ПЕРАПІСКА...

*Прапануем чарговую падборку лістоў народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна да пісьменнікаў, рэдактараў, перакладчыкаў, а таксама пэўную колькасць лістоў беларускіх літаратараў да Івана Пятровіча. Такая публікацыя ў нашым часопісе не першая. Мяркуем, што і гэтыя лісты не прапусціць той, хто цікавіцца гісторыяй нацыянальнай літаратуры. Часам менавіта лісты, паштоўкі, тэлеграмы даюць даследчыкам і простым чытачам такія факты, якія не знойдзеш ні ў афіцыйных дакументах, ні ў падручніках, ні ў іншых друкаваных крыніцах.*

## 1. І. Шамякін — І. Чыгрынаву

*21 снежня 1994 года, Мінск*

Дарагі Іван Гаўрылавіч!

Свае 60 гадоў жыцця Вы сустракаеце ў промнях народнага прызнання Вашага яркага, глыбока нацыянальнага таленту. Высокае званне народнага пісьменніка — адзнака гэтага прызнання. Вы адменны майстра прозы і драматургіі, публіцыстыкі. Вашы раманы, п'есы, эсэ, артыкулы з нязменнай цікавасцю чытаюцца, глядзяцца і слухаюцца са сцэны тэатраў, з экранаў тэлевізараў усімі пакаленнямі чытачоў, гледачоў Беларусі і многіх краін бліжняга і дальняга замежжа.

Нельга не адзначыць Вашу актыўную грамадскую дзейнасць. Старшыня Рэспубліканскага фонду культуры, Вы арганізуеце высокародную працу па збору, накапленню, захаванню лепшых здабыткаў культурнай спадчыны народа.

Няхай памагае Вам Бог у жыцці, творчасці, ва ўсіх дабрадзейных клопатах пра людзей і тварэннях іх рук, розуму, таленту.

Жадаем Вам здароўя, новых мастацкіх адкрыццяў, энергіі для здзяйсненняў усіх задум.

Беларускі камітэт абароны міру<br>
Старшыня Камітэта Іван Шамякін<br>
Першы намеснік старшыні Іван Кірычэнка

*Ліст адрасаваны народнаму пісьменніку Беларусі (1994) Івану Гаўрылавічу Чыгрынаву (1934—1996) у сувязі з яго 60-годдзем.*

*Старшыня Рэспубліканскага фонду культуры...* — з 1987 па 1996 гг.

## 2. І. Шамякін — А. А. Логінаву

*Пасля 3 мая 1984 года, Мінск*

Паважаны Анатолій Аляксеевіч!

У часе нашай даволі працяглай, спакойнай, як мне здавалася, канструктыўнай размовы, Вы згадзіліся з прапановай маіх намеснікаў, якія, між іншым, і ўступілі з Вамі ў кантакт, як з аўтарам, і Вы раней мелі справу з імі — не са мной. Ваша

пісьмо ад 3 мая засмуціла нас: Вы перадумалі. Безумоўна, 100 лепш, чым 50, гэта я разумею. І разумею Ваша права дамагацца стопрацэнтнай аплаты. Але не па злой волі Шамякіна ці Хаўратовіча выдавецтва не можа Вам заплаціць так, як Вы жадаеце. Ёсць аўтарскае права. Па разуменню яго маімі намеснікамі і галоўбухам, якія многа гадоў займаюцца ганарарамі (я гэтай справай займаюся ў выключных выпадках, у БелСЭ — сем тысяч аўтараў), і па тлумачэнню юрыстаў, з якімі мы кансультаваліся, выплата ста працэнтаў была б незаконнай, першы рэвізор нас «накрыў бы». Магчыма, мы памыляемся. У такіх выпадках арбітрам з'яўляецца суд, рашэнне якога будзе абавязковым і для нас, і для Вас. І не будзе ніякіх крыўд і абраз. Спакойна, інтэлігентна.

А цяпер пра маральны аспект Вашага пісьма.

Мяне надзвычай здзівіла Ваша пагроза. Не разумею, пры чым тут мая дэпутацкая дзейнасць да канфлікту аўтара з выдавецтвам, такія канфлікты ўзнікаюць ва ўсіх выдавецтвах. Галоўнага рэдактара заўтра можа не стаць, а канфлікт застанецца. Я асабіста з Вамі не канфліктаваў і рабіць гэтага не намераны. Яшчэ больш здзівіла Ваша пагроза паўплываць на рашэнне Камітэта па прэміях. Пры чым тут мая кніга да таго, што я нетэрмінова адказаў на Ваша пісьмо? Акрамя таго, што справа нялёгкая, ёсць і іншыя прычыны, мае, асабістыя, — хвароба, камандзіроўка ў Маскву. Трэба мець павышаную мніцельнасць, каб з запозненага адказу на пісьмо выводзіць, што я груба парушаю законнасць і ўшчамляю Вашы грамадзянскія правы. Не трэба такіх гучных слоў, Анатолій Аляксеевіч! Калі хочаце ведаць, то мае таварышы называюць Вашу пагрозу прасцей — шантажом, што не можа ўпрыгожыць такога паважанага чалавека, як прафесар Логінаў. Цікава, што сказалі б Вашы калегі і Вашы студэнты, каб даведаліся, якім чынам Вы ўздзейнічалі на галоўнага рэдактара, каб атрымаць 100-працэнтны ганарар?

Давайце застанемся, дарагі прафесар, інтэлігентнымі людзьмі.

Дзякую Вам за кнігу. Прышлю сваю.

Адказ па сутнасці справы дамо.

З найлепшымі пажаданнямі Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны фізіёлагу, доктару біялагічных навук, прафесару Анатолію Аляксеевічу Логінаву (1921—1999). А. А. Логінаў быў актыўным аўтарам.*

*Хаўратовіч Іосіф Пятровіч (нар. 1929)* — гісторык, намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ.

*Дзякую Вам за кнігу.* — Відаць, за кнігу А. Логінава «Суть бытия», 1983.

## 3. І. Шамякін — А. Вярцінскаму

*Пасля 3 чэрвеня 1988 года, Мінск*

Галоўнаму рэдактару

штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва»

т. Вярцінскаму А. І.

Дарагі Анатоль Ільіч!

Мяне глыбока ўразіў, ашаламіў артыкул Пазняка і Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці». Гэта жахліва. Лічу, што тэму трэба прадоўжыць. Разумею: эмацыянальных водгукаў будзе нямала. Але неабходны дакументальныя пацверджанні. Думаю, што ў архівах КДБ не маглі не застацца спісы расстраляных з рэзалюцыямі тых пачвар, што пасылалі людзей на смерць. Дабрацца да архіваў цяпер няцяжка.

І зусім проста апублікаваць прозвішчы наркомаў унутраных спраў, якія займалі гэтыя пасады ў 1937, 1938 гадах, іх намеснікаў, начальнікаў аддзелаў і пададдзелаў, следчых НКУС, а таксама кіраўнікоў і следчых Мінскага гарадскога аддзела ўнутраных спраў. Заадно, магчыма, удасца дабрацца і да некато-

рых даносчыкаў. З літаратурнымі даносчыкамі працей — многія з іх выступалі ў прэсе. Прадоўжыць публікацыі накшталт «Бэндэ» Барыса Сачанкі!

Між іншым, аглашэння спісаў даносчыкаў і катаў патрабаваў і Васіль Быкаў у сваім артыкуле ў «Советской Белоруссии». Падтрымайце гэтую ідэю канкрэтнай справай!

З павагай
Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны беларускаму паэту Анатолю Ільічу Вярцінскаму (нар. 1931 г.), які ў 1986—1990 гг. быў галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва».*

*...артыкул Пазняка і Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці». — Артыкул З. Пазняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці» («ЛіМ», 1988, 3 чэрв.). Пазняк Зянон (нар. 1944) — беларускі палітык і грамадскі дзеяч, фатограф, археолаг і мастацтвазнаўца. Шмыгалёў Яўген (1928—2000) — інжынер па адукацыі, грамадскі дзеяч.*

*...накшталт «Бэндэ» Барыса Сачанкі! — маецца на ўвазе раздзел «Бэндэ» з кнігі «Сняцца сны аб Беларусі» (1990) Б. Сачанкі. Раздзелы з яе друкаваліся ў беларускім перыядычным друку (у часоп. «Маладосць», «Полымя» і іншых перыядычных выданнях). Сачанка Барыс Іванавіч (1936—1995) — беларускі пісьменнік, перакладчык, выдавец. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).*

*...і Васіль Быкаў у сваім артыкуле ў «Советской Белоруссии». — На сённяшні дзень назву артыкула і дату публікацыі выявіць не ўдалося.*

## 4. І. Шамякін — В. Рабкевічу

*30 красавіка 1994 года, Мінск*

Паважаны Валянцін Іванавіч!

95 заўваг Вашых я ўлічыў пры рамонце расклейкі і «Адной на падмостках», пры перадрукаванні «Падзення». Рэдактар вы ўважлівы, пільны. Дзякую.

Я — за нацыянальную ідэю. Пяцьдзесят гадоў служу ёй. Думаю, што толькі дзякуючы таму, што чыталі нашы кнігі, трымалася беларуская мова.

Але калі ў «імя ідэі» не дазваляць гераіні, актрысе, прачытаць колькі сказаў з Чэхава ў арыгінале, а пісьменніку ў дыялогу ўставіць рускую ідыёму, — гэта ўжо, прабачце, «звышыдэя». Талстой пачынае «Вайну і мір» з дыялога на французскай мове. Гэтага ж плана наркам, абкам. Катэгарычна не прымаю. Раіўся з навукоўцамі (з Булыкам, Бураком), яны таксама супраць такой словатворчасці. Словы гэтыя ўвайшлі з рускай мовы не толькі ў беларускую, сталі інтэрнацыянальнымі. Недарэчна каверкаць іх у імя ідэі. Запазычаных слоў з розных моў у нас мноства. Мову яны не збяднілі, наадварот.

І дробязі.

Не магу прыняць форму *словаў, моваў, прамоваў*. «Няма словаў». Так, па-мойму, гавораць толькі дзеці. А дарослыя — у якім рэгіёне? Не чуў.

Юшкоўскі — паляк, за гэта яго і пасадзілі. Таму натуральна *Стэфан*. Ёсць праваслаўнае *Сцяфан*. Але вымаўляюць яго і раней пісалі Сцяфан, як і Сцяпан.

Гваздзік — прозвішча. У мяне знаёмы ёсць з такім прозвішчам, беларус, з Магілёўшчыны.

Пры галашэнні над нябожчыкам успамінаюць усё — выплёскваюць гора. Марына якраз успамінае мала, скупа, па-інтэлігенцку.

Кот. Я ўспомніў даўні, з маленства, выпадак. У нашай вёсцы моцна ўчадзела ў сваёй маленькай хаце сям'я. Магло б кончыцца трагедыяй. Выратаваў кот: выбіў шыбу, выскачыў, а праз шчыліну выгнала чад, хлынула свежае марознае паветра. Людзі засталіся жывыя, хоць дні па два-тры хварэлі.

Ёсць яшчэ колькі заўваг, па якіх я не зрабіў папраўкі, але яны не істотныя. Яшчэ раз дзякую Вам. Здароўя Вам, спакойнай працы.

Ваш аўтар

*P. S.* У асобнай папцы — «Падзенне» з Вашымі заўвагамі. Але папрасіце жанчын вярнуць мне гэты арыгінал.

*Ліст адрасаваны рэдактару выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. І. Рабкевічу, які рэдагаваў кнігу аповесцей І. Шамякіна «Сатанінскі тур» (1995), куды ўвайшлі аповесці пісьменніка «Адна на падмостках» і «Бумеранг».*

*Юшкоўскі, Гвоздзік — героі аповесці І. Шамякіна «Бумеранг» (1994).*

## 5. І. Шамякін — В. Лукшу

*Да 10 красавіка 1995 года, Мінск*

Дырэктару выдавецтва «Юнацтва»

Лукшу В. А.

Шаноўны Валянцін Антонавіч!

Прашу ўключыць у план бліжэйшага выдавецкага года маю новую кнігу. У кнігу ўключаю толькі што напісаны мной невялікі па аб'ёму гістарычны раман «Алена Іванаўна». Атрымалася цікавае павестваванне аб трагічным лёсе незвычайнай, прыгожай і разумнай жанчыны — дачкі Івана Трэцяга, жонкі Вялікага князя Літоўскага Аляксандра. Думаю, што гэта той твор, які патрэбны вучням старэйшых класаў і студэнтам для паглыбленага вывучэння роднай гісторыі.

Другая рэч — аповесць «Бумеранг», па-сутнасці, таксама ў пэўным сэнсе гістарычная. У аповесці — лёс чалавека майго ўзросту Івана Жыгуновіча, матэматыка і мастака. Раненне ў першы дзень вайны, лячэнне ў польскай вёсцы, падполле ў роднай вёсцы на Міншчыне, нямецкі палон, уцёкі, барацьба ў радах Югаслаўскай вызваленчай арміі. У 1948 годзе дома, у Мінску, — арышт, ГУЛАГ — незвычайны лагер, у якім вучоныя-нявольнікі распрацоўваюць тэхналогію атамнай бомбы. І наш час: глыбокія перажыванні старога чалавека з-за незвычайнай хваробы дачкі. Аповесць надрукавана ў часопісе «Маладосць», № 1, 1995 год.

Назва кнігі «Алена Іванаўна».

Агульны аб'ём — 16 аўтарскіх аркушаў, усяго.

Улічы мой узрост: у студзені 1996 года мне стукне 75. Дай Бог дачакаць.

З найлепшымі пажаданнямі

Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны беларускаму пісьменніку Валянціну Антонавічу Лукшу (1937—2012), які ў 1980—1998 гг. быў дырэктарам выдавецтва «Юнацтва». Кніга пад назвай «Вялікая княгіня», у якую ўвайшлі раман «Вялікая княгіня» і аповесць «Бумеранг», выйшла ў 1997 годзе.*

*...гістарычны раман «Алена Іванаўна». — Першапачатковая назва рамана «Вялікая княгіня» (1995).*

## 6. І. Шамякін — Ю. П. Броўку

Паважаны Юрый Пятровіч!

Прачытаў у «Полымі» Ваш адкрыты ліст да мяне. І — не паверыце? — парадаваўся за Вашу рэакцыю на негатыўную рысачку ў біяграфіі Вашага бацькі — Петруся Броўкі, Чалавека і Паэта, якога я глыбока паважаў і працягваю паважаць, якому ўдзячны за навуку, за дружбу. Як Вам вядома, я доўга працаваў у СП і заўсёды ўхваляў тых удоў і дзяцей пісьменнікаў, якія стараліся найлепшым чынам

ушанаваць памяць сваіх мужоў, бацькоў. Гэта натуральна. Па-чалавечаму і мне хочацца, каб мае дзеці рэагавалі гэтак жа на закіды ў адрас бацькі, які ўжо сам не зможа адказаць. Адным словам, я Вас разумею.

І калі штосьці мяне крыўдна кранула, дык гэта апошняя фраза Вашага пісьма.

Нічога са мной не здарылася! Проста я хацеў і хачу застацца па магчымасці аб'ектыўным летапісцам часу — і ў мастацкіх творах, і ва ўспамінах, дзённіках.

Вы — юрыст, рэаліст, і Вы не можаце не згадзіцца, што **ўсе** мы закамплексаваны на ідэальнае. Былі. А вызваліцца ад гэтага нялёгка. Прачытайце нашы кніжкі-ўспаміны пра вядомых дзеячаў літаратуры, культуры. Апісанне жыцця святых апосталаў, не ніжэй. А яны былі людзьмі з усімі чалавечымі якасцямі — і Купала, і Колас, і Броўка, і Крапіва, і Лынькоў. І яны жылі ў вельмі складаны час. І ўсе іх грамадскія грахі ішлі не ад іх асабістых якасцяў. У большасці выпадкаў гэта не іх віна, а іх бяда. Хіба не так?

Я не ставіў мэту даказаць, што пісьмо было, я не даследчык.

А вось цяпер некаторыя «даследчыкі» звоняць і пытаюць, дзе пачытаць пісьмо. Справа ў тым — якое пісьмо? Можа, яно такое, што і Вам захацелася б апублікаваць яго, яно ж пісалася ў адкрытыя органы: у ЦК і ў «Праўду».

Пісьмо, Юрый Пятровіч, было. Пра яго мне расказваў сам Міхась Лынькоў у бальніцы, дзе я наведваў яго, цяжкахворага. Але ў той час я расказаў пра гэта толькі аднаму чалавеку — майму найлепшаму сябру Андрэю Макаёнку. Я дазволіў сабе апублікаваць гэты факт толькі пасля таго, як удава М. Ц. Лынькова прачытала доўгія цытаты з пісьма на вечары ў Доме літаратара. Заўважце, тэкст пісьма я ў яе не ўзяў.

Між іншым, не скажу, што каюся ў сваім учынку, але пасля пісьма Вашага і асабліва пасля некаторых званкоў людзей, у якіх, ведаю, далёка не тая павага да Пятра Усцінавіча, што ў мяне, я падумаў: а можа, і не варта было друкаваць гэты факт? Згодзен, што не ўсё напісанае ў дзённіку пад настрой варта выносіць на людзі.

Наконт таго, быў Лынькоў дэпутатам ВС першага склікання ці не быў.

У 1938 годзе за два дні да выбараў кандыдат у дэпутаты па Суражскай выбарчай акрузе Віцебскай вобласці Лынькоў М. Ц. быў зняты з балаціроўкі без тлумачэнняў. Але дэпутатам ВС 1-га склікання быў: выбраны ў сакавіку 1940 года на дадатковых выбарах ад Заходняй Беларусі, далучанай у 1939 годзе да БССР.

Гэта звесткі дакладныя.

І па дробязях — наконт таго, што я нікога не шкадую, нават сваякоў. Гэта так. Прачытайце першую частку маіх дзённікаў «Карэнні і галіны», апублікаваных яшчэ ў 1984 годзе, як я «распісаў» там свайго дзеда і бацьку. А вы абураецеся, што я не пашкадаваў сакратаркі Кіраўніка, якая пабаялася расказаць пра гэтага Кіраўніка — сапраўды Кіраўніка з вялікай літары! Толькі таму, што прыемнік яго перасадзіў яе з мяккага крэсла ў аддзел пісем, ці што я не пашкадаваў пракурора, які пры жыцці Кіраўніка падхалімнічаў перад ім, а пасля смерці пачаў абліваць брудам. Такім чалавекам я павінен быў захапіцца: ах, які мудры наш пракурор? Так? Не, Юрый Пятровіч, дазвольце ўжо мне, старому чалавеку і пісьменніку, мець сваю ўласную думку пра падзеі і людзей.

Маю думку пра Пятра Усцінавіча Броўку не пахіснулі за многа гадоў ніякія факты. А пра некаторых людзей сёння я думаю інакш, чым учора. Вось гэта са мной-такі здарылася, за гэта скланяйце мяне, калі лічыце, што чалавек не павінен ні ў чым мяняцца. Я так не думаю. Не сумняваюся, што ў сваіх дысертацыях па міжнародным праве Вы не супраць перагледзець некаторыя палажэнні, якія дыктаваліся пэўным часам. Хіба не так?

З павагай і самымі шчырымі пажаданнямі

Іван Шамякін

*Ліст адрасаваны доктару юрыдычных навук, прафесару БДУ, сыну П. У. Броўкі Юрыю Пятровічу Броўку (нар. 1936). У дзённіках «Роздум на апошнім перагоне» І. Шамякін прыгадаў наступны факт: у 1938 годзе Пятрусь Броўка і Эдуард Самуйлёнак напісалі данос на М. Ц. Лынькова ва ўсе вышэйстаячыя органы, і М. Лынькова знялі з кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Гэты ўчынак П. Броўкі можна растлумачыць: у пісьменніка былі рэпрэсіраваны цесць, цешча, родны брат жонкі. Цесць быў расстраляны. Пагроза арышту магла вісець і над П. Броўкам. У 1975 годзе, калі памёр М. Лынькоў, жонка пісьменніка С. З. Лынькова-Куспіц патрабавала, каб пад некралогам не было прозвішча П. Броўкі. Але подпіс П. Броўкі пад некралогам з'явіўся. І гэта вельмі пакрыўдзіла С. З. Лынькову-Куспіц. Сына Петруся Броўкі, Юрыя Пятровіча, прыгадванне гэтых звестак у дзённіках І. Шамякіна вельмі не задаволіла.*

*Прачытаў у «Полымі» Ваш адкрыты ліст да мяне. — Броўка Ю. П. Ліст да народнага пісьменніка Беларусі І. П. Шамякіна («Полымя», 1994, № 5).*

*...удава М. Ц. Лынькова прачытала доўгія ўрыўкі з пісьма на вечары ў Доме літаратара. — На вечары, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння М. Ц. Лынькова, у снежні 1989 года.*

*...Кіраўніка... — маецца на ўвазе Машэраў Пётр Міронавіч (1918—1980), першы сакратар ЦК КПБ (1965—1980). Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978).*

## 7. І. Шамякін — Т. Смалянскай

*Да 1 мая 1986 года, Мінск*

Глыбокапаважаная

Таццяна Аркадзьеўна!

Прыміце мае сардэчныя віншаванні з Першамаем, з Днём Перамогі, з Вясной. Жадаю Вам многіх удач, радасцей. Два словы аб справах нашых. Была на з'ездзе С. В. Гладкова, мой добры даўні рэдактар, з якім у мяне было заўсёды поўнае ўзаемаразуменне.

У маі яна павінна здаць раман у набор.

Я ці здолею прыехаць, у мяне 21—22 мая сесія Вярх. Савета БССР, а ў чэрвені трэба быць у Маскве двойчы — на сесіі Вярх. Савета СССР і на з'ездзе пісьменнікаў.

Маю да Вас адну просьбу. Прагледзьце, калі ласка, раман. У плане набліжэння да арыгінала. Думаю, гэта будзе няцяжка зрабіць Вам. Па-першае, я думаю, Вы не лічыце пераклад Т. І. простым падрадкоўнікам, накшталт тых, што робяцца з бурацкай ці ўйгурскай моў. Думаю: з яго можна смела браць кавалкі, якія мае выразалі. Па-другое, перад Вамі арыгінал на мове, якой Вы дасканала валодаеце і ў які Вам так проста заглянуць. Хіба не так?

Я прышлю Вам на дапамогу Вашага сааўтара па перакладу. А калі ёсць жаданне ў Гладковай і ў Вас, мы, Марыя Філатаўна, Таццяна, я, з радасцю прымем Вас у Мінску.

Упэўнены, што такой сілай — я, Вы, Таццяна Іванаўна і Святлана Васільеўна! — мы дамо чытачу «Раман-газеты» самы дасканалы па аўтарскім, перакладчыцкім і рэдактарскім выкананні раман.

Поспехаў Вам!

Ваш Іван Шамякін

*P. S.* Перадайце, калі ласка, маё віншаванне Іне Андрэеўне і маё прабачэнне: я трапіў у бальніцу і не паспеў усім напісаць.

*Ліст адрасаваны перакладчыцы Т. А. Смалянскай. Размова ў лісце ідзе пра пераклад на рускую мову рамана І. Шамякіна «Петраград—Брэст». Датуецца па*

*змесце ліста і па даце выхаду рамана «Петраград—Брэст» у часопісе «Раман-газета» ў 1986 годзе. Пераклад рамана быў зроблены Т. І. Шамякінай і Т. А. Смалянскай.*

*Была на з'ездзе… — на IX з'ездзе пісьменнікаў БССР, які адбыўся ў красавіку 1986 года.*

*С. В. Гладкова — Гладкова Святлана Васільеўна — рэдактар часопіса «Роман-газета».*

*У маі яна павінна здаць раман у набор. — Раман «Петраград—Брэст» у набор для «Роман-газеты».*

*…і на з'ездзе пісьменнікаў. — На VIII з'ездзе пісьменнікаў СССР (24.6 — 28.6 1986).*

*Т. І. — Шамякіна Таццяна Іванаўна (нар. 1948), беларускі літаратуразнаўца, крытык, перакладчык. Дачка І. П. Шамякіна.*

*Марыя Філатаўна — Шамякіна Марыя Філатаўна (1921—1998), жонка І. П. Шамякіна.*

*Таццяна — Т. І. Шамякіна.*

*Святлана Васільеўна — С. В. Гладкова.*

*…Іне Андрэеўне… — ніякіх звестак на сённяшні дзень выявіць не ўдалося.*

## 8. Ніна Мацяш — І. Шамякіну

*25 лютага 1979 года, Белаазёрск*

Шаноўны Іван Пятровіч!

Сёння пазваніў мне Уладзімір Андрэевіч, расказаў пра сваю размову з Вамі. Глыбока ўдзячна Вам за шчырую зацікаўленасць у маіх буднях. У Саках, куды хацела б паехаць, я не была яшчэ. А трэба трапіць менавіта туды, і менавіта ў сан. імя Бурдэнка, і месяцаў на два хоць бы: там на высокім узроўні механатэрапія, а гэта мне цяпер вельмі неабходна. Уладзімір Андрэевіч сказаў, што трэба прасіць на Літфонд дзве пуцёўкі, каб адна за адной па тэрміну былі. Калі гэта мажліва, то найлепш для мяне было б паехаць на красавік-май. Нават з сярэдзіны сакавіка. Буду вельмі ўдзячна Вам, калі такое акажацца магчымым.

Жадаю Вам здароўя.

Ніна Мацяш.

*Ліст напісаны беларускай паэтэсай і перакладчыцай Нінай Іосіфаўнай Мацяш (1943—2008).*

*Уладзімір Андрэевіч — Калеснік Уладзімір Андрэевіч (1922—1994) — беларускі літаратуразнаўца і крытык.*

*У Саках… — Сакі — горад у Крыме, вядомы бальнеагразевы курорт.*

*…ў сан. імя Бурдэнка… — спецыялізаваны спінальны санаторый імя М. Бурдэнка ў Саках.*

## 9. Н. Гілевіч — І. Шамякіну

*31 студзеня 1969 года, Мінск*

Дарагі Іван Пятровіч,

пішу Вам гэты лісток, разумеючы, што радасці ў ім для Вас няма, але ж пішуць не толькі для радасці. Калі толькі станоўча вырашыцца пытанне з Вашымі пярэбарамі (а я веру ў гэта), дык я хацеў бы напомніць, што і мая заява колькі гадоў ляжыць у Саюзе, што і я жыву з сям'ёй у 2-пакаёвай кватэры плошчай 31 кв. м. (маладзейшыя хлопцы тут мяне даўно абставілі). Я ведаю, што прэтэндэнтаў вельмі многа і некаторыя ўмеюць крычаць і дабівацца — я ні ўмею ні таго, ні другога. Я толькі хачу, каб, апроча ўсяго іншага, улічылі, што і мне, і жонцы, як

і мне, патрэбен рабочы стол — выкладчык універсітэта, нічога не зробіш, дык яна выганяе мяне з кабінета (ён жа спальны і музычны пакой для сына). А яшчэ хачу выказаць нясціплую думку, што не будзе грэх падтрымаць (прычым па справядлівасці) людзей, якія ў універсітэце падтрымліваюць амаль не ўвесь Саюз пісьменнікаў (мы дык ужо ўдваіх з жонкай служым на гэты алтар). Узважце, калі ласка, усё гэта, як будзеце абмяркоўваць на сакратарыяце гэта праклятае пытанне.

Са шчырай павагай — Ніл Гілевіч.

*Ліст напісаны народным паэтам Беларусі (1991) Нілам Сымонавічам Гілевічам (1931—2016). Неўзабаве Н. Гілевіч атрымаў трохпакаёвую кватэру па вул. Карла Маркса, 36.*

*...пытанне з Вашымі пярэбарамі... — пытанне пра пераезд з кватэры па вул. К. Маркса, 36 у кватэру па вул. Янкі Купалы.*

## 10. Я. Семяжон — І. Шамякіну

*4 лютага 1977 года, Мінск*

Паважаны Іван Пятровіч!

Я выканаў ваша даручэнне падрыхтаваць даклад адносна «Песні пра зубра» М. Гусоўскага для аддзела культуры ЦК КПБ. У час нашай тэлефоннай размовы з Аляксандрам Лявонцьевічам Петрашкевічам высветлілася, што т. Петрашкевіч жадаў бы атрымаць па гэтай паэме і пісьменніку самыя падрабязныя весткі. Таму даклад мой атрымаўся такі разгорнуты і аб’ёмны.

Разам з гэтым пісьмом да Вас я перадаю рукапіс даклада Таццяне Кузьмінічне для перадруку і адпраўкі па назначэнню. Я абяцаў яго падрыхтаваць к 5—10 лютага г. г. — і вось ён гатовы. Я прасіў бы Вас паклапаціцца, каб аддрукаваны тэкст даклада быў вычытаны, зверany з рукапісам і адпраўлены ў час. Рукапіс прашу захаваць: я яго вазьму ў Таццяны Кузьмінічны, як толькі вярнуся з Дома творчасці «Дубулты».

З прывітаннем Я. Семяжон.

*Ліст напісаны беларускім паэтам і перакладчыкам Язэпам Семяжонам (Іосіф Іосіфавіч Семяжонаў; 1914—1990).*

*...з Аляксандрам Лявонцьевічам Петрашкевічам... — Петрашкевіч Аляксандр Лявонцьевіч (1930—2012) — беларускі пісьменнік. У 1976—1979 гг. — загадчык аддзела культуры ЦК КПБ.*

*...Таццяне Кузьмінічне... — Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна — тэхнічны сакратар Саюза пісьменнікаў БССР.*

*...з Дома творчасці «Дубулты». — Дом творчасці пісьменнікаў «Дубулты» ў Дубултах (частка горада Юрмала ў 22 км ад Рыгі (Латвія).*

## 11. П. Броўка — І. Шамякіну

*9 студзеня 1980 года, Мінск*

Члену рабочай групы па напісанню
летапісу народнай славы
горада Мінска
таварышу Шамякіну І. П.

Па рэкамендацыі ЦК Кампартыі Беларусі Галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі прыступіла да рэдакцыйнай падрыхтоўкі і выдання Летапісу народнай славы. Цяпер да друку рыхтуюцца Летапісы Шумілінскага, Дубровенскага і некаторых іншых раёнаў. У сувязі са складаннем пяцігадовага плана Галоўнай рэдакцыі БелСЭ просім Вас да 25 студзеня 1980 года паведаміць

нам ступень гатоўнасці рукапісу Летапісу народнай славы, над якім Вы працуеце, а таксама ўказаць срок прадстаўлення яго ў Галоўную рэдакцыю БелСЭ.

Карыстаючыся выпадкам, паведамляем, што метадычную і рэдакцыйную работу па Летапісу народнай славы ў Галоўнай рэдакцыі БелСЭ вядзе рэдакцыя Летапісу народнай славы, яе тэлефон 394018.

галоўны рэдактар
Беларускай Савецкай Энцыклапедыі П. У. Броўка.

*Ліст напісаны народным паэтам БССР П. Броўкам.*

### 12. Н. Шклярава — І. Шамякіну

*Да 2 чэрвеня 1978 года, Гомель (?)*

Паважаны Іван Пятровіч!

Так і не выпала пагаварыць з Вамі.

Перш за ўсё — дзякуй Вам за Вашу дабрату і бескарыслівасць. Хаця пуцёўку я і праваронiла (спазнілася на адзін дзень), але з 2 чэрвеня мне прапануюць Каралішчавічы. Добра і Каралішчавічы. Там усё-ткі сасновы лес. А ў маёй дачкі бранхіт. Можа, і дапаможа.

Але галоўнае, што мяне зараз турбуе — гэта аспірантура. Справа ў тым, што ляцела я ў Мінск разам з Грынчыкам Мікалаем Міхайлавічам. І ён сказаў, што ў гэтым годзе ім далі адзінку на стацыянар і на завочнае. Стацыянар — гэта маё выйсце. Не скажу, што я вельмі імкнуся ў навуку. Але праца над пытаннямі літаратуры, вывучэнне і адкрыццё новага проста неабходна мне для павышэння свайго вопыту ў літаратуры, для павышэння свайго майстэрства, для кругазора нават. А калі гэта можа зрабіць жанчына-паэтэса, у якой на плячах сям'я і для якой галоўнае — сям'я. Потым — вершы. Хопіць! Наслухалася я ўжо вершаў аб разбураным гняздоўі ад сваіх сяброўак. Я хачу пісаць аб шчаслівым гняздоўі. І хачу пісаць не горш, чым я магу. А для гэтага мне трэба вярнуцца ў сваю стыхію, да людзей, якія займаюцца той жа справай, што і я, — пішуць. Каб быў нейкі стымул. Канешне, ёсць людзі, якія і без гэтага пішуць. Дык гледзячы як пішуць! Ды і людзі розныя. Я, напрыклад, калі мной кіраваць, нават калі мяне застаўляць, магу напісаць што хочаш. У гэтым, напрыклад, упэўніўся Мікола Аўрамчык. Вось каб яшчэ ўпэўніць Міколу Грынчыка. Пайду заўтра, паспрабую. Можа, зразумее, што для мяне — гэта другое нараджэнне.

Канешне, ва ўсякім выпадку я буду пісаць вершы, аповесць вось заканчваю, падрыхтавала дзве кніжкі для дзяцей. Але ўсё пакуль у чарнавым выглядзе. Часу не хапае давесці да канца. То работа, то дачка, то яшчэ што-небудзь.

Таму і хачу на стацыянар. Вядома, часу будзе не больш, але работа мая будзе — літаратура, творчая, сур'ёзная, павучальная, неабходная. Я буду рабіць тое, на што мне зараз якраз не хапае часу, але да чаго ляжыць душа. Таму і напісала Вам. Бо праўду сказаў мне Мікола Янкоўскі, што апрача Вас мне не дапаможа тут ніхто. Дапамажыце мне яшчэ раз, калі згодны са мной і калі сапраўды зможаце.

Мая другая кніжка стаіць у плане на 1979 год. І будзе намнога лепшай за першую. Я многа над ёй працавала і буду яшчэ працаваць.

Прабачце мне, калі ласка, і калі можна.

Па праўдзе, я хацела махнуць на ўсё рукой і не турбаваць Вас. Але, як бачыце, перадумала.

Прабачце…
З павагай
Ніна Шклярава

*Ліст напісаны беларускай паэтэсай Нінай Нічыпараўнай Шклявай (нар. 1947).*

*Каралішчавічы — гаворка ідзе пра Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў у в. Каралішчавічы Мінскага раёна, у накірунку па Магілёўскай шашы, дзе да 1949 года знаходзіўся паляўнічы домік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Н. Наталевіча. Рашэннем урада краіны гэты будынак быў перададзены Саюзу беларускіх пісьменнікаў. У Доме творчасці з 1950 года адпачываў Якуб Колас і іншыя класікі беларускай літаратуры. Пасля смерці Якуба Коласа (1956) Дому творчасці прысвоена імя народнага пісьменніка. Пасля заканчэння будаўніцтва Дома творчасці «Іслач» Каралішчавічы былі перададзены ААТ «Мінскпрамбуд», дзе іх намаганнямі адкрыты дом адпачынку «На ростанях». На будынку захавана мемарыяльная дошка: «У гэтым доме жыў і працаваў у 1950—1956 гг. народны паэт БССР Якуб Колас». У пакоі, дзе летаваў Якуб Колас, супрацоўнікамі музея Якуба Коласа створана экспазіцыя, якая дапамагае прасачыць жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, азнаёміцца з матэрыяламі аб адпачынку Якуба Коласа ў Каралішчавічах.*

*Грынчык Мікалай Міхайлавіч (1923—1999) — беларускі літаратуразнаўца, крытык, доктар філалагічных навук, прафесар.*

*Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; нар. 1920) — беларускі паэт.*

*Янкоўскі Мікола — на сённяшні дзень звестак, апрача тых, што ёсць у лісце, выявіць не ўдалося.*

*Мая другая кніжка стаіць у плане на 1979 год. — Зб. «Міг і вечнасць» (1979).*

## 13. Э. Валасевіч — І. Шамякіну

*25 лістапада 1976 года, Мінск*

Першаму Намесніку Старшыні Праўлення СПБ
таварышу Шамякіну І. П.
ад пісьменніка, камуніста, члена
прафсаюза, інваліда Айчыннай вайны
Валасевіча Эдуарда Станіслававіча
Мінск-100, вул. Горкага, 74, кв. 53.

Заява

Дарагі Іван Пятровіч! Вы член ЦК КПБ, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, дэпутат, лаўрэат і маеце яшчэ багата значных тытулаў і званняў. І гэта ўсё да Вас прыйшло заслужана, бо Вы сапраўдны працаўнік.

А галоўнае, што мы Вас усе паважаем і любім, што Вы сціплы і чулы таварыш, Чалавек з вялікай літары.

Вы дапамаглі ў свой час майму брату, партызану, кадраваму рабочаму, і за гэта Вам яшчэ раз вялікае дзякуй!

Цяпер я сам звяртаюся да Вас з просьбай.

Справа такая: мой старэйшы сын Аляксандр, член партыі, камсорг участка цэха радыёзавода імя Леніна, старшы інжынер-тэхнолаг, — ажаніўся. Натуральна, прывёў маладую да нас. Самі разумееце, хутка будзе і дзіця.

У мяне кватэра з трох пакояў. Агульная плошча — 49 кв. метраў. Адзін з пакояў прахадны. У ім размяшчаецца мая дачка (дарослая). У другім — я з жонкай. Тут мой і рабочы кабінет, і наша спальня. У трэцім жылі два сыны. (Малодшы сын Яраслаў пасля арміі паступіў у інстытут народнай гаспадаркі і цяпер студэнт 2-га курса).

Цяпер, калі сын старэйшы ажаніўся, я вымушаны быў свой кабінет (яна ж нам з жонкай была і спальняй) аддаць маладым, бо гэны пакой быў ізаляваны ад другіх. А сам я з жонкай перабраўся ў прахадны пакой, дзе знаходзіцца і дарослая

дачка Святлана, якая працуе карэктарам газеты «Звязда». Зразумела, што ў пакоі, які мае плошчу 19 метраў, цяжка размясціцца тром дарослым (гэта тры ложкі, стол, перанесена сюды і мая бібліятэка — гэта стэлаж на ўсю сцяну). Ну, карацей, проста не павярнуцца. Ды наогул неэтычна мне з жонкай і з дарослай дачкой спаць у адным пакоі.

Цяпер Вам ясна, аб чым ідзе гаворка: аб пашырэнні мне жылплошчы, г. зн., каб мне далі кватэру з пяці або хоць з чатырох пакояў. Тады я зрабіў бы нейкі размен і сына аддзяліў ад сябе. Дзве сям'і ў адной кватэры — гэта не справа, не будзе жыцця. Калі выводзіцца новы рой, ён заўсёды вылятае з вулля і шукае сабе новага прыстанішча. Так і людзі.

Цяпер, калі чытаеш газеты, слухаеш радыё, дык наогул на чалавека плануецца асобны пакой. А ў мяне цяпер 6 чалавек, будзе сёмы, а пакояў усяго тры, плошча — 49 кв. м. Тут па ўсіх санітарных нормах не хапае плошчы. А дзе 20 метраў, згодна рашэння Саюзнага Ураду, для творчых работнікаў?

Два разы я пісаў (мінулы год і ў пачатку гэтага года) старшыні гарсавета т. Кавалёву. Але ж ці даходзіць да яго, што пішам? Там цэлая плойма кручкатвораў, якія далі фармальны адказ.

Прашу Вас, дапамажыце мне, бо зараз я ў самым крытычным становішчы, і не толькі творча працаваць, а проста існаваць у такіх, як зараз я існую, абставінах, немагчыма.

Тым больш, набліжаецца маё 60-годдзе (12 сакавіка 1978 г.), мне трэба рыхтаваць выбраныя байкі да друку, у хаце цяпер я нібы лішні, няма нідзе прытулку. Вось толькі ноччы забіраюся на куханьку. Дык там таксама на машынцы нельга ляпаць, бо перашкаджаеш суседзям спаць.

А днём — няма дзе.

Каля нас будуецца вялікі падкоўваабразны дом. Частка ўжо заселена.

Там атрымаў кватэру Петрашкевіч, кажуць, Сачанка і др. Хутка будзе засяленне і другой часткі дома. Там ёсць чатырох- і пяціпакаёвыя кватэры. Гэта побач са мной, і было б зручна і ў тым разрэзе, што з гаражом не было б клопату. Або дайце дадаткова для сына нейкае жыллё.

Пагаварыце, дзе трэба, і дапамажыце ўладзіць пытанне з жыллём.

Звяртаюся да Вас, а не да Максіма Танка таму, што больш зямны Вы, Вы больш знаходзіцеся на месцы. А Максім Танк, ён, як лятучы галандзец, заўсёды ў раз'ездах. Ды наогул, паэт-летуценнік, ён вітае ў завоблачных вышынях, ці ж яму па характары будзённыя справы?

Паэт, як лермантаўскі дэман, ахоплівае глабальныя, касмічныя аб'ёмы, дае малюнак агульнымі штрыхамі. А празаік, ён як вада, пранікае ў кожную порыну, кожную трэшчынку чалавечага жыцця. У гэтым сэнсе, мне здаецца, ён глыбей разумее чалавечую душу, больш чула ставіцца да лёсу чалавека не толькі ў вялікім, але ў самых дробных яго інтарэсах.

Максіма я шчыра люблю, многім яму абавязаны і заўсёды высока цаню яго сапраўдную, гётаўскага плана, паэзію.

Але ж хадзіць і стукаць наконт кватэр, тут выбачайце, ён гэтага не зможа, бо такі склад яго натуры.

Жадаю Вам самага моцнага здароўя, а працавітасці і таленту ў Вас хапае і за дзесяцярох! І слава Богу!

З павагай і любоўю

Эд. Валасевіч.

*Ліст напісаны беларускім паэтам, байкапісцам Эдуардам Станіслававічам Валасевічам (нар. 1918).*

*...т. Кавалёву. — Кавалёў Міхаіл Васільевіч (1925—2007) — беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1967—1977 гг. — старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.*

*...выбраныя байкі да друку... — маецца на ўвазе зб. «Рагаты анёл» (1978).*
*Петрашкевіч — гл. камент. да пісьма № 10.*
*Сачанка — гл. камент. да ліста № 3.*

## 14. М. Гамолка — І. Шамякіну

*13 сакавіка 1977 года, Мінск*

Старшыні журы конкурсу на лепшую кнігу для дзяцей
тав. Шамякіну І. П.

Дарагі Іван Пятровіч!

Даведаўся я, што мая аповесць «Лясная крэпасць», якую прапанаваў на конкурс, «зарэзана» двума рэцэнзентамі. Лічу, што прысуд гэты несправядлівы. Лічу, што гэта нейкая жахлівая выпадковасць.

Аповесць прыгодніцкага характару, упершыню на падзеях Вялікай Айчыннай вайны паказаны прыгоды юных герояў і моладзі, паказаны, на маю думку, з дастатковай рэалістычнасцю і абгрунтаванасцю. У аснову твора пакладзены сапраўдныя падзеі, разгорнута карціна барацьбы беларускага народа ва ўмовах акупацыі, аўтар імкнуўся стварыць запамінальныя тыпы і характары, арыгінальна падаць матэрыял. Сюжэт шматпланавы, з нечаканымі паваротамі, — тое, што і трэба юным чытачам і моладзі.

Для журы чамусьці адабраны аповесці-брашуркі, у якіх, вядома, нельга было як след ні намаляваць характараў, ні стварыць той складанай карціны барацьбы, якую перажыў наш народ.

Конкурс павінен даць чытачу кнігу фундаментальную, яркую, запамінальную. Трэба ўважліва аднесціся да таго, што забракавана. Прашу Вас, тав. Старшыня, узяць для праверкі маю аповесць, пазнаёміцца з ёю. Ведаю Вас, дарагі Іван Пятровіч, як выдатнага чалавека і пісьменніка. Вы не пагодзіцеся з рэцэнзентамі.

З павагай
удзельнік конкурсу
«Чалавек — гэта гучыць горда!»
13.3.77 г.
г. Мінск

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Мікалаем Іванавічам Гамолкам (1922—1992), які прапанаваў на конкурс сваю аповесць. Аповесць асобнай кнігай выйшла ў 1980 годзе.*

***Уступнае слова, падрыхтоўка тэкстаў і каментарый***
***Алесі ШАМЯКІНАЙ.***



Зоя МАТУСЕВІЧ

# ВЯСНОВЫ ФЕСТЫВАЛЬ У МУЗЫЧНЫМ

*Аб творчых міжнародных сувязях Беларускага акадэмічнага музычнага тэатра, якія з кожным годам толькі пашыраюцца і ўзбагачаюцца, на старонках рэспубліканскага друку пісалася ўжо не раз. За апошнія сем сезонаў мінскі глядач прывык бачыць на сцэне гэтага тэатра самыя разнастайныя тэатральныя калектывы Расіі і краін Прыбалтыкі з рознажанравымі, нярэдка эксперыментальнымі і нават спрэчнымі пастаноўкамі (што толькі падагравала інтарэс да іх).*

*Звычайна прыезд замежных гасцей ажыццяўляўся ў рамках абменных гастроляў, калі Беларускі музычны тэатр на працягу кожнага сезона перыядычна мяняўся сцэнічнымі пляцоўкамі са сваімі партнёрамі. Але паступова гэта міжнароднае супрацоўніцтва пачало набываць новыя формы. Так, роўна год таму на працягу сакавіка на сцэне Беларускага музычнага са сваімі гастрольнымі праграмамі выступілі адразу тры прыезджыя тэатры (два з Расіі і адзін з Латвіі). І можна сказаць, што тыя сакавіцкія гастролі ўжо нагадвалі своеасаблівы міні-фестываль.*

*А сёлета ў сакавіку тут адкрыўся ўжо сапраўдны міжнародны фестываль пад назвай «Тэатральная вясна ў Музычным тэатры». На працягу месяца ў ім прынялі ўдзел пяць тэатраў: два з Расіі, два з Літвы і адзін з Латвіі. Сярод іх былі калектывы, ужо вядомыя нашаму гледачу па абменных гастролях, але былі і такія, што прыехалі ў Мінск упершыню, для якіх гэты фестываль стаў пачаткам двухбаковага супрацоўніцтва з Беларускім музычным тэатрам. Менавіта пра гэтыя калектывы і прывезеныя імі пастаноўкі хочацца расказаць у першую чаргу.*

Фестывальную праграму якраз і адкрыў новы партнёр Беларускага музычнага тэатра — Калінінградскі абласны музычны тэатр. У Мінск ён прыехаў упершыню, затое яго фестывальная афіша аказалася самай насычанай: адзінаццаць рознажанравых спектакляў, а таксама святочны канцэрт, прысвечаны Дню 8 сакавіка (такі ж канцэрт на сцэне Калінінградскага тэатра давалі ў гэты дзень нашы артысты ў межах абменных гастроляў).

І тут хочацца адзначыць, што з самага пачатку гэтыя мерапрыемствы набылі шырокі, можна нават сказаць, міждзяржаўны рэзананс. Пра гэта сведчыць той факт, што ў цырымоніі адкрыцця фестывалю і гастроляў Калінінградскага тэатра прыняў удзел Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў.

Ад усіх расійскіх тэатраў, якія пабывалі на сцэне Беларускага музычнага на працягу апошніх сямі сезонаў, Калінінградскі адрозніваецца вельмі істотна. Перш за ўсё — сваёй універсальнасцю. Маючы статус музычнага, гэты тэатр, зразумела, ажыццяўляе пастаноўкі музычных камедый, мюзіклаў, рок-опер, а таксама класічных аперэт і нават поўнамаштабных опер (сёння ў яго рэпертуары Моцарт, Расіні, Вэрдзі, Бізэ, Чайкоўскі, Рымскі-Корсакаў…) Адначасова

тут ставяцца і чыста драматычныя спектаклі: ад замежнай і рускай класікі да твораў сучаснай драматургіі (Арыстафан, Шэрыдан, Бамаршэ, Брэхт, Фанвізін, Чэхаў, Горын, Дудараў, Грышкавец…) Такім чынам, у рэпертуары тэатра, які лічыцца музычным, на сённяшні дзень налічваецца дваццаць адзін драматычны спектакль. А рознажанравых дзіцячых спектакляў яшчэ больш — аж дваццаць чатыры. (Міжволі ўзнікае пытанне аб цяжкасцях пры фарміраванні рэпертуарнай афішы, у якую ўсе пастаноўкі ўвайсці не могуць.)

Па сутнасці, гэта музычна-драматычны тэатр. І яго трупа мае даволі складаную структуру, у якую ўваходзяць артысты мюзіклавага напрамку, оперныя спевакі, драматычныя акцёры, а таксама артысты хору і балета. І такая ўніверсальнасць тэатра звязана не з тым, што ён з'яўляецца адзіным у горадзе (там ёсць і драматычны, і лялечны тэатры), а з яго рэпертуарнай палітыкай. А яна неадназначная і даволі складаная: з аднаго боку, відавочная тэндэнцыя на стварэнне разнастайных спектакляў у чыстых тэатральных жанрах (ад оперы да драмы), а з другога — пастаянны пошук новых форм пастановак на стыку музычнага і драматычнага тэатраў.

І яшчэ адна адметная асаблівасць Калінінградскага тэатра: на яго базе існуе курс Расійскай акадэміі тэатральнага мастацтва, выпускнікі якога і складаюць касцяк яго трупы. Так вырашаецца няпростае для горада пытанне падрыхтоўкі творчых кадраў, бо вышэйшых навучальных устаноў тэатральнага і музычнага профілю ў рэгіёне няма.

Самае цікавае, што гэты тэатр узнік параўнаўча нядаўна і напачатку меў статус прыватнага. Яго стваральнікам і нязменным мастацкім кіраўніком з'яўляецца заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Валерый Лысенка. Выпускнік Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва (ГИТИСа), за доўгія гады творчай дзейнасці назапасіў вялікі вопыт і акцёрскай, і пастановачнай, і кіраўніцкай работы, у выніку чаго і прыйшоў да стварэння ўласнага тэатра. «Калі нехта кажа, што стварае тэатр ці нейкі іншы творчы калектыў для народа, то пры гэтым ён усё ж трошкі хітруе — кожны робіць гэта ў першую чаргу для сябе, для ажыццяўлення ўласных задум і творчай самарэалізацыі, — адзначае Валерый Іванавіч. — Пасля таго вопыту, які я набыў у Маскве на пасадзе генеральнага дырэктара Тэатра Аляксея Рыбнікава, у мяне з'явілася задума стварыць падобны тэатр у сваім горадзе — Калінінградзе. Рэалізацыю гэтай ідэі я пачаў у 1992 годзе. Згуртаваў вакол сябе таленавітую моладзь і стварыў тэатральную студыю з мэтай арганізацыі сапраўднай школы ГИТИСа, праз якую прайшоў я сам і мае творчыя паплечнікі. І першы курс Расійскай акадэміі тэатральнага мастацтва ў нас адкрыў выдатны педагог і рэжысёр, народны артыст Расіі Леанід Яфімавіч Хейфец — ваш зямляк, ураджэнец Мінска. З адкрыццём гэтага курса ў нас пачалі з'яўляцца сур'ёзныя пастаноўкі па рускай і замежнай класіцы, а таксама спектаклі для дзяцей. Пасля таго, як было выпушчана чатыры курсы маладых артыстаў, ужо можна было казаць, што у нас з'явіўся сапраўдны тэатр. А яго новае нараджэнне ў статусе Дзяржаўнага музычнага тэатра адбылося ў 2001 годзе, калі сумесна з маскоўскім тэатрам «Геликон-опера» пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Дзмітрыя Бертмана мы ажыццявілі першую пастаноўку класічнай аперэты. З таго часу ўсе сур'ёзныя музычныя пастаноўкі ў нас адбываюцца пад кіраўніцтвам самога Дзмітрыя Бертмана і яго каманды».

Гастролі Калінінградскага тэатра якраз і пачаліся такой сумеснай пастаноўкай — музычным шоу *«Хіты Брадвея — вялікі Гершвін».* Над ёй разам з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Дзмітрыем Бертманам працавалі яго калегі з «Геликон-опера»: дырыжор-пастаноўшчык Дзяніс Кірпанёў і мастакі-пастаноўшчыкі Таццяна Тулуб'ева і Ігар Нежны. Сама назва гэтага сцэнічнага дзейства, па сутнасці, раскрывае яго праграмны змест, скампанаваны з найбольш папулярных фрагментаў опер і мюзіклаў самага вядомага амерыканскага кампазітара XX стагоддзя Джорджа Гершвіна.

Па сваёй форме гэтая пастаноўка нагадвае оперна-джазавае шоу з больш чым дваццаці вакальна-танцавальных нумароў, паміж якімі прасочваецца нейкая ўнутраная, эмацыянальна-сэнсавая сувязь. На мове арыгінала гучаць добра вядомыя прыхільнікам жанру хіты з твораў Гершвіна: «Summertime», «Swanee», «I got rhythm» і многія іншыя, якія выконваюцца сольна і ансамблева ў суправаджэнні аркестра пад кіраўніцтвам калінінградскага дырыжора Аркадзія Фельдмана. У пастаноўцы заняты і оперныя, і мюзіклавыя спевакі, і, зразумела, — артысты хору, а таксама салісты балета, якія аздабляюць масавыя танцавальныя сцэны з удзелам усіх выканаўцаў. Стыльную работу балетмайстра Аксаны Холевай тут нельга не заўважыць і не ацаніць — яна з'яўляецца істотным складнікам поспеху ўсяго шоу.

Наогул самае моцнае ўражанне ад гэтай пастаноўкі робіць яе надзвычай высокая музычная культура, што, у прыватнасці, праяўляецца ў бездакорным гучанні харавых партый і выдатна наладжаным балансе аркестра з салістамі і хорам. І што асабліва хочацца адзначыць: прадстаўленне ідзе ў фармаце «акустычны жывы гук», без электроннай апаратуры, што дазваляе наяве адчуць жывое дыханне аркестра і пачуць жывы, не ўзмоцнены мікрафонамі вакал.

Чыста візуальна гэтае шоу імкнецца да ўвасаблення традыцый брадвейскіх мюзіклаў: у цэнтры сцэны — бліскуча-зіхатлівая лесвіца, якая ўзвышаецца над асноўнымі падмосткамі і прызначана перш за ўсё для рацыянальнага размяшчэння вялікай колькасці выканаўцаў, пры гэтым з'яўляючыся эфектным элементам сцэнаграфіі. А завяршае яе своеасаблівая расцяжка на ўсю шырыню канструкцыі — нотны стан, дзе замест нот зіхацяць бліскучыя літары: Gershwin. Артысты апрануты ў стылі 30-х гадоў: жанчыны ў эфектных стыльных сукенках з блішчынкамі і мужчыны ў касцюмах-тройках з нязменнай бабачкай. І усе ўборы вытрыманы ў чорна-белай гаме.

Іншых пастановак пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Бертмана — опер і класічных аперэт — Калінінградскі тэатр у гастрольную афішу не ўключаў. «Мы гэта зрабілі свядома, — зазначае Валерый Лысенка. — У Мінску два акадэмічныя музычныя тэатры, і нам паўтараць іх рэпертуар тут не варта. Наадварот, мы прывезлі сюды такія спектаклі, якіх няма на афішы іншых музычных тэатраў і большасць з якіх з'яўляюцца эксклюзіўнымі, пастаўленымі толькі ў нас».

Як высветлілася, у суправаджэнні аркестра ішло толькі першае прадстаўленне — *«Хіты Брадвея...».* Іншыя ж пастаноўкі — рок-оперы і мюзіклы — пад фанаграму. А вось святочны канцэрт, прысвечаны Дню жанчын, уразіў нашых гледачоў тым, што прайшоў наогул без інструментальнага суправаджэння. Галоўным выканаўцам у гэтым канцэрце быў хор тэатра, які спяваў а cappella. Улічваючы тое, што ў першым жа прадстаўленні Калінінградскага тэатра хор паказаў сябе з найлепшага боку, вельмі прыемна было ў час канцэрта ўбачыць на сцэне яго кіраўніка — хормайстра Канстанціна Беланогава. У скрупулёзна прадуманай праграме перад гледачамі прадстаў не проста пеўчы калектыў, а дасканалы музычны ансамбль, здольны выконваць вакальную музыку розных жанраў.

У першым аддзяленні канцэрта гучалі рускія рамансы, дзе хор выступаў як своеасаблівы камерны калектыў, адначасова спалучаючы ў сабе і спевы, і акампанемент салістам. Другое аддзяленне мела назву «Старая пласцінка» і ўжо выглядала як тэатралізаванае прадстаўленне, дзе інсцэніравалася кожная песня. І тут хор прадстаў у розных камбінацыях вакальных ансамбляў, адначасова выконваючы функцыю акампанемента. У цэлым канцэрт зрабіў цёплае і светлае ўражанне, прадэманстраваўшы гледачам чыстыя ўзоры вакальнай музыкі і выканальніцкай культуры.

Такі высокі ўзровень прафесіяналізму тэатральнага хору невыпадковы — аказваецца, першапачаткова гэты калектыў існаваў як Калінінградская харавая капэла. І гэтым усё сказана. За час свайго дзеяння капэла набыла вялікі выканаўчы

вопыт, прымала ўдзел у шматлікіх канцэртах і фестывалях за мяжой: у Венгрыі, Польшчы, Ірландыі, Швецыі, Германіі, Францыі, стала лаўрэатам шматлікіх міжнародных конкурсаў. І цяпер, уваходзячы ў склад тэатра, гэты харавы калектыў спалучае тэатральную і ўласную канцэртную дзейнасць.

Да найбольш моцных пастановак Калінінградскага музычнага тэатра адносіцца і рок-опера Аляксея Рыбнікава *«Хаакін»*. Усе ведаюць яго рок-оперу *«Зорка і смерць Хаакіна Мур'еты»,* пастаўленую Маркам Захаравым на сцэне Ленкома ў 1976 годзе. А яшчэ большую вядомасць гэтая рок-опера набыла пасля яе экранізацыі, якую ў 1982 годзе ажыццявіў рэжысёр Уладзімір Грамацікаў. Але не так даўно кампазітар зноў звярнуўся да свайго твора і прадставіў новую яго версію. Так атрымалася, што, дзякуючы даўнім творчым сувязям Валерыя Лысенкі з Аляксеем Рыбнікавым, новая версія ўпершыню была пастаўлена менавіта ў Калінінградскім тэатры. Яе апошні варыянт датуецца 2016 годам, але, па словах Валерыя Іванавіча, работа над некаторымі нумарамі рок-оперы працягваецца і сёння.

Асноўныя змяненні ў гэтым творы датычаць яго лібрэта, над якім цяпер працаваў сам Аляксей Рыбнікаў у садружнасці з паэтам Юліем Кімам. Першапачаткова аўтарам лібрэта быў Павел Грушко, ён адштурхоўваўся ад драматычнай кантаты чылійскага паэта Пабла Нэруды, дзе галоўны герой Хаакін Мур'ета быў чылійцам. Як адзначае Аляксей Рыбнікаў у адным з сваіх інтэрв'ю, пры стварэнні рок-оперы «ўсё было зроблена з крыху рэвалюцыйным адценнем, і гэта дазволіла твору выжыць у тыя часы». А цяпер кампазітар звярнуўся не да літаратурнага твора з яго ідэалагічным ухілам, а да гісторыі рэальнага жыцця гэтага легендарнага героя лацінаамерыканскага эпасу часоў каліфарнійскай залатой ліхарадкі. Углыбіўся ў мноства гістарычных матэрыялаў і дакументаў, прачытаў шмат розных твораў, прагледзеў старыя кінафільмы. І ў выніку высветлілася, што Хаакін Мур'ета Карылья — зусім не чылiец, а мексіканец, горды і бясстрашны прадстаўнік свабодалюбівага народа, які па-свойму разумее, як трэба змагацца за ўласныя правы, чалавечую годнасць і каханне. Адначасова высветлілася і сапраўднае імя каханай Хаакіна — яе звалі Расіта, а не Тэрэса, як у творы Пабла Нэруды і першапачатковым лібрэта. У новай версіі фігуруюць і іншыя сапраўдныя ўдзельнікі тых падзей, у прыватнасці — забойца Хаакіна, які вазіў з сабой і дэманстраваў яго адрэзаную галаву…

Адштурхоўваючыся ад новага лібрэта і новых тэкстаў вершаў, Аляксей Рыбнікаў унёс неабходныя змены і ў музычны матэрыял рок-оперы: напісаў новую ўверцюру, некаторыя новыя нумары, эпілог, у патрэбным рэчышчы змяніў драматургію спектакля і яго сцэнічнае рашэнне. Але пры гэтым захаваў усе хіты і арыі галоўных герояў, па якіх і пазнаецца гэты твор. Зразумела, былі зроблены новыя сучасныя аранжыроўкі.

У выніку атрымаўся пранізлівы музычны спектакль пра барацьбу за лепшае жыццё і чалавечую годнасць і пра гісторыю вялікага кахання, якое разгортваецца на фоне жорсткіх сутыкненняў эмігрантаў і карэнных жыхароў Каліфорніі.

У ролі Хаакіна выступіў Станіслаў Ананьін — вядучы саліст мюзіклавай групы, які валодае бясспрэчным драматычным дарам, дзякуючы чаму і ўдалося раскрыць увесь напал музычнай драматургіі, закладзены не толькі ў развіцці вобраза галоўнага героя, але і пастаноўкі ў цэлым. У ролі Расіты — салістка opернай групы Галіна Кузняцова. Прыгожая, ладная, надзвычай выразная ў пластыцы і танцах, яна стварыла яркі і харызматычны вобраз бясстрашнай мексіканкі. Пераканаўчай яна была і ў драматычна насычаных эпізодах, асабліва ў кульмінацыйнай сцэне, калі каліфарнійскія пагромшчыкі, помсцячы мексіканцам, якія прыехалі да іх на залатыя прыіскі, з асаблівай жорсткасцю і цынізмам тварылі гвалт над каханай Хаакіна. Шчымліва-пранізлівай і драматычна ёмістай тут атрымалася вобразная мізансцэна з чырвонай стужкай палатна, што ахутвае згвалтаванае цела



*«Любіць Нерона».*

будучай маці, якой ужо не суджана было ні нарадзіць свайго першынца, ні самой застацца сярод жывых.

У адпаведнасці з дынамікай музычнай драматургіі ў спектаклі шмат дынамічна зменлівых масавых сцэн, насычаных характарнымі танцамі, адмысловай пластыкай і трукамі, і ўсе выканаўцы пры гэтым дэманструюць зайздросны акцёрскі трэнінг. Нават адна тая акалічнасць, калі акцёры танцуюць і спяваюць адначасова, як у сапраўдным брадвейскім мюзікле, сведчыць пра іх высокі ўзровень прафесіяналізму. Дзякуючы гэтаму спектакль выглядае надзвычай цэльна, глядач проста не заўважае пераходу ад адной сцэны да другой. І над усім гэтым дзействам валадарыць магутная сіла музыкі.

Спектакль ідзе пад фанаграму, прадастаўленую тэатру кампазітарам. Як адзначае Валерый Лысенка, Рыбнікаў проста не давярае звычайным музыкантам выконваць свае творы. Каб сыграць па-сапраўднаму гэтую рок-оперу, патрэбна мець моцную рокавую каманду музыкантаў, а ў Калінінградзе такіх не знойдзеш. Праўда, у тэатры ўсё ж былі спробы: з цяжкасцю сабралі ансамбль сучасных музыкантаў, але нічога не атрымалася — далёкія ад тэатра, яны не разумеюць той музычнай культуры, якая павінна быць на сцэне. Акрамя таго, для выканання падобнай музыкі трэба мець яшчэ і спецыяльную «заточку» на манеру выканання і працяглыя рэпетыцыі з самім кампазітарам. Так што выкарыстанне якаснай фанаграмы аказалася адзіна прымальным варыянтам, і гэта асабліва зручна на выязных паказах спектакля.

У рокавай эстэтыцы пастаўлены яшчэ адзін спектакль — *«Любіць Нерона»,* жанр якога вызначаны як рок-драма. Але ж у афішы пазначана толькі імя аўтара п’есы — Вольга Балычова. А вось наконт аўтарства музыкі ці, дакладней, яе прыналежнасці, глядач даведваецца толькі ў час прагляду спектакля. Жанравае азначэнне «рок» у гэтай пастаноўцы вынікае з таго, што ў ёй выкарыстоўваецца музыка рок-групы «Агата Кристи», якую ўжывую выконваюць удзельнікі спектакля. Музычным афармленнем гэта назваць нельга, хутчэй, кампазіцыі рок-групы з’яўляюцца яго формаўтваральнай сутнасцю. А ў кароткай анатацыі да пастаноўкі ўказваецца зусім проста: «У рок-драме паўнавартасным персанажам існуюць песні рок-групы “Агата Кристи”».

Пастановачная група гэтага спектакля цалкам калінінградская. Калі ўважліва прагледзець рэпертуарную афішу тэатра, то можна заўважыць, што аўтар п'есы Вольга Балычова (загадчык літаратурнай часткі тэатра) і рэжысёр-пастаноўшчык Алена Сафонава — трывалы творчы тандэм. Да таго ж выявілася і зусім нечаканая акалічнасць: Алена Сафонава заўсёды з'яўляецца мастаком-пастаноўшчыкам сваіх спектакляў (і не толькі). А справа ў тым, што па сваёй першай тэатральнай прафесіі яна — мастак-сцэнограф, і доўгі час працавала ў Калінінградзе менавіта ў гэтай іпастасі. Пазней атрымала кваліфікацыю рэжысёра-пастаноўшчыка і цяпер сумяшчае абедзве прафесіі ў сваёй пастановачнай дзейнасці (праўда, у апошні час Алена Сафонава служыць у іншым расійскім тэатры, але гэта не перашкаджае ёй падтрымліваць творчыя кантакты з Калінінградам).

Па ўсім відаць, што аўтары спектакля задумалі сучасную і смелую, калі не сказаць эпатажную, пастаноўку. Прэтэнзіі на гістарызм у ёй няма. Але пры гэтым ёсць нямала фактаў з рэальнай біяграфіі рымскага імператара Нерона, чыё імя стала сінонімам тыраніі, самага вытанчанага садызму і небывалай распусты ў пачуццёвых здавальненнях. А яшчэ ён застаўся вядомым сваёй хваравітай цягай да акцёрства, спеваў, вершаскладання і іншых праяў мастацкай творчасці, у чым быў абсалютна бяздарным. Адным з відаў садызму Нерона якраз і былі яго публічныя выступленні, якія забаранялася пакідаць пад страхам смерці. Каб неяк пазбавіцца ад кашмару такога відовішча, некаторыя прыкідваліся страціўшымі прытомнасць ад геніяльнай ігры імператара і іх выносілі з тэатра на насілках. А сваім лепшым спектаклем Нерон лічыў спаленне Рыма, калі, назіраючы за разрастаннем пажару з высокага ўзгорку, ён, апрануты ў тэатральны касцюм, іграў на ліры і дэкламаваў паэму аб гібелі Троі. «На троне шут, на сцене — імператор!» — найбольш трапнае азначэнне асобы Нерона, якое давялося пачуць у гэтай пастаноўцы.

Сцэнаграфія і касцюмы ў спектаклі таксама не прэтэндуюць на дакладны гістарызм — у іх больш сімвалаў і намёкаў на старажытнасць. Напрыклад, асноўным элементам у афармленні сцэны з'яўляецца фрагмент руін Рымскага форума, а на задніку змешчана вялікае пано з выявай галоўных герояў спектакля — Нерона і яго маці Агрыпіны. У прынцыпе, гэтымі дэталямі сцэнаграфія і абмяжоўваецца. А з касцюмамі яшчэ прасцей — у іх антычныя матывы аб'яднаны с сучаснымі моднымі тэндэнцыямі, і ўсё гэта памножана на мастацкую фантазію пастаноўшчыка. Па-сапраўднаму гістарычным выглядае толькі касцюм Сенекі — настаўніка Нерона. А сам Нерон апрануты так, што калі выйдзе на вуліцу, то знешне нічым не будзе адрозніваецца ад сучаснага нефармала. У галаву прыходзіць крамольная думка: а можа, акцёр выйшаў на сцэну ў тым, у чым і прыйшоў у тэатр?

Скразное дзеянне ў спектаклі цяжка ўлавіць. Ён складаецца як бы з асобных эскізаў-карцін, у якіх паказваецца той ці іншы эпізод з жыцця маладога імператара, прытым прапушчаны праз яго ўнутранае ўспрыманне. І ў кожную такую сцэну даволі па-майстэрску ўплецены песні-балады «Агаты Кристи», якія і спявае выканаўца ролі Нерона Станіслаў Ананьін, выдатна трапляючы ў стыль гэтай рок-групы.

Малады целам, але стары душой — такім уяўляецца Нерон у спектаклі. І гэта прачытваецца ўжо ў першай сцэне: ён выглядае стомленым і агрэсіўна абыякавым да ўсяго і да ўсіх, і што яго асабліва раздражняе, дык гэта звычайныя праявы чалавечага жыцця, якія ён міжволі назірае вакол сябе. Можна сказаць — яго раздражняе само жыццё. Магчыма, ён яшчэ не адышоў ад учарашняй оргіі, але ўжо здольны ўсведамляць, што для яго не існуе таго шляху, які прыводзіць іншых людзей да звычайных радасцей жыцця. Учора ён забіў чарговую ілжывую шлюху, але ж колькі такіх яшчэ будзе (аб іх бясконца ўпамінаецца на працягу ўсяго спектакля). А вось прыгажуня жонка Актавія яго не любіць і не падпускае да шлюбнага ложа: «Плодить чудовищ — не мое призвание», — бясстрашна заяўляе

яна. Гэтую ролю выконвае Галіна Кузняцова (яна ж выступала ў дуэце з Ананьіным у рок-оперы *«Хаакін»*). Бадай, гэта адзіны жаночы персанаж з вышэйшага саслоўя, надзелены нармальнымі чалавечымі якасцямі. Жывучы ў гіблым асяроддзі, Актавія навучылася хаваць у сабе ўсе свае думкі і пачуцці. З ног да галавы ў белым, напачатку сваім аблччам яна нагадвае не столькі жывую істоту, колькі сімвал чысціні і аддалены прадвеснік немінучай смерці, якая не прымусіла сябе доўга чакаць. І вось ужо Актавія ў чорным і разам з Неронам яны спяваюць: «Девочка — яд, девочка — смерть. Если бы взять и посмотреть, что там внутри, с той стороны, где твои сны…» Ну хіба не ўпісваецца сэнс гэтай песні з альбома «Агаты Кристи» ў драматургію п'есы?

Спектакль наскрозь метафарычны. А таксама ірэальны — у ім размыты не толькі межы часу, але і прасторы. Паўнапраўнымі ўдзельнікамі падзей выступаюць старажытнарымскія багі: самы вярхоўны з іх — Юпітэр, а таксама Венера з Амурам. Жывыя персанажы спектакля ў іх руках ператвараюцца ў лялек, і, як у лялечным тэатры, багі разыгрываюць гісторыю пра жыццё Нерона. Але неўпрыкмет ляльки застаюцца сцэнічным антуражам і багі ўступаюць у гульню з людзьмі, а людзі — у гульню з багамі.

Значнае месца ў гэтай гісторыі адводзіцца Агрыпіне, маці Нерона. Багі папярэджваюць яе, што сын, якога яна народзіць, будзе вялікім акцёрам і вялікім правіцелем, але настане час, калі ён зжыве са свету яе саму. «Пусть умерщвляет, лишь бы царствовал!» — парыруе яна, спадзеючыся, відаць, на ўласную сілу ліхадзейства. Стаўшы чацвёртай жонкай імператара Клаўдзія (які даводзіўся ёй дзядзькам), а потым атруціўшы яго, ёй удалося ўзвесці свайго сына на трон, абмінуўшы законнага наследніка. І любіць яна ў Нероне не сына, а саму сябе як маці імператара і сваю любоў да ўлады. У ролі Агрыпіны вельмі пераканаўчай была Алена Мачалава, якая нават сваёй фактурай трапна пападае ў гэты вобраз. Асабліва ўдалай атрымалася сцэна, калі Агрыпіна моцным напорам прымушае Нерона заняцца дзяржаўнымі справамі: уздзявае на яго пурпурную мантыю і лаўровы вянок і падсоўвае на подпіс указы, настойліва і раздражнёна даводзячы: «Не жаждет власти лишь дурак!» А ён, вылузваючыся з імператарскай мантыі, якая і выглядае на ім недарэчна, у гэты момант больш за ўсё жадае спакою ды адзіноты і думаць здольны толькі аб акцёрстве. Змрочны, дэпрэсіўны настрой Нерона ў падобных момантах, таксама як і яго адасобленасць ад рэчаіснасці, сапраўды ўдала падкрэсліваюць кампазіцыі «Агаты Кристи», якія вызначаюцца духам нонканфармізму і «пафігісцкага» эстэцтва.

У гледача, які зусім не знаёмы з біяграфіяй Нерона, магло скласціся ўражанне, што імператарская ўлада была для яго невыносным цяжарам. У сапраўднасці ж, такім цяжарам была для яго неабходнасць выконваць абавязкі імператара. А ўлада яму патрэбна была — дзеля задавальнення сваіх псіхапатычных схільнасцей і паталагічнага славалюбства, якое праяўлялася ў нястрымным жаданні здабыць сабе славу найвялікшага акцёра ў маштабах усёй імперыі. І кожнага, хто б мог пахіснуць гэтую ўладу, ён знішчаў, задавальняючы пры гэтым і свае садысцкія схільнасці.

На вачах у Нерона быў атручаны яго зводны брат Брытанік, месца якога ён заняў на троне. Вобраз Брытаніка (таксама як і яго сястры Актавіі, жонкі Нерона, выклікае ў гледача сімпатыю і спачуванне). Гэтую ролю выконвае Аляксандр Дудніцкі — саліст оперы, уладальнік прыгожага барытона, які з поспехам праяўляе сябе і як драматычны акцёр. А калі да гэтага дадаць яго надзвычай сцэнічную і фактурную знешнасць, то будзе зразумелым яго поспех у гледача. Вось толькі выклікае недаўменне, чаму стваральнікі спектакля апранулі гэтага персанажа ў чырвоны, расшыты золатам мундзір, у якім ён вельмі нагадвае іншага небезвядомага персанажа — паручніка Ржэўскага… У чым тут глыбінны сэнс? Здаецца, больш лагічным было б, каб і Брытанік выглядаў па-сучаснаму — таксама як Нерон і Актавія.

Потым прадказанні багоў пачынаюць збывацца: Нерон задумвае забойства сваёй маці, якая прымушае яго займацца дзяржаўнымі справамі. Пры гэтым ён імкнецца ўсё абставіць тэатральна — прыдумвае цэлы спектакль, які павінен разыграцца на яго галеры і ў фінале якога Агрыпіна павінна патануць. Але план не ўдаўся — Агрыпіна выплыла на бераг. У наступны раз ёй выратавацца ўжо не ўдалося — яе напаткала смерць на ўласнай віле.

Пасля гэтага наступае чарга сябра і настаўніка Нерона — філосафа Сенекі, якому велікадушна было дазволена здзейсніць самазабойства, выбраўшы для гэтага самы лёгкі спосаб.

Усе гэтыя гістарычныя факты ў спектаклі ёсць, і тэма забойстваў праходзіць у ім ад пачатку да канца, але назваць яе галоўнай усё ж нельга — яна служыць фонам, на якім разыгрываецца ўнутраная драма галоўнага героя. Нерон у спектаклі паказваецца не столькі праз свае дзеянні, колькі праз энергію свайго ўнутранага самаразбурэння.

А галоўнае пытанне пастаноўкі заключаецца ў тым, ці можна любіць такога чалавека ў прынцыпе. Аказваецца, можна. Так, як любіць яго вольнаадпушчаніца Акта — не за выгоды і не па прымусе, а проста таму, што шчыра і безнадзейна любіцца. І ён, змучаны бясконцымі оргіямі, заўсёды вяртаецца да яе, бо толькі з ёй адной знаходзіць хоць нейкае душэўнае супакаенне. А таксама толькі побач з ёй ён можа дазволіць сабе не акцёрстваваць, а быць такім, як ёсць. Ролю Акты бліскуча выконвае вядучая салістка Алена Альфер. І вельмі ўдалым ходам у пастаноўцы было назначэнне гэтай жа артысткі на ролю Венеры — Акта стала зямным увасабленнем багіні кахання.

У фінале спектакля разыгрываецца апошні акт драмы Нерона: супраць яго паўстала прэтарыянская гвардыя, а сенат аб’явіў яго ворагам айчыны. Ведаючы, што яго чакае, ён рашаецца скончыць жыццё раней, чым яго арыштуюць. Не маючы сіл зрабіць гэта самастойна, ён загадвае свайму саветніку закалоць сябе мячом. І нават гэты, апошні момант існавання, спрабуе зрабіць тэатральным, прамаўляючы апошнюю рэпліку: «Какой великий артист погибает!» Аўтары спектакля ў гэтай сцэне трохі адышлі ад гістарычнай праўды: у свой судны час Нерон застаецца адзін на адзін з Актай і просіць менавіта яе дапамагчы яму пайсці з жыцця, гэтым самым як бы ўзвышаючы яе да сябе. І гэта акалічнасць уносіць шчымлівую ноту ў развязку ўсёй гісторыі.

Калінінградскі тэатр ганарыцца тым, што ў 2015 годзе стаў адзіным з рэгіянальных тэатраў, які быў запрошаны на XVI Міжнародны Волкаўскі фестываль, і рок-драма *«Любіць Нерона»* была паказана на самай старой тэатральнай сцэне Расіі.

У гастрольнай афішы калінінградцаў было і тры мюзіклы. Адзін з іх — *«Ігральны дом»* — таксама адносіцца да ліку эксклюзіўных пастановак. Яго аўтар, маскоўскі кампазітар Аляксандр Шаўцоў, стварыў гэты твор па матывах аповесці Пушкіна «Пікавая дама», напісаўшы да яго і лібрэта, і тэксты песень.

У самога Пушкіна гэта аповесць пранізана містычнымі элементамі, у ёй вельмі тонка абыгрываецца тэма непрадказальнасці лёсу і гульні сляпой фартуны з чалавекам. А ў сілу сваёй сцісласці і недагаворанасці, яна дае прастор для фантазіі. Але адразу хочацца сказаць, што аўтар мюзікла не так ужо шмат і нафантазіраваў: у сюжэце па вялікім рахунку нічога не змяніў, толькі прыўнёс некалькі пікантных момантаў у біяграфію графіні, а ў фінале лёс беднай Лізы павярнуў зусім нечаканым чынам. Але сэнсавыя акцэнты ў мюзікле ўсё ж іншыя — галоўнай дзеючай асобай у ім становіцца ігральны дом, а вобразы Германа і нават Лізы як быццам параджаюцца ім.

Рэжысёрам і сцэнографам гэтай пастаноўкі таксама з’яўляецца Алена Сафонава. І сапраўды, у яе трактоўцы менавіта ігральны дом, а дакладней, ігральны



*«Ігральны дом».*

стол становіцца не проста месцам, дзе кіпяць страсці і вершацца лёсы, а нейкім суб'ектам, здольным уплываць на паводзіны людзей, знаходзячы тым самым сабе новых ахвяр.

У спектаклі лінейны ход часу зблытваецца: пачаргова, а то і паралельна паказваюцца сцэны то з жыцця графіні ў маладосці, то яе сённяшняе становішча ў ігральным доме. Таму гэты персанаж раздвойваецца на двух выканаўцаў: маладую маскоўскую Венеру, якая бурна праводзіць час ў Парыжы, іграе Алена Альфер, а графіню ў старасці — Антон Арнтгольц, які вельмі ўдала стварыў яе гратэскна-фарсавы вобраз. Змрочная гісторыя Германа і Лізы будзе разыгрывацца пазней, а пакуль што на першы план выходзіць бліскучы авантурыст граф Сен-Жэрмен, алхімік і акультыст, які ператоўвае маскоўскую Венеру, якая прайгралася, адкрываючы ёй сакрэт трох выйгрышных карт. У ролі Сен-Жэрмена выступіў Station Станіслаў Ананьін, чый адзін толькі гіпнатычны голас здольны заваражыць каго заўгодна…

Падрабязнасці пра прыгоды сваёй бабкі ў Парыжы і пра тое, як ёй удалося адыграцца, расказвае вальяжны граф Томскі, седзячы за ігральным сталом разам з іншымі шукальнікамі ўдачы. (Ролю гэтага заўзятага гульца з своеасаблівым шармам выканаў Аляксандр Дудніцкі.) Воддаль ад стала звычайна стаіць малады немец Герман, вельмі сур'ёзны, спакойны і нешматслоўны, які толькі ўважліва назірае за ігрой, ніколі не беручы ў рукі карт. «*Игра занимает меня сильно*, — адказвае ён на рэпліку ў свой адрас, — *но я не в состоянии жертвовать необходимым в надежде приобрести излишнее*». Але ўсур'ёз словы пра тры выйгрышныя карты ўспрымае менавіта ён. І з гэтага моманту ў ім з адчайнай сілай пачынае прачынацца моцна прыхаваная цяга да карт — ён становіцца заложнікам, а потым і ахвярай ігральнага дома. З самага пачатку вобраз Германа таіў у сабе кантрасную натуру: з аднаго боку ён — уладальнік цвёрдай волі і зайздроснага самавалодання, а з другога — заложнік моцнай прагі да азартнай гульні ў надзеі разбагацець. Герман у выкананні Андрэя Круглова гэтыя якасці свайго характару раскрывае паступова. Спачатку ён у сваім чорным, нібы адлітым з металу мундзіры, стаіць каля стала цвёрды і непахісны, нібы манумент. Але па меры таго,

як ім авалодваюць нястрымныя думкі аб магчымасці лёгка разбагацець, ад былой стрыманасці не застаецца і следу. Ён становіцца дзейсным і рашучым.

Перыпетыі ўсім вядомага сюжэта зводзяць Германа з Лізай. Ён выкарыстоўвае яе парыў для таго, каб прабрацца ў дом графіні і выведаць містычную тайну трох карт. А яна, ужо змірыўшыся са становішчам беднай прыжывалкі, раптам успыхнула надзеяй на шчаслівы лёс і безразважна даверылася яму. У выкананні Галіны Кузняцовай Ліза напачатку паўстае перад гледачом класічнай пушкінскай гераіняй. Але ў фінале яе аблічча і паводзіны рэзка мяняюцца: з незалежным выглядам і пачуццём уласнай годнасці яна ўпэўнена садзіцца за ігральны стол. Такі вось сюрпрыз для гледача, падрыхтаваны аўтарам мюзікла. І сама сабой напрошваецца здагадка: відаць, тайну трох карт графіня перад смерцю ўсё ж паспела раскрыць Лізе.

Усё ў гэтым спектаклі падпарадкавана руху і дынаміцы музычнай драматургіі, разгорнутых размоўных сцэн у ім практычна няма. Музычныя нумары яркія і насычаныя, з удзелам хору і кардэбалету. У цэлым гэта адмыслова сканструяваны ансамблевы спектакль, сучасны і стыльны, які вызначаецца высокім узроўнем пастановачнай культуры.

Наступны мюзікл — *«Незвычайны талент»* — створаны па матывах апавядання Антона Паўлавіча Чэхава «Каштанка». Музыку да яго напісаў вядомы маскоўскі кампазітар Аляксей Шэлыгін, які вельмі шмат піша для тэатра і кіно. А лібрэта — яго тэатральны калега, драматург і рэжысёр Аляксей Літвін, які і паставіў гэты спектакль у Калінінградскім тэатры. І трэба адзначыць, што ён не адносіцца да катэгорыі дзіцячых пастановак.

Як вядома, Чэхаў з’яўляецца вялікім майстрам малых форм у прозе, і яго «Каштанка» — найлепшае таму пацвярджэнне. Так што лібрэтысту не патрэбна было скарачаць ні фабулу, ні тэкст апавядання, а наадварот, дапоўніць яго тымі дэталямі, якія робяць празаічны твор сцэнічным.

Чэхаў вельмі любіў назіраць за свойскімі жывёламі і часта апісваў у сваіх творах іх звычкі. У яго дома заўсёды жылі сабакі, а пра ката па мянушцы Фёдар Цімафеевіч, які фігуруе ў гэтым апавяданні, ён нават пісаў у сваіх пісьмах да сяброў, сярод якіх быў знакаміты дрэсіроўшчык і цыркавы артыст Уладзімір



*«Незвычайны талент».*

Дураў. І ў аснове апавядання «Каштанка» якраз і ляжыць гісторыя рыжага сабачкі Дурава, з-за якога ён нават судзіўся з яе першапачатковым гаспадаром.

Літаратуразнаўцы адзначаюць, што ў гэтым сціслым апавяданні Чэхаў зрабіў літаратурнае адкрыццё — фіксаваў увагу не столькі на знешніх рысах паводзін сабачкі, колькі на яўных ці няяўных знаках яго ўнутранага стану і праўдападобна паказаў сабачыя «думкі» і «перажыванні». Таму сябры, жартуючы, пыталіся ў пісьменніка, ці не пажыў ён некаторы час у сабачай шкуры. І тут неабходна адзначыць, што лібрэтыст і рэжысёр вельмі ўдала перанеслі гэтыя каштоўныя асаблівасці першакрыніцы ў пастаноўку.

Усё дзеянне ў спектаклі пабудавана так, што Каштанка, ролю якой выконвае Алена Альфер, з'яўляецца галоўнай дзеючай асобай, а людзі, з якімі ёй даводзіцца кантактаваць, як бы дапаможнымі персанажамі. І усе падзеі, што разгортваюцца на сцэне, расцэньваюцца з «пункту гледжання» Каштанкі, пры тым, што яна не размаўляе, як у дзіцячых спектаклях — усе яе ўзаемадзеянні і кантакты з акружаючымі ажыццяўляюцца на невярбальным узроўні.

Вось Каштанка згубілася, адчайна мітусіцца па вуліцы ў пошуках слядоў свайго гаспадара і яго сына, але густы снег іх засыпае ўсё больш і больш, а нейкія незнаёмыя натоўпы людзей вельмі палохаюць яе і затоптваюць сляды канчаткова… Каштанцы холадна і страшна, і на гэтай незнаёмай вуліцы даводзіцца перажыць шмат жахаў. Спачатку на яе нападае зграя бадзяжных сабак (пластычна-танцавальны нумар уражвае), потым ёй дастаецца ад бізуноў п'яных возчыкаў, а пасля яна не ведае, куды схавацца ад строю салдат і ад катаржан, якіх праводзяць па вуліцы… Шукаючы хоць якога сховішча, Каштанка прыблудзілася да дзвярэй рэстарана, адкуль вываліся шумныя кампаніі купцоў і гараджан з цыганамі… Куды ж падзецца, дзе схавацца ад холаду і снегу?..

Усе жахі, перажытыя Каштанкаю на начной заснежанай вуліцы, атрымліваюць сваё праяўленне ў чарадзе мізансцэн з удзелам артыстаў хору і балета, напоўненых своеасаблівай энергетыкай і дынамізмам.

…Канчаткова выбіўшыся з сіл, Каштанка, засыпаная снегам, засынае проста на вуліцы. І праз яе сон гледачы даведваюцца пра яе згублены дом і пра яе гаспадара (усё як у Чэхава). Столяр Лука, пад верстаком якога Каштанка звычайна спіць, выгаворвае ёй: *«Ты, Каштанка, насекомое существо и больше ничего. Супротив человека ты всё равно, что плотник супротив столяра».*

Як вядома, Каштанку падабраў на вуліцы цыркавы артыст. І яна пад іменем Цётка пачала жыць у кампаніі ката Фёдара Цімафеевіча і гуся Івана Іванавіча, з якімі рэпеціравала розныя нумары. Усё гэта выдатна абыгрываецца ў спектаклі. Артысты нават дэманструюць тую самую «егіпецкую піраміду», аб якой пісаў Чэхаў. Але у час цыркавога дэбюту Каштанку ўбачылі на арэне Лука з сынам…

Мала таго, што ва ўнутраным стане Каштанкі ёсць шмат чаго, блізкага чалавеку — аўтары спектакля, услед за аўтарам апавядання, ставяць яе, нібы чалавека, у сітуацыю выбару. І яна выбірае не сытасць і выгоды, а шчымлівае пачуццё вернасці і адданасці гаспадару, пахучыя стружкі пад верстаком якога ёй сніліся начамі ва ўтульным доме артыста.

У гэтым спектаклі мала дыялогаў, затое многа песень і танцавальна-пластычных нумароў. Але, будучы сучасным па форме, ён нiколькі не страціў свайго хрэстаматыйнага зместу.

Прыхільнікам больш традыцыйных пастановак быў адрасаваны амерыканскі мюзікл *«Чалавек з Ламанчы»,* які кампазітар Мітч Лі напісаў яшчэ ў 60-я гады і які вядомы ў нас па экранізацыі гэтага твора і па пастаноўках у многіх расійскіх тэатрах.

Паставіў гэты спектакль даўні сябра Валерыя Лысенкі яшчэ па гадах вучобы ў ГИТИСе Іслам Казіеў, які цяпер з'яўляецца галоўным рэжысёрам Нацыяналь-



*«Асада».*

нага тэатра Дагестана. Па сваёй форме гэта пастаноўка ў пастаноўцы. Пісьменнік Сервантэс і яго слуга трапляюць у турму з-за прэтэнзій рэлігійных улад. Шматлікая плойма асуджаных вырашае судзіць пісьменніка па сваіх законах, а ён у якасці сваёй абароны прапаноўвае ўсім прыняць удзел у пастаноўцы той самай гісторыі пра Дон Кіхота. Паступова змест п'есы выходзіць на першы план, і перад гледачом паўстаюць знаёмыя персанажы ў знаёмых сюжэтных перыпетыях. Але ў нейкі момант Дон Кіхот зноў становіцца пісьменнікам Сервантэсам, якога чакае сапраўдны суд…

У вобразах Дон Кіхота і Сервантэса выступіў Станіслаў Ананьін, выдатна паказаўшы сябе ва ўзроставых драматычных ролях. Санча Панса сыграў Мікалай Пярлухін, які падаўся цікавым у гэтай неардынарнай характарнай ролі. А ў вобразе Дульсінеі выступіла чароўная Алена Альфер, якая ў чарговы раз прадэманстравала шырыню свайго акцёрскага дыяпазону. Спектакль даволі шматнаселены, у ім нямала іншых персанажаў, а таксама ўдзельнікаў масавых сцэн, у якіх заняты артысты хору і балета.

Калінінградцы прывезлі таксама і дзве драматычныя пастаноўкі. Асаблівую цікавасць выклікаў спектакль *«Асада»,* пастаўлены па п'есе папулярнага драматурга Яўгенія Грышкаўца, які, дарэчы, жыве ў Калінінградзе. Пастаноўка ажыццяўлялася пад мастацкім кіраўніцтвам самога аўтара.

Гэта вельмі дзіўны і не сказаць, каб зразумелы і даступны для лёгкага ўспрымання спектакль. Пастаўлены ён у жанры так званага наіўнага тэатра. Адсюль і па-мінімалісцку цацачнае афармленне сцэны. Скразнога дзеяння ў спектаклі няма, а ёсць толькі расказы і эцюды, прычым сэнсава як быццам не звязаныя паміж сабой.

Пачынаецца спектакль з таго, што Ветэран (артыст Антон Арнтгольц), які ўвасабляе сабой абагулены вобраз ветэрана ўсіх войнаў, расказвае Юнаку (Роберт Левен) розныя гісторыі з гераічнага мінулага. Юнак слухае ветліва, але няўважліва і ўвесь час спрабуе пагаварыць па мабільніку… А тым часам расказы Ветэрана ўсё больш пачынаюць нагадваць дзіўную сумесь салдацкіх баек і старажытных міфаў — нездарма ж Юнак раз-пораз ускліквае, што гэта ён ужо калісьці чуў. А Ветэран усё працягвае свае гісторыі пра баявога таварыша, які аднойчы пера-

гарадзіў рэчку і такім чынам ачысціў канюшню аднаму дзеду, або пра дзіўнага мужыка ў вёсцы, які кожны дзень невядома дзеля чаго закатваў на гару камень…

А паралельна ў глыбіні сцэны адбываецца другое дзейства: тры антычныя воіны, якія ўвасабляюць сабой цэлае войска, асаджаюць сцены горада, што ніяк не хоча здавацца. Асада працягваецца ўжо даўно, воіны вельмі хочуць заканчэння вайны і разважаюць, як гэта зрабіць. Урэшце вырашылі звярнуцца да асаджаных з ультыматумам: *«Ваше положение кастра-тофическое! Плохое, значит! Выходите с поднятыми руками, мы, может быть, пообещаем вам жизнь и частичную сохранность личного имущества!..»*

У дзеянне без бачных на тое прычын раз-поразукліньваецца нейкі бясслоўны персанаж, які спрабуе ўзляцець на нязграбных перапончатых крылах. Кожны раз падае вобземлю, падымаецца і ціха сыходзіць…

Больш-менш дасведчаны глядач здагадваецца, што гэта — Ікар, а воіны асаджаюць Трою. А Ветэран расказваў Юнаку пра Геракла і Сізіфа, а сам ён не хто іншы, як Адысей, які прыдумаў драўлянага каня.

Філасофія спектакля наступная: асады Троі будуць працягвацца да таго часу, пакуль праціўнікі не навучацца дамаўляцца. І пакуль не зжыве сябе ваяўнічая ўстаноўка, якую выказвае адзін з воінаў: *«Дед воевал, отец воевал, и я воевать пойду и сына своего отправлю».*

І яшчэ адна сумесная работа аўтара п’есы Вольгі Балычовай і пастаноўшчыка Алены Сафонавай — правакацыйная камедыя *«Наталі смагу».* Гэта чыста касавая рэч, якую можна аднесці да так званага масавага жанру. Гісторыя пра тое, як у адным прыморскім гарадку некалькі мужчын сярэдняга ўзросту, застаўшыся без работы, замест таго, каб яе шукаць, надакучваюць сваёй прысутнасцю гаспадыні бара, у якой просяць спіртное ў доўг. Міжволі ўзнікае асацыяцыя: ці ні пра гэтую смагу пойдзе гаворка?.. Высвятляецца, што гаспадыня бара — іх аднакласніца, якая сама перажывае не лепшыя часы, але здольна трымацца на плыву. Да кампаніі далучаецца яшчэ адзін аднакласнік-няўдачнік, які нядаўна вярнуўся з Масквы, дзе быў ці то рэжысёрам, ці то акцёрам. Гледачу хутка становіцца зразумелым, што паміж ім і гаспадыняй бара стаіць нешта сур’ёзнае — яны са школьных гадоў кахаюць адно аднаго. І вось жанчыне прыходзіць у галаву ідэя, чым заняць сваіх не вельмі талковых аднакласнікаў: арганізаваць з іх удзелам эратычнае шоу для дам! Тым больш, што і рэжысёр свой ёсць.

На самай справе, не ўсё так у п’есе спрошчана і прамалінейна. Мужчыны згаджаюцца на такі занятак толькі пасля таго, як даведваюцца, што грошы іх аднакласніцы патрэбны для аперацыі.

Спектакль амаль камерны, дзеючых асоб не шмат, няма масавых сцэн, якія прыцягваюць увагу гледача, гэта значыць, што ён трымаецца толькі на акцёрскай ігры. У галоўных ролях выступілі Алена Мачалава і Антон Арнтгольц. А ўсе выканаўцы разам стварылі арганічны сцэнічны ансамбль.

Акрамя пералічаных спектакляў Калінінградскі тэатр прывёз яшчэ дзве музычныя казкі для дзяцей. Так што па яго гастрольнай афішы можна было ўжо меркаваць аб шырыні жанравага дыяпазону гэтага калектыву, а прагледжаныя спектаклі далі ўяўленне аб якасці пастановак і прафесіяналізме выканаўцаў. Таму зусім не выпадкова ў 2010 годзе рашэннем Міжнароднай акадэміі культуры і мастацтва тэатру быў прысвоены статус «Национальное достояние России».

Наступным у фестывальнай афішы быў Драматычны тэатр імя Юозаса Мільцініса з літоўскага горада Панявежыс, які прыехаў у Мінск упершыню. Літоўцы прывезлі на фестываль спектакль *«Вішня ў шакаладзе»,* паводле п’есы фінскага драматурга Лауры Руахонен *«Вольга».*

Фінская драматургія не толькі для нас, але і для краін Еўропы да нядаўняга часу заставалася зусім незнаёмай. Але п'еса *«Вольга»,* напісаная ў 1995 годзе і пастаўленая на сцэне Фінскага нацыянальнага тэатра, стала сапраўднай падзеяй у фінскай драматургіі і хутка — у еўрапейскай драматургіі ў цэлым. Яна была перакладзена больш чым на дзесяць моў і яе пачалі ставіць у многіх краінах Еўропы і ЗША. У Мінску гледачы маглі пабачыць яе ў рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

У тэатры імя Юозаса Мільцініса гэты спектакль паставіў яго мастацкі кіраўнік Лінас Марыюс Зайкаўскас. У ім расказваецца вельмі дзіўная гісторыя ўзаемаадносін старой адзінокай жанчыны і маладога забулдыгі. Рундзіс — бяздомны і беспрацоўны цынік, які ненавідзіць жыццё, але баіцца смерці. А Вольга ўжо смерці не баіцца, таму любіць жыццё. У сілу свайго ўзросту яна ўжо вызвалілася ад гэтай фобіі і з іроніяй заўважае: пачынаеш любіць жыццё, калі становішся ад яго свабодным. Гэтай свабодзе яна і вучыць Рундзіса.

Перад гледачом разыгрываецца лірычная камедыя з мноствам дзіўных учынкаў аднаго і другога, якія сведчаць, што Вольга знаходзіць сваё апошняе каханне, а Рундзіс, магчыма, першае. Даходзіць да таго, што ён хоча хутчэй састарыцца, каб хоць трошкі наблізіцца да яе ўзросту. Але фінал гэтай лірычнай камедыі аказаўся трагічным: пакуль Рундзіс знаходзіўся ў бальніцы, Вольга адчула, што прыйшоў яе час… І яна піша яму перадсмяротную запіску: «Подаренная тобой коробка с шоколадом возле меня. Там осталось одно вишневое сердечко. Напоследок в этом мире я съем его с мыслью, что оно такое же красивое и чудесное, как твои губы».

У ролі Вольгі выступіла выдатная актрыса Аста Прэйдзітэ, у ролі Рундзіса — таленавіты малады акцёр Йонас Чэпуліс. У спектаклі ёсць некалькі іншых персанажаў, але фактычна ён быў сыграны двума вельмі таленавітымі артыстамі, якія ўвесь час трымалі на сабе пільную ўвагу гледачоў. І абавязкова трэба адзначыць музычнае афармленне спектакля — у глыбіні сцэны каля куліс размяшчаўся невялікі вельмі своеасаблівы аркестрык з непрывычным саставам інструментаў: электроннае піяніна, акардэон, казу, кларнет, саксафон, губны гармонік, ударныя, перкусія. І на працягу ўсяго спектакля ціха гучала некалькі шчымлівых і самотных тэм, якія адлюстроўвалі душэўны стан герояў гэтай дзівоснай гісторыі.

Акрамя двух тэатраў, аб якіх ішла гаворка, у мінскім фестывалі прынялі ўдзел Рускі драматычны тэатр Літвы з Вільнюса — найбольш часты госць Беларускага музычнага; Тульскі акадэмічны тэатр драмы — адзін са старэйшых у Расіі; і Даўгаўпілскі тэатр з Латвіі. Усе яны прыязджалі ў Мінск не раз, нашы гледачы помняць іх пастаноўкі і заўсёды рады бачыць палюбіўшыхся артыстаў у новых.

Зразумела, што і Беларускі музычны тэатр, у адпаведнасці з графікам прыезду гасцей, пабываў са сваімі спектаклямі на сцэнах усіх тэатраў, якія прынялі ўдзел у гэтым фестывалі. А якой будзе «Тэатральная вясна ў Музычным тэатры» ў наступныя гады, пакажа час.



Іван САВЕРЧАНКА

# ТРЫУМФ*

*Гістарычная хроніка*

## 10

Апрача пагрозы з боку Масквы, над беларускімі землямі нязменна вісела небяспека з боку немцаў, якія часта рабілі вылазкі і рэйды ўглыб Вялікага Княства Літоўскага. У 1517 г. Жыгімонт І Стары ініцыяваў буйную вайсковую кампанію супраць германцаў. Ён асабіста ўзначаліў корпус, які накіраваўся на вайну з прускім магістрам.

Дзякуючы актыўнаму ўдзелу Жыгімонта Казіміравіча, яго таленту вайсковага начальніка, прускі магістр быў ушчэнт разгромлены, а *Прусія* з таго часу перайшла ў поўнае падпарадкаванне Вялікаму Княству Літоўскаму.

Стваральнай працы жыхароў Беларусі, Украіны і Польшчы істотна перашкаджалі набегі крымскіх татар. Урад Княства спрабаваў мірным шляхам урэгуляваць адносіны з Перакопскай Ардой. У 1517 годзе Альбрэхт Гаштаўт наведаў крымскага хана *Мухамед Гірэя* з «вялікай казной». Аднак шчодрыя падарункі толькі распалілі іх апетыты. Праз два гады 20-тысячнае татарскае войска пад кіраўніцтвам сына крымскага хана *Батыр Гірэя* ўварвалася на землі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства.

Беларускім войскам, якое выступіла супраць татараў, кіраваў гетман Канстанцін Астрожскі. Дасведчаны ў вайсковай тактыцы, ён прапаноўваў польскаму гетману Мікалаю Фірлею біць татараў па частках, бо яны больш чым удвая пераўзыходзілі беларуска-польскае войска. Але палякі не прыслухаліся да яго парад. У выніку ў бітве пад *Сокалем* 2 жніўня 1519 года войскі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства панеслі значныя страты. Загінула каля 1200 жаўнераў.

## 11

Значнай культурнай падзеяй у жыцці Беларускай дзяржавы стаўся пераезд каля 1520 года з Прагі ў Вільню айчыннага першадрукара *Францыска Скарыны*. На Радзіму ён прывёз шыкоўныя пражскія выданні кніг Біблії, пераклады якіх на старабеларускую мову зрабіў асабіста. У Вільні першадрукар прадоўжыў асветніцкую справу, распачатую ў Чэхіі. У доме мецэната бурмістра Якуба Бабіча заснаваў друкарню, дзе выдаў дзве новыя кнігі. Спачатку — «Малую падарожную кніжыцу» (каля 1522), у якую ўваходзілі «Псалтыр», «Часасловец», восем канонаў і восем акафістаў, «Шастаднеў», «Паслядоўнасць царкоўнага збору» і «Канон пакаяльны». Затым ён надрукаваў «Апостал» (1525).

Францыск Скарына — выключна таленавіты беларускі пісьменнік, выдатны майстар мастацкага слова. Ён зрабіў істотны ўклад у развіццё айчыннай філалогіі і літаратуры, аказаў істотнае ўздзеянне на станаўленне беларускай літаратурнай мовы.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 4; за 2017 г.

Перадусім, Скарына значна пашырыў межы і магчымасці традыцыйных літаратурных жанраў — прадмоў, сказанняў і пасляслоўяў. У нарацыях прадмоўна-пасляслоўнага комплексу пісьменнік пераважна адлюстраваў падзеі старажытнай гісторыі. Характэрная адзнака творчага метаду Скарыны — рэгулярнае акрэсленне ўласнай асветніцкай місіі, працы як перакладчыка і выдаўца. Ён нязменна ўказваў на асветніцкія матывы і адукацыйнае прызначэнне сваёй творчай працы, у аснове якой — пашырэнне ведаў, мудрасці, навукі, дабрых нораваў.

Беларускі першадрукар выявіў сябе як бліскучы нацыянальны *паэт,* сапраўдны майстар паэтычнага слова. У прадмовах да кніг «Іоў», «Зыход» і «Эсфір» змешчаны некалькі цікавых сваім зместам рыфмаваных радкоў, якія не страцілі свайго мастацкага і духоўна-маральнага значэння да нашага часу. Ён таксама з’яўляецца аўтарам паэтычнага «Акафіста Іаану Прадцечу», які ўтрымліваў акраверш: «*Писал доктор Скоринич Францискус*».

Найважнейшае месца ў творах Скарыны займала патрыятычная тэматыка. Айчына, родны Полацк, беларускі народ — крыніца натхнення і галоўная тэма яго твораў. Заклік Скарыны да сучаснікаў шанаваць Бацькаўшчыну і мову вельмі сугучны духу ўсяго еўрапейскага Рэнесансу. Як духоўны запавет нашчадкам гучаць надзённыя словы асветніка з «Прадмовы да кнігі “Юдзіф”», у якіх узносіцца святое пачуццё Радзімы, уласцівае ўсім жывым стварэнням.

Самаадданае, ахвярнае служэнне сваёй краіне, роднай Айчыне — найважнейшы абавязак усіх сумленных грамадзян, лічыў Скарына. Ухваліўшы подзвіг Юдзіфі, якая рызыкавала ўласным жыццём дзеля свайго народа, асветнік заклікаў суайчыннікаў часцей прыгадваць яе гераічны чын, чытаць твор як найлепшы ўзор для пераймання. Ідэя велічы Радзімы праходзіць праз многія творы Скарыны. Яго патрыятычныя заклікі служылі істотным фактарам грамадскага паразумення, з’яўляліся трывалай інтэлектуальнай перадумовай фарміравання беларускай нацыі і дзяржавы.

Адзін з галоўных матываў творчасці Скарыны — веліч матчынай *мовы.* У прадмовах і сказаннях асветнік пры кожным зручным выпадку падкрэсліваў, што Святое Пісанне ён выдае на той мове, з якой яго «літасцівы Бог на свет пусціў». Філалагічная канцэпцыя Скарыны пацвярджае рэнесансавы лад яго мыслення. Існаванне шматлікіх моў ён лічыў не Божым пакараннем, а найважнейшым набыткам цывілізацыі. Беларускі асветнік з’яўляўся аднадумцам еўрапейскіх рэнесансавых мысліцеляў, якія выступалі за пашырэнне сферы ўжытку нацыянальнай мовы. Выдатны італьянскі інтэлектуал Нікала Макіявелі ў сваіх творах гэтаксама даводзіў неабходнасць шырэйшага выкарыстання жывых народных гутарак. Ва ўласнай творчасці ён аддаваў перавагу італьянскай мове, а не латыні. Італьянскі гуманіст нават напісаў навуковы трактат: «Дыялог, або Развагі аб нашай мове» (паміж 1513 і 1516).

Патрыятычныя ідэі Скарыны, сфармуляваныя ім дакладна і аргументавана, сталіся важнейшым элементам усёй яго светапогляднай сістэмы. Яны гальванізавалі працэсы нацыянальнай кансалідацыі, стварылі трывалы падмурак для станаўлення гуманістычнага грамадства. Пры гэтым асветнік выступаў за мірныя дачыненні беларусаў з суседзямі, заставаўся паслядоўным прыхільнікам узаемаразумення паміж народамі.

Францыск Скарына — выдатны *крытык і філолаг-біблеіст*. Ён валодаў унікальнымі тэксталагічнымі і філалагічнымі здольнасцямі, што выявіліся на розных узроўнях. Скарына ўпершыню ў гісторыі ўсходніх славян падрыхтаваў сістэматызаваны кодэкс кананічных біблейных кніг, аб чым сведчыць дакладны пералік і вызначэнне місіі кожнай з іх у «Прадмове да ўсёй “Бібліі”». Асветнік слушна вылучыў чатыры асноўныя зместава-тэматычныя групы кніг, што складалі «Біблію». Аб гэтым ён пісаў у «Прадмове да “Першай кнігі Царстваў”». Паводле яго класіфікацыі, першая група біблейскіх кніг — законы, навукі і суды

Божыя, другая — гістарычныя і летапісныя кнігі, трэцяя — «кнігі аб мудрасці, розуме і навуцы Старога і Новага запаветаў», чацвёртая — кнігі прароцтваў і ўяўленняў.

Скарына асабіста ажыццяўляў пераклады надрукаваных ім кніг «Бібліі». У «Прадмове да “Першай кнігі Царстваў”» ён літаральна пісаў: «Пра ўсе гэтыя творы, перакладзеныя мною на *беларускую* мову, і падрабязна пра іх найменні, чытай у маіх прадмовах, змешчаных перад кожнай з названых кніг».

Шэраг старазапаветных кніг беларускі біблеіст пераклаў з улікам лацінамоўнай «Вульгаты», якая была падрыхтавана Іеранімам паводле халдэйскіх першакрыніц і грэчаскага перакладу, выкананага 72 александрыйскімі вучонымі. Так, у «Прадмове да кнігі “Эсфір”» Скарына наўпрост паведамляў, што ён пры яе падрыхтоўцы кіраваўся найбольш дасканалым і поўным, блізкім да халдэйскага арыгінала, перакладам Іераніма.

Пры перакладзе кніг «Бібліі» Скарына абапіраўся таксама на досвед заходнееўрапейскіх і славянскіх папярэднікаў. Ён несумненна выкарыстоўваў старадрукі, сярод якіх былі тры вядомыя выданні «Бібліі» на чэшскай мове: пражскае (1488), кутнагорскае (1489) і венецыянскае (1506).

Рыхтуючы да друку тэксты Святога Пісання, асветнік грунтоўна займаўся іх глыбокай філалагічна-тэксталагічай апрацоўкай, экзэгетыкай і герменеўтыкай — каментаваннем біблейскіх кніг. Ён рабіў тлумачэнні незразумелых мясцін на палях, што з’яўлялася вызначальнай рысай яго філалагічнага метаду.

Сацыяльная і этычная дактрына Скарыны, сфармуляваная ў яго прадмовах і сказаннях, — рэвалюцыйная для таго часу. Сістэма каштоўнасцей беларускага асветніка ахоплівала найважнейшыя сферы жыцця грамадства і дзейнасці канкрэтнай асобы: сямейныя дачыненні — паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі, комплекс узаемаадносін паміж гаспадарамі і падданымі, урадоўцамі і шэраговымі грамадзянамі.

Этычная канцэпцыя Скарыны таксама ўключае такія важныя палажэнні, як ўзаемапавага і шанаванне правоў чалавека, навучанне добрым норавам, павага да народных традыцый, імкненне да святасці і чысціні ва ўсіх учынках. Ён разважаў пра таямніцу шлюбу і прыроду клятвы, заклікаў гуманна ставіцца да навакольнага свету.

Як паслядоўны гуманіст, Скарына аддаваў перавагу не дзяржаве і ўладным інстытутам, а чалавеку, з яго багатым духоўным светам, інтэлектам, пачуццямі і памкненнямі. У аснове светапогляду беларускага пісьменніка і інтэлектуала ляжыць ідэя прыярытэту асобы над дзяржавай.

Духоўна-філасофскія пошукі і жыццёвы досвед вялікага палачаніна прывялі яго да пераканання, што найвышэйшай каштоўнасцю на зямлі з’яўляецца чалавек і чалавечае жыццё. Ідэал Францыска Скарыны — гарманічная, дзейная, свабодная асоба, якой уласціва імкненне да самаўдасканалення. Місія чалавека на зямлі палягае на тым, каб скарыстаць дадзены прыродай талент дзеля памнажэння агульнага дабра. Адзначаючы разнастайнасць захапленняў і зацікаўленняў людзей, беларускі гуманіст прызнаваў за асобай права на ўласны жыццёвы выбар.

Францыск Скарына адным з першых на ўсходнеславянскіх землях на поўны голас загаварыў пра самакаштоўнасць кожнага з народаў, заклікаў захоўваць тое лепшае, што створана ўсімі пакаленнямі людзей. Ён марыў пра такі парадак у свеце, дзе будуць панаваць мір, справядлівасць, узаемапавага, роўныя магчымасці. Паводле яго слоў, ідэальным з’яўляецца такое грамадства, дзе існуе «роўная свабода ўсіх».

Дзякуючы шматграннай дзейнасці Скарыны, беларусы далучыліся да друкаванага слова, атрымалі магчымасць шырэй і глыбей спасцігаць кніжную мудрасць і набываць веды на роднай мове.

## 12

Важнай унутрыпалітычнай падзеяй стаўся *Віленскі сойм 1522 года.* Ён адметны тым, што падчас яго правядзення Жыгімонт Казіміравіч пагадзіўся з просьбай магнатаў і шляхты Княства пачаць падрыхтоўку поўнага Зводу законаў — *Статута*, абавязковага да ўжытку ва ўсіх судовых установах Беларускай дзяржавы. Статутная камісія распачала актыўную працу. Яе дакладны склад, на жаль, невядомы. Зразумела, у камісіі былі ўплывовыя асобы праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў.

Вельмі верагодна, што Скарына браў чынны ўдзел у працы статутнай камісіі. Ён на той момант з’яўляўся вядомай і аўтарытэтнай асобай. Менавіта яго запрасілі на ўрачыстую цырымонію перадачы храма, уфундаванага Юрыем Слуцкім, Рымска-каталіцкаму касцёлу. Аб гэтым красамоўна сведчыць запіс на латыні, змешчаны ў «Пацвярджальнай Грамаце віленскага біскупа Яна на фундацыю слуцкага князя Юрыя» ад 1526 года, дзе ён названы «выдатным мужам, панам Францыскам, доктарам медыцыны».

Пра высокі аўтарытэт Скарыны сярод урадоўцаў Беларускай дзяржавы сведчыць і выйграная ім у 1529 годзе маёмасная справа і канчатковы «Судовы дэкрэт», вынесены ад імя найвышэйшай інстанцыі — вялікага князя Жыгімонта І Старога і Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага. З судовага рашэння вынікае, што кнігадрукара і доктара медыцыны Скарыну ў краіне добра ведалі, з ім лічыліся і яго паважалі.

Пра глыбокае зацікаўленне Скарыны пытаннямі ўдасканалення законаў сведчыць змест яго ўласных твораў. Беларускі асветнік з’яўляўся паслядоўным прыхільнікам *прававой* дзяржавы. У прадмовах, пасляслоўях і сказаннях вялікі гуманіст настойліва праводзіў думку пра неабходнасць рэгулявання законамі ўсіх сфер грамадскага жыцця. Паводле яго разумення, чалавечая натура рэгулюецца двума чыннікамі — Госпадам Богам, гэта значыць, уласна прыродай і пісанымі законамі. Сутнасць «прыроджанага закону», лічыў ён, палягае на тым, каб не чыніць людзям таго, чаго сам не жадаеш мець ад іх.

Паводле слушнага меркавання Скарыны, асаблівая роля ў грамадстве належала агульнаму, міжнароднаму, дзяржаўнаму, рыцарскаму, купецкаму, сямейнаму і крымінальнаму праву. Беларускі асветнік упершыню поўна і аб’ёмна акрэсліў фундаментальнае прызначэнне, місію заканадаўства. На яго думку, законы павінны рэгламентаваць дзейнасць асобных людзей і станаў, гарантаваць іх свабоды і стрымліваць ліхіх людзей страхам пакарання за благія ўчынкі.

Кожны закон, сцвярджаў асветнік, мусіць адпавядаць традыцыям народа, быць справядлівым, грунтоўным, даступным, накіраваным на агульную карысць. У «Прадмове да “Першай кнігі Царстваў”» Скарына паказаў вытокі і гісторыю зараджэння права. Ён назваў імёны першых стваральнікаў грамадзянскага пісанага права — грэцкага цара Фаранея, егіпцяніна Меркурыя Трымеіста, афіняніна Салона Філосафа, лакедыманяніна Лікурга і рымляніна Нумы Пампілія, якія пакінулі для карысці сваіх земляў і дзяржаў грунтоўныя законы.

У аргументах на карысць прававой краіны ні ў чым не саступаў славутаму італьянскаму сацыяльнаму філосафу Нікала Макіявелі, які ў сваіх працах нязменна адзначаў выключную важнасць законаў для паўнавартаснага функцыянавання ўсіх дзяржаў. У знакамітых «Развагах над першай дэкадай Тыта Лівія» італьянскі гуманіст падкрэсліваў: «Па-сапраўднаму шчаслівай можна назваць тую рэспубліку, дзе з’яўляецца такі мудры чалавек, які ўводзіць настолькі дасканалыя *законы*, што, кіруючыся імі, рэспубліка можа не мець патрэбы ў іх зменах, жыць спакойна і ў поўнай бяспецы».

Францыск Скарына выступаў за развітую *судовую сістэму* ў дзяржаве. На яго думку, менавіта справядлівыя суды мусяць стаць галоўнымі інстытутамі ўлады, знаходзіцца вышэй за манархаў і духоўных іерархаў. Такое разуменне асветнік

выказаў у «Прадмове да кнігі “Суддзі Ізраіля”», дзе паведамляў пра логіку і паслядоўнасць Божага ўпарадкавання Ізраіля. Бог там спачатку прызначыў акурат суддзяў, а затым — цароў і, урэшце, жрацоў.

Істотнае месца ў інтэлектуальным дыскурсе Скарыны належала катэгорыі «згоды». Асветнік выступаў як паслядоўны прыхільнік грамадскага і сацыяльнага паразумення. Паводле яго слушнага меркавання, згода прыносіць дабро і парадак, а нязгода («распря») — асноўная прычына разбурэнняў і бязладдзя, якія прыводзяць да знікнення самых магутных дзяржаў.

## 13

Вялікай культурнай падзеяй першай паловы XVI ст. з’яўляецца падрыхтоўка і выданне паэтам *Міколам Гусоўскім* «Песні пра зубра» (1523) — шэдэўра беларускай лацінамоўнай літаратуры, на старонках якой узнаўляліся значныя падзеі нацыянальнай гісторыі і апяваліся маляўнічыя беларускія краявіды.

«Песня пра зубра» напісана на пачатку 20-х гадоў XVI ст. па вяртанні паэта з Рыма, куды ён ездзіў у складзе дыпламатычнай місіі. Упершыню яна апублікавана ў зборніку твораў Гусоўскага ў 1523 г. у кракаўскай друкарні Ераніма Віетара пры дапамозе каралевы Боны Сфорцы, спрыянні яе сакратара Людовіка Альфія і гнезненскага каноніка Карла Антонія Банонскага.

Як прызнаваўся аўтар, штуршком да абрання ў якасці аб’екта творчасці велічнай постаці зубра паслужыла парада плоцкага біскупа Эразма напісаць маляўнічы аповед пра паляванне на рэдкага звера-асілка, з тым, каб пазней даслаць гэты тэкст, разам з чучалам, у падарунак Папу Рымскаму Льву X.

Паэта прывабіла выдатная магчымасць паспрабаваць творчыя сілы ў асваенні новай тэмы. Пры гэтым, Гусоўскі не абмежаваўся сухім выкананнем пісьменніцкага абавязку. Кіруючыся законамі творчасці, — магчымасцямі сюжэтных хадоў, кампазіцыйных элементаў, мастацкіх дэталей, — давяраючы сваёй паэтычнай інтуіцыі, ён на высокім мастацкім узроўні апеў прыгажосць Бацькаўшчыны, паказаў яе веліч, уславіў гераічнае мінулае свайго народа, мужных ваяроў і мудрых гаспадароў краіны. Адказваючы арыгінальнай мастацкай формай на эстэтычныя запатрабаванні часу, майстар слова бліскуча выканаў уласную духоўную місію.

У творы дамінуюць рэаліі Вялікага Княства Літоўскага, згадваецца рака Днепр, што ўскосна сведчыць пра беларускае паходжанне аўтара паэмы. Топіка «Песні пра зубра» надзвычай багатая: блізкая да натуралістычнай перадача паводзін зубра перамяжоўваецца з арыгінальнымі пейзажнымі замалёўкамі, апісаннямі бароў, рэк, пушчаў, сцэнамі палявання на звера, дэталёвымі аповедамі пра падрыхтоўку пасткі, звесткамі пра народныя звычаі. Гусоўскі з захапленнем піша пра незлічоныя багацці беларускіх лясоў.

Паэтыка «Песні пра зубра» сінкрэтычная: формы прыгодніцкага жанру (лясныя здарэнні) арганічна спалучаныя з элементамі эпікі, пейзажнай лірыкі. У асобных радках гучыць гумар, зрэдчас — сатыра і сарказм. Сярод важнейшых мастацка-кампазіцыйных кампанентаў паэмы — гістарычнае паданне пра Вітаўта, заклік спыніць забойствы, малітва да Дзевы Марыі.

Вобразная матрыца паэмы параўнальна сціслая, колькасць персанажаў абмежаваная. Вобразы статычныя, бо аўтар яшчэ не ведае дынамікі характару, ён рэалізуе схему аб’ёмнасці — шматстайнасці характарыстык і ацэнак. Гусоўскі з сімпатыяй піша пра вялікага князя Жыгімонта I Старога. Ён абяцае прысвяціць асобную песню апісанню яго гераічных учынкаў.

Ключавы вобраз паэмы — зубр — валадар пушчаў. Аўтар надзвычай маляўніча апісвае яго знешні выгляд, нораў і звычкі. Найбольш каларытная сцэна твора — паляванне на загнанага ў пастку звера, які становіцца надзвычай небяспечным. Пры апісанні зубра Гусоўскі выкарыстоўваў элементы псіхалагізму. Так,

аўтар перадае светаадчуванне звера-асілка, яго стан у розныя моманты. Гаспадар пушчаў — зубр — сімвалізуе Беларусь, увасабляе фізічную моц народа і веліч роднай зямлі.

Надзвычай яркі ў паэме вобраз князя Вітаўта. У абмалёўцы Гусоўскага магутны валадар Вялікага Княства Літоўскага выступае як прадбачлівы дзяржаўны дзеяч, мужны ваяр, які сваім прыкладам натхняе падначаленых, рыхтуе абаронцаў Айчыны. Князь шануе мужнасць, не любіць баязліўцаў. Ён пільна сочыць за выкананнем законаў («звычаёвага права»), строга судзіць злачынцаў, хабарнікаў, клятваадступнікаў. Вітаўт карыстаецца вялікім аўтарытэтам у свеце, яго баяцца і шануюць валадары многіх краін.

Паводле Гусоўскага, Вітаўт — набожны хрысціянін, які ваяўніча руйнуе паганскія капішчы, узводзіць бажніцы і закладае манастыры. Дзяржава пры ім дасягае найвышэйшай магутнасці, што дало падставы паэту ўслед за сучаснікамі назваць эпоху яго княжання «залатой парою». Справядлівая захопленасць дзейнасцю Вітаўта суправаджаецца, аднак, аўтарскай зададзенасцю, запраграмаванасцю. Схематызм, часам, прыводзіў яго да мастацкага спрашчэння, а ў паасобных момантах — да скажэнняў, як, напрыклад, пры вырашэнні праблемы Вітаўтавага стаўлення да паганскай культуры, дзе ідэалагема паэта перамагла гістарычную праўду.

Гераіка-эпічная ўстаўка пра дзеі Вітаўта мела выразна патрыятычны падтэкст. Паэт стварае ўзор, ідэал валадара Вялікага Княства Літоўскага, які ў любых абставінах бароніць Айчыну, народ і паэтаў. Такім чынам, Гусоўскі не толькі выказваў захапленне велічным мінулым роднай зямлі, але апеляваў да сэрца і розуму вялікага князя Жыгімонта, каб той арганізаваў належны супраціў іншаземным захопнікам.

У паэтычным прысвячэнні Боне Сфорцы паэт адкрыта прасіў, каб яна «нараіла свайму яснавяльможнаму мужу» дбаць пра таленты — вучоных, мастакоў і паэтаў, бо дзяржава павінна абапірацца не толькі на войска і зброю, але і на духоўную сілу.

«Песня пра зубра» адметная тым, што ў ёй напоўніцу прагучала грамадзянская пазіцыя аўтара. Гусоўскі ўзняў свой голас супраць братазабойчых войнаў, шляхецкіх звадак, тыраніі, сацыяльнага эгаізму. Паэт гнеўна асуджае каралёў і манархаў, якія распачынаюць войны дзеля павелічэння багаццяў і задавальнення ўласных палітычных амбіцый.

Паэт шчыра спачувае працоўным людзям, якія найбольш церпяць ад войнаў і звадак. У малітве да Дзевы Марыі, заключным паэтычным акордзе, універсальныя матывы яшчэ больш узмацняюцца. Гусоўскі просіць Маці Божую абараніць чалавечы род ад бед і няшчасцяў, варожых нападаў, палону, не даспусціць, каб прыпынілася праца чалавека-творцы.

У апошніх радках паэмы Гусоўскі выказваў надзею, што Папа Рымскі, як сапраўдны пантыфік, дадзенай яму Богам уладай кансалідуе грамадства, скіруе людзей на стваральную працу.

Такім чынам, «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага — выдатны твор нацыянальнай лацінамоўнай літаратуры, у якім бліскуча ўвасобіліся лепшыя традыцыі беларускай кніжна-пісьмовай культуры.

## 14

З мэтай папярэджання татарскіх нападаў улады Вялікага Княства стварылі на паўднёвых межах казацкія атрады. Яны не толькі служылі надзейным кардонам, але і самі пачалі здзяйсняць рэйды супраць крымскіх татараў. Нярэдка казакі рабілі марскія паходы на Турцыю на лёгкіх і мабільных ладдзях — «чайках». Яны знянацку нападалі на турэцкія паселішчы і рабавалі іх.

Асабліва часта казакі нападалі на турэцкія крэпасці на ўзбярэжжы Чорнага мора. У 1524 годзе войска Вялікага Княства на чале з *Канстанцінам Астрожскім* і казацкім атаманам *Астапам Дашкевічам* здзейсніла маштабны паход і ўзяло стратэгічна важную турэцкую крэпасць *Ачакаў*.

У адказ у снежні 1526 года 30-тысячнае войска Крымскага ханства пад кіраўніцтвам царэвіча *Малая* перайшло паўднёвыя межы Княства і няшчадна абрабавала Тураўскія і Пінскія землі.

Урадавае войска пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астрожскага пагналася за татарамі і ля вёскі *Альшаніца*, што на Кіеўшчыне, знянацку напала на ворагаў. У бітве ўзімку 1527 года ўдзельнічалі харугвы кіеўскага ваяводы Андрэя Нявіравіча, чаркаскага старосты Яўстафія Дашковіча, Юрыя Алелькавіча, Фёдара Сангушкі, Юрыя Радзівіла, Івана і Аляксандра Вішнявецкіх, Аляксандра Чартарыйскага. Татары былі пасечаны і рассеяны. Звыш 20 тысяч захопнікаў засталося ляжаць на полі бітвы. Вярнулі захоплены скарб і вызвалілі звыш 40 тысяч палонных.

З нагоды вялікай перамогі Жыгімонт Казіміравіч наладзіў у Кракаве трыумфальную сустрэчу Канстанціну Астрожскаму.

Увесну 1527 года ўлады Беларускай дзяржавы адпусцілі з палону апошняга хана Вялікай Арды — *Шыг Ахмата.* Яго праводзілі да Кіева. У полі за Кіевам хана сустрэлі памежнікі, прысланыя ягоным сынам. Яны завезлі *Шыг Ахмата* ў Залатую Арду, але неўзабаве самі ж і зарэзалі яго.

## 15

Пры двары вялікага князя і караля Жыгімонта І Старога зарадзілася ідэя абрання наступным гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага яго сына Жыгімонта ІІ Аўгуста. 18 кастрычніка 1529 года ў Вільні склікалі пасяджэнне Рады Вялікага Княства. На яго прыехаў Жыгімонт Казіміравіч з жонкай *Бонай Сфорцай*, з якой ажаніўся ў 1518 годзе, і іх 9-гадовым сынам Жыгімонтам ІІ Аўгустам. У пасяджэнні бралі ўдзел практычна ўсе ўплывовыя асобы.

Менавіта падчас лёсавызначальнага пасяджэння Рады ў Вільні Жыгімонт І Стары папрасіў беларускіх князёў і магнатаў намінаваць яго сына на трон Вялікага Княства Літоўскага. Яго просьбу задаволілі з умовай, што манарх зацвердзіць падрыхтаваны кодэкс законаў Беларускай дзяржавы. Дасягнутае пагадненне бакоў замацавалі клятвамі.

Усё адбылося, як і дамовіліся. У канцы 1529 года ў Кракаве Жыгімонт Казіміравіч падпісаў прывілей, паводле якога Статут набываў сілу закона, абавязковага да выканання ўсімі службовымі асобамі і грамадзянамі. Такім чынам, напружаная праца статутнай камісіі, створанай у 1522 годзе, паспяхова завяршылася зацвярджэннем у 1529 годзе новага кодэкса законаў Беларускай дзяржавы.

Як сведчыць змест першага Статута, да яго стварэння мелі дачыненне, у той або іншай форме, практычна ўсе тагачасныя свецкія князі і духоўныя іерархі: віленскі біскуп *Ян*, слуцкі князь *Юрый Сямёнавіч Слуцкі*, князь *Павел Аляксандравіч Гальшанскі*, князь *Міхаіл Заслаўскі*, *Фёдар Міхайлавіч Чартарыйскі*, князь *Андрэй Сендзюковіч*, трокскі ваявода, найвышэйшы гетман, брацлаўскі і вініцкі староста, князь *Канстанцін Іванавіч Астрожскі*; віленскі ваявода, найвышэйшы канцлер, бельскі староста, пан *Альбрэхт Марцінавіч Гаштаўт*, гарадзенскі староста *Юрый Мікалаевіч Радзівіл*, пан трокскі і жамойцкі староста *Ян Станіслававіч*; вялікі маршалак, навагрудскі ваявода, дзяржаўца мерацкі і ваўкавыскі *Ян Янавіч Забярэзінскі*; полацкі ваявода, дзяржаўца перамышлеўскі, пан *Пётр Станіслававіч Кішка*; віцебскі ваявода *Ян Юр'евіч Глябовіч*; падляшскі ваявода *Іван Багданавіч Сапега*, берасцейскі староста *Аляксандр Іванавіч Хадкевіч*; земскі падскарбій, слонімскі і камянецкі староста *Богуш Багавіцінавіч*; пінскі, клецкі,

гарадзенскі і рагачоўскі староста *Івашка*; дворны канюшы, асенскі дзяржаўца *Васіль Багданавіч Жыч*; мсціслаўскі староста *Ян Юр'евіч Ільініч*, а таксама іншыя магнаты і паны.

Стварэнне Статута 1529 года — выключная грамадска-палітычная падзея ў жыцці краіны. У кодэксе напоўніцу ўвасобілася сістэма новай сацыяльнай філасофіі. Усе юрыдычныя нормы Статута 1529 года грунтаваліся на прынцыпах законнасці, гуманнасці і справядлівасці. Правы асобы абвяшчаліся найвышэйшай каштоўнасцю. Артыкул 9 першага раздзела абвяшчаў роўнасць усіх грамадзян перад законам «на вечныя часы», незалежна ад іх маёмаснага стану ці сацыяльнага статусу.

Статут 1529 г. адкрываўся прывілеем Жыгімонта Казіміравіча, у якім падкрэслівалася высакародная місія кодэкса — «даць вольнасці» ўсім грамадзянам краіны — князям, панам, рыцарам, шляхце, духоўным асобам і «ўсяму паспольству», людзям праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Манарх абяцаў і кляўся ва ўсе часы захоўваць і абараняць зацверджаныя законы.

У першым раздзеле кодэкса дэталёва агаворваліся правы і функцыі найвышэйшай дзяржаўнай асобы — вялікага князя і гаспадара краіны. Пад страхам жорсткага пакарання прадпісвалася ні ў якім разе не падрабляць гаспадарскія пячаткі, не перашкаджаць дзейнасці ўрадоўцаў і пасланцоў вялікага князя. Строга забаранялася ўводзіць дадатковыя падаткі і зборы, апрача тых, якія ўстаноўлены гаспадаром. Усталёўвалася правіла, паводле якога прысуд вялікага князя абвяшчаўся канчатковым, ніхто не меў права аспрэчваць, ігнараваць ці не выконваць яго.

Галоўную ўвагу аўтары Статута 1529 года скіроўвалі на абарону Айчыны. Кожны грамадзянін краіны абавязваўся ў выпадку патрэбы выпраўляцца на вайсковую службу. Вайсковым правам прадугледжваліся дысцыпліна, парадак і адказныя паводзіны на вайне; стымуляваліся патрыятызм і гераізм, праявы мужных учынкаў падчас абароны Радзімы.

Статутам 1529 года зацвярджаліся асноўныя складнікі палітычнай сістэмы краіны. Агаворваліся прынцыпы ўзаемаадносін паміж сюзэрэнам і васаламі, паміж шляхтай і простымі людзьмі. Вялікі князь абяцаў заўжды аберагаць правы і свабоды, якімі валодалі жыхары Княства — усёй шматлікай шляхты, князёў і харугоўных паноў, баяраў і месцічаў.

Гаспадар Вялікага Княства ўрачыста ўскладаў на сябе абавязак павялічваць багацці дзяржавы. Ён абяцаў вяртаць назад гарады і мястэчкі, сілай захопленыя ворагам, а таксама пашыраць тэрыторыю краіны, далучаючы новыя землі: «Таксама багацці Вялікага Княства Літоўскага не зменшым. Наадварот, што несправядліва забрана і беспадстаўна ўзята і прысвоена, — усё хочам вярнуць ва ўласнасць Княства», — гаварылася ў другім артыкуле трэцяга раздзела Статута.

Манарх пагаджаўся з прадпісаннем — ніколі не раздаваць чужаземцам пасадаў і ўладанняў на абшарах Беларускай дзяржавы, — ні ў гарадах, ні ў мястэчках.

Статут 1529 года рэгламентаваў дзейнасць судоў, устанаўліваў на ўсёй тэрыторыі Княства адзіныя працэсуальныя нормы. Паводле патрабаванняў новага кодэкса, выносіць судовыя рашэнні мелі права толькі ваяводы, старосты, маршалкі земскія, маршалак дворны і павятовыя ўрадоўцы (дзяржаўцы). У прысутнасці двух абраных зямянаў, прыведзеных да прысягі, а таксама пісараў, вышэйшыя службовыя асобы мусілі слухаць справу і выносіць прысуд. Ад суддзяў усіх узроўняў патрабавалася, каб яны строга карысталіся агульнапрынятымі дзяржаўнымі законамі, «пісаным правам», а не ўласным, суб'ектыўным разуменнем справядлівасці.

Гуманістычная скіраванасць першага беларускага кодэкса законаў выявілася ў выключным клопаце пра *сям'ю* — дзяўчат, жанчын і ўдоў, а таксама асірацелых малалетніх дзяцей. Аўтары Статута 1529 года ў чацвёртым і пятым раздзелах

трывала абаранілі іх маёмасныя правы, агаварылі абавязкі бацькоў і апекуноў. Так, бацькі, выдаючы дачку замуж, павінны былі наперад даць ёй пасаг (вена), каб яна змагла годна пачаць жыццё ў новай сям'і і не пачувалася жабрачкай. 15 артыкул 4 раздзела Статута строга забараняў выдаваць дзяўчат замуж гвалтам, без іх згоды і жадання. Кожная дзяўчына і жанчына надзялялася правам вольна пайсці за таго, за каго пажадае. Апекунам забаранялася прадаваць маёмасць, якая належала непаўналетнім. Дзеці вызваляліся ад адказнасці перад судамі.

Выключна важнае месца ў Статуце адводзілася *гаспадарчай* сферы. Вельмі дэталёва рэгуляваліся зямельныя адносіны, паколькі зямля з'яўлялася галоўным сродкам вытворчасці. Надзвычай строга каралася парушэнне межаў паміж шляхецкімі і магнацкімі ўладаннямі, за што прадугледжваліся вялікія спагнанні. Рэгламентавалася выкарыстанне лясоў і пушчаў, усталёўваліся правілы цывілізаванага пчалярства, ашчаднага палявання і рыбалоўства. Агаворваліся прынцыпы закладу маёмасці і пазыкі.

Каб папярэдзіць правапарушэнні, у Статуце прапісваліся жорсткія меры пакарання за розныя віды злачынстваў. Калецтва і забойства чалавека, гвалтаванне дзяўчат і нявест каралася смерцю. Вялікія штрафы прадугледжваліся за беспадстаўнае авалоданне чужой маёмасцю, рабаванні і крадзеж. Такім чынам, артыкулы Статута выконвалі прафілактычныя функцыі, засцерагалі людзей ад злачынных дзеянняў.

Статут 1529 года — каштоўны здабытак інтэлектуальнай думкі Беларусі эпохі Рэнесансу. У ім надзвычай поўна і каларытна адлюстаравана эпоха, яе светлыя і цёмныя бакі, адлюстраваны практычна ўсе грані жыцця тагачаснага грамадства, дзейнасць дзяржавы і інстытутаў улады.

Аўтары Статута заклалі падмурак нацыянальнай прававой сістэмы, на даволі высокім узроўні распрацавалі нормы дзяржаўна-палітычнага, вайсковага, гаспадарчага, сямейнага, судова-працэсуальнага і крымінальнага заканадаўства. Праз стварэнне дасканалага прававога кодэкса беларускія палітычныя і інтэлектуальныя эліты ў першай палове XVI ст. надзейна абаранілі суверэнітэт краіны і будучыню нацыі.

## 16

У 1530 годзе адбылася вялікая бяда — згарэў віленскі пасад і частка горада. Сталіцы Княства быў нанесены значны ўрон.

Вельмі дасаджалі татары. Князь *Іван Дуброўскі* з памежнымі людзьмі пайшоў на іх вайной і ўшчэнт разбіў іх на *Голвіі Палузары*.

Пасля смерці маскоўскага князя Васіля III у 1534 годзе беларускія князі і шляхта схілілі вялікага князя Жыгімонта I Старога распачаць вайсковую кампанію супраць Маскоўскага княства. Галоўнае, чаго яны хацелі — вярнуць пад сваю ўладу землі і гарады на ўсходзе, якія трапілі пад уладу Масквы.

Склікалі паспалітае рушанне. Найбольшую колькасць рыцараў выставіў пан *Юрый Мікалаевіч Радзівіл*, які ў статусе найвышэйшага гетмана якраз і ўзначаліў вялізнае войска. Легендарны князь Астрожскі ў 1530 годзе пайшоў з жыцця, яго ваярскі досвед і веды падхапілі новыя рыцары Княства.

Восенню 1534 года рушылі ў Магілёў, дзе стаялі пяць дзён. Менавіта туды прыехалі з Масквы князь *Сямён Бельскі і Іван Луцкі*, якія перайшлі на бок Вялікага Княства. З імі было 400 добра ўзброеных коннікаў.

Юрый Радзівіл раздзяліў войска на два буйныя корпусы і паставіў перад імі дакладныя стратэгічныя мэты.

Першы корпус на чале з гетманам і дворным панам *Нямiравічам* і кіеўскім ваяводам, дворным канюшым *Васілём Чыжом* накіраваўся ў *Ноўгарад-Северскую зямлю*. Пад *Старадубам* яны разграмілі трохтысячнае маскоўскае войска,

якім кіраваў ваявода *Аўчына*. Шмат ворагаў патрапіла ў палон. Аўчына, аднак, выратаваўся і з рэшткамі аховы ўцёк.

Пасля непрацяглага адпачынку корпус Німіравіча і Васіля Чыжа выступіў у напрамку *Радагошча*. Непадалёк ад горада адбылася бітва з князем *Барбашынам*, які пацярпеў паразу. Зноў узялі вялікі палон, а Радагошч спалілі.

Нарэшце, корпус здзейсніў трэці рэйд пад *Почап*. Замак узяць не ўдалося. Пасля працяглай аблогі войска адступіла і вярнулася ў *Крычаў*.

Перад другім вайсковым корпусам, якім кіравалі князі *Андрэй Кашырскі і Іван Вішнявецкі*, Юрый Радзівіл паставіў задачу авалодаць Смаленскам. Аднак яны не мелі поспеху. Заваяваўшы шмат паселішчаў, Андрэй Кашырскі і Іван Вішнявецкі не ўзялі Смаленска і вярнуліся ў Магілёў. Натуральна, яны не панеслі аніякіх страт.

У адказ напачатку 1535 года раззлаваная Масква, не зважаючы на зімовую сцюжу і маразы, арганізавала рэйд на *Віцебск і Полацк*. Абрабавалі шмат мястэчак і вёсак. Ваколіцы Полацка, Віцебска, Браслава, Дуброўны, Оршы і Друцка былі спустошаны. Але маскавіты не рызыкнулі ісці далей, ад Даўгінава павярнулі назад. Толькі *Іван Шуйскі*, адхіліўшыся ад асноўных сіл, паспрабаваў напасці на Віцебск. Супраць яго выступіла войска Вялікага Княства, але Шуйскі ўхіліўся ад бітвы і імкліва адступіў. Дагнаць яго атрад беларускія коннікі не змаглі.

## 17

Каб нанесці канчатковы ўдар Маскве, улады Беларускай дзяржавы ўвесну 1535 г. схілілі Жыгімонта І Старога да рашэння аб накіраванні супольнага беларускага і польскага войска супраць маскоўскага князя.

На чале беларускіх харугваў стаў вялікі гетман *Юрый Радзівіл*.

Польскае ўрадавае войска ў колькасці 2000 чалавек узначаліў пан *Пазнанскі*.

Яшчэ адзін корпус з палякаў, куды ўваходзілі конныя і пешыя воіны, быў наняты за грошы Вялікага Княства Літоўскага. Ім камандаваў гетман *Тарноўскі*.

Попіс польскіх аддзелаў адбыўся ў Берасці, адкуль яны рушылі ў *Рэчыцу*. Там палякі злучыліся з харугвамі Вялікага Княства.

Аб'яднанае беларускае і польскае войска рушыла на *Гомель* і 17 ліпеня 1535 года авалодала горадам.

Затым накіравалася пад *Старадуб,* які ахоўвалі атрады, што прыйшлі з Масквы і іншых гарадоў. На працягу чатырох дзён войскі Вялікага Княства штурмавалі горад, але безвынікова. Нарэшце, пад гарадскую сцяну атрад пана *Гарабурды* зрабіў падкоп. У тунэль заклалі бочкі з порахам, а затым падпалілі кнот. Пасля выбуху ў сцяне ўтварыўся пралом, праз які распачаўся штурм. У канцы жніўня 1535 года Старадуб быў узяты. У палон трапілі многія знатныя асобы, у тым ліку і старадубскі ваявода, князь *Фёдар Абаленскі-Аўчына.*

Над палоннымі маскавітамі, якія ўпарта абаранялі Старадуб, учынілі жорсткую расправу. Гетман Тарноўскі загадаў сцяць галовы баярам і іх дзецям. Маскавітаў выводзілі з натоўпу палонных і катавалі. На гарадскім пляцы засталіся ляжаць больш за тысячу знявечаных цел. Да пачатку аблогі ў горадзе жыло каля 24 000 чалавек, большасць з іх загінула. Шмат жанчын і дзяцей пагналі ў палон.

Напалоханыя жыхары суседняга *Почапа*, дачуўшыся пра расправу над Старадубам, падпалілі свой горад, а самі ўцяклі ў Бранск.

Масква паспрабавала контратакаваць. Пад Мсціслаў быў адпраўлены ваявода Шуйскі, які ў ліпені і жніўні 1535 года імкнуўся авалодаць горадам. Аднак, мсціслаўскі гарнізон і гараджане арганізавалі моцны супраціў. Не зважаючы на тое, што гарадскі пасад быў спалены і разбураны асобныя абарончыя сцены, Мсціслаў выстаяў.

Урад Вялікага Княства 1535 г. арганізаваў належную абарону ад уварвання маскоўскіх войскаў на тэрыторыю Беларусі і іх пранікнення ў глыб краіны. Абарончую сістэму ўтварылі харугвы полацкага ваяводы *Яна Юр'евіча Глябовіча*, віцебскага ваяводы *Мацвея Яновіча,* жамойцкага старосты *Мікалая Радзівіла* і князя *Юрыя Сямёнавіча Слуцкага*.

У лютым 1536 года ваявода Ян Глябовіч і гетман А. Нямiровіч паспрабавалі вярнуць *Себеж*, але не змаглі.

Маскоўскі ваявода Шуйскі «з таварышамі» парабавалі мясцовае насельніцтва вакол Крычава, Магілёва і Оршы, але неўзабаве былі рашуча выправаджаны з беларускай зямлі адважнымі жаўнерамі.

Гетман *Юры Радзівіл* з рэзервовым беларускім войскам застаўся за Друцкам на Друі, у мястэчку *Рэпухава*. Аднак маскавіты больш не рашыліся на новы паход. У 1536 годзе, пасля свята Пакрова, Урад Княства загадаў распусціць войска.

У снежні беларускае пасольства на чале з Янам Глябовічам выехала ў Маскву. У сталіцу Маскоўскага Княства вялікія паслы прыбылі 11 студзеня 1537 года. Пасля працяглых дыскусій у лютым бакі падпісалі перамір'е на 5 гадоў. За Вялікім Княствам засталіся Гомель і Любеч. Маскоўская дзяржава адстаяла права пакінуць за сабой Себеж і Севершчыну.

Такім чынам, падчас вайны 1534—1537 гг. беларускія жаўнеры істотна аслабілі патэнцыял Масквы, знішчылі яе асноўныя вайсковыя рэсурсы і на 20 наступных гадоў прыпынілі ўсялякія спробы з яе боку здабываць землі на захадзе.

Пасля вайны значна актывізавалася ўнутрыпалітычнае жыццё ў Вялікім Княстве Літоўскім. Амаль запар прайшлі тры агульнадзяржаўныя Соймы: у сакавіку 1538 года ў Вільні, у чэрвені—ліпені 1540-га ў Вільні, у верасні 1542 года ў Берасці. На іх абмяркоўваліся пераважна пытанні павелічэння казны, збору сродкаў на ўмацаванне памежных замкаў, аналізаваліся пагрозы з боку Крымскага ханства і Масквы.

Каб папярэдзіць новую вайну з усходнім суседам, у 1542 годзе з Вільні ў Маскву адправілася пасольства на чале з дасведчаным палітыкам і дыпламатам Янам Глябовічам. Яму ўдалося працягнуць перамір'е яшчэ на 7 гадоў, што дазваляла жыхарам Княства заняцца стваральнай працай і паступова ўзнавіць эканамічны патэнцыял дзяржавы.

## 18

У пачатку XVI ст. на Беларусі склаліся даволі спрыяльныя ўмовы для пашырэння пратэстанцкіх вучэнняў. Дзеці беларускіх магнатаў змаглі вучыцца ў заходнееўрапейскіх універсітэтах, дзе якраз шырокае распаўсюджанне атрымала вучэнне Марціна Лютэра і іншых пратэстанцкіх ідэолагаў. Каталіцкія біскупы і ксяндзы, вядома, імкнуліся перашкодзіць распаўсюджанню Рэфармацыі. Яны дамагліся ад Жыгімонта I Старога прыняцця дэкрэтаў 1538 і 1542 гг., якія павінны былі стрымаць пашырэнне рэфармацыйных ідэй. Але пад націскам беларускае шляхты, якая настойліва патрабавала юрыдычнага забеспячэння сваіх вольнасцей, вялікі князь быў змушаны ў 1543 годзе адмяніць ранейшыя законы. У прывілеі 1543 года, усё ж такі, засталося істотнае абмежаванне — навучэнцам заходнееўрапейскіх універсітэтаў і наогул усім вандроўнікам па Еўропе катэгарычна забаранялася прывозіць на радзіму «ерэтычныя» кнігі. Аднак, нягледзячы на гэтую забарону, творы заходніх рэфарматараў пранікалі ў Вялікае Княства Літоўскае.

Асаблівую ролю ў справе распаўсюджання рэфармацыйных ідэй у Вялікім Княстве адыграў *Аўрам Кульва*. У 1539 годзе ён вярнуўся з Германіі, маючы вучоную ступень доктара багаслоўя. Глыбокія веды і высокі статус дазвалялі яму свабодна прапаведаваць рэфармацыйныя ідэі ў грамадстве, імкліва пашыраць

кола прыхільнікаў. Неўзабаве на Беларусі ўзніклі гурткі лютэранаў, кальвіністаў, сацыніянаў, гусітаў, а таксама групоўкі з адметнымі веравучэннямі, з'яўленне якіх сталася вынікам арыгінальных тэарэтычных пошукаў беларускіх рэлігійных мысліцеляў.

Рэфармацыйны рух на Беларусі быў генетычна звязаны з агульнаеўрапейскім. Але яго інстытуцыянальнае афармленне адбывалася ў спецыфічных умовах, дзе традыцыйна суіснавалі розныя канфесійныя напрамкі і дзейнічаў прынцып рэлігійнай талерантнасці. Пратэстанцкія ідэі распаўсюджваліся сярод самых розных сацыяльных колаў. Рэфармацыйныя вучэнні актыўна падтрымлівалі адукаваныя жыхары беларускіх гарадоў. Да гэтага руху далучыліся свецкія асобы — князі, буйныя землеўладальнікі, шляхта і рамеснікі.

Рэфармацыйны рух на Беларусі заваяваў сімпатыі і набыў папулярнасць сярод шырокіх колаў насельніцтва дзякуючы таму, што яго носьбіты звярнуліся да раннехрысціянскіх гуманістычных ідэй, накрэслілі на сваіх сцягах лозунгі Свабоды і Роўнасці, якія неслі надзею на ўсталяванне грамадскай Справядлівасці і Шчасця для ўсіх людзей. Гэтыя гуманістычныя ідэі якраз і выконвалі мабілізуючую функцыю. З'яўляючыся жыватворнай духоўнай крыніцай, менавіта яны гуртавалі сілы, напаўнялі дзеянні пратэстантаў вялікім сэнсам, былі для іх апраўданнем тых шматлікіх ахвяр, якія былі прынесены на алтар барацьбы ў імя новага.

Праўда, даволі абыякавым да новых павеваў заставалася сялянства, якое заўсёды было інертным да ўсялякіх наваўвядзенняў, а тым больш, калі паўставала пытанне аб зменах царкоўнага рытуалу і знешніх праяў рэлігійнага пачуцця. Сапраўдным для яго заставалася толькі тое, што існавала спрадвеку. Вынікам гэтага якраз і былі абыякавасць, недавер, а то і проста варожасць сялянства да царкоўных наваўвядзенняў.

## 19

Пераломнай падзеяй у палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага стаў *Берасцейскі сойм 1544 года*, які праходзіў у надзвычай напружанай атмасферы. Ён працягваўся амаль паўгода, пачынаючы ад чэрвеня і да кастрычніка 1544 года. Беларускія князі і магнаты звярнуліся да манарха з просьбай неадкладнага вырашэння блізу 25 пытанняў агульназемскага значэння. Спрэчкі і абмеркаванні працягваліся даволі доўга. У выніку, былі прыняты кампрамісныя рашэнні, што зафіксавана ў пісьмовых адказах вялікага князя, занесеных у кнігі дзяржаўнай Метрыкі.

Як вынікае з архіўных запісаў, на Берасцейскім сойме станоўча вырашалася пытанне аб стварэнні камісіі з дзесяці паважаных асоб (5 праваслаўных і 5 католікаў) для выпраўлення і ўдасканалення артыкулаў Статута.

Менавіта падчас сойма Жыгімонт І Стары прыняў канчатковае рашэнне цалкам адмовіцца ад уладных паўнамоцтваў у Вялікім Княстве Літоўскім на карысць сына. Апошні разам з жонкай таксама завітаў у Берасце і з надзеяй чакаў вынікаў сойма.

Вялікі князь і кароль агучыў палітычную заяву на дзясятым тыдні па Вялікадні, на свята Пакрова Прачыстай Багародзіцы, у сераду. Беларускія князі, магнаты і шляхта былі гатовыя да просьбы манарха, таму падтрымалі яго і абралі новым валадаром Жыгімонта ІІ Аўгуста. Наўзамен яны атрымалі шчодрыя ўзнагароды — прывілеі на зямельныя ўладанні, а таксама высокія дзяржаўныя пасады і тытулы.

Пану Грыгорыю Грыгор'евічу Осціку далі землі ў Віленскім панстве. Навагрудскае ваяводства было забрана ў Осціка і аддадзена берасцейскаму старосту Аляксандру Хадкевічу. Князю Янушу Дубровіцкаму, князю гальшанскаму, далі Троцкае ваяводства. Пана Ераніма Аляксандравіча Хадкевіча ўзнагародзілі

ўладаннямі ў Віленскім ваяводстве. Пану Мікалаю Радзівілу далі земскае маршалства. Князю Сямёну Пронскаму — Кіеўскае ваяводства. Пану Станіславу Пятровічу Кішку — Віцебскае ваяводства. Пану Грыгорыю Аляксандравічу Хадкевічу — падкамор'е. Вынікі Берасцейскага сойма задаволілі практычна ўсіх яго ўдзельнікаў.

Шчаслівы кароль Жыгімонт I Стары, дамогшыся свайго, адразу пасля Сойма ад'ехаў назаўжды ў Польшчу. Там праз чатыры гады завяршыўся яго зямны шлях.

Новы вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст з надзеяй на лепшае рушыў у Вільню — сталіцу Княства. Скончылася эпоха княжання Жыгімонта I Старога, у жыцці Беларускай дзяржавы пачынаўся новы этап.

* * *

Такім чынам, у часы княжання Жыгімонта I Старога Беларуская дзяржава спыніла агрэсію з усходу і ў цэлым паспяхова правяла тры вайны з Маскоўскім княствам. Вайсковыя дзеянні, якія адбываліся ў 1507—1508, 1512—1522 і 1534—1537 гг., істотна аслаблялі дзяржаўны арганізм Вялікага Княства, наносілі значны ўрон гаспадарцы краіны, забіралі тысячы жыццяў. Падчас крывапралітных войнаў разбураліся беларускія гарады і замкі, але Княства дало належны адпор агрэсарам. Былі атрыманы буйныя вайсковыя перамогі, у тым ліку пад Оршай у 1514 годзе. Выдатным вынікам вайны 1534—1537 гг. паміж Беларускай дзяржавай і Маскоўскім княствам стала вяртанне Гомеля і Любеча.

На паўднёвых межах Княства беларускія рыцары паспяхова грамілі татараў, прынамсі, каля Лапушні ў 1512 г. Урад стварыў мабільныя казацкія атрады, якія здзяйснялі рэйды супраць крымскіх татараў і нападалі на турэцкія крэпасці. У 1524 годзе беларускае войска на чале з Астрожскім і казацкім атаманам Астапам Дашкевічам ўзяло турэцкую крэпасць Ачакаў. У 1527-м урадавыя войскі пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астрожскага ўшчэнт разграмілі татараў блізу Альшаніцы на Кіеўшчыне.

Эпахальнай падзеяй стала прыняцце агульнадзяржаўнага кодэкса законаў — Статута 1529 года, які паслужыў асновай усталявання прававой дзяржавы, фундаментам рэспубліканскага ладу праўлення, галоўным інструментам удасканалення судовай сістэмы ў краіне, з'яўляўся падмуркам абароны грамадзянскіх, палітычных і эканамічных свабод асобы.

Падчас княжання Жыгімонта I Старога назіраўся росквіт магнацкай і шляхецкай культуры — узводзіліся велічныя замкі, раскошныя палацы, дзівосныя сады і паркі. Самае галоўнае, што ў гэты перыяд адбыўся ўздым беларускай культуры, пачаліся складвацца сямейныя бібліятэкі і кнігазборы, адкрывацца навучальныя ўстановы, прыйшло ўсведамленне каштоўнасці народных моў і нацыянальнага адзінства.






*Андрусь ГОРВАТ*

**РАДЗІВА «ПРУДОК»**
*Мн.: Медысонт, 2017.*

«Паказальна: народ стаміўся адыходзіць ад рэальнасці. Быў у нас вялікі інтарэс да белетрыстыкі, быў росквіт дэтэктыва ў нейкі момант, усплёск жаночай прозы, потым «Гары Потэр» пакарыў свет. А цяпер рэальнае жыццё «прарвалася на паверхню», — сцвярджае галоўны рэдактар расійскага выдавецтва «Время» Барыс Пастэрнак. Паэтэса Лена Дудукіна на сустрэчы з чытачамі таксама неяк падкрэсліла: «Нам падабаецца падглядаць за чужым жыццём». Хапае, безумоўна, бяздзейных назіральнікаў, як у знакамітай навеле О. Генры «Камедыя цікаўнасці». Але ёсць і тыя, хто робіць высновы, задаецца пытаннямі, перажывае…

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

## СТАЦЬ СВАІМ ДЛЯ СЯБЕ

Да шматлікіх рэфлексій, заканамерных пытанняў, пошукаў падштурхоўвае кніга Андруся Горвата «Радзіва “Прудок”». Безумоўна, успрыманне творчасці Горвата немагчыма без папярэдняга кантэксту, той «плоднай глебы», якую актыўна распрацоўвалі Жылка, Адамовіч, Шамякін, Быкаў, Пташнікаў, Лойка сваёй мемуарнай літаратурай. У XXI стагоддзі дзённікавая літаратура ўжо, безумоўна, моцна адрозніваецца. Бачым друкаваныя «Запісы з фэйсбука» Уладзіміра Сцяпана, дзённікавы раман «Заўтра была адліга» Віктара Шніпа і шматлікія іншыя. І гэта толькі калі казаць пра творы, што выразна пазначаны маркёрам «дзённікавасці»… А колькі асабістага ў творчасці Адама Глобуса, Андрэя Федарэнкі, Алены Брава, Тані Скарынкінай… Афарыстычнасць, лаканічнасць, надзённасць, вастрыня сацыяльнай праблематыкі — тое, што надзвычай цэніцца сёння ў літаратуры.

Але кантэкст кантэкстам, а кніга Андруся Горвата — гэта нешта прынцыпова новае. Гэта своеасаблівы рэаліці-праект, увасоблены пасля ў кнігу. З’ехаўшы ў дзедаву сядзібу ў вёсцы Прудок, Горват выкладаў у фэйсбуку запісы, якія паведамлялі пра яго лёс усім карыстальнікам сеціва. Таму і да выхаду кнігі шмат ужо было аматараў яго творчасці ды яго асабістага выбару. Безумоўна, гэта падвышае верагоднасць паспяховага разыходжання тыражу, з’яўлення дадатковага накладу. Такая практыка — вельмі распаўсюджаная ў сучасным свеце. Паспяховым кніжным праектам папя-

рэднічаюць публікацыі на папулярных інтэрнэт-рэсурсах. Узгадаем хаця б гісторыю стварэння выдання «Вулічны кот па імені Боб» Джэймса Боуэна. Вулічны музыка з абаяльным катом стаў героем лонданскіх газет, відэа на YouTube. Вопытны літагент Мэры Пакнас, прааналізаваўшы попыт аўдыторыі, прапанавала Боуэну стварыць серыю кніг, якія мелі пасля прызнанне. Зняты ўжо і мастацкі фільм пра шчымлівую гісторыю сяброўства чалавека і жывёлы…

Магчыма, што ў выпадку з Горватам многіх цікавіць нават не ўласна літаратурны складнік яго аўтабіяграфічнай гісторыі, а здзейснены «акт дауншыфтынгу». Адмаўленне ад выключна спажывецкай філасофіі, вяртанне да натуральнага ладу жыцця, унутранага спакою — ці не мара гэта многіх людзей інфармацыйнага, «стрэсавага» грамадства? А Горват жа стварае, стварае, стварае… Аднаўляе сядзібу, заводзіць казу, курэй, вядзе росшукі ў архівах, складае свае тэксты, «аднаўляе напаўразбуранага сябе». Прычым піша пра гэта часам з іроніяй, часам з мяккім гумарам у падкрэслена наіўнай манеры. Якую, між іншым, Ціхан Чарнякевіч назваў літаратурнай маскай: «Акынства? Нон-фікшн? Нелінейны раман? Аўтабіяграфія? Не зусім. Здзіўленне Горвата не ёсць рэпарцёрскім ці турыстычным. Прыручэнне словаў спалучана з тым самым падводным, непаказаным нікому ільдом. Нулявы кіламетр Горвата становіцца для яго падабенствам Троі для Генрыха Шлімана, а маска Андрусіка — не маскай Джыма Кэры, а цытатай з верша Дылана Томаса». Што ж, няхай сабе і маска. Толькі, як ні дзіўна, і яна часам дапамагае зблізіцца…

Той, хто думае, што падобную літаратуру ствараць надта лёгка (маўляў, запісвай, што выпіў сёння сырадою — і годзе), то моцна памыляецца. Дасягнуць такой эмацыйнай напятасці, сэнсавай канцэнтрацыі ў радку — вельмі няпроста. Прычым рабіць тое трэба дасціпна. Пралікі ў мініяцюрах заўважныя адразу. А над горватаўскімі запісамі можна і добра пасмяяцца, і задумацца: «“Гэта ненармальна, калі малады здаровы мужык цэлымі днямі сядзіць у хаце і думае пра Космас”, — падумаў я. І пайшоў думаць пра Космас у двор», «Мыць сем шкарпэтак — гэта такі тэст на песімізм-аптымізм. Песіміст знервуецца, што адной шкарпэткі не хапае. Аптыміст узрадуецца, што адна шкарпэтка дадатковая», «Шкада, што няма такой паслугі — “бабка на зіму”. Я б выпісаў адну. Яна б ляжала за гурбай, а я б ёй жаліўся на жыццё», «Мама гаворыць: — Забірай бацькаву кватэру і жыві ў ёй. — Я забяру бацькавы кеды. — Ну забірай кеды. Забраў кеды. Сёння вярнуўся ў іх дадому. Кеды на адзін памер большыя. Але я буду расці. Пап, я дарасту», «Бацька памёр, але яго нібы стала болей. Цяпер ён усюды: у паветры, у небе, у зямлі. Нібы памёр не ён, а тое, што не давала любіць яго».

Прываблівае лаканічнасць, вобразнасць «Радзіва “Прудок”». Якім светлым сумам працяты радкі невялічкай мініяцюры, дзе аўтар распавядае пра расстанне з каханай. Іх лёсы — нібы крыжык і шкляначка з зямлёй на шыі галоўнага героя, што чапляліся і блыталіся. Як ёмка гучыць: «Мы іх разнялі і забралі — кожны сабе свой».

Гісторыя, расказаная ў дзённікавых запісах Андруся Горвата — безумоўна, гісторыя новага пакалення, гісторыя сучаснай беларускай інтэлігенцыі, што актыўна карыстаецца сацыяльнымі сеткамі, можа запраста, з веданнем справы абмеркаваць новы папулярны раман ці тэатральную пастаноўку, у шалёным рытме жыве і пры гэтым намагаецца знайсці і захаваць тую запаветную «беларускасць», вярнуцца да каранёў-вытокаў. Як рабіць гэта? Ці так радыкальна, як дауншыфтар Горват, што і ў Мінску хадзіў босымі нагамі па палескай зямлі на газетцы, ці нейкімі іншымі шляхамі — вырашаць кожнаму.

У запісах Андруся Горвата ёсць што адкрываць і што «вычытваць». Галерэя

абаяльных партрэтаў вясковых жыхароў, ды і ў цэлым зборны вобраз сучаснай вёскі з яе вартасцямі і недахопамі, фрагментарна — Мінск з яго правіламі і алгарытмамі жыцця — усё тое праходзіць праз прызму светаадчування героя-аўтара. Наіўна-дасціпная манера, за якой не толькі гумар, а і сарказм, іронія, часам, абурэнне — прыцягвае многіх. Вось толькі да «падтэкставасці» такой манеры дойдуць не ўсе…

Герой кнігі — нястомны шукальнік, што адкрывае новыя і новыя таямніцы нашага мінулага, часта задаецца пытаннямі накшталт «а як па-беларуску будзе “ау”»? Ён па драбніцах збірае гісторыю сваёй сям’і: па ўспамінах, старых здымках (якія, дарэчы, змешчаны ў выданні). Намагаецца зразумець, як жылі яны і як жывём мы… Старонкі «Радзіва “Прудок”» шчодра перасыпаны дыялектнымі слоўкамі, апісаннямі паўсядзённых звычаяў палешукоў. З той жа наіўнасцю і дасціпнасцю Горват раз-пораз да месца «ўкручвае» трапныя выразы: «Прайшоў я, значыць, дванаццаць кіламетраў да дзядзькі Валодзі, а таго дома не было. Нашы прашчуры на гэты конт напрыдумлялі выразаў: «Прыйшоў, таўкача аблізаў дый пайшоў». «Круп шылам наеўся». «Торбу жаб прынёс». «Дулю з’еў». «Пайшоў, як мыла з’еўшы»». Пабачыць Беларусь такой фантастычнай, як некалі бачыў яе Ян Баршчэўскі — чаму б і не? «У маёй бабулі песня фірмовая была: «А я зязюля, зязюля шэрая, не вылечу з саду». То нібыта маладая дзеўка пяе, як ператварылася ў зязюлю, каб прыляцець у бацькоўскі дом і паплакацца сваёй матцы на горкую долю. От, напэўна, і ў маіх птушак яно так. А што, калі то не птушкі, а якія дзеўкі згубілі дарогу да сваіх бацькоў і жаляцца мне? Бо хата мая стаіць на ўскрайку вёскі каля лесу пад Птушыным Шляхам. Ляцелі, ляцелі дзеўкі, стаміліся, селі на вокны і пачалі дзяўбці замазку. З гора», — у характэрнай напаўжартаўлівай манеры разважае аўтар.

Пра сваю творчасць Андрусь Горват напаўжартам-напаўсур’ёзна сцвярджае: «Мне кажуць, што маё жыццё — гэта шоу. Гэтыя людзі таксама купляюць дзіхлафосы ад блох. Потым вяртаюцца дадому і расказваюць пра цёцю-прадаўчыху і пра Ніну з падсобкі сваім жонкам і мужам. А я вяртаюся дадому і не расказваю нікому, бо я жыву адзін. Таму мне важна пісаць». Па вялікім рахунку, літаратурная творчасць для многіх пісьменнікаў — добрая псіхатэрапія. Але, падаецца, тут маем справу не проста з сублімацыяй, перажываннем уласных праблем. «Радзіва “Прудок”» — рэч і спавядальная, абагульняльная. Хочаце знайсці сябе на старонках, а можа, у нечым паспрачацца (унутрана ці адкрыта) з аўтарам — паслухайце эфіры імправізаванага «радзіва», якое то анекдотамі сыпле, то этымалогію слоў вызначае, то распавядае пра балючае і надзённае. Толькі вам вырашаць, падзяляць меркаванні аўтара ці не. Але тое што не засумуеце — гарантавана.



# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Мацiя БЕЧКАВIЧ (1939 г. н.)

### ПРА НАРОД

❍ Хто ўзвядзе помнік усяму народу?
❍ Ці можна з некалькіх праблематычных народаў стварыць адзін годны?
❍ Ці ёсць такі малы народ, чыя гісторыя не вялікая?
❍ Ці хопіць свабоды на ўсе народы?
❍ Ці існуе найгоршы народ на свеце?
❍ Ці кожны можа быць сынам свайго народа?
❍ Ці наш народ у замежжы вядомы больш, чым тут?
❍ Ці існуе народ, на які ніхто не спасылаецца?
❍ Ці ёсць народы на пенсіі?
❍ А ці ёсць ненародныя народы?
❍ Ці ёсць клопаты, большыя за народныя?
❍ Чым народ думае?
❍ Чаму народ, які не браў пазык, за іх разлічваецца?
❍ Калі двое б’юцца, хто з іх прадстаўляе народ?
❍ Ці існуе народ, які не ў масе?
❍ Ці народ лепш захоўваецца ў халодным месцы?
❍ Ці можна выбыць з народа?
❍ За кім апошняе слова народа?
❍ Ці можна сваёй смерцю памерці за народ?
❍ Каб не было захопнікаў, не было б славутай гісторыі малых народаў?
❍ А ці ў манархіях быў народ?
❍ Як застацца верным народу, які цябе пакінуў?
❍ Ці слава аднаго народа ёсць трагедыя другога?
❍ Ці ёсць народ, які адрэкамендоўваецца не сваім імем?
❍ Ці могілкі — гэта мяжа паміж двума народамі?
❍ Ці можа народ адкрыць прыватную дзяржаву?
❍ Дзе ж гэткія народы былі ў час вайны?
❍ Ці ёсць што-небудзь мацнейшае за непераможны народ?
❍ Ці ёсць народы, здаволеныя сваёй місіяй?
❍ Ці былі плебісцыты без народа?
❍ Якая частка народа не прадстаўляе народ?
❍ Ці ёсць народ, які не бездакорны?
❍ Ці ёсць народ без ворагаў народа?
❍ Чаму найлепшыя народы павымiралі?

## Мілан ЦВЕТКАВІЧ (1967 г. н.)

❍ Наша гісторыя пісалася на падставе фактаў, але пад увагу браліся і праграмныя палажэнні.
❍ Дзяржава памірае з найвышэйшымі ваеннымі пашанотамі.
❍ Нельга трапіць ва ўсе мясціны, але помнікі кампенсуюць абмінутае.
❍ Першы крок найцяжэйшы. Астатнія — падрахоўванне вынікаў.
❍ Мы падпісалі дамову аб дружбе. На слова ім верыць ужо нельга было.
❍ Геаграфічнае становішча нашай краіны не адпавядае аўтарытэту, які яна мае ў свеце.

## Міраслаў ЧОСАВІЧ (1968 г. н.)

❍ Смяяўся з няздатнага дырэктара, цяпер плача на біржы працы.
❍ Вясна ў вашай кватэры — камар, муха, аса…
❍ Спярша мой спеў вырываўся з глыбінь душы, цяпер — з турэмнай камеры.
❍ Галоўны ратунак для Сербіі — ад МВФ (матычкі, вілы і фляжкі з пітвом).
❍ Мы ямо толькі здаровыя прадукты. Ну дык на здароўе!
❍ Дайшоў я да пенсіі. Далей не змог.

## Душан ДЖУРЫЧ (1972 г. н.)

**ДЭМАГОГАКРАТЫЯ**

❍ Няма больш у нас жыта. Будзем есці крэдыты.
❍ Калісьці былі авары і гуны, цяпер — бізнесмены і тайкуны.
❍ Пінг-понг, понг-пінг… Палітычны маркетынг.
❍ У значнай часткі нацыі прайшла еўрамутацыя.
❍ Шукалі сваіх шансаў у замежных авансах.
❍ Былі і ў нас дысідэнты — спецслужбаў абаненты.
❍ Розныя эканамічныя секты апрабавалі тут свае праекты.
❍ Заўсёдная стратэгія — захоўваць прывілегіі.
❍ Пакланяемся дэмакратыі богу — віртуознаму дэмагогу.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***



